


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**7** (1005)

*ЛІПЕНЬ*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

**Галоўны рэдактар**
*Мікола Міхайлавіч МЯТЛІЦКІ*

**Рэдакцыйная калегія:**

*Лада АЛЕЙНІК,
Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,
Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
(старшыня рэдакцыйнага савета),
Уладзімір ГУСАКОЎ,
Марыя ЗАХАРЭВІЧ,
Віктар ІЎЧАНКАЎ,
Аляксандр КАВАЛЕНЯ,
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,
Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ,
Уладзімір МАЗГО
(намеснік галоўнага рэдактара),
Валерый МАКСІМОВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Зоя МЕЛЬНІКАВА,
Пётр НІКІЦЕНКА,
Генадзь ПАШКОЎ,
Алег ПРАЛЯСКОЎСКІ,
Віктар ПРАЎДЗІН,
Зіновій ПРЫГОДЗІЧ,
Іван САВЕРЧАНКА,
Алесь САВІЦКІ,
Уладзімір САЛАМАХА,
Васіль СТАРЫЧОНАК,
Таццяна ШАМЯКІНА*

РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

## *ЗМЕСТ*


**3** **Юрка ГОЛУБ. Дні. Гамер. Мазаіка. Ганцы. Балада грушы. Возера ў зіме. Паляванне. Гул ледаходу. Даўняе. Матылёк над пшаніцай. Мятліца. Рэтра.** Вершы.

**7** **Алесь МАКОЎСКІ. Развітальнае рэха.** Раман. Пачатак.

**61** **Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ. Падзяка і любоў. Будслаўская Маці Божая. Курапацкая малітва. Багіня вясны. Не чаруй мяне, каліна. ***Адкляпаў, як мог, касу… Прылятай, зязюлька. ***Па кладцы іду я… ***У жыцці часцей бывае гэтак…** Вершы.

**66** **Юры СТАНКЕВІЧ. Брамнік заўжды самотны.** Аповесць.

**86** **Сяргей МАЦВЕЕЎ. ***Калі паўстала сонца над зямлёй… Чырвонае і зялёнае. ***Я ў нечай гульні ўсяго толькі прынада… ***Зляцяць мае вершы ў касмічную выш… ***Па дарозе, што ў вербах старых…** Вершы. Пераклад з удмурцкай Міколы Мятліцкага.

**90** **Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ. Па другі бок ценю.** Аповесць.

**99** **Юлія АЛЕЙЧАНКА. Вершаванне ранняга Купалы (на прыкладзе зборнікаў «Жалейка» і «Гусляр»).**

**110** **Іван Шамякін і рускія перакладчыкі.** Уступны артыкул, падрыхтоўка тэкстаў і каментарый Алесі Шамякінай.

**128** **Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ. Зорка — слова жаночага роду!**

**135** **Ігар АЎЛАСЕНКА. Маналог Аркадзя Куляшова пра гістарычны лёс Бацькаўшчыны.**

**147** **Дзмітрый ДЗЕМІЧАЎ. Чарнобыль: першыя дні выпрабаванняў.**

**159** **Серж МІНСКЕВІЧ. Вітраж у чароўны край.**

**175** **Мікола ЧАРНЯЎСКІ. «Сваю расу на досвітку збіваю…»**

**180** **Міхась ЗІЗЮК. І Бярэзіна, і Нёман.**



© «Полымя», 2013



ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

## Юрка ГОЛУБ



### ДНІ

Траплялі дні ў кругаварот.
Драбнела праведная пыха.
Раскручвалі калючы дрот,
Каб закруціць людзей у ліха.

Блішчэла слова найярчэй:
Вякоў нязломная маёмасць.
Раўчук абураны бурчэў:
Над ім таптаўся незнаёмец.

Направіў рэкі ў далеч час,
Дзе бераг меў сасны абрысы.
Жылі там наскія да нас,
Вучылі леты летапісцаў.

Адходзіў свет у іншы свет,
Дзе продкі ў схове прыдрамалі.
Як сторож — іхні запавет
Стаіць за нашымі дзвярамі.

### ГАМЕР

Каб заслужыць зямны давер,
Застацца на вякі трывушчым,
Прысеў на прызбачцы Гамер:
Складае эпас. Семкі лушчыць.

Хоць памірай — а жыта сей!
На схіле лёс. Жарства на портках.
Змікіціў порсткі Адысей:
Вяртайся — нават! — у апорках.

А каб давесці свет на лад
(Ці дасца, жорсткі, пераробцы?),
Жадалі творцы «Іліяд»
І іншыя ў наступстве хлопцы.

Аднак, наперадзе Гамер!
Казалі: геній невідушчы…
Дык ёсць і ў нас з прыжмурам звер —
Ён валадар не толькі пушчы.

У Белавежы на зары
Капыціць рутвіцу бізонціс.
А рэха гострыць пазуры
І прадзіраецца да сонца.

### МАЗАІКА

Не верыць злыдзень у дабро,
І пагарджае злом празорца.

---

***Голуб Юрый Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (2000).*

Калі абачлівы — у брод,
Тады рашучаму — па зорках.

Настольнай кнігаю статут
Назваў пяюн — і бач! — прашляпіў,
Бо ён жыве «цяпер і тут»,
А паспрабуйце — як Шаляпін.

Неверагодны ў часу лёс,
Бо сам дасведчаны і дока.
А піша — божухна! — з калёс,
Што спеху — неабвержны доказ.

Яму ніхто не замінаў:
І жыць.
І верыць.
І стамляцца…
Сябе ён «Кодакам» здымаў
І хроп на посцілцы з рэляцый.

Да мэты ў пене далятаў,
Дзе ставіў фішку, як афішку.
Калі імпэт даняў датла,
Дык аб паркет гваздаў кілішкам.

Навошта мкнуцца праз драты,
Дзе мытнік маецца героем.
У нас навалам дабраты,
І не хапае — за гарою.

О часе, хросны бацька наш!
Калі грудзіну зноў зашкаліць,
Гайда з табою на кірмаш
З разбітымі табой гаршкамі...

## ГАНЦЫ

Не чулі гуду правадоў,
Яшчэ й не снілася «мабіла».
Па сухазем'і, над вадой,
За весткай гналіся — губілі.

На раздарожжы век канаў:
Яго капытам раздавілі.
Мяняў упрэлага каня
Няўтомны коннік Радзівілаў.

Ляцеў наўзбоч маланкі хлыст.
Шалела ўпоцемках залева.
Ды патыхаў дарожны ліст
Парфумай вабнай каралевы.

Патраснай змовы пасланец
Адводзіў пальчык ад пярсцёнка,
Калі круцілі пад вянец
Нявесту, нібы верацёнца.

Прымаць ганцоў з усіх канцоў
Палац засвоіў прывілею.
І не вадзіцу піў з карцоў,
А трунак, што на склепе спее.

Не там, дзе ў водблісках паркет,
А там, дзе ў багры арабіны,
Хаваў за пазуху пакет
Дзяцюк з халодным карабінам.

Адвагі крэўны пабрацім:
Падобных апявалі руны.
Ён шлях жыццёвы скараціў —
Данёс аблозе паратунак.

У свеце чуткі нарасхват:
Не можа іх анёл стрыножыць.
Іх множаць хват, і гарлахват,
І лёсам спляжаны астрожнік.

Вунь ашчаперыў гаманец
(Згубілі бляск даўнейшы боты).
Заграз у сеціве ганец
І прагне выбіцца з балота.

## БАЛАДА ГРУШЫ

Жанчыны звычку не парушаць:
На лаве месціцца гурма.
— А ці была тут, дзеўкі, груша?
— Глядзіце: й заваду няма.

Яна ж цвіла ды ў гудзе-звоне!
Пускала песцікі пад мёд.
Сама знутры, найболей звонку
Была падобна на намёт.

На скрыжаванні неба й долі
Грымоты ў збруі бліскавіц
Прымала скрутна ў нашым доле
З аглобляў цесных калясніц.

З намерам выгукнуць «палундра!»
Зашыцца з руляй за камель
Мясцовы час шукаў Бярмуды,
А скочыў — бацюхны! — на мель.

А груша — ключніца маёнтка —
Паднесла прышлым спелы кош!
Ён меў у Шчорсах ці Мінойтах
Нічым не вызначаны кошт.

Падчас галоднай партызанкі
Яна глядзела смерці ў твар.
Зямлянкі, студжаныя зранку,
Глыталі грушавы адвар.

Калі прастуджаным прадвеснем
З паркана поўз дзіравы лёд,
Надзею страціла ля весніц,
А пчолы страцілі — на мёд.

…Жанчыны звычку не парушаць:
На лаве месціцца гурма:
— А ці жыла тут, бабкі, груша?
— Няма…

## ВОЗЕРА Ў ЗІМЕ

Затоку разрэзаў трыснёг
На снезе на хрусткія лусты.
Дзе слалася хваля да ног,
Застыла лядовае люстра.

Пад ім і зваліла самоў,
Як бёрны, у сон непрабудны.
Не ведаць, замкнёным зімой,
Што дзень набліжаецца судны.

Дзе бераг таемна абвіс,
У схове таілася выдра.
Маланкаю чорнаю — бліснь! —
І след свой хвастатая вытра.

Здзіраюць вуголле з калін
Вятры над прамерзлай палонкай.
Драпежныя восці калісь
Зламаў тут аб нераст паломнік.

Дзянніца адгэтуль звяла
Таго, хто не ўнікнуў трывогі.
Між гурбаў няўклюда віляў —
І след па-за ім клышаногі.

Не зборы замет і прыкмет —
Даводзяць харты языкамі —
Вось тут начаваў Пракавет,
А ранкам шапнуў: — Уцякайма…

## ПАЛЯВАННЕ

Бы паслугач, імчаў ганчак,
А гаспадар услед галёкаў.
І стрэл, як вырак, прагучаў —
І птушку вырвала з аблокаў.

Апала пер’е на трыснёг:
Ён пабялеў, нібы пялюшка.
І пачарнелі, хто як мог:
Стралок.
І пёс.
Найболей птушка.

## ГУЛ ЛЕДАХОДУ

Разбойна паводзіцца год
Пад гул ледаходу.
Вунь крыгі-зламысніцы плот
Паперлі з гароду.

Шукаюць вандроўнікі брод
На рэках прыродных.
Заплечна грыміць ледаход
Пад дахам Гародні.

Сузор’я рыпіць калаўрот
Старога заводу.
Разявіў на беразе рот
Саўдзельнік паходу.

Рашыўся на пэндзаль мастак.
Настрой на акордзе.
Хвасцішчам заехаў шчупак
Сусвету па мордзе.

## ДАЎНЯЕ

Бяроза. Пад кропляй гладыш.
Паводка не ведае зморы.
Ці чуеш? Цярэбіцца мыш
Нявызначанага сузор'я.

Схіляе снягі сакавік
Даніну аддаць для даліны.
Грымотныя ў наскай крыві
Святло — а паміж — сакавіны.

## МАТЫЛЁК НАД ПШАНІЦАЙ

Ляцеў шапаткі матылёк.
Шаптала пшаніца.
Ляцеў матылёк аддалёк
З пшаніцаю зліцца.

Вяселлю пашчасціла. Свет
Завоблачна мроіў.
Дзялілі шчаслівыя квет,
Дзялілі пароўну.

…Адгрукалі зоры аб дол,
А ў доле — калёсы.
Шырозна вачам навакол
Над зяблівам лёсу.

Аднак, не рыхтуйся наверх —
Не гаю — а раю.
На слова мне, браце, павер:
Ліхога не раю.

Світае. З аблок матылёк
Спяшае і цешыць.
І вабіць — няўжо назнарок? —
Пшаніца пры сцежцы.

## МЯТЛІЦА

Воблак небам сцелецца.
Цені ў доле — ніцма.
Збегла за аселіцу
Загадзя мятліца.

Змеркнецца навокала.
Спалатнеюць зоры.
Лёс, дзе сэрца войкнула,
На любошчы скоры.

Ранкам адкляпаная,
Гнеўна блісне коска.
Хто шыкуе паняю —
Пазірае скоса.

Шчасце з павароткаю:
Рэшта невядома.
Гэх! Жыццё кароткае
І ў гасцях, і дома.

Скрухі жменя змелецца:
Сам жадзён маліцца.
Шэпча ў свет мяцеліца.
Не! Усё ж мятліца!

## РЭТРА

Павуцінне. Альбом.
Варта вочы прадзерці —
І адразу… аблом:
Наступае бяссмерце.



Алесь МАКОЎСКІ

# РАЗВІТАЛЬНАЕ РЭХА

*Раман*

## *Кніга першая*

## Творчыя пакуты

За невялікім, амаль квадратным, акенцам колішняй бацькоўскай хаткі — глыбокая восень. Ужо даўно няма шматпакутных ні бацькі, ні маці, а восень, як ёй належыць, прыходзіць спраўна, штогод, у свой вызначаны час. Надараецца, праўда, рэдка, восень сухая, з сонечнымі лагоднымі днямі, але найчасцей вось такая як сёлета, з надакучлівымі дажджамі, мокрым снегам, бясконцымі, пранізлівымі да касцей, вятрамі...

Гляджу ў акенца з хаты і спрабую разгледзець хоць што-кольвечы на вясковай вуліцы. Занятак марны, бо суцэльная залева, з гулам і свістам ветру, няшчадна хвошча па шыбах і там, на вуліцы, непраглядная каламуць. Сумна, моташна на душы, поўны разлад з самім сабою. Справа ў тым, што мяне папрасілі, дакладней сказаць, прапанавалі (адмовіцца ніяк нельга!) напісаць уласную біяграфію.

Каму і навошта спатрэбіўся мой жыццяпіс? А гэта запытайце сябе, з якой нагоды і колькі разоў асабіста вам даводзілася, схіліўшыся над чыстым аркушам паперы, высільвацца, каб больш-менш гладка апісаць сваё кароткае ці доўгае працоўнае жыццё? Іншая справа, чаму я, гараджанін, прыпёрся непагаддзю ў гэтую глуш і цемень? Хіба не мог накрэмзаць біяграфію ў прыдатных, камфортных умовах? Э-хе-хе... Ёсць, ёсць на тое прычына.

Калі б гаворка ішла пра звычайную аўтабіяграфію, а не творчую, то тут вялікай фантазіі і фізічных высілкаў не патрабуецца. Мая працоўная кніжка

---

***Макоўскі Аляксандр Пятровіч*** *нарадзіўся 17 сакавіка 1943 года ў вёсцы Павуссе Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1973). Працаваў на будоўлі, на заводзе, у аршанскай аб'яднанай газеце «Ленінскі прызыў», у газеце «Чырвоная змена», рэдактарам часопіса «Служба быту Беларусі», у часопісе «Вожык», загадчыкам Выдавецка-інфармацыйнага цэнтра Нацыянальнага банка Беларусі, рэдактарам часопіса «Банкаўскі веснік», у Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь.*

*Выдаў зборнікі нарысаў «Сябры-таварышы» (1980), «Майстры добрага настрою» (1985), сатыры і гумару «Крыштальная душа» (1983) і «Кубік Рубіка» (1987), кнігу прозы «Ціхае жыццё» (2012).*

набрыняла запісамі і нагадвае пухлы раман пладавітага пісьменніка. Пісаў жа іх не раз, не два і заўжды амаль адно і тое: «Я, Ляшкевіч Андрэй Макаравіч, нарадзіўся... Пайшоў у школку... Скончыў... Паступіў... Працаваў... Служыў...»

Каму служыў? Хацелася б паўтарыць услед за Янкам Купалам:

Не папе рымскаму служу
І не_свяшчэннаму сіноду!
Я аддаю сваю душу
Свайму няшчаснаму народу!

Вельмі карціць паўтарыцца... Ды, каб сказаць падобнае, на тое трэба мець права!

— Дык з чаго пачаць сваю творчую біяграфію? — звяртаюся да яшчэ адной, акрамя мяне, жывой істоты — сабачкі Біма.

Бім добраахвотна падзяляе са мной маё пустэльніцтва. Ён — вялікі шэльма. Маленькі, бясхвосты, мае пушыстае белае футра. У яго правае вуха рыжае. Таму, па асацыяцыі з вядомым сабакам — кінагероем — Бім. Чаму шэльма? А як жа інакш пра яго скажаш!

Гадавалася гэтае стварэнне ў горадзе, у забяспечанай сям'і, як жывая цацка для траіх дзяцей. Яны навучылі яго танчыць. Так, так! Танчыць. Перш чым атрымаць з дзіцячых рук дробку шакаладу, цукерку ці марожанае, Бім павінен быў, як ваўчок, пакруціцца ў адзін бок, а пасля — у другі. Робіць ён гэта і цяпер з вялікім імпэтам, не спускаючы вачэй з рук гаспадара. Распешчанаму, звыкламу жыць у цяпле і дастатку, яму цяжкавата давялося прызвычайвацца да суровых умоў вясковага сабачага жыцця. Дзеці выраслі, іх сталі цікавіць іншыя танцы, на дыскатэках. Гаспадыня цюцькі патэлефанавала маёй сястры, з якой даўно знаёмыя, папрасіла ці прапанавала забраць у яе Біма. Цяпер ён перабіваецца, як усе вясковыя сабакі: што дадуць — таму і рады. Ці робіць выгляд, што ўдзячны. Бо варта нам з жонкай, ці вось як цяпер, мне аднаму прыехаць у сваю хатку, як Бім альбо ляжыць пад лаўкай, альбо праз паўгадзіны, захакаўшыся, абавязкова прымчыцца. Хто яму, на якой сабачай мове, паведамляе пра наш (мой) прыезд — гэта ведае толькі ён сам.

Прыбягае, а летам жыве пастаянна дзеля сабачай радасці — крывянай кілбасы. Шакаладу і марожанага яму цяпер не перападае. Аднак прывезеныя запасы расцягваем як мага на большы прамежак часу. Імкнёмся ў меню Біму ўключаць і іншае, скажам, курыныя костачкі, якія ён, у адрозненне ад вясковых сабак, не ўмее зубамі трушчыць. Вось чым можа абярнуцца выхаванне, што чалавека, што сабакі, у цяплічных умовах! Так і са свету можна згінуць...

Ды, не! Шэльма ёсць шэльма. Костачкі Бім хавае, а варта толькі выйсці на ганак, як курыная костачка аказваецца ў яго «малочных» зубах. Ён тут жа кладзецца, выцягваецца, бярэ костачку ў дзве лапы і пачынае мусоліць языком. Аднак адным левым вокам коса глядзіць на цябе з невыказным смуткам і болем. І разжаліць! Бо нават каменнае сэрца не вытрымае такога позірку і такіх сабачых пакут. Асабліва, калі гэта сабачае вока поўніцца слязой...

Зараз я пусціў Біма ў хату, каб трошкі пагрэўся. Паклаў у сподачак курыную ножку ( сёння, як умеў, засмажыў курыцу) і вяду з сабакам гамонку.

— Ведаю, Бім, пакуль што толькі адно: напісаць творчую біяграфію трэба шчыра, нязмушана, прынадна для чытання. І абавязкова, як загадана, укласціся ў тыднёвы тэрмін. Таму варта быць мудрым. А што такое мудрасць? Яна чыстая, лагодная, поўная спагады і добрых спраў, праўдзівая і некрывадушная. Выходзіць, што і чалавек, які ўзяўся за пяро, павінен быць марудлівы ў словах, няспешны ў гневе, борзды ў слуханні і добры ў дзеях. Прыкладна такі, як мой аднавясковец дзядзька Юзік.

Кожны раз, калі наведваю сваю Бацькаўшчыну і сустракаю яго, то чую:

— Дык скажы, даражэнькі, каб ты доўга жыў, дзе працуеш і што робіш?

— У газеце я, дзядзька, змагаюся. Пішу... Я вам ужо казаў...

Сусед, жывём амаль насупраць, хітравата пазірае на мяне, скаліць жаўтаватыя, рэдкія зубы, дастае з кішэні замурзаных, камуфляжных, як сам кажа, «дэсантных» штаноў пакамечаны пачак «Астры» і заўжды гаворыць адно і тое ж:

— Дык і я, даражэнькі, каб ты доўга жыў, з горам папалам пісаць умею... Я пытаю, чым на хлеб, чарку ды скварку зарабляеш? А то ўсё пішу, пішу... Ад пісаніны сыты не будзеш. Хаця, чаму ж... Калі паперкі падпісваць, то нешта выкраіш і для ўласнага трыбуха.

Дзядзька Юзік зацята кашляе (занадта хапануў цыгарэтнага дыму), запытальна, нават з дакорам пазірае, маўляў, ці доўга ты, блазнюк, будзеш пудрыць мне мазгі?

Для суседа я ўсё той жа смаркач, які ў дзяцінстве не раз пасвіўся ў яго садзе і латашыў яблыкі. А яшчэ, калі на рахманым чорным коніку развозіў за маці пошту, каб не злазіць, бо пасля надта складана малому ўскараскацца на гладкую спіну каня, нагінаўся і ўтыкаў раённую газету паміж шулам і штыкецінай пачарнелых ад часу варотцаў. Здаралася, што «Чырвоны сцяг» хтосьці з вяскоўцаў цішком забіраў на вядомыя патрэбы. Тады дздзька Юзік абяцаў пачаставаць «паштара» крапівой па адпаведным месцейку.

Словам, дзядзьку Юзіку нават цяжка ўявіць, што магу быць журналістам і нешта пісаць. У яго разуменні, журналісты — людзі зухаватыя, вялікія грамацеі і на адной назе з высокім начальствам. Ды што там казаць! Яны самі вялікія «кручкі», фасоністыя, ходзяць пад гальштукамі і маюць мех грошай. Я, знешне, у выцвілых джынсавых портках і сціплым вязаным світэры выглядаю, калі не галадранцам, то і не чалавекам, які жыве на шырокую нагу. Вось каб на шыкоўным легкавіку прыязджаў!

Казаць суседу што-кольвечы пра духоўную эвалюцыю чалавека? Дык жа праз паўгадзіны ўся вёска будзе ведаць, што Макараў сын, Андрэй, ад вялікай навукі, мусіць, звіхнуўся з розуму. А таму мудра пытаю:

— Як вы, дзядзька Юзік, жывяце?

Стары пыхкае цыгарэтай, падслепавата жмурыцца ад яркага сонца, раптам смачна сплёўвае сабе пад ногі, бадзёра адказвае:

— А нічога сабе жыву. Калываюся памаленьку. Як некалі мой бацька казаў: то скокам, то бокам, то з квасам, то з кілбасою... Шкада толькі, што свет здурэў,— маланкавы позірк з-пад сівых, шырокіх і махнатых броваў.

«Н-е-е-е... Няма дурных увязвацца ў пустую гаворку», — мяркую я і нечакана, нават для сябе, даволі кпліва, кажу:

— Усе старыя людзі лічаць, што некалі свет быў лепшы. Гэта — узроставая хвароба. Пасля шасцідзесяці ў чалавека, звычайна, усё заканчваецца на «ы». Ён робіцца нямогл*ы*, буркліў*ы*, падазрон*ы*...

«Божухна! Пра што я думаю?! Чым забіта мая галава?! Мне трэба садзіцца і пісаць творчую біяграфію, а не сноўдацца па хаціне з кута ў кут і цешыць сябе ўспамінамі,— жахаюся і прыслухоўваюся да выцця ветру ў коміне печы, у якой весела гараць і патрэскваюць сухія яловыя дровы. — Але з чаго пачаць? Можа...»

«Колькі сябе помню — чытаў. Чытаў запоем, бязладна, гвалтам адольваў аповесці, раманы, зрэшты, усё, што траплялася пад руку. І цяпер, калі скроні прыцярушыла сівізна, заходжу ў кнігарні, бібліятэку і гляджу на кніжныя паліцы, як глядзіць здарожаны, згаладалы чалавек на стол з прысмакамі.

У дзяцінстве і пазней чытаў пераважна беларускую літаратуру. Мабыць, прага да чытання, а яшчэ дасціпныя, трапныя, вобразныя аповеды, байкі, жарты маіх бацькоў і аднавяскоўцаў прышчапілі любоў да прыгожага пісьменства і крынічнага роднага слова...»

Напісаў, перачытаў і ледзь не заплакаў: «На якую трасцу здалося каму ведаць, што ты чытаў і на якой мове?! Вунь па так званым беларускім тэлебачанні на рускай мове перадалі вынікі сацыялагічнага даследавання: восемдзесят працэнтаў памяркоўных беларусаў акрамя наклеек на пляшках гарэлкі і цэтлікаў з цэнамі на каўбасных батонах у рукі не тое што кніжак, газет не бярэ. А ты пра нейкія аповеды, байкі... Каму гэта трэба?! Апамятайся, Андрэй!»

— Каму гэта цікава? Праўда, Бім?!

Бім паклаў галаву на лапы, уважліва слухае, што яму талдычу. Выгляд ён цяпер мае ціхмяны, пакорлівы, сама лагода. Відаць, разлічвае падлашчыцца, каб пакінуў у хаце начаваць.

Са злосцю шпурляю на круглы, з выгнутымі ножкамі, яшчэ бацькоўскі стол ручку і зноў пачынаю мераць крокамі дарагую мне хаціну. Рыпяць і крэкчуць пад нагамі маснічыны, бытта цвердзяць: «Апомніся... Апомніся... Апомніся...» У печы ўжо дровы перагарэлі, затое ярка барвовіцца вуголле і з чалеснікаў у твар патыхае густым, гарачым духам. Яшчэ хвілін пяць і можна закладаць юшку, у такую халадрыгу цяпло трэба берагчы.

Выходжу на ганак, тулюся ад ветру і дажджу, бліжэй да дзвярэй, і куру. Гатовы рабіць любую работу, нават пайсці дажджом калоць дровы, толькі не пісаць. Лаўлю сябе на думцы, што занадта ўражлівы і мне не хапае ўпэўненасці ў сабе. «Не так яно ўсё і кепска. Сітуацыя не катастрафічная, бывалі і горшыя часы. Таму садзіся і пішы...»

З такім намерам вяртаюся ў хату і... бяру з канапы, накрытай саматканым пакрывалам, «жоўтую» (цяпер амаль уся прэса «жоўценькая») газету, якую перад ад'ездам у вёску купіў, але так і не прачытаў. Пачынаю гартаць. Ага! Калайдар рванула... Ах вы, вучоная цемната! Вырашылі адным махам загадку стварэння Сусвету раскусіць, толькі зубкі аказаліся яшчэ малочныя. Не-е-е... На што Бог адкрые чалавеку вочы, толькі тое ён і ўбачыць. Нездарма выдатны паэт і вялікі вучоны Амар Хаям яшчэ шмат стагоддзяў таму выпакутаваў вось гэтыя радкі:

Даже самые светлые в мире умы
Не смогли разогнать окружающей тьмы.
Рассказали нам несколько сказочек на ночь —
И отправились, мудрые, спать, как и мы.

Так што, хлопцы, супыніцеся. А інакш спасцігне вас лёс будаўнікоў Вавілонскай вежы... І раптам — азарэнне: а што, калі гэты калайдар проста вялікая авантура, мэта якой — вытрасці з падаткаплацельшчыкаў грошы. На яве ўбачыў, як прыгорбленыя людзі з розным колерам скуры нясуць долары, еўра, юані, іены, рублі... Дрыжачымі рукамі кладуць іх перад пачаткам гэтай шматкіламетровай трубы. Тут з шуфлем у руках завіхаецца нейкі барадач, з ярмолкай на лысай галаве. Ён, спацелы і прытомлены, шуруе банкноты ў ненаеднае чэрава — грошай жа мільярды долараў!

На другім канцы трубы шчыруе яшчэ адзін барадаты «адкрывальнік» жыцця на Зямлі, падбірае і акуратна складвае купюры ў вялікія чамаданы. Час ад часу становіцца на калені і крычыць:

— Давай, дружа, весялей! Не для чужога дзядзькі стараемся — для сябе. Што? Падаткаплацельшчыкі сварацца? Кажуць, афрыканскія дзеткі пухнуць

з голаду? І нашы дзеткі кволыя. Давай, дружа, давай! Каб у нашых дзетак быў лёгкі стул...

Не ведаю, што на мяне находзіць, але падымаюся з канапы, з рашучым выглядам іду да стала. Саджуся на старэнькае, з гнутай спінкай, крэсла, падсоўваю бліжэй да сябе стосік чыстай паперы і бяру ручку. Яшчэ раз гляджу на рэпрадукцыю з карціны Леанарда да Вінчы «Мона Ліза», якая з даўніх часоў, побач з абразом святой Багародзіцы, вісіць на сцяне. Здаецца, я ведаю аб чым думала загадкавая італьянка і чаму так таямніча пасміхалася.

Выразы «лёгкі стул» і «цяжкі стул» упершыню пачуў у далёкім дзяцінстве. Схапіў жывот, і бацька мусіў запрагаць каня, на фурманцы везці за дзесяць кіламетраў у раённую бальніцу. Важны доктар, у бялюткім халаце і з нейкай цікавай штуковінай (фанендаскопам) на грудзях, нацiскаў-мацаў жывот і ўсё дапытваўся ў таты:

— Які ў вашага хлопчыка стул: цяжкі ці лёгкі?

Збянтэжаны бацька пацiскаў плечукамі, муляўся, нешта мармытаў. Я ляжаў ні жывы ні мёртвы і ніяк не мог уцяміць: пры чым тут стул? На стуле можна сядзець на кукішках і гайдацца, а як надакучыць, цягаць яго за спінку па падлозе... (У нашых мясцінах слова «крэсла» ўжывалася рэдка.)

Спатрэбілася шмат гадоў, каб канчаткова ўсвядоміць лёсавызначальныя ролі «лёгкага» і «цяжкага» стула ў жыцці не толькі асобнага індывідуума, але і ўсяго чалавецтва. Па сутнасці, усё, што не дзеецца на белым свеце, мае канчатковую мэту: лёгкі стул. І чыніцца так з біблейскіх часоў. Майсей, вывеўшы яўрэяў з Егіпта, сказаў ім: «Пойдзем у зямлю, дзе цякуць мёд і малако». Іншымі словамі, хадзем са мною туды, дзе вы будзеце мець лёгкі стул. І пайшлі. Блукалі сорак гадоў па пустыні, трывалі голад, холад і нястачу, на сваім шляху нішчылі іншыя народы, гінулі самі, але ўпарта рухаліся, каб, у рэшце рэшт, зажыць уежна і ўлежна.

Пазней палкаводцы-заваёўнікі Чынгісхан, Аляксандр Македонскі, Юлій Цэзар, Напалеон, Гітлер перад тым, як ісці скараць іншыя народы, кожны адкрыта гаварыў свайму народу прыкладна так: хадзем, заваюем іх, накінем на шыю ярмо, яны будуць плаціць нам багатую даніну, і вы будзеце смачна есці і піць...

Ленін, як многія сцвярджаюць зараз, узбунтаваў, перавярнуў Расію не марксісцкай ідэалогіяй, а простымі лозунгамі-абяцанкамі: зямлю — сялянам, фабрыкі і заводы — рабочым. Паслухаліся, клюнулі на прынаду. А ўсё дзеля чаго?

Гарбачоўская бязмозглая перабудова, гвалт Ельцына над расійскім і іншымі народамі пачыналіся з тых жа абяцанак-цацанак. Вынік — дзясяткі, сотні тысяч п’яніц, наркаманаў, злодзеяў, забойцаў, духоўнае жабрацтва...

Буш малодшы пачаў бамбіць Ірак, нішчыць мірных людзей не з-за міфічнай зброі масавага знішчэння, ён ведаў, што яе там няма, а з-за нафты, без якой у тлустых янкаў маглі ўзнікнуць праблемы са страўнікам.

У жывым целе зямлі свідруюцца дзіркі, высмоктваецца яе кроў (нафта), душа (газ), а ўсё дзеля яго вялікасці — спажывання. Ляцяць у космас ракеты, караблі, спадарожнікі, як шагрэневая скура, сціскаецца і рвецца покрыва, якім Усявышні ўхутаў планету Зямля, а матыў у апраўданне гучыць той жа: багаты стол.

На спажыванне працуюць карпарацыі, канцэрны, фабрыкі, заводы, банкі, фінансавыя кампаніі, акадэміі, інстытуты, навукова-практычныя цэнтры...

Усе тыраны ўсіх часоў і народаў кляліся ў бязмернай любові да сваіх народаў і абяцалі ім лёгкую спажыву.

— Ці не зашмат, Бім, грамадзянскага пафасу ў маіх пакутлівых разважаннях? — прашу даць раду вернага мне сабачку. У адказ — ліслівы пагляд і гатоўнасць служыць, абы застацца ў цяпле.

Аднак скончу тым, з чаго пачынаў — медыцынскай тэмай. Дзядзька Юзік (апавядаў з сумам сам) павёз сваю старую жонку Марфу ва ўчастковую бальніцу. Напасць тая ж, што некалі ў мяне: болі ў жываце. Тамтэйшы доктар, доўга пальпіраваў жывот, а пасля спытаў:

— Газы, бабуля, сходзяць?

Старая няўцямна пазірала на лекара і не ведала, чаго той ад яе хоча. Доктар спытаў другі раз, ужо больш злосна:

— Я пытаю, старая, ці сходзяць газы?

Бабуля ад страху перастала не тое што енчыць, а дыхаць.Урэшце мясцовы эскулап страціў цярпенне і спытаў проста, па-вясковаму, так, як спытаў бы ў яе сусед...

— Я пытаюся, бабуля, ці...

— А як жа, доктарка! — абрадавалася кабета. — І надта добра...

— Раз стул лёгкі, то маеш доўга жыць, — паставіў дыягназ лекар, даў нейкіх пілюлек і адправіў дахаты.

Праз два дні цётка Марфа памерла...

...Прабег напісанае і застаўся задаволены. Настрой на некалькі градусаў падняўся. Падалося, што і Мона Ліза падахвочвае мяне пісаць. Усё-такі на нешта здатны. Галоўнае, не надта прышпорваць сябе, а пісаць па натхненні. З наскоку творчую біяграфію не асіліш. Як кажуць, дурны паспех людцам разумным на смех.

Вось хоць бы ўзяць тых жа фізікаў-хімікаў, вучоных з іх калайдарам. «Мы зымітуем выбух падобны таму, які адбыўся (калі?!) і ў выніку якога ўтварылася жыццё на Зямлі...» Абы што! Каб вы, хлопцы, так жылі, як кажаце праўду. Урэшце, вольнаму — воля.

Швейцарыя, дзе вы «хімічыце», краіна казачнай прыгажосці і там, на грошы падаткаплацельшчыкаў можна выдурняцца, купацца, загараць, жмякаць маладзіц... Да прыходу Апакаліпсіса. Рванула адзін раз, жахне і другі, трэці... Вы, хлопцы, толькі зямельку і гэтае самае чалавецтва, нібы дзеля якога парыцеся, не ўзарвіце...

Стала зусім не да пісаніны. Аддаўся ўвесь роздуму над таямніцай нашага грэшнага быцця. Чаму свет уладкаваны такім макарам, што кожнае новае пакаленне людзей паўтарае памылкі сваіх папярэднікаў? Чаму горкі, як воцат, жыццёвы вопыт, нават бацькоў, не кажучы пра больш далёкае па часе калена, абсалютна не прымаецца нашчадкамі? Не! Не! Гамонка не пра канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі, апісаны класікам у яго вядомым рамане. Маю на ўвазе не пераацэнку кожным новым пакаленнем маральных і духоўных каштоўнасцей сваіх папярэднікаў, хоць і гэта надзвычай важна, а дамагаюся зразумець глыбінныя прычыны шаленства чалавечага роду?! Таго вар'яцтва, якое вядзе чалавецтва на край пагібелі.

Дапускаю верагоднасць, што ў Кнізе Жыцця кожнага чалавека запісана прайсці свой непаўторны шлях, здзейсніць нямала добрых спраў і натварыць памылак. Хаця ў апошнім моцна сумняваюся. Бо добрае дзеецца з блаславення Усявышняга, а благое — па людской дурасці пад плясканне ў ладкі д'ябла. Аднак жа! Чаму чалавецтва з такой упартасцю, па сваёй волі, з гіканнем, набліжае як мага Апакаліпсіс?

Асабіста ў мяне адказу няма. Ведаю адно, што разумнейшымі і мудрэйшымі за Амара Хаяма мы не сталі. А жыў жа вялікі астраном і цудоўны паэт за восем соцень гадоў да нашых сумніцельных эксперыментаў.

«Урэшце, мякіш даюць дзецям, — супакойваю сябе. — А мае землякі жуюць сухары і да ісціны датумкаюцца самі. Садзіся і пішы свой опус, вось увесь сказ і ўся філасофія».

Таму, хто прыдумаў тытунь і першы закурыў, каб мог, зрабіў бы чыкчырык па самы корань. Вось з'явіўся адпаведны настрой на працу, аж нешта спачатку ў нутробе заказытала, сліна да губ шуганула, а пасля ў галаву стукнула: трэба перакурыць! Нездарма, пэўна, кажуць, чалавек на гару, а чорт за нагу. Такое ўражанне, што гэты лысы ці паласаты нячысцік толькі і мае клопат, каб збіць мяне з панталыку і не дазволіць зрабіць задуманае.

Бяру з пачка цыгарэту, нейкі момант стаю ў роздуме, можа, у хаце падыміць? Я ж тут адзін (Бім — з боку прыпёку), жонка сварыцца не будзе... Раптам заўважаю, што дождж ужо не барабаніць па шыбах, вецер не так вые і галосіць, а на вуліцы выяснілася. Больш не вагаюся, накідваю на плечы паношаную фуфайку, выходжу ў халодныя сенцы і адчыняю дзверы на ганак. У тое ж імгненне, як па заказе, паміж чорнымі хмарамі прабілася сонца. Трэба ж такое! Не спяшаюся прыкурыць, а, пэўна, з прасветленымі, радаснымі вачыма пачынаю ціха шаптаць: «Вітаю цябе, сонейка! Дзякуй, што зазірнула. Засумаваў па табе, нават пісаць не магу, не клеіцца — і ўсё тут. Ты ж, маё харошае, ведаеш, што без тваёй цеплыні і ласкі я сам не свой. Не бачу цябе з тыдзень, такая хандра нападае, што хоць на месяц вый. Але і яго па начах цяпер не ўбачыш. Скажу табе па сакрэце, каб меў крылы, уцякаў бы разам з птушкамі на восень у далёкую сонечную краіну. Зімою яшчэ трываць магу, асабліва калі на вуліцы бадзёры марозік і ты нагадваеш аб сабе. А вось восенню... Не думай, што крыўдую на цябе, свеціш жа ўсім аднолькава... Скажы мне па сакрэце, хто цябе пасадзіў на нябесны пасад? Мажліва, таксама апынулася там у выніку выбуху? Жартую. І я разам з табою смяюся. Свяці, маё харошае, шчодра ўсім, дзеткам, дарослым і старым, добрым людцам і злоснікам, разумным і дурням. Апошнім не шкадуй свайго цяпла і святла, будзь да іх асабліва ласкавым і спагадлівым. Растапі ў іхніх сэрцах злосць, прасвятлі іх розум. І свяці, свяці, свяці... Тым больш, што ніякай платы, нават падзякі не просіш. А яшчэ ведай, што без твайго цудадзейнага святла загіне на зямлі ўсё жывое. Ну, гэта ты раней, мяне яшчэ і ў праекце не было, ведала. Прабач. Бывай, магутнае і добрае свяціла! Саграваў нашы сэрцы і душы, не дай канчаткова здурэць».

Толькі скончыў свой, так бы мовіць, гімн сонцу, а яно ўзяло і схавалася. Нічога не зробіш, восень… Яшчэ нейкі момант стаю, гляджу на нізкае захмаранае, суровае неба, недалёкі, самотны і задуменны змешаны лес, які, акрамя ялін і хвояў, амаль распрануўся, і раптам пачынаю пацепваць плечукамі. Золка. Зябка. Холадна. Вяртаюся ў цёплую хатку, кідаю позірк на ходзікі на сцяне, бяру са стала пульт і ўключаю тэлевізар. Зараз павінны перадаваць навіны. Нельга адрывацца ад жыцця, хаця мала веру таму, што плявузгаюць з экрана. Не веру, бо добра ведаю, што ўсе больш-менш важныя пытанні нашага жыцця вырашаюцца за зачыненымі дзвярыма, пасля таго як журналістаў, з усім пішучым і здымаючым начыннем, не вельмі тактоўна выштурхваюць за дзверы.

«Калі такі прынцыповы і ўпарты, — кажу сам сабе, — дык жа варушы мазгаўнёй, у галаве лад — на паперы склад».

Сапраўды, чаго-чаго, а ўпартасці ўва мне хоць адбаўляй. У жыцці шмат непрыемнасцей меў праз яе. Віной усяму мая каляная, жорсткая чупрына. Цырульнікі не раз цяжка ўздыхалі і дзівіліся: «Не валасы, а дрот... Нажніцы не хочуць брацць... Ну і характар…» Праўда, бацька бачыў прычыну ў іншым. Бывала, сядзем вялікай сям'ёй палуднаваць, маці паставіць на стол вялікую місу з малочным крупнікам, я нос і звесіў.

— Еш, сынок, — падазрона ласкава кажа тата і спадылба пазірае на мяне (ён цвёрда ўпэўнены ў тым, што распешчанае дзіця і вырасце разбэшчанае). — Еш, а то шыя ўжо мохам зарасла, высах, як майскі хрушч... Ці ўжо надта пераборлівы?

Маці з асцярогай пазірае спачатку на бацьку, а пасля пяшчотна просіць:

— Зачэрпай, дзіцятка, хоць колькі лыжак... Крупнічак надта смачны. Паспытай, дзіцятка...

Насуплюся, як сыч, маўчу і адно боўтаю лыжкай у місе. Тады тата аблізвае сваю вялікую, большую, чым у астатніх, драўляную лыжку і ... тр-р-рэсь па лабаціне. Уміг пад стол, шыюся паміж матчыных ног і ўжо з-за дзвярэй, глытаючы слёзы, крычу:

— Не буду есці вашага малочнага крупніку! Самі ешце...

Да ночы, з высакародным пачуццём помсты крыўдзіцелям, блытаюсяашываюся, пакуль маці не пакліча і не паабяцае, што тата больш пальцам не кране. І цяпер, калі ўжо жонка, час ад часу, асцярожна пацікавіцца, ці не хачу паспытаць малочнага супу, хапаю шапку ў ахапку і бягу піць піва. Па праўдзе, малочны суп — страва лёгкая і карысная для чалавека.

Асабліва зарабляў на арэхі з-за сваёй настырнасці падчас службы ў войску. Нават згадваць прыкра... А напрарочыў такую долю начальнік участка Барыс Залманавіч Фабрыкант, каб яму мякка ікалася.

Пасля заканчэння будаўнічага вучылішча апынуўся на жалезабетонным заводзе. Работа была не пыльная, лёгкая, нават інтэлігентная. Нам з напарнікам прывозілі самазвалам гатовы бетон, які мы ўручную шуфлямі закідвалі ў драўляныя формы, вібратарам «мясілі» яго, карацей, выраблялі аконныя і дзвярныя перамычкі. Аднаго дня, змена ўжо заканчвалася, да нас наведаўся ўласнай персонай Барыс Залманавіч і прачулена сказаў:

— Праз дваццаць хвілін — на лекцыю ў чырвоны куток заводаўпраўлення. — І важка дадаў: — Раённы суддзя будзе чытаць... Аб працоўных правах і абавязках грамадзян...

— Ого! — адгукнуўся рыжы і канапаты напарнік Сяргей, які ў свае дваццаць тры меў магчымасць на ўласнай скуры паспытаць, што такое сіла і што такое права. — Абавязкова прыйдзем!

Мы чэрпалі кружкай з вядра ваду, памылі рукі, спаласнулі твары, пераапрануліся і падаліся слухаць суддзю. Жанчына перадпенсійнага ўзросту, з невыразным, але суровым тварам пачала з таго, што сумленная праца для кожнага чэснага чалавека — адзіная крыніца багацця. Асабіста я нічога супраць гэтага не меў. Больш таго, месяцы тры з хвосцікам таму, калі заканчваў будаўнічае вучылішча і, паралельна, школу рабочай моладзі, пісаў нешта падобнае ў сваім сачыненні. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры прапанавала распавесці пра адзін рабочы дзень кожнага з нас. Фарбаў не пашкадаваў, намаляваў такое патрыятычнае і ўзнёслае, што на наступным уроку мовы маладая вучыцелька горача ўсклікнула:

— А вам, Ляшкевіч, трэба абавязкова паступаць на факультэт журналістыкі!

Гэта было громам сярод яснага неба. Я нават не ведаў, што дзесьці існуе такі факультэт. Аб саміх журналістах меркаваў на ўзроўні дзядзькі Юзіка. Аднак паслухаўся, сабраў дакументы, падаў у прыёмную камісію. Па конкурсе нібыта праходзіў. Але не меў публікацый. У выніку — у руках замест пяра трымаў шуфель, а ў кішэні была позва на службу ў войска. Настрой у мяне быў адпаведны. Хаця падказка вучыцелькі вызначыла лёс.

Не дзіўна, калі суддзя наступным захадам пачала даваць у хвост і грыву, з імпэтам, гнеўна кляйміць гультаёў і злодзеяў, не ўтрываў, выгукнуў:

— Рыба гніе з галавы! Я ж кавалак бетона ў кішэню не пакладу...

Усталявалася гнятлівая цішыня, лектарка на міг знямела, а начальства, якое сядзела за сталом, накрытым чырвоным паркалем, унурыла галовы.

— Што? Не па гадах разумны? — урэшце апомнілася суддзя.— Прыкусі язык, а то...

Пераглянуліся з напарнікам, без лішніх слоў падняліся з крэслаў, падаліся да дзвярэй.

Назаўтра, з самай ранічкі, наведаўся Барыс Залманавіч. Ён доўга глядзеў на мяне сваімі вялікімі, вільготнымі, жоўта-карычневымі вачамі. Уздыхаў, урэшце сцішана сказаў:

— Нічога не хачу... Хачу, каб у арміі табе трапіўся дурны сяржант ці старшына. — Трошкі падумаў і ўдакладніў: — Каб абодва тупыя трапіліся...

Павярнуўся і з пачуццём выкананага абавязку (сакратар партбюро даручыў правесці выхаваўчую работу) накіраваўся да напарніка. Сяргей збіваў апалубку і рабіў выгляд, што для яго ў гэты момант больш важнай справы няма на свеце. Заўважыў, што кіруе высокае начальства, выпрастаўся і пачаў таропка расшпільваць каўнер сарочкі, два верхнія гузікі. Пры тым неяк нязвыкла, страшэнна напяўся, твар яго ўраз наліўся чырванню, нават вочы выпучыў. «Што гэта з ім?» — захваляваўся я. Аднак гэты наравісты хлопец не рухаўся, стаяў і чакаў, пакуль наблізіцца Барыс Залманавіч. Фабрыкант падступіўся, як мае быць, упрытык і, штосьці, відаць, хацеў сказаць. А можа, і паспеў два-тры словы вымавіць. Раптам да мяне данеслася:

— Фу-у-у... Свіння! — Барыс Залманавіч схапіўся за нос, крутануўся і кінуўся далей ад напарніка.

— Што здарылася, Сяргей?— падышоў бліжэй, пацікавіўся.

— Дастаў Залманавіч мяне. Толькі з’явіцца і пачынае прынюхвацца, выпіўшы ці не ? І лезе проста ў рот. Вырашыў адвучыць ад шкоднай звычкі.

Парагаталі і пачалі прыгадваць падзеі ўчарашняга дня і вечара.

Пакінулі чырвоны куток, выйшлі на вуліцу, узрушаныя, усхваляваныя, пачалі гаманіць на самую модную тады тэму, хваліць родную і любімую. Асабліва яе кіраўнікоў, агулам і кожнага паасобку. Хвалілі і ўрад, але не так заўзята. Урэшце, прытупалі да невялічкага кафэ, якое мясцілася каля тэатра оперы і балета. Падлічылі грошы, да апошняй капейкі, вырашылі наведаць піцейную ўстанову. У зале было не шматлюдна, месц, нават незанятых столікаў, хапала. Выбралі кутні, бліжэйшы да выхаду.

— Давай, ты ў нас граматны,— усміхнуўся Сяргей і сунуў мне ў рукі меню.

Прабег вачамі закускі, большае, па вядомай прычыне, не цікавіла. Не ўтрымаўся:

— Слухай! Ёсць селядзец з гарачай бульбай і сялянскім маслам. Танна!

— То, можа, па дзве порцыі? — улавіў маю думку напарнік.— Ну і дзвесце грамаў на дваіх. Больш не пацягнем... З «фанцікамі» напруга...

За сваю «інтэлігентную» працу мелі па 90 р. Я жыў у рабочым інтэрнаце, Сяргей — на прыватнай кватэры. Яму, бедаку, яшчэ цяжэй даводзілася. Не раз з сумам казаў: «Мне б узбіцца на грошы, разжыцца на прыстойны касцюм і добрыя «коні» — дзяўчаты перада мною снапамі валіліся б».

Як заўжды, былі галодныя і хацелі, каб перад кожным з нас ляжалі на талерках не гэтыя выпетраныя некалькі долек селядца, дзве астылыя бульбіны і два квадрацікі масла, а стаяла па трохлітровым чыгунку гарачай картоплі, над якой вілася пара. І як, мінімум, ляжала на талерках па два тоўстых і тлустых селядцы... Але былі маладыя, неўтаймаваныя, яшчэ не абцяжараныя

клопатам і дбаннем пра сваё здароўе. І таму — балявалі. Выпілі пакрысе, з разлікам яшчэ на адзін заход, прыкусілі. Пачалі гаманіць і тут:

— Не перашкодзім? — за спінай (я азірнуўся) стаяла маладая пара. Абое наструнёныя, з настырнасцю ў вачах, хаця і сіліліся ўсміхацца.

Хацеў асадзіць, маўляў, столікаў хапае, аднак адчуў лёгкі, непрыкметны дотык нагі Сяргея.

— Калі ласка! Калі ласка! Далучайцеся... У кампаніі заўжды весялей,— запрасіў, зусім натуральна, напарнік і паклаў перад дзяўчынай, калі тая ўмасцілася, меню.

Вірлавокая, з лупатымі шэрымі вачамі, не вельмі ахайная — пад вялікімі, без манікюра, пазногцямі на пальцах рук быў бруд — з першага пагляду не спадабалася. Менш кідаўся ў вочы белабрысы, сухі, нібы сушаны таран, яе спадарожнік. Хіба здзіўлялі незразумелыя нервовасць і нецярплівасць...

— Надакучылі камандзіроўкі, — раптам будзённым голасам загаварыў Сяргей. — На наступным тыдні давядзецца ляцець у Егіпет...

Заёрзала на крэсле вірлавокая, сцяўся, ураз закамянеў твар хударлявага (у тыя гады простаму смяротнаму — вырвацца за мяжу!..)

— Хочаш, перагавару з начальствам, каб і цябе камандзіравалі? — звярнуўся ён да мяне і зноў, употайкі, націснуў на нагу.

Я, нібы конь у спёку, ратуючыся ад аваднёў, заматляў галавой, маўляў, гатовы хоць зараз, нават не разлічыўшыся за сто грамаў і мізэрны селядзец. Раскрываць рот, каб вымавіць хоць слова, асцерагаўся. Не ведаў, якую гульню вядзе Сяргей, тым больш, чым усё скончыцца.

— Ведаеце,— на гэты раз звярнуўся да незнаёмых маладых людзей,— мы працуем наладчыкамі ў экспартнай службе трактарнага завода. Тэхніка наша ідзе нарасхват. Прадукцыя якасная... Толькі негры (якія ў Егіпце негры?!) народ цёмны, то гэта зломяць, то тое... Вось, прыслалі тэлеграму, трэба ехаць рамантаваць... А вы, калі не сакрэт, хто будзеце?

— Мы... Мы... Мы... — замыкала дзяўчына і абмякла, бездапаможна глянула на свайго таварыша ці кавалера.

— Мы — студэнты, — таропка адказаў той. — Вучымся...

Падышла сонная афіцыянтка, моўчкі, не павітаўшыся, нецярпліва ўтаропілася спачатку на дзяўчыну, пасля пераняла позірк на хлопца.

— Хадзем, Андрэй, на свежым паветры перакурым, — прапанаваў Сяргей.

На століку стаяла попельніца, у кафэ, мабыць, курылі, але пярэчыць не стаў. Толькі выйшлі на вуліцу, не утрываў:

— Што за спектакль?

— А ты ведаеш, хто гэта?

— Не. Хто?

— Стукачы! Маладыя, нявопытныя, яшчэ зялёныя, праходзяць абкатку, Сапраўды, студэнты...

— Як гэта? Студэнты і ўжо стукачы?

— А так! Маладыя лягчэй паддаюцца дрэсіроўцы... Да таго ж, з перспектывай... Скончаць інстытут, выб’юцца ў начальства, а ім дапамогуць, вось табе і каштоўныя інфарматары. Эх, ты, рамантык... Разумны хлопец, а жыцця не ведаеш, сляпое кацяня. Не крыўдуй...

Першы раз пачуў, што я рамантык, і даведаўся аб гэтым ад былога зэка.

— А наконт Егіпта? Сам прыдумаў?

— Не. «Парыўся» са мной на зоне інжынер, сапраўды з трактарнага... Бываў амаль ва ўсіх краінах, куды пастаўляе завод тэхніку. З Егіпта вёз нейкую кантрабанду, прыхвацілі, прыпаялі пяць гадкоў.

— Якога д’ябла селі за наш столік? — узбурыўся я.

— У іх, для абкаткі, заданне не складанае, высветліць, чым дыхае рабочая моладзь, — упэўнена адказаў больш вопытны ў жыцці напарнік.

— У мяне што? На лобе напісана, хто я? — здзіўлена спытаў.

Сяргей уважліва агледзеў мой несамавіты выгляд, перавёў позірк на лоб:

— Напісана. Бетоншчык трэцяга разраду, які закусвае дохлым селядцом і халоднай, сіняй бульбай, — адказаў жартаўліва і ўжо сур’ёзна спытаў: — Хочаш, я іх раскручу?! Толькі не лезь, не перашкаджай... Хаця... Можаш балбатаць пра баб, гарэлку, карацей, пра ўсё... Толькі не крычы больш, што рыба гніе з галавы. Дамовіліся? Грошы на такія рэчы ім выдаткоўваюць...

Заставалася згодна кіўнуць галавой. «Дзе наша не прападала, няхай і тут лясне... Армія ўсё спіша…»

На століку стаялі два, акрамя нашага, графінчыкі. Адзін з гарэлкай, грамаў трыста, у другім было грамаў сто пяцьдзясят чырвонага віна. Праўда, закуска сціплая, салаты са свежых агуркоў і просценькія паравыя катлеты з грэчкай. Суседзяў па століку нібы падмянілі. Куды толькі знікла скаванасць і напружанне! Яны прыязна ўсміхаліся, і толькі мы паспелі прысесці, прапанавалі выпіць.

— За што? — весела пацікавіўся Сяргей, не марудзячы, узяў графінчык і разліў рэшткі гарэлкі ў нашы чаркі.

— Давайце за сустрэчу! — прапанавала вірлавокая.

— Можна, вядома, і за сустрэчу... Але мы яшчэ не пазнаёміліся... Мяне клічуць Сяргеем. А гэта мой калега, Андрэй, — з сур’ёзным выглядам адрэкамендаваў напарнік.— А вас?

Гэтае «а вас» нібы паставіла парачку ў тупік. Незразумелая збянтэжанасць выклікала здзіўленне, шаптуны, нават «зялёныя», мусяць быць падрыхтаванымі да больш сур’ёзных нечаканасцей, чым проста назваць свае імёны. Урэшце, асабіста мне без розніцы, як іх клічуць, Вадзім дык Вадзім, Люда дык Люда. Хутчэй за ўсё, Сяргей хоча «на халяву» выпіць, вось і змарозіў на хаду «дэтэктыў».

Выпілі ўсё ж за знаёмства. Мы дзяўблі відэльцамі ў амаль пустыя талеркі, Сяргей штосьці плёў пра «неграў», новыя знаёмыя налягалі на катлеты і тут... І тут я заўважыў, як Вадзім ледзь прыкметна таўхануў Люду пад локаць. Абое, нібы па камандзе, борзда ўскочылі.

— Перакурыць, — абыякава кінуў хлопец, а дзяўчына нават пазбягала глядзець у наш бок.

— Штосьці западозрылі, — сумна сказаў Сяргей і цяжка ўздыхнуў. — Пайшлі, напэўна, раіцца..

— Ты б яшчэ пра чукчаў у Егіпце распавёў, — пад’ялдыкнуў я напарніка. — У Егіпце арабы жывуць... Лапшу на вушы вешаць таксама трэба ўмець.

Паклікалі афіцыянтку, разлічыліся і ўжо на выхадзе з кафэ сутыкнуліся з дзіўнай парай. Размінаючыся, Сяргей пажадаў ім добрага вечара. У адказ маўчанне і непрытоеная ўваччу злосць. Хто яны былі, для мяне і па сённяшні дзень застаецца загадкай. За столік іх ніхто не запрашаў...

— Вось, Бім, як далёка я сегануў у сваіх успамінах! Да службы ў войску — рукой падаць. Пачакай, пачакай, мой разумны сабачка... Я ж намацаў творчую жылку! Менавіта з армейскіх будняў трэба пачынаць свой аповед, а не з гаротнага дзяцінства, юначага кніжнага кахання і не з таго, як шуфлем варочаў бетон. Гэта ўсё тысячу разоў пісана-перапісана. Маё ж армейскае жыццё цікавае, з прыгодамі. Трэба, Бім, кілзаць тэмку і пачынаць шрайболіць.

Толькі спачатку варта астыць, утаймавацца, пракруціць у памяці тыя тры доўгія гады муштры, смеху і самоты. Пачаць, бадай, варта з каранціна...

Зноў наважыўся аддацца ўспамінам, як забурчала ў жываце. Спачатку так глуха, нібы далёка-далёка гром завуркатаў. Прыслухаўся, эге, справа дрэнь, пад лыжачкай засмактала, а ў ненаедным трыбуху, не паверыце, ужо цэлая рэвалюцыя. «Што б гэта магло азначаць, прыкідваю?» Пэўна надвор'е палепшае, можа, выпагадзіцца, сонейка наведаецца, мухі ажывуць і вылезуць са шчылін…» Не, прагноз мой нікуды не варты, а дыягназ такі: Андрэй Макаравіч хоча ням-ням.

Яно і не дзіва, бо другія суткі ем усухамятку. Учора прыехаў пазнавата, пакуль накачагарыў печ, спаліў ладны ахапак дроў, пакратаў рукой — ледзь цёплая, ведама, настыла. Давялося яшчэ бярэмя прынесці. Каб жа галаву меў на плячах, то варта было хоць кашу пярловую са свінымі скабкамі ўтушыць. Ого, якая смачная пярлоўка з вясковай глінабітнай печы! Яна неяк асабліва хвацка атрымліваецца ў жонкі: ясі і ажно нос угінаецца. Асабіста я спецыяліст іншага кшталту: зняць пробу, пасмакаваць, даць належную ацэнку кухарскім здольнасцям сваёй палавіны. А таму павячэраў, чым Бог паслаў. Праўда, на сняданак зрабіў яечню. Тут вялікай навукі не трэба, пакрамсаў скрыль сала, узбіў дзясятак яек і сачы, каб дым не паваліў. Справа простая, а ежа каларыйная, а раз так, то тым самым і папалуднаваў. «Не, на вячэру, усё ж, згатую аўсянку. Аўсянка хуткаварыцца. Жонка ўпраўляецца з ёй, як вокамміргнуць». Пайшоў на кухню, адшукаў невялікую алюмініевую каструльку, узяў конаўку, каб зачэрпнуць з вядра вады, а там суха, таблетку запіць няма чым. Нейкі момант стаю і разважаю: сунуцца па ваду ў студню ці так абыдуся? Можа, кавалачак каўбаскі? Не, без вады і гарбаты не паспытаеш, давядзецца тэпаць.

Студня за метраў дзвесце. Адна на восем двароў. Праўда, цяпер у кожнага гаспадара ці гаспадыні вада пад бокам, правялі водаправод. Выйшаў з хаты на ганак, ступіў дзесяць крокаў, крутануў кранік — пацякла жыватворная вільгаць. Ёсць такая калонка і ў мяне. Толькі вады з яе, акрамя як паліваць агарод, не бяру. Тутэйшыя людзі кажуць, што аддае металічнымі трубамі. Так яно ёсць насамрэч. А са студні — вада! Словамі нельга перадаць... Мажліва таму, што смакаваў яе з маленства? А яшчэ ведаю, на свае вочы бачыў, якой крывёй (сапраўды так!) далася тая студня з вадзіцай.

Капалі студню талакой. Ва ўсіх лопнула цярпенне цягаць у слату і сцюжу, на каромыслах поўныя вёдры амаль за кіламетр, дзе і быў калодзеж. Месца выбралі не адразу, пасля спрэчак, кожны хацеў, каб бліжэй да сваёй хаты. Урэшце аблюбавалі мясціну на пагорку, якая задаволіла ўвесь гурт. Спачатку зямліцу выкідвалі лапатамі, паглыбіліся — пачалі цягаць вёдрамі. Ішоў дзень за днём, мужчыны задыхаліся, але ўпарта ўгрызаліся ў зляжалую гліну, дабраліся да пяску, пасля зноў пайшла гліна белая, яшчэ чвыр, а вады, каб губы памачыць.

Спускаліся ў ствол калодзежа па чарзе, не больш, як на хвілін дваццаць. На дваццаць першым метры прабілася доўгачаканая вадзіца. Стомленыя твары стрыманых вяскоўцаў памякчэлі, засвяціліся стоенай радасцю. Як апускалі цяжкія бетонныя кругі-колцы — лепш не згадваць. Далі вадзіцы адстаяцца і выкруцілі першае вядзерца. Мяккая, чыстая, халодная, смакавалі кружкамі і нагбом. Гадоў з дзесяць не ведалі быды, а пасля... А пасля вада знікла. Не сказаць, што зусім, але, каб зачэрпнуць вядро чыстай, а не напапалам з глеем, даводзілася ўставаць у чатыры гадзіны раніцы, інакш хтосьці іншы, больш ранні і рухавы, узбаламуціць. Праз колькі часу вада прапала канчаткова.

Зноў лопнула цярпенне ў маіх землякоў. Пачалі думаць-гадаць, як быць надалей. Гады прайшлі, мужчыны пастарэлі, але крыху ўзбіліся на грошы, такая-сякая капейчына ў кішэнях пачала вадзіцца. Падумалі-падумалі і нанялі землякопа, чалавека спрактыкаванага ў копцы калодзежаў. Быў ён ужо з сівізной на скронях, але яшчэ моцны і пруткі, шырокі ў косці і, на дзіва, негаваркі. Пагадзіліся, што паглыбіць студню да жылы, пакуль вада не завіруе як след, а пасля ўжо — дамоўленая плата за цяжкую працу. Харчаванне і начлег — па чарзе ў вяскоўцаў.

Апускалі яго ў студню на тоўстай, звітай з пянькі, вяроўцы. Адзін канец надзейна замацавалі да драўлянай, з жалезнымі ручкамі, корбы, а другім канцом мужчыны яго падвязвалі: прапускалі вяроўку паміж ног, пад пахі рук і моцна завязвалі яе на грудзях. Здаецца, гэта рабілася так. Пасля паціху, у чатыры рукі, як мага стрымліваючы корбу, апускалі землякопа ў ствол калодзежа. Калі нставала паветра і перапаймала дыханне, ён тузаў за вяроўку і мужчыны браліся за ручкі корбы, каб выцягнуць яго наверх. І кожны раз, спачатку, я бачыў яго акрываўленую патыліцу, на якой ужо не засталося валасоў. Калі апускалі і падымалі перадыхнуць, землякоп, каб не кідала з боку ў бок, апіраўся нагамі і патыліцай у бетонныя кругі. Жудаснае гэта было відовішча!

За тыдзень пракапаў два з паловай метры і... здаўся, на ваду і блізка падобна не было. Сказаў пра тое, не падымаючы вачэй. Мужчыны тупалі, ляпалі рукамі па сцёгнах, цяжка ўздыхалі, і ніхто не рашаўся сказаць галоўнае: як быць з платай? Нарэшце, дзядзька Мірон, завадатар справы і самы аўтарытэтны з усіх, з жалем у голасе, але цвёрда сказаў:

— Дамаўляліся, чалавеча, дабрацца да жылы. Выбачай, але вады няма, значыць, і плаціць няма за што...

Землякоп не стаў спрачацца, рукавом калянай брэзентавай курткі выцер з ілба пот, моўчкі ўскінуў на правае плячо латаны-пералатаны рэчавы мяшок і, не прамовіўшы нават слова, нейк адразу сутуліўся і падаўся з пагорка ў лог. Дзіцячымі, поўнымі слёз вачамі, глядзеў услед на яго акрываўленую патыліцу, на якой, здавалася, і скуры не засталося.

Ішоў гаротнік, трошкі пахістваючыся, не адрываў ад зямлі вачэй. У канцы лога, на балотцы, цвіла лотаць, у небе заходзіліся ад спеваў жаваранкі, усё ў прыродзе жыло, красавала. Толькі землякоп нічога гэтага не заўважаў, брыў, з цяжкасцю пераставўляючы ногі, нібы на пахаванні блізкага родзіча. Яшчэ я бачыў, як ён падымаўся на крутаватую Бухвалаўскую гару, прысеў, павярнуўся тварам да заклятай студні і доўга, нерухома спачываў. Праз шмат гадоў я спытаў у бацькі: чаму не далі чалавеку на дарогу шматок сала і акраец хлеба? «Хто ж яго ведае... Да вады не дабраўся... Ды і людзі...» — ён не скончыў.

Але самае нечаканае і радаснае для маіх землякоў, і, пэўна, прыкрае для землякопа, было тое, што літаральна праз тры дні вада забруіла крыніцай. І віруе па сённяшні дзень, ды так, што паднялася на сем кругоў, гэта значыць, на шэсць з ліхвой метраў! Землякопа вяртаць, каб сплаціць доўг, не сталі...

Ах, якая ўсё ж смачная вадзіца! Выкруціў вядзерца, не ўтрываў, паставіў на брыжык там-сям ужо вышчарбленага круга, нахіліў вядро і зрабіў некалькі глыткоў. Вяртаўся ў глыбокім роздуме, нават не адразу заўважыў, што пасыпаў першы снег. Спачатку нясмелы, рэдкі, а пасля ўсё гусцейшы і гусцейшы. Праз некалькі хвілін бурая зямліца і шэрыя стрэхі хат пасвятлелі. Няхай сабе ідзе! Толькі не дождж. Няма нічога больш самотнага і нуднага, чым восеньскі дождж, асабліва ў вёсцы. Няхай лепш сыпле снег, гуляе завіруха, трашчыць мароз — здаравей целу і не так трывожна.

А на вуліцы ніводнай жывой душы. У хаце дзядзькі Юзіка (ён яшчэ, дзякаваць богу, жывы, хоць і не надта здаровы) нават святло не гарыць, мабыць, лёг спаць. У такую пару года вяскоўцы рана кладуцца, за тое ўспорваюцца, як і летам, з галашэннем першых пеўняў.

Наліў у каструльку вады, падпаліў газ. Наўгад сыпануў аўсяных шматкоў. Зачэрпнуў лыжкай, на вока бухнуў солі. Няхай варыцца... Сам, у прадчуванні скорай, смачнай вячэры, вырашыў крыху паганяць тэлевізар. На ўсіх васьмі праграмах (больш у гэтых мясцінах не ловіцца) народ весяліўся, спяваў, танчыў, гуляў у латарэі, распавядаў анекдоты... «Не жыццё ў людзей, а маліна, — пазайздросціў ад душы. — Суцэльны шоу-бардак... А цябе творчыя пакуты адолелі...» Успомніў, што да аўсянкі някепска пару сасісак адварыць. Падаўся да халадзільніка, каб узяць, і тут востры нюх падказаў: штосьці гарыць! Выскачыў у сенцы, дзе стаіць газавая пліта, а там горкага, смярдзючага дыму — не прадыхнуць. Хуценька выключыў газ, адчыніў насцеж з сянец дзверы, пачаў высвятляць, дзе і ў чым даў маху. Як мае быць агледзеў каструльку-чыгунок. Так, так, цяпер, усярэдзіне, яна нагадвала менавіта чорны гаршчок, у якім некалі маці варыла дзюдзям харч. Узяў лыжку, скрабануў па дне і завойкаў так, што, мабыць, дзядзька Юзік прачнуўся (я ж не толькі войкаў!). Апёк левую руку, якой ухапіўся за дужку гарачай каструлі, і яна сама бразнулася на падлогу. Праўда, нічога не вылілася, тое, што называлася аўсянымі шматкамі, прыгарэла і прыкарэла на вякі. З гэтай арыгінальнай думкай, з імпэтам падфутболіў пасудзіну, і яна паслухмяна вылецела на двор.

На кім адыграцца? Зрабіць жа гэта (для самасцвярджэння!) абавязкова трэба! Вядома ж, на Біме... Ён якраз круціцца каля маіх ног. Выгляд мае — вінаваты, мабыць, перажывае. А, мажліва, сорамна яму за мяне. Аднак, хутчэй за ўсё, і ён разлічваў на аўсяную кашу.

— Ты, шэльма, надта не выпендрывайся: вушы мне не аб'ядай, — звяртаюся да цюцькі. — У мяне самога жывот падцягнула, а на душы кошкі скрабуць. Работа ж мая не пасоўваецца. Табе гэта вядома, вунь — да той цьмянай, на сорак ват лямпачкі. (Трэба абавязкова ўкруціць стоватку!) Але ж май сумленне. Трывай. Без цярпення няма ўратавання. Гэта філасофія ўсіх, хто жыве на грэшнай зямлі. І твая ў тым ліку. Жыццё, яно, цюцька, рэч такая: жывучы ўсяго нажывешся і гада печанага братам назавеш. Тым больш, што вартаўнік з цябе — ніякі. Ноччу на ганку скурчышся, нос уткнеш ва ўласны жывот і хоць з гарматы страляй — ты не пачуеш. А баішся не тое, што іншых сабак, а нават катоў. Натапырыць якая-небудзь Мурка хвост, выгнецца, зашыпіць гадзюкай — даеш драла...

Адчытаў безабароннага сабачку — стала лягчэй.

Пастаяў на ганку, падыхаў свежым, ядраным — бралася на мароз — паветрам і крыху ачуняў. Страўнік, орган жывы і разумны, ацаніў момант і больш аб сабе не нагадваў. «Патэлефаную жонцы, спытаю, як гатаваць гэтую... аўсянку».

Жанчыны цвёрда, да істэрыкі, перакананыя, што мы, мужчыны, без іх — нуль без палачкі. Гэта прачытаў у жончыных усмешлівых вачах, калі пакаваў сумку і збіраўся ў дарогу: «Едзь. Едзь... Цікава, як доўга пратрымаешся? Хто табе будзе прыслугоўваць?» «Не прападу, — ціха шапчу сам сабе. — Да цяжкасцей звыклы, у арміі служыў».

Як бы жыццё ні кантавала, ніколі не паказвай жанчыне сваю слабасць. Салому еш, а хвост трымай трубой. Інакш з-пад жаночай пяты не выбрацца. Так ужо яны прыродай зладкаваны — не толькі спакушаць, але і верхам ездзіць на нас. Таму тэлефаную, вітаюся, цёпла і ласкава пытаю:

— Як ты там, даражэнькая, мацуешся? Грып лютуе. Не прастудзілася?

— Не. У мяне ўсё ў парадку. А ў цябе?

Столькі насмешкі, здзеку над маёй чуллівай асобай умясцілася ў гэтым «у цябе», што ледзьве стрымліваюся, каб не сарвацца на грубасць. Умеюць жа жанчыны інтанацыяй голасу дастаць да пячонкі!

— Дзякаваць богу! — бадзёра адказваю. — Збіраюся вячэраць... Хачу да сасісак кашу адварыць, ды не ведаю, якую лепш. Можа, гэту... Ну, гэту...

Доўга збіраюся з думкамі, якім смачным эпітэтам ахрысціць аўсянку. Адпаведнае слоўца круціцца на языку, але яно не для жончынага слыху, адразу скеміць, што апраставалосіўся. Таму выказваюся надзвычай далікатна:

— Ну-у-у... Гэту кашу, ад якой коні іржуць.

— А-а-а... Ты маеш на ўвазе аўсянку?

— Во, во... Яе, харошую.

Здаецца, жонка пакуль ні аб чым не здагадваецца, наадварот, цярпліва тлумачыць, у якім шкафчыку стаіць пачак з аўсянкай. Урэшце кажа:

— Будзеш варыць, то ўвесь час памешвай у каструльцы. Дарэчы, вазьмі каструльку алюмініевую, маленькую, у ёй хутчэй гатуецца. Памешвай, памешвай і ад пліты не адыходзься, а то вада закіпіць і залье газ. Глядзі, будзь асцярожны з газам. Вой! Нехта па дамафоне звоніць... Смачненька паесці — і дабранач. Заўтра сама табе патэлефаную.

На апетыт не скарджуся. А таму аблупіў пяць сасісак, укінуў у кіпень, адварыў. Узяў з халадзільніка пачак маянэзу і ў смак паеў. Урэшце, адзін з'еш хоць вала — адна хвала.

У вёсцы спіцца соладка, асабліва пад пуховай коўдрай. А калі яшчэ побач з вялікай, таксама пуховай, падушкай, ляжыць маленькая, напханая папараццю, садовай мятай і трошкі, лекавым валяр'янам, дыхнеш раз другі — і поўнае забыццё. Ды і ціш наўкола, ажно ў вушах звініць. Ніякіх табе п'яных гаворак да позняй ночы пад акном гарадской кватэры пра «жыццё», разборак, енкаў, дзікіх крыкаў, выбухаў петард... Трошкі быт заядае, не дае адчуць усю асалоду халасцяцкага жыцця... Каб было каму дагаджаць: паліць у печы, гатаваць ежу, прыбіраць, мыць посуд, то жыві і не паміpай. Хаця, па праўдзе сказаць, аднаму трошкі вусцішна. Добра, што вецер палагаднеў і не так скуголіць.

Соладка пазяхнуў, павярнуўся на правы бок, падкурчыў ногі, уткнуўся носам у духмяную падушачку, як раптам на падлозе заўважыў доўгую і вузкую светлую палоску. «Што за д'ябальшчына?! — апякла думка. — Адкуль у непраглядную цемень узялося гэта дзіўнае святло? Не інакш, як хтосьці свеціць у акно ліхтарыкам. Ну і жартачкі ў злыдня. Але ж Бім ляжыць і не варушыцца?! У чым справа?» Сон нібы рукой зняло. Нейкі момант ляжу ў здранцвенні, ліхаманкава мяркую, што лепш ухапіць у рукі — качаргу ці палена? Урэшце, ціхенька выслабаняю з пад мяккай і ўжо цёплай коўдры сваё палахлівае цела і станаўлюся млявымі нагамі на астылую, халодную падлогу. Крадком, тоячы дыханне, набліжаюся да акна. «Цьфу ты! — з палёгкай уздыхаю. — Гэта ж поўня завітала ў маю хатку. Шторы не шчыльна завесіў, вось ясны месяц і нагадаў пра сябе. Але скуль ён узяўся?! Няўжо выпагадзілася?! А я (які сорам!) ледзьве ад страху не ўмлеў...» Не, што ні кажыце, а страх — самае моцнае пачуццё. Агіднае, але мацнейшае за ўсё, уласцівыя чалавеку.

Узбадзёраны ўласным адкрыццём, накідваю апашкі на плечы ватоўку, навобмацак усоўваю босыя ногі ў чаравікі і падаюся за дзверы, на двор. На ганку спыняюся, уражаны. Мяккім, матавым, прыглушаным святлом у ружовым арэале свеціць поўня. Неба высокае і чыстае, праўда, зорачак зусім мала, там-сям нерухомыя і зусім не яркія.

Лёгкі, градусы на два, марозік. Аднак гэтага хапіла, каб пасля страшэннай макрэчы, пры рэзкім пахаладанні, упрыгожыць зямлю, дрэвы, электраправады белай шэраннню. У далечыні, над яшчэ не замерзлай рэчкай, віецца рэдкі туман, добра віднеецца няроўная грыва лесу. Не сказаць, што відно як днём, але гэта ўсё ж святло, без якога мне кепска думаецца і амаль зусім не пішацца. Забыўся, не паспеў у нябожчыцы маці спытаць, але, напэўна, з'явіўся на свет Божы ў тым сакавіку ў надзвычай сонечны дзень.

Стаю, пацепваюся, працінае халаднаваты вецер. Раптам чую ў начной цішы скрыгат дзвярэй у хаце дзядзькі Юзіка. Стары, не сходзячы з ганка, задзюрчаў, глуха адкашляўся, крактануў і падаўся назад у цяпло. Усе ж вялікая выгода жыць у вёсцы! Час і мне, дрыжыкі прабіраюць, вяртацца ў сваю хатку.

Выбіцца са сну лёгка, куды цяжэй зноўку трапіць у яго абдымкі. Можаш бясконца лічыць бараноў, вярблюдаў, каго заўгодна, а пракачаешся ноч з боку на бок, на валасінку не прыкімарыш, прачнешся з цяжкай галавой і яшчэ больш стомлены і злосны, чым клаўся спаць. Штосьці падобнае адбывалася са мной пасля чарговага ўспаўзання ў цемнаце на ложак. І коўдра мяккая, і пахучыя травы пад носам, а сон падаўся ўпрочкі. Урэшце, такой бяды, не абавязкова ёрзацца ў сваім берлагу, можна сцішыцца, замружыць вочы, разняволіцца і ўспамінаць армейскія будні, без якіх твой жыццяпіс будзе няпоўны.

## Армейскія будні. Каранцін

Слова «каранцін» засела ў свядомасці яшчэ з маленства. Асацыіравалася яно заўжды з едкім, удушлівым пахам фармаліну. Амаль кожны год на калгасную, ды і на свойскую жывёлу нападала нейкая трасца. Тады раённая ўлада, на пэўны час, уводзіла каранцін; ні прадаць, ні купіць на базары нельга было нічога. І тут фармалін ліўся рэчкай. Ім палівалі кароўнікі, цялятнікі... Смярдзела так, што мы, малеча, затыкалі насы і бегма міналі аборы і свінарнікі...

Нас, навабранцаў, пастрыжаных пад «нулёўку», апранутых у мешкаватае абмундзіраванне (маці родная не пазнала б!), фармалінам не апырсквалі. Нас рыхтавалі для адпраўкі на сталую воінскую службу ў Групу савецкіх войск у Германіі. Служба за мяжой вымагала хлопцаў, маральна ўстойлівых да шкодных заходніх звычак і здаровых, каб ніякай трасцы, мы, пераможцы, не завезлі пераможаным. Вось у чым хаваўся глыбокі сэнс каранціну, які праходзілі непадалёку ад Гродна. Але не толькі ў гэтым...

— Так! — цвёрда і незадаволена сказаў сяржант Гунько, прагнаўшы наш узвод строем па бетонным плацы. — Хадзіць ні храна не ўмееце. Будзем вучыцца... А то, што гэта?! Паедзеце за мяжу і будзеце там швэндацца, як статак бараноў?! Вам жа, перад адпраўкай, новыя ялавыя боты выдадуць! Мы тут ходзім у кірзачах, а вы будзеце прадстаўляць Савецкі Саюз, фарсіць у ялавых...

Аргумент быў важкі і пераканаўчы. Прысаромленыя і прыгнечаныя новым ладам жыцця, мы, абаронцы Радзімы, упалі ў слупняк. І толькі мінчанін Генадзь Кузьменка ціха шапнуў мне на вуха:

— Я свае боты прап'ю... У той жа дзень. — І гэтак жа, пошапкам, патлумачыў: — Не хачу тры гады, без водпуску, служыць за высокім плотам... Там жа і ў самаволку не збегаеш...

— Кузьменка! — гаркнуў сяржант. — Ты зноў за сваё?! Што за перагаворы ў страі?! Пасля заняткаў вымыць падлогу ў казарме!..

— Ёсць, таварыш сяржант, вымыць падлогу ў казарме, — устрапянуўся Генадзь і засоп доўгім, уросшым у пукаты лоб, носам.

Наш камандзір быў вялікі задавака і яшчэ большы муштроўшчык. Чапляўся ён да ўсіх, але асабліва неўзлюбіў Кузьменку. Па праўдзе сказаць, Генадзь быў рэдкім шэльмам. Перад прызывам у войска ледзьве не трапіў за краты, на казённы хлеб. Па сутнасці армія і ўратавала. Умудрыўся вынесці з завода, на якім працаваў, і прадаць радыёпрыёмнік. Нават тут, у каранціне, аблапошваў хлопцаў, бясконца выменьваў ручныя гадзіннікі, вядома, з карысцю для сябе. Была, была ў Генадзя нейкая прадпрымальніцкая жылка. Аднаму яму вядомым чуццём выбіраў ахвяру, завязваў гаворку і... новы ці амаль новы гадзіннік апынаўся ў яго пілотцы. Фокус гэты называўся — махнём не гледзячы. З вечна прыжмураным левым вокам, абвіслай на жываце папругай, з расшпіленым каўняром гімнасцёркі і ўсмешкай махляра, ён выклікаў у сяржанта Гунько сапраўдную ярасць. Скончылася ўсё для прыдзірлівага камандзіра пасмешышчам.

У казарме жалезныя ложкі з матрацамі, на якіх мы спалі, стаялі ў два ярусы. Сам сяржант абраў сабе, па няпісаным законе, першы. А Кузьменку, каб не спускаць з яго вачэй, загадаў спаць на другім, менавіта, над ім самім. Аднойчы, пасярод ночы, прачнуліся ад страшэннага гвалту. Дзіка роў (інакш не скажаш), мацюкаўся на чым белы свет стаіць, наш камандзір. Днявальны, які да гэтага, прысеўшы на тумбачку, драмаў, ускочыў і са страху адразу ж уключыў святло. Наш асобны ўзвод (усе трыццаць восем чалавек, мінчукі), прачнуўся ўраз, паўскокваў без каманды «Пад’ем!» Асабіста я спаў на першым ярусе, побач з Гунько і Кузьменкам, таму выгледзеў усё як мае быць. Трасучыся ад злосці, разгневаны сяржант валок за шкірку з ложка Генадзя. Той, прыжмурыўшы левае вока, нявінна паўтараў:

— Што такое, таварыш сяржант? Што такое, таварыш сяржант? Я спаў... Я спаў...

Аднаго позірку было дастаткова, каб зразумець, што круцель хлусіць, на твары, хітрым і свежым, ні знаку сна.

— Ты, гад, што натварыў? — урэшце, сцягнуўшы салдата з ложка і ўжо на падлозе трасучы яго за што папала, енчыў Гунько.

— Я не вінаваты, таварыш сяржант. Я не вінаваты... Я спаў... Я спаў... — і ўсё той жа прыжмур і ніякай разгубленасці.

— Каб ты, казёл, спаў, то насцаў бы мне на жывот. А ты, ублюдак, падпоўз... І на самы... — Гунько адной рукой тузаў Генадзя за грудзі, а другой, раз за разам, цёр грубым салдацкім ручніком чырвоны і перакошаны ад нянавісці твар.

У каранціне нас не паспелі вымуштраваць як след. У нас яшчэ жыў вольналюбівы дух, і мы заставаліся ўсё тымі ж цывільнымі аболтусамі і яшчэ не развучыліся смяяцца. А вось гэтага якраз і не варта было рабіць! Бо астатак ночы маршыравалі на плацы, праўда, не гарланячы, модную тады, нашу фірмовую песню «Куба — любоў мая!». Кузьменка поўзаў па-пластунску. Час ад часу Гунько запыняў нас, ставіў па стойцы «смірна» і абяцаў выматаць духі, выбіць з нашых галоў усю дурасць. Мы, як адзін, трымаліся храбра, не надта зважалі на пагрозы, ведалі, замардаваць не ўдасца, бо з дня на дзень чакалася адпраўка ў Германію.

У той жа дзень нам выдалі новенькую амуніцыю і абулі ў ялавыя боты. Відаць, праныра Кузьменка загадзя пранюхаў аб усім і напаследак паквітаўся з муштроўшчыкам сяржантам. Прапіў ён, як і абяцаў, боты. Толькі не свае... а мае.

Набліжалася штосьці важнае. Пасля полудня нас бясконца строілі. Спачатку ўзводны, лейтэнант Рушнічэнка, прыдзірліва агледзеў кожнага, але так нічога пэўнага не сказаў. Пасля былі ротнае і батальённае пастраенні... Афіцэры мітусіліся, з заклапочаным выглядам аб чымсьці шапталіся, але раскрываць ваенную тайну не спяшаліся. А мы не надта дамагаліся пачуць яе. Самі ведалі, што заўтра чакаўся прыезд надзвычай важнага генерала, які перад адпраўкай скажа нам на дарогу сваё трапяткое, цёплае бацькоўскае слова. Праўда, дакладны час адпраўкі заставаўся ў сакрэце.

Мы, «каранцiншчыкi», кожны па-рознаму ўспрынялі і перажывалі навіну. Вядома, закралася ў душы і сэрцы ціхая трывога, лёгкае хваляванне, агортвала шкадоба развітання з роднай зямліцай. Крышку палохала невядомасць, з газет і радыё ведалі ўжо пра берлінскую сцяну, якую толькі-толькі ўзвялі паміж дзвюма Германіямі... Словам, кожны паглыбіўся ў сваё. Толькі Кузьменка заставаўся спакойны і нават штосьці накшталт усмешкі час ад часу блукала на хітрым твары шэльмы.

У гэты вечар адбой усяму асабоваму складу палка зрабілі на гадзіну раней звычайнага. Мы пасля кашмарнай, з прыгодамі, ночы ўзрадаваліся таму. Быў моцны салдацкі сон. Раніцай пасля ненавіснай каманды «Пад'ём!» (да яе так і не прывык за тры гады службы) я хуценька апрануўся, ухапіўся за новыя анучы, выдадзеныя з вядомай нагоды, накруціў, як вучылі, на правую нагу і сунуў яе ў бот. Дык жа штосьці мая нага ніяк не хоча лезці? Зусім не тое, што ўчора. Пакуль спрасоння дапетрыў, што да чаго, кешкаўся, сяржант Гунько пастроіў узвод.

— Радавы Ляшкевіч! У чым справа?— нецярпліва аклікнуў ён мяне.

— Боты падмянілі, таварыш сяржант, — вінавата, упалым голасам, бо нічога добрага не чакаў, прызнаўся я свайму камандзіру.

Гунько падскочыў, ухапіў адзін бот, крутануў яго перад сабою і зароў на ўсю казарму:

— Салага! Пасля снедання — пастраенне палка і адпраўка ўсіх вас да чортавай мацеры. Як у такіх ботах у строй станеш?

Гэтага я таксама не ведаў. Боты, пры пільным разглядзе, аказаліся надзвычай «дыхтоўнымі». Па-першае, галянішча ў адным было карацейшае, чым у другім. Па-другое, розных памераў. Вынашаныя, усохлыя, са стаптанымі абцасамі, белымі насамі і блізка не выглядалі на новыя ялавыя. Гунько шпурнуў бот мне пад ногі і кінуўся шукаць старшыну роты. Праз колькі хвілін вопытны служака таксама ўважліва абследаваў старыя кірзачы.

— Прапіў, паразіт, новыя... Не інакш... За бутэльку самагнёту загнаў якому-небудзь мясцоваму «пану», — аўтарытэтна і падазрона ціха загаварыў старшына і ... узарваўся:

— Цябе б, ахламона, на гаўптвахту... Эх-х-х... Дык жа ўсе вы ўжо сто разоў пісаны-перапісаны... Спісы складзены... А ты куды глядзеў? — раптам накінуўся старшына на сяржанта. — Як ён мог збегчы ў самаволку?

— Паняцця не маю, таварыш старшына, — са шчырам здзіўленнем прызнаўся Гунько. — Пасля адбою, вы ж ведаеце, мы ўсе былі ў ротнага. Калі вярнуўся, ён спаў. Ды-ы-ы... Салдат быццам паслухмяны. Не павінен выкінуць такое.

— Дыхні! — загадаў старшына і наблізіў свой шырокі і чырвоны нос да майго перапалоханага твару.— Не, не смярдзіць перагарам. Хм... Дзе ж яму ўзяць новыя боты? А хрэн з ім! На пастраенні запхні яго ў сярэдзіну ўзвода, далей ад вачэй начальства, і няхай — у Германію. Там абуюць.

Крывячыся ад болю, на босыя ногі я ўздзябурыў чыйсьці «падарунак» і, накульгваючы, стаў у строй. Яно, магчыма, сышло б усё з рук, каб жа генерал

не трапіў такі ўедлівы. Не, каб яму адразу «асядлаць» новую, толькі зладкаваную трыбуну і сказаць нам колькі дзяжурных слоў. Дык жа стаў хадзіць уздоўж строя, палохаць навабранцаў шырокімі чырвонымі лампасамі і высокай каракулевай кубанкай. Часам прыпыняўся, аб чымсьці распытваў то аднаго, то другога салдата. Высокі, плячысты, з мужным тварам і разумнымі вачамі, ён спыніўся і каля нашага ўзвода. Уважліва агледзеў, мабыць, кожнага, бо раптам усклікнуў ласкавым голасам:

— Сын-о-о-ок! Дзе ж ты такія боты раздабыў? Хто ж гэта цябе так абуў у далёкую дарогу?

Было ціха, але пасля пытанняў генерала перастаў дыхаць не толькі я, а і ўся світа суправаджэння. Бачыў я толькі перапалоханыя, налітыя крывёю твары палкоўнікаў, падпалкоўнікаў...

— Ротны! А-а-а, ротны! Трэба ж салдаціка як след абуць, — і ўжо звяртаючыся да мяне. — Служы, сынок, чэсна... А боты табе, думаю, знойдуцца...

Вядома, адшукаліся! Сам ротны, круглы, як гарбуз, капітан Аскерка дапамагаў абувацца і ўсё ціха як бы не гаварыў, а выдыхаў:

— Каб была мая воля, я б цябе згнаіў. На гаўптвахце... Ты б у мяне да Гродна... Кожны дзень... Па-пластунску поўзаў.

Выдалі сухія пайкі, рэчавыя мяшкі, куды лёгка ўмясцілася небагатая салдацкая маёмасць, і аўтобусамі павезлі на чыгуначны вакзал. Падагналі састаў, яшчэ раз (можа, у дзясяты) зрабілі пераклічку, і пачалася пасадка ў «цялятнікі».

Неўзабаве цягнік кpануўся і паволі рушыў на Захад. Вызірнуў у маленькае закратаванае акенца, убачыў, што капітан Аскерка і яго падначаленыя трухаюць побач з вагонам. Падалося, на вачах ротнага стаялі слёзы. Я не ўтрываў, расчулена памахай рукой. Трохі агойтаўся, як падышоў Кузьменка і па-змоўніцку, яхідна ўхмыляючыся, шапнуў:

— Ёсць пляшка самагонкі. Вып’еш?

— Адкуль яна ў цябе ўзялася?.

— Хадзем. Пасля раскажу...

...У галаве пачалі блытацца думкі-ўспаміны, на цела звалілася змора, і, як звычайна кажуць, волатаўскі сон. Пад раніцу ўжо, калі самыя гультаяватыя пеўні перасталі гарланіць, прысніўся даўжэзны таварняк, які спыніўся пасярод яшчэ не пабаранаванага і не перааранага бульбянішча. Поле было, як вокам акінуць. Нашы камандзіры зашморгалі засовамі і больш за тысячу пакутнікаў, на хаду расшпільваючы папругі і гузікі ў штанах, літаральна за некалькі хвілін зялёнымі кучкамі ўпрыгожылі гэты шэры, няроўны палігон. А з галавы цягніка, уздоўж яго, ішла маладая полька. Была яна высокая, стройная, з непакрытай галавой, але апранутая па сезоне: у цёплым, дыхтоўным скураным, з шыкоўным рыжым лісіным каўняром, паліто. Светлавалосая, з выгляду інтэлігентная, памахвала зграбнай карычневай сумачкай і нават не паскорыла крок. Ішла сапраўднай паннай, калі хочаце, каралевай. Ішла пад крык, роў, гагатанне, свіст... З кабіны цеплавоза высунуўся па пояс машыніст і смяяўся на ўвесь свой шырокі рот. Не адставалі ад яго і баявыя камандзіры...

Сон абарваў недарэчны званок мабільнага тэлефона.

— Добрай раніцы, даражэнькі! — ветла, як заўжды, павіталася жонка. — Не разбудзіла? Ужо на нагах? Малайчынка! Не паспела табе ўчора сказаць... У кухні, на шафцы, ляжаць кухарскія кнігі. Калі чаго не ведаеш ці забыўся, пагартай іх, асвяжы ў памяці...

Падзякаваў за чуласць і мацярынскі клопат, ляжаў і дзіву даваўся здольнасцям чалавечай памяці аднаўляць у сне падзеі далёкіх часоў. Выпаў з галавы

той прыпынак «цялятніка» на польскай зямлі! Учора аб ім і не ўзгадаў, а вось жа, на нейкай палічцы, ляжыць манускрыпт з запісам тых салдацкіх прыгод. Каб жа нялюдскасць пісалася толькі ва ўласных галовах, то і бяда не вялікая. Занатоўваецца яна, відавочна, у касмічнай прасторы, засмечвае яе, вяртаецца бумерангам і пляміць уласныя душы.

Спахапіўся, што мае глыбокія філасофскія разважанні катастрафічна далёкія ад паўсядзённага вясковага побыту. А ён няўмольна нагадвае пра астылую печ, пра замерзлую, напэўна, у сенцах, у вядры ваду і неабходнасць паснедаць. Пакуль разважаў над тым, ці варта ў вёсцы чысціць зубы і галіцца, у акно вострай дзюбкай дробненька пастукала сінічка. Не ў шыбу, а ў шчыліну паміж шалёўкай і рамай, дзе выгледзела вялікую чорную муху, якая заснула на зіму ў сваім прытулку. «Бач, сілкуецца малеча... Сама здабывае сабе харч. Час і табе паклапаціцца аб пражытку... Хоць бы на адзін дзень...» Ужо прымеркаваўся адкінуць цёпленькую коўдру, як прыгадаў польскую прымаўку: «Каб не дзюрка ў роце — жыў бы ў злоце». Сапраўды, колькі высілкаў, часу марнуе чалавецтва, каб задаволіць страўнік! Няўжо сказаў праўду той барадата-кудлаты, што быццё вызначае свядомасць? Атрымліваецца, скажы, што ты ясі, і я скажу, хто ты? Глупства, вядома. Але ж філасофіяй нутробу не падманеш. А калі яе нельга перахітрыць, то трэба ўставаць і скарыстаць параду жонкі зазірнуць у кухарскія кніжкі.

Дык вось. Больш цікавай літаратуры ў сваім жыцці я не чытаў. Толькі цяпер уцяміў, чаму жанчыны лічаць сябе на галаву вышэй за мужчын, ва ўсякім выпадку больш дасведчанымі ў пытаннях стрававання народаў свету. З гэтым, сапраўды, не паспрачаешся. Шмат што мне спадабалася ў гэтых кнігах: у рускіх — парася, фаршыраванае грэцкай кашай, не адмовіўся б пасёрбаць і ўкраінскага баршчу з мясам. З вялікай ахвотай ухандохаў бы грузінскі шашлык з бараніны ў баклажанах. Дакладна не ведаю, чым пахне армянская талма ў вінаградных лісцях, але ўмалаціў бы яе і без лісцяў. Напэўна, за вушы не адцягнуў бы мяне ад татарскага вяленага гуся... Французам, англічанам, немцам і ўсім астатнім — таксама вялікі дзякуй. Харчуюцца людзі з густам, ядуць са смакам.

Толькі ўсяго гэтага ў маім халадзільніку няма. А калі так, то што застаецца сціпламу беларусу? Правільна, бульба! Сопкая, духмяная, гарачая, якую можна ўзяць у руку і адчуць цяпло роднай зямлі. А да бульбы — патэльню смажанага сала.

А да бульбы і сала — місу цёртай чорнай рэдзькі, запраўленай смятанай. А каб яна, рэдзька, не была гаркаватай, пацерці на той жа тарцы крыху морквы. Не пашкадаваць, нарэзаць ёмкімі скрылямі цыбулі і ўсё гэта старанна перамяшаць. Пасля паставіць на хвілін дзесяць, каб ачахла, у халадзільнік. Ежа, магчыма, грубаватая, але здаровая, спажыўная, калорый і імпэту хопіць для працы на цалюткі дзень. Вось так і паснедаў. Дарэчы, сёе-тое перапала і Біму.

Хатка за ноч выстудзілася. Штораз паглядваў на вялікую гаргару — печ. Надта ўжо навалтузішся, пакуль яе напаліш. Іншая справа стаяк, але ён дыміць, у ім дзверцы ледзьве ліпяць, бо адна цагліна прагарэла і вывалілася. Летам было цёпла, не надта рупіла прыкласці рукі, а цяпер захаладала, ды зноў нявыкрутка; каб укапаць рыдлёўку-другую свежай гліны, патрэбна цягнуцца за блізкі свет. А каму гэта хочацца? «Можа, у дзядзькі Юзіка крыху засталося? Ён жа сёлета под у печы нанава перакладваў...»

Наважыўся-такі схадзіць, як на дашчатым ганку пачуў тупаценне ног, а следам, бразганне клямкі ў дзвярах. На парозе хаты стаяла яна, Тэкля Газмен.

Увайшла ўпэўнена, нібы ва ўласны дом. Тутэйшы электарат не мае моды папярэдне грукацца ці хоць бы адазвацца.

— Здароў! — кінула з парога. — Чаго сядзіш адзін, як воўк?

Не сказаць, што быў усцешаны нечаканным візітам аднавяскоўкі. Казалі, і не без падстаў, што калі пачынала сварыцца на свайго цягавітага мужа ці дзяцей, то ў хаце столь падымалася. Не давядзі божа, калі тыя асмельваліся пярэчыць. Тады баба кідалася на падлогу, поўзала на карачках і, кажуць, грызла ў крэслах ножкі. Калі ж сварка надаралася на вуліцы, чаму не раз сам быў сведкам, сабакі моўклі, з дрэў сыпаўся зялёны ліст, а рознае птаства мігам уцякала ў бліжэйшы лес і хавалася ў гушчары. Гэта была не проста лапатлівая асоба, у якой, як у дзіравым рэшаце, нічога не затрымлівалася, а мела косці поўныя злосці. Невысокая, што ўдоўж, што ўпоперак аднолькавая, гаварыла, як і большасць вясковых людзей, моцна, хоць крыху і шапялявіла. Падчас сваркі пераходзіла на немы крык, у яе пачынаў трэсціся падбародак, чарнелі спачатку губы, а пасля і ўсё паднябенне. Яе і празвалі — чорная зяпа. Вось такая кабеціна завітала да мяне ў госці.

— А, Тэкля, здраствуй, здраствуй, — павітаўся я як мага лагодней і паказаў на табурэтку: — Прысядзь, калі ласка... Прысядзь...

— І прысяду, бо надта ўжо натамілася. Не жыццё, а бяззэдніца... Гэта ж была ў гэнай п’янчужкі, Міхасёвай Волькі. Званіла, званіла, ніхто целяфона не бярэ. Дай, думаю, падыду... Ляжыць курва, ужо з самай раніцы п’яная... Ах, каб табе дабра не было!.. Дзяцей натварылі чэкарацъ і абое п’юць.

Апошнія вясковыя навіны, перасыпаныя адборным матам-пераматам, сыпаліся з яе рота, як гарох з незалатанага меха. Праз хвілін пятнаццаць беспыннай балбатні-плётак ведаў, хто ў каго ўкраў курэй, каму па п’янцы расквасілі галаву, у чыёй каровы малако з крывёю, хто і што крадзе і колькі цягне, хто развёўся і чаму... Урэшце, здаецца, яна выгаварылася, вярнулася да таго, дзеля чаго і прыйшла:

— То чаго сядзіш бабылём? Дзе ж яна? — і нецярплівы зірк хітрых, бессаромных вачэй.

Ах, вы, мае землякі і зямлячкі! Я вас шаную гэтак жа, як і вы мяне. Бачу вас навылёт. Вы яшчэ рот не паспееце раскрыць, а я ўжо ведаю, што ў вас у галаве і што хочаце пачуць ад мяне. А таму сумна і цяжка ўздыхаю, трошкі муляюся і ўпалым голасам кажу:

— Усё, Тэкля... Кватэру дзелім... Пакуль вось прыехаў пажыць у бацькоўскую хатку.

— А божачкі! Ці з розуму з’ехалі на старасці гадоў?! Як жа гэта? Што вы надумалі? — падалася паставай наперад, ледзь з табурэткі не спаўзае, гаворыць расчулена, са спагадай, з непадробным шкадаваннем да лёсу няшчасных. А вось і тое, дзеля чаго адмысловая няшчырасць і прытворства:

— І хто ж гэта закапыліў нос? Ці не яна?

— Ат, — безнадзейна махаю рукой і надрыўна ўздыхаю. — Няма чаго і расказваць... Але ж людзі ўсё роўна будуць ведаць...

— А як жа! Будуць ведаць, — трымціць ад нецярплівасці і круціць ёмкай задніцай зямлячка. — Тут жа не паспееш рот раскрыць, а ўжо языкамі плешчуць абы-што. Расказвай, расказвай, Андрэй... Далібог, нікому слова не скажу. Каб мне язык адсох! Каб я з гэтага месца не сышла! Каб я так жыла, як пайду па вёсцы языком звягаць! Клянуся сваімі дзецьмі...

— Ды-ы-ы не трэба, Тэкля, клясціся. Тут жа не вялікі сакрэт. Улюбілася жанчына, вось і ўвесь сказ, — тлумачу з адценнем безвыходнасці да непапраўнай сямейнай трагедыі.

— Вось табе і на! — ажно захліпваецца баба. — Гэта ж столькі разам пражылі, дзяцей пагадавалі. Дык, скажы, хоць хто ж ён? Адкуль? Дальбог, Андрэй, ад мяне не выйдзе... Каб я да вечара не дажыла! Каб мяне зямля не насіла! Каб я ўпруцянела!

«Давай, давай, кажу сам сабе, так табе і паверыў. Зараз пабяжыш, сядзеш на «целяфон», і ў лічаныя хвіліны вёска будзе стаяць на вушах. Але ж, калі маніць, то маніць да канца, з размахам і фантазіяй, каб задаволіць эстэтычныя і духоўныя запатрабаванні рахманага электарата».

— Выходзіць замуж за папуаса — даруй жоначка! — Яна ж у мяне ўсё жыццё гуляла ў спортлато... Пашанцавала, выйграла пуцёўку ў Эміраты, там гэтыя папуасы жывуць. З жанчынамі ў іх вялікая напруга. Ну, там і пазнаёмілася з шэйхам-папуасам, — выпальваю на адным дыханні.

Баба сядзіць ашаломленая, нібыта ёй пранікам па галаве стукнулі, не зводзіць з мяне хітрых шэрых вачэй, шырокі рот разявіла. З цяжкасцю перажвае навіну, а разам з ёю сліну, якая аж пацякла па падбародку. Урэшце, ціха пытае:

— Шэйхам яго клічуць? Дык ён жа не рускі?! — ачуньвае яна. — Знайшла сабе пару!.. Кінула такога мужа, дзетак не пашкадавала... Пачакай... Дык гэны «папугас», мусіць, багаты?! На якое ліха ёй здалося кватэру дзяліць? Вінаватая, няхай бы табе пакінула?!

Ёсць у маіх землякоў рыса характару, якую ніяк, колькі ні б’юся, не магу вытлумачыць. Здаецца, іх мала цікавіць грамадскае жыццё. А вось, калі купляюць у суседняй, ці за дзесяць кіламетраў, вёсцы карову, сотню, тысячу разоў усё ўзважаць, разлічаць, сходзяць у розведы, распытаюць суседзяў. І гэта яшчэ не ўсё. Купіўшы рагатую, з тыдзень прыглядваюцца да яе: колькі дае малака, якое яно, тлустае ці вада вадой, спакойная ці збродная. Калі не спадабаецца, накідваюць на рогі вяроўку і адводзяць назад прадаўцу. З аднаго боку, нібыта абыякавасць да вірлівага жыцця, а з другога, здзіўляючы практыцызм. Але калі ўжо што вырашаць, дык так як ім трэба, а не камусьці чужому, хто іх павучае... Вось і Газменіха выхапіла з маёй байкі галоўнае: кватэра.

— Багаты, — адказваю. — У іх, папуасаў, золата пад нагамі валяецца, лапатай грабуць. Ды толькі яго цераз мяжу не перавязеш, могуць сцапаць. А ёй на дарогу грошы патрэбны.

Адчуваю, што заключны акорд атрымаўся не вельмі ўдалы, але я не вінаваты, не чакаў правакацыйнага пытання з кватэрай.

— Дык, яна, задраўшы хвост, едзе туды, а ты застаешся тут,— задумліва кажа Газменіха і паволі падымаецца з табурэткі. — Холадна ў цябе. Пабягу дахаты. Яшчэ курам не пасыпала.

Не развіталася, ляпнула дзвярыма, шустра падалася пераварваць навіну і ўзбагачаць буйной уласнай фантазіяй выведанае. «Варта патэлефанаваць жонцы, думаю сам сабе, падрыхтаваць да замужжа з папуасам. А не то...» Іду ў дрывотню, знарок набіраю вялікае бярэмя толькі бярозавых дроў і пачынаю качагарыць. Да дзядзькі Юзіка сёння не пайду, хопіць таго, што звалілася на маю галаву Газменіха.

Сухія дровы гараць весела, з азартам, з чалеснікаў у твар патыхае густым гарачым духам, языкі полымя бясконца ліжуць паднябенне печы, і яна паволі награваецца. З замілаваннем гляджу на агонь і міжволі агортвае любасць дароднага кутка, зямлі, на якой гадаваўся, рос і сталеў. Са смуткам думаю над лёсам пакутнай беларускай вёскі.

Ах, вёска, вёска... Як жа ты паблажэла, панікла, ссутулілася, занудзілася і стала нелюдзімай. Дзе і калі, на якіх перакрыжаваннях дарог згубіла назаў-

жды, незваротна сваю духоўнасць? Ты, вёска, ніколі не была цнатлівай, хіба ў багатым уяўленні паэтаў, ды і не магла быць занадта далікатнай і сарамлівай. Вельмі ўжо шмат варожых, драпежных віхур пранеслася над табой, ты выплакала мора слёз, спазнала гора і нястачу. Табе хапіла па горла здзеку і гвалту. Ашуквалі цябе не раз, знарок трымалі ў цемры. Спойвалі барадатыя карчмары, душылі падаткамі, цягнулі з хат, хлявоў і кладовак апошняе... А ты жыла, трывала, тоячыся, мудра малілася Богу і глядзела спакутаванымі вачамі ў будучыню. Нягледзячы на ўсе навалы, голад, безвыходнасць, тугу, як зрэнку вока, берагла сваю душу і спагадлівае сэрца. А душа твая — найсаладзейшая святая мова, а сэрца тваё — песні-калыханкі, песні абрадавыя, салаўіныя лірычныя, жартаўлівыя калядныя, узнёслыя велікодныя... А яшчэ музыка, крышталёва-чыстая, звонкая, задзірыстая, ад якой у хатах нават печы ходырам хадзілі. А яшчэ твае спрадвечныя, гасцінныя звычаі і слаўныя традыцыі... Дзе яно ўсё сёння?

Як жа так, вёска, сталася, што, як «плачуць паэты», выпетрала твая душа? Калі так, то якія ветры-сухавеі апустошылі яе? Якія грамы-маланкі спалілі, знявечылі тваё сэрца? Што, сапраўды яно закамянела? Дзе той селянін-аратай, які перш чым кінуць ранняй вясной у цёплую раллю зерне, нізка кланяўся зямлі і маліўся ёй?.. Хаця, можа, так толькі ў маёй? Можа, толькі ў маёй ходзіць сёння па зямлі-карміліцы тлумны пралетарый, які жыве ад палучкі да палучкі, мала дбаючы аб іншым? Можа, толькі ў маёй соўгаецца абыякавы да жыцця пенсіянер, і гамонка іхняя не аб спрадвечных клопатах земляроба... Ужо рэдка пачуеш у двары вяскоўца мыканне каровы, рохканне парсюка, бляянне авечкі... Пазбывалі ўсё, адно чэшуць языкамі, ды стаіць над табою, вёска, мат-перамат, якога ад роду не чула. Дашчэнту высахла крыніца, якая бруіла мудрай, афарыстычнай мовай. Ці ж і не мая віна, што ўцёк ад цябе, мая любая?!

— То што ж, Бім, рабіць? Ёсць у мяне пляшка гарэлкі «Бульбаш», — праўда, сімвалічная назва? — Вазьму ды спраўлю па вёсцы памінальную вячэру. Вып'ю вечарам тры чаркі, крыху панудджуся, патэлефаную жонцы, скажу, што гатовы ехаць з ёю, каб нічога не чуць і не бачыць, да папуасаў.

Перагарэлі ў печы дровы, але яшчэ ярка (мабыць, на мароз) барвянела вуголле. Ці не паставіць, усё ж, чыгунок пярловай крупы са свінымі скабачкамі? Перамыў у халоднай вадзе тое і другое, пасля счакаў, пакуль ачахне вуголле, і віламі паставіў чыгунок у печ. Але засунуў не надта далёка, каб упрвалася спакваля. Закрыў засланкай печ, стаў на табурэтку і зачыніў юшку.

— Што скажаш, Бім? — упарадкаваўшыся, пытаюся ў сабачкі: — Харошы я кухар? Добры гаспадар?

Цюцька, у прадчуванні гасцінца, трошкі патанчыў. Давялося даць два пячэнні.

Толькі буксуе справа, дзеля якой уцёк з цёплай, утульнай кватэры. Хаця агульная карціна ўсё ж у галаве вымалёўваецца. Праўда, падпірае час, але можна будзе зрабіць званок начальству і сказаць, што прыхварэў. Урэшце, начальства пераб'ецца. У мяне з ім, праз усё жыццё, дзе б ні працаваў, адносіны складваліся не лепшым чынам. Не сказаць, каб усё рабіў наперакор, ды не надта спяшаўся выконваць часам бязглуздыя даручэнні-загады. Асабліва шмат непрыемнасцей меў праз тое падчас службы ў войску.

Кожны мужчына, які цягнуў армейскую лямку, праз усё жыццё любіць згадваць тыя часы. Рэдка з сумам, часцей з гумарам, бо ў памяці застаюцца не муштра да знямогі, калі ледзьве ногі валачэш, а менавіта сцэны недарэчныя, жартаўлівыя, канфліктныя. Для мяне год службы курсантам у вучэбным тан-

кавым палку на ўскрайку горада Котбус (на мяжы Польшчы і Усходняй Германіі) быў адметны тым, што тут адбылася першая спроба пяра. Штуршком стаў прыезд у нашу воінскую часць высокай камісіі са штаба Групы войск для праверкі баявой падрыхтоўкі будучых танкістаў. Узначальваў яе бравы генерал (генералы ўсе бравыя), які першым чынам пажадаў азнаёміцца з матэрыяльнай базай вучэбнага корпуса. Быў выхадны дзень (пазней жонкі афіцэраў казалі, што генерал і світа ехалі на паляванне, а ў полк завіталі дзеля прыліку), і ключы ад дзвярэй корпуса захоўваліся ў старшыны звыштэрміновай службы, якога так і не адшукалі. Пярэпалах быў страшэнны. Камандзір часці, палкоўнік Кніткоў нерваваўся, пацеў, быў чырвоны, як рак. І тут на вочы генералу трапіў «дэмбель», старшы сяржант Козыраў. Рослы, налітыя мускуламі так, што, здавалася, трашчалі швы ў грубай салдацкай гімнасцёрцы, прыгожы сібірскі хлопец. Генерал паклікаў яго да сябе і каратка, са злосцю, загадаў:

— Ламі дзверы!...

Служывы зірнуў на камандзіра часці, той таропка і згодна заківаў галавой. Разоў колькі Козыраў спрабаваў выбіць дзверы плечуком. Яны патрэсквалі, але не паддаваліся. Казармы і карпусы засталіся яшчэ з часоў самога Адольфа, некалі тут кватаравалі яго салдаты. Усё было зроблена дыхтоўна, з нямецкай надзейнасцю і акуратнасцю. Нават падлога ў казармах, вучэбных класах і на гаўптвахце была паркетная.

— Дазвольце расшпіліць каўнер гімнасцёркі? — раптам звярнуўся да генерала збянтэжаны Козыраў.

— Давай, сяржант. Толькі хутчэй канчай з гэтымі дзвярыма, — нецярпліва кінуў высокі воінскі начальнік.

Козыраў адышоўся на некалькі крокаў, разагнаўся і нагою, з усяе сваёй немалой сілы, цэліў у самы замок. З страшэнным трэскам, грукатам дзверы, у воблаку пылу, бразнуліся ў сярэдзіну памяшкання. Сам старшы сяржант — следам, але на нагах устаяў.

— Малайчына! Сапраўдны гвардзеец!— павесялеў генерал.— Які год, сяржант, служыш?

— Трэці. Месяц і пяць дзён да «дэмбеля», таварыш генерал! — таропка адказаў крыху запыханы Козыраў, паправіў гімнасцёрку і выцягнуўся па стойцы «смірна».

— Дэмабілізаваць! — нават не паварочваючыся да камандзіра часці, загадаў генерал.

Праз тыдзень камандзір роты, якую капітан Бачын пастроіў перад казармай, загадаў выйсці са строю старшаму сяржанту Козыраву. Цвёрдым крокам, здавалася, зямля пад ім угіналася, у адпрасаваных гарачым прасам і начышчаных да бляску ялавых ботах (так, так, перад «дэмбелем» боты прасавалі ўсе), статны, з валявым тварам, Козыраў крутануўся і стаў перад намі, салагамі-курсантамі.

— Вось гэта салдат! — з шчырым захапленнем усклікнуў Бачын. — Не тое, што вы, маць вашу ні маць.

Жвавы, невысокі, са скуластым тварам і трошкі раскосымі вачамі, капітан Бачын, у адрозненне ад астатніх афіцэраў, з багатага арсенала армейскай лаянкі ўжываў выключна бяскрыўднае: маць ні маць. Камандзір роты паправіў папругу на жываце, які ўпарта лез на яе, працягваў:

— Далібог, шкада адпускаць цябе, сяржант! Ды загад ёсць загад, мусіш выконваць. А што мне з вамі рабіць? Вось з табою, напрыклад, курсант Кузьменка? На занятках па матэрыяльнай частцы танка спіш, маць тваю ні маць. Пасля заняткаў уцякаеш у качагарку, там спіш, маць тваю ні маць..

— Больш не паўторыцца, таварыш капітан! — бадзёра запэўніў Кузьменка, і ўся рота пырснула са смеху.

Падобнае мы чулі амаль штодня. Пасля чарговай «вывалачкі», ці то камандзіра аддзялення, ці то старшыны роты, ці то ўзводнага, Кузьменка прыжмурваў левае вока, напускаў на сябе сур'ёзнасць і бадзёра адказваў: больш не паўторыцца! Як ні дзіўна, яму ўсё сыходзіла з рук. І сяржанты, і афіцэры роты, робячы чарговае ўнушэнне курсанту, самі ледзьве стрымлівалі смех. Кузьменка ўмела гэтым карыстаўся, прыкідваўся дурнем і ўвільваў ад службы.

Самае цікавае адбывалася на занятках у вучэбным класе, дзе мы, курсанты, асвойвалі нашпігоўку танка. Кузьменка або спаў, або стаяў пасярод класа і трымаў у руках паліўную помпу рухавіка танка вагою, калі не памыляюся, дваццаць кілаграмаў. Дарэчы, у цяпле, пасля ранішняга трохкіламетровага кросу і двухгадзіннай страявой падрыхтоўкі на пляцы, спаў амаль увесь узвод. Таму помпа на стэлажы ніколі не ляжала. Старшы сяржант звыштэрміновай службы, «макароннік», які праводзіў заняткі, перадаваў яе з рук у рукі як эстафету. Ён адсочваў, хто пачынаў дзяўбці носам, выклікаў на сярэдзіну класа і проста кідаў яе курсанту на выцягнутыя рукі. Яму актыўна дапамагаў у гэтым выхаваўчым працэсе Кузьменка. Варта было нашаму выкладчыку цалкам захапіцца тлумачэннем асаблівасцей канструкцыі шлемафона танкіста, як гучаў прарэзлівы голас Генадзя, якому надакучыла трымаць цяжкую цацку.

— Таварыш старшы сяржант! А курсант Тамілін зноў дрыхне.

Затое на практычным ваджэнні танка Генадзю не было роўных. Усе перашкоды — толькі на «выдатна». І калі праз паўтара года я прачытаў у газеце ГСВГ «Советская Армия» рэпартаж, у якім паведамлялася, што на баявых вучэннях экіпаж танка ў складзе сяржанта Кузьменкі і іншых адзначаны камандуючым, а самому майму земляку генерал зняў з рукі і ўручыў свой гадзіннік, зусім не здзівіўся. Генадзь жа не раз і мне гаварыў: «Тэорыя — лухта. Для механіка-вадзіцеля галоўнае газаваць, ціснуць да плешкі на педаль і выбіраць зручны момант, каб наводчык мог бабахнуць...» Па-сапраўднаму, падумаў я тады, людзі праяўляюцца ў крытычных абставінах. Парадаваўся за земляка, хоць той і прапіў мае ялавыя боты. Але ж і я сто грамаў кульнуў разам з ім у цягніку.

А вось што тычыцца нашага настаўніка, таго самага «макаронніка», які прыдумаў лякарства ад сну, то з ім атрымаўся вялікі канфуз. Справа ў тым, што якраз у тыя гады ва ўсіх аўдыторыях, на заводах, фабрыках, нават у дзіцячых школах людзі шчыра вывучалі Маральны кодэкс будаўніка камунізму. Было ў ім усяго дванаццаць прынцыпаў, але якіх! Амаль цалкам узятых і пераіначаных з Бібліі. Сама ж Біблія была нібыта і не пад забаронай, але ж яе не знайсці.

Наш выкладчык, танкіст, яшчэ выдатна ведаў марксісцка-ленінскую філасофію. Менавіта ён і праводзіў заняткі па павышэнні нашай палітычнай і ўсялякай іншай свядомасці, а таксама ўмацаванні маральнага духу.

На адно з такіх заняткаў нечакана завітаў (чорт прынёс!) сціплы, незнаёмы падпалкоўнік. Ён ціха ўвайшоў у клас, на гарачае жаданне старшага сяржанта далажыць па форме, што дзеецца ў аўдыторыі, таропка замахаў рукамі і ледзь чутна прамовіў: «Працягвайце, працягвайце...» Сеў на вольнае месца на самым апошнім радзе.

Няшчасны старшы сяржант ураз стаў барвовы. Абцягнуў кіцель і голасам, які гатовы быў сарвацца, загадаў:

— Курсант Тамілін! «Праспявайце» чатыры «куплеты» Маральнага кодэкса будаўніка камунізму.

Тамілін да прызыву на службу паспеў скончыць будаўнічы тэхнікум, быў хлопец сур'ёзны, адукаваны. Магчыма, на гэта і быў разлік «марксіста-ленінца». Аднак жа не паспеў курсант па прозвішчы Тамілін падняцца, як пачуўся ціхі, бацькоўскі голас падпалкоўніка:

— Таварыш старшы сяржант! Адпусціце курсантаў трошкі адпачыць... Ды і вы, відаць, стаміліся...

Больш мы свайго «выкладчыка» не бачылі. Падпалкоўнік, аказваецца, быў з Палітупраўлення ГСВГ...

Успаміны нахлынулі і засланілі, нібы лёгкія летнія хмаркі, сцэну развітання роты з старшым сяржантам Козыравым. Тым часам капітан Бачын ледзь не са слязьмі на вачах моцна ціснe руку служываму. А нам абяцае, калі не навучымся хадзіць па плацы пад добрую салдацкую песню зладжаным страявым крокам, то мы кожную вольную хвіліну будзем поўзаць па гэтым плацы, па-пластунску. Але гэта я ўжо чуў у каранціне, крыху прызвычаіўся да армейскай службы і пагрозы блізка да галавы і сэрца не бяру. Мяне турбуе іншы клопат. Пасля забаўнага здарэння з дзвярыма, падсвядома ці зусім асэнсавана, узнікае жаданне занатаваць слаўныя армейскія будні. І калі ў чарговую нядзельку, вечарам, рота дружна пашыбавала ў салдацкі клуб, каб, можа, дваццаты раз глядзець «Чапаева» (у Германію новых фільмаў не навозішся, далекавата), прыкінуўся хворым, застаўся ў казарме і напісаў невялікі тэкст.

*Ніколі не ведаеш, з якога боку грымне бяда. На нашы галовы яна звалілася ў абліччы генерала. З выгляду, скажу вам, інтэлігентны чалавек. А колькі непрыемнасцей нарабіў.*

*Па-першае, прыехаў у нашу часць без папярэджання. Па-другое... Але ўсё па парадку. Толькі вось адкашляюся. І няхай начальнік штаба прачхаецца. І зампаліт няхай адкашляецца і прачхаецца.*

*Значыцца, прыехаў, як снег на галаву зваліўся. Да таго ж вечарам. Чаго — не кажа. Уладкавалі мы яго ў сваю гасцініцу. Тонка гэтак намёкі рабілі: ці не трэба чаго? Не, адказвае. Ідзіце, кажа, таварышы афіцэры, адпачывайце — заўтра будзе шмат работы.*

*Пабрылі мы, зразумела, не адпачываць. Які ўжо тут адпачынак! Сядзелі да раніцы, гадалі, чаго яго нялёгкая прынесла. А ледзь пачало днець — выйшлі на вуліцу. І што б вы думалі? Бачым, генерал робіць фіззарадку. Голы, у спартыўных трусах. А на вуліцы ж зіма, холадна. Сталі мы раіцца, што рабіць.*

*Першым я пачаў распранацца. За мной начальнік штаба. За штабістам зампаліт. Распрануліся. Стаім. Трусы ў зампаліта сямейныя — па калена. У нас з начальнікам штаба — гэткія ж. Жываты ва ўсіх вісяць, як торбы, сорам глядзець. А халадэча! Зуб на зуб не трапляе. Сталі і мы, гледзячы на генерала, прысядаць. Зампаліт аж крэкча. Начальнік штаба сапе, што той паравоз. Ды і сам я ледзьве дух пераводжу. Але трошкі цяплей стала.*

*Яно б, можа, і нічога, усё абышлося, дык жа генерал зрабіў невялікую прабежку, а пасля — бултых у возера. І паплыў. Плыве, хрумсткі лядок крышыць, што той атамны ледакол... Ды яшчэ азіраецца і нам рукой махае: давайце, хлопцы, смялей!*

*Што тут рабіць? Дайце ж рады... Паказваю начальніку штаба, давай хутчэй — налівай для сугрэву. Глынулі пакрысе і... плёх у возера. Зампаліт адразу ж на дно. Ён, аказваецца, плавае, што тапор. Начальнік штаба пасабачы ўмее. Я выцягнуў зампаліта за валасы і — хутчэй на бераг. Калі што, думаю, скажу, што чалавека трэба было ратаваць. Аднак генерал нічога не сказаў, нічога не спытаў. Выйшаў з вады, задаволены, выцерся ручніком і чырвоны, як рак, пабег у гасцініцу.*

*Тры дні ён з нас такім макарам здзекаваўся. А на чацвёрты кажа:*

*— Праз гадзіну сустрэнемся ў штабе.*

*Сустрэліся. Мы, зразумела, усе чыхаем, кашляем, з носа капае... Тэмпература ва ўсіх — ртутнага слупка не хапае. Генерал на нас паглядзеў хітра і кажа:*

*— Не дапамог вам, таварышы афіцэры, і допінг-сугрэў. А я ж прыехаў праверыць баявую гатоўнасць вашай часці. Бачу, яна вельмі і вельмі нізкая. Больш мне тут рабіць няма чаго. Прыеду праз год. Калі не паправіце справы, — і ляпае мяне па жываце, — буду рабіць адпаведныя вывады...*

*І паехаў. Толькі пазней мы даведаліся, што ў генерала свой, фірменны, метад праверак баявой гатоўнасці.*

Над загалоўкам да напісанага думаць доўга не прыйшлося. «Маржы па прымусу» — усплыло ў галаве, як падалося, вельмі ўдалае.

...Вядома, ні з кім не збіраўся дзяліцца сваім творчым набыткам. Суткамі мыць посуд на салдацкай кухні ці чысціць уручную бульбу — такая перспектыва не радавала. Дарэчы, жонка і па сённяшні дзень пакорліва згаджаецца з тым, што ў справе абірання картоплі даю ёй фору. Кажа, каб на тэлебачанні замест бязглуздых шоу праводзілі конкурс на лепшага абіральшчыка бульбы сярод мужчын, роўных мне не было б.

Аднак жа і схаваць у казарме што-кольвечы немагчыма. Ты ўвесь час навідавоку, кожны твой крок адсочваецца, пеленгуецца, абрываецца грубай камандай. А бясконцыя шмоны камандзіра аддзялення, старшыны роты, узводнага, калі з адзінай тваёй уласнасці — тумбачкі, выварочваецца на падлогу, у лепшым выпадку, кідаецца на ложак, усё, што там ёсць? Не-е-е... Асцярожнасць і яшчэ раз асцярожнасць.

Ды, як вядома, няма нічога патаемнага, якое не вылезла б вонкі.

— Мне ў роце, маць тваю ні маць, пісьменнікі не патрэбны, — адчытваў мяне перад строем капітан Бачын. — Мне патрэбны салдаты! Ты колькі разоў падцягваешся на турніку?

— Тры разы, таварыш капітан, — упалым голасам выціснуў я.

— А ну, расперажася і лезь на турнік. Пакажы, маць тваю ні маць, на што здольны...

Са страху падцягнуўся ажно чатыры разы. Капітан Бачын памякчэў, аднак жа ўсё яшчэ незадаволеным тонам зазначыў:

— Шэсць трэба падцяжак. Шэсць як мінімум, маць тваю ні маць...

Ён аб нечым пашаптаўся з замполітам роты, які стаяў побач, пасля гучна загадаў:

— Зараз усе бягом у ленінскі пакой. Правядзём камсамольскі сход.

Так я стаў намеснікам сакратара камсамольскай арганізацыі роты. Думка аб тым, што патрэбна нейкім чынам рэабілітавацца, не пакідала мяне. Тым больш, літаратурны сверб не праходзіў. У пакоі ляжала падшыўка газеты «Советская Армия». Бадай, самым актыўным яе чытачом быў я. Сустракаючы заметкі, рэпартажы з воінскіх часцей, напісаныя не толькі прафесійнымі ваеннымі журналістамі, але і радавымі салдатамі і сяржантамі, адважыўся і грэшны раб Андрэй накрэмзаць пра курсанцкае жыццё. Балазе, надарылася нагода. Літаральна дзень таму адбылася сустрэча з камандзірам батальёна, Героем Савецкага Саюза падпалкоўнікам Галіным. Похапкам, паспеў тое-сёе занатаваць у вучнёўскі сшытак. Заставалася пераварыць пачутае і складна напісаць.

Цікавыя пачуцці авалодваць табою, калі ўпершыню бачыш у газеце сваё прозвішча, набранае чорным шрыфтам! І кроў пульсуе, нібы падагрэтая, і сэрца тахкае так, што, здаецца, чуваць у кожным кутку пакоя, а яшчэ рукі дрыжаць, нібы ў таго злодзея.

Неўзабаве пазнаёміўся з інструктарам палітаддзела па камсамольскай рабоце нашага асобнага палка, сяржантам тэрміновай службы Ягорам Батухціным — вылітым Швейкам.

— Заходзь, салага, заходзь. Прысаджвайся, — Батухцін абарваў маю спробу далажыць аб сваім прыбыцці.

— Дзённік прынёс? — першае пра што спытаў той і ўпіўся ў твар дапытлівым позіркам круглых вачэй. Дарэчы, круглае ў ім было ўсё: вялікая галава, твар, кароткая пастава, пухлыя, кароткія рукі і нават круглыя вушы.

— Прынёс, — не вельмі ахвотна пацвердзіў я і насцярожыўся: няўжо стане чытаць?!

— Давай! Пакажы, што ты там, салабон, шрайболіш?

Трошкі сумеўся і паволі стаў расшпільваць гузікі на гімнасцёрцы, каб дастаць з-за пазухі агульны сшытак, у якім апошнім часам рабіў такія-сякія накіды.

— Давай, давай, — прыспешваў Батухцін. — У салдата не павінна быць ніякай тайны. А ты яшчэ і не салдат, ты — салабон...

Гаварылася ўсё гэта, не зразумець, нібы сур'ёзна, але хутчэй жартаўлівым тонам. Давялося падпарадкавацца.

Ён пачаў перагортваць старонкі дзённіка. Да яго гонару не стаў запыняцца, засяроджваць увагу на тых мясцінах, дзе я занатоўваў свае ўражанні аб прачытаных кнігах, перапісцы з бацькамі і сябрамі, дзе давяраў паперы свае патаемныя думкі і пачуцці. Батухцін цалкам паглыбіўся ў запісы камсамольскага і паўсядзённага жыцця курсантаў роты.

— Слухай, а ты цікава пішаш! — здзіўлена загаварыў ён і заёрзаў на рыпучым крэсле. — Вось што, салабон, я табе скажу. Мне засталося служыць паўгода, а табе, як меднаму кацялку. Ты яшчэ паспееш шмат напісаць, а Батухціну на «дэмбель» патрэбны грошы. Разумееш? Касцюм трэба купіць і туфлі, каб было ў што пераапрануцца і абуцца. Я ж сірата... У мяне ўжо сёе-тое ёсць на ашчаднай кніжцы. Я ж няштатны ваенкор... Ці чытаеш мае допісы?

Вядома, я чытаў інфармацыі, замалёўкі, справаздачы з розных афіцыйных мерапрыемстваў за подпісам сяржанта Ягора Батухціна. А вось куды ён гне — не здагадваўся.

— Карацей так, салабон, — зноў загаварыў Батухцін - Швейк. — На пару дзён я пакідаю твой дзённік сабе. Мяне не цікавіць уся твая мазня, а толькі салдацкія будні. Разумееш? Я зраблю невялікую ўрэзачку, што з дазволу курсанта Андрэя Ляшкевіча дасылаю ў газету яго дзённікавыя запісы. Надрукуюць як піць даць. Мне ганарар, а табе — слава. Дамовіліся?

Пэўна, на маім твары адбілася штосьці такое, што насцярожыла Батухціна. Ён пасур'ёзнеў, адкінуўся на спінку крэсла і даволі жорстка сказаў:

— Праз паўгода ты, салабон, скончыш вучэбку і атрымаеш званне малодшага сяржанта. А я вазьму курс на свой Архангельск. У цябе ёсць выбар: або яшчэ два гады малаціць кувалдай танкавыя тракі і душыцца на вучэннях пылам, або сядзець вось на гэтым крэсле. Але апошняе пры адной умове, — працягваў ён.— Будзеш служыць так, каб не мець ніводнай заўвагі. Усюды першым: на пад'ёме, адбоі, кросе, у вучобе... Будучы камсамольскі работнік павінен быць прыкладам для ўсіх і без ніводнай заганнай плямкі. Усёк?

«Усёк» без асаблівай цяжкасці, толькі ніяк не мог уявіць, як сам Батухцін-Швейк, на сваіх кароткіх нагах, першым фінішаваў на кросе?! Дальбог, метраў сто ён яшчэ мог бы прабегчы. А тры кіламетры — нізашто на свеце. Мяркую, што гэта была звыклая для таго часу дэмагогія.

Пацягнуліся шэрыя, аднастайныя салдацкія будні. Адзіная ўцеха — пісьмы бацькоў ды зрэдчас мае публікацыі ў армейскай газеце, якія беражліва захоўваў. У вольныя гадзіны, а іх было няшмат (амаль кожны выхадны аб’яўлялася павышаная баявая гатоўнасць), я браў у рукі руска-нямецкі слоўнік або кнігу. Аднак жа прабіў мой час. І вось ужо капітан Бачын разводзіць рукамі і ледзь не роспачна крычыць:

— Ах, мацьтваю ні маць! Я зрабіў з яго салдата, а ён лыжы навастрыў... Бліжэй да начальства сабраўся.

— Няхай сабе, — глухім голасам, дабрадушна, гаворыць камандзір узвода старшы лейтэнат Краснакуцкі. — Хлопец з галавой, патрэцца каля начальства, можа, толк будзе.

З Краснакуцкім у нас склаліся даволі прыязныя адносіны. Яшчэ малады, ён і сам не да канца ўсвядоміў: воінская служба яго прызванне, ці абраў не тую сцежку? Такое ўражанне, што гэтыя серабрыстыя пагоны вялікім цяжарам ціснуць яму на даволі шырокія плечы. Ён усё быццам бы робіць па Статутах, але неяк млява, нібы праз сілу. Шмат якія абавязкі спіхнуў на сяржантаў, а з намі, курсантамі, не запанібрата, але і празмернай строгасці не праяўляе. Да таго ж ад афіцэра часам патыхае ўласцівым пахам, які бывае пасля вітання са шкляным богам. Урэшце, і афіцэрам тут, за мяжой, служыць не соладка. Камандаванне часці не вітае іх выхады за высокую бетонную агароджу.

А Краснакуцкі яшчэ халасцяк. У самім гарадку вольных маладзіц няма, а пазнаёмішся з немкай — трапіш на кручок «асабіста». Вось і чакаюць маладыя афіцэры водпуску, як манны нябеснай, каб паехаць на сваю радзіму, пазнаёміцца з добрай дзяўчынай і вярнуцца ў часць ачалавечаным, разам з сяброўкай жыцця.

Начальнік палітаддзела палка палкоўнік Бляўцаў стрэў мяне нечаканым пытаннем:

— Скажы, сяржант, ты даклады пісаць умееш? — І тут жа патлумачыў: — Твой непасрэдны начальнік капітан Зорын не тое, што напісаць штосьці вартае на паперы, а два словы звязаць не можа. Мой намеснік, маёр Бурыгін, як напіша, сорамна перад курсантамі на трыбуне паяўляцца. Ну, а ты, сяржант? І капітан Бачын, і твой папярэднік хвалілі цябе.

Што я мог адказаць? Па-першае, разгубіўся перад высокім армейскім чынам. Ды і не такой гаворкі чакаў! Па-другое... Хто я?! Перад прызывам на службу ледзьве паспеў скончыць дзясяты клас школы рабочай моладзі, варочаў бетон... А тут... Пісаць даклады для самога начальніка палітаддзела!.. Мабыць, выручыла прыродная вясковая кемлівасць і такі-сякі ваенкораўскі вопыт.

— Былі б першакрыніцы... Каб было ад чаго адпіхнуцца, — як мага сур’ёзна, крыху ачомаўшыся, адказаў наваяўлены, па-цяперашняму, спічрайтар.

— У бібліятэцы ёсць усе часопісы і газеты. Па часці можаш хадзіць у любы час дня без перашкод. Аднак... Старайся армейскага распарадку прытрымлівацца. Ты — салдат. Пад’ём... Адбой... Пастраенне на плацы ў складзе ўзвода сувязі, — даволі прыязна завяршыў першае знаёмства афіцэр.

Кампіляваць даклады аказалася справай не такой ужо і складанай. Усе канкрэтныя матэрыялы, якія тычыліся тэмы чарговага выступлення Бляўцава, паступалі з батальёнаў. Перш за ўсё, гэта прозвішчы афіцэраў, сяржантаў, курсантаў, якія вызначыліся ў працэсе вучобы ці ў армейскім жыцці. Пэўныя факты, лічбы... Астатняе — звыклая для таго часу балбатня.

На першым часе мяне спрабаваў папраўляць капітан Зорын, які быў непасрэдным начальнікам і кіраваў камсамольскім жыццём палка, а пасля махнуў

рукой. Нават дазволіў, каб самому не трапляць лішні раз на вочы строгаму Бляўцаву, насіць гатовыя даклады мне самому. Тое ж самае неўзабаве зрабіў і сам палкоўнік. Калі раней першыя мае «творы» папярэдне, перад выступленнем, ён праглядваў па дыяганалі, то неўзабаве перастаў рабіць і гэта. Усё было проста: я прыносіў даклад, ён клаў яго ў чырвоную скураную папку і ў вызначаны час агучваў перад аўдыторяй. Не азнаёміўшыся з тэкстам, палкоўнік то пафасна пачынаў гаварыць там, дзе якраз гэтага і не варта было рабіць, то, наадварот, мямліў, ледзьве варушыў губамі, дзе трэба было засяродзіць увагу слухачоў. Дарэчы, мог абзац прапусціць і не агучыць. Нічога, усё сыходзіла з рук. Курсанты, седзячы ў вялікай зале, або спалі, або рабілі выгляд, што слухаюць. Перажываў за канфузы высокага шэфа, бадай, адзін толькі я. Было сорамна...

Мая адмысловая, бурная камсамольская і асветніцка-прагандысцкая дзейнасць скончылася самым нечаканым чынам...

...Родная сястра, якая жыве на другім канцы вёскі, мабыць, душой адчула, што мае ўспаміны набываюць трагічнае адценне. А таму патэлефанавала... Спачатку зычліва, роўным, салодкім голасам падобрыдзенькалася і раптам:

— Ты калі за розум возьмешся? Калі асцепянішся? Пачакай, прыедзе твая Света, усё раскажу...

У адказ, як блазнюк, я ціха хіхікаў у трубку мабільнага тэлефона. Здагадаўся без падказак, з якой нагоды сястра патэлефанавала, але маўчаў, адно хіхікаў. Зрэшты, апошнім часам мае землякі-пралетарыі поўнасцю і цалкам абзавяліся мабільнай сувяззю. Як след, вёска пагалоўна ўрбанізавалася, перайшла на інавацыйныя рэйкі. Ад малога да старога — усе ўсвядомілі не горш за прафесараў і дактароў навук, што наш век — век інфармацыйных тэхналогій. Валодаеш плёткамі (прабачце, інфармацыяй) — заўжды на перадавых пазіцыях актыўнага вясковага тлумнага жыцця, у курсе ўсіх спраў, заўжды ў цэнтры ўвагі.

— У цябе ёсць галава на плячах? — сурова дапытвалася сястра. — Ты ведаеш, што наплявузгала гэная даўбешка?

Не ведаў, але здагадваўся. Тым не менш, перастаў чмыхаць, нявінна пацікавіўся:

— Скажы, на радасць, што?

— Яна ж, як выскачыла ад цябе, захакаўшыся, прыклыпала ў краму. Добрую гадзіну там екатала. Напляла такія кашалі, што людзі за галовы хапаліся. Бытта ты спіўся і жонка цябе выгнала з хаты голага, у чым стаяў... Бытта яна зацяжарала ад нейкага папуаса... І што той папуас малады, прыгожы і не роўня табе, надта багаты... Божкалася і клялася, што ты, п’яны, сам усё ёй гэта гаварыў. Чаму ты паскудніцу не вытурыў паганай мятлой?

— Нельга. У нас дэмакратыя і свабода слова. Ды і чалавек наведаўся гады ў рады... Вінаваты перад Газменіхай, гарбатай не пачаставаў, — апраўдваюся як мага сур’ёзна.

Сястра маўчыць, відаць, збіраецца з думкамі. Затаіўся і я, чакаю буры. Нарэшце:

— Каб мае ногі хадзілі, дальбог, прыйшла б і павырывала б табе апошнія валасы на галаве, — і раптам смяецца, а пасля лагодна пытае: — Навошта ты наплёў ёй сем мяхоў лухты? Што скажа твая Света?

— Света ў мяне — чалавек! Разбяромся, — бадзёра адказваю. — За тое ўдружыў землякам, расквеціў іхняе жыццё. Няхай узбадзёрацца, парадуюцца, пацешацца, пагамоняць з тыдзень. А там яшчэ што-кольвечы падкіну.

— Плётак і звадаў у нас хапае і без тваёй помачы, — перабівае сястра. — Мы ў іх варымся і імі жывём. Будзь разумнейшы, не звязвайся з поскуддзю. Помніш, некалі маці казала? Не паўзі за гнаявіком — у г... трапіш. Помніш?

Усё я, сястра, помню! Толькі шкада мне сваіх рахманых і памяркоўных землякоў. Гатовы на ўсё, толькі б ім жылося весялей, прыстойней, па-людску. Каб толькі не забівалі і не рэзалі адно аднаго... Каб не кралі... Каб не тапілі ў лыжцы вады... Каб...

Словам, каб не страцілі спрадвечнае людскае, чым заўжды славіліся і славімся.

— Ты, можа, прыйдзеш, паабедаем разам? Я сёння мачанку зрабіла, — уздыхае і зусім ужо мірна кажа сястра.

— Маю ўсяго столькі, што з рота валіцца! Жыву не горш за любога алігарха, — казыруся я. — А яшчэ ў мяне сёння дзень успамінаў, рэвізую сваё жыццё. Ды і далёка да цябе ісці. Так што вялікі дзякуй і няхай здаровая будзе Газменіха!

— Яе трасца не возьме. Такія людзі да галавы і сэрца блізка нічога не бяруць, жывуць доўга. Глядзі сябе, — слушна кажа сястра і знікае з эфіру.

Што ж, калі згадваць сваё шалапутнае жыццё, то трэба згадваць да канца, не спыняцца на раздарожжы. А на чым жа гэта скончыліся мае ўспаміны? Ага! На тым, як трапіў на гаўптвахту. Было ўсё так. Пазваніў, што рэдка здаралася, асабіста сам начальнік палітаддзела палкоўнік Бяляўцаў. Нічога не стаў тлумачыць, загадаў тэрмінова, з усіх ног, бегчы да яго. Запыханы, ускочыў у прасторны кабінет гаспадара, шчоўкнуў абцасамі, адрапартаваў. Бяляўцаў, чаго ніколі не здаралася, запрасіў прысесці. Крыху пасівелы, пышны, з мясістым тварам, маючы выслугу ў дваццаць сем гадоў, палкоўнік меўся сказаць штосьці надзвычай важнае, бо быў надта засяроджаны.

— Вось што, сяржант, я табе скажу. Зараз ты пойдзеш і спораш са сцяны будынка Дома афіцэраў партрэт гэнага дурня...

Палкоўнік зрабіў невялікую паўзу, і я паспеў кінуць позірк на сцяну паверх галавы шэфа, дзе заўжды ўтульна і звыкла вісеў партрэт Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Цяпер жа генсека на месцы не аказалася (як гэта адразу не прыкмеціў!), адно тырчэў у сцяне вялікі цвік. Мабыць, падумаў я, гаспадар кабінета аддаў каштоўную рэліквію на рэстаўрацыю.

— Ты чуеш, сяржант, што я табе кажу? — павысіў голас Бяляўцаў. — Пойдзеш і зараз жа скінеш да д’ябла Мікіту. Усё, скончыўся яго час, больш балбатаць не будзе...

«Шкада, — падумаў я, — ха-а-арошы чалавек быў. Вясёлы... Але ж як бясслаўна знікаюць ідалы! Каго цяпер у дакладах цытаваць буду?!»

— Гэта першая прыемная навіна — для мяне. А для цябе, сяржант, ёсць другая, — працягваў Бяляўцаў і па-бацькоўску прачулена сказаў:

— Вучыцца табе, сынок, трэба. Даклады і дурань Бурыгін навучыцца пісаць. Прымушу. А табе трэба расці. Паедзеш вучыцца ў Львоў? У Вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча на факультэт ваеннай журналістыкі? — спытаў ён.

У мяне перахапіла дыханне і, мабыць, пабялеў.

— Ну, ну, — спакойна і разважліва сказаў афіцэр. — Падумай... Падумай... Зразумей толькі, было адно месца на ўсю армію для сяржанта тэрміновай службы. Я адстаяў тваю кандытатуру. Калі-небудзь дзякуй скажаш. Шэсць гадоў правучышся, а праз пятнаццаць—дваццаць на плячах будзеш насіць палкоўніцкія пагоны.

Я выскачыў з кабінета і нёсся як на крылах да Дома афіцэраў спорваць велізарны, чатыры на два метры, партрэт «дарагога і любімага». І ўсё думаў: «Вось

жа як бывае! У Хрушчова, мажліва, сёння самы чорны дзень у яго жыцці. А ў мяне, Ляшкевіча, бадай, самы шчаслівы. Як жа адзначыць такую падзею? Шчаслівыя дні рэдка надараюцца... Сам Бог раіць святкаваць іх... Але як?»

— Як... Як... — перапытаў штабны пісар, масквіч Аляксандр Багалюбаў. — Сёння пойдзем у самаволку. Мне прывезлі з Саюза гадзіннік. Во, паглядзі. Пацягне не менш, чым на сто дваццаць марак. Гансам толькі пакажы, з рукамі адарвуць.

— А табе, Андрэй, не абрыдла цяперашняя служба? Хочаш усё жыццё насіць пагоны і выцягвацца перад начальствам? — кінуў лыжку дзёгцю ў маю святочную настраёвую бочку бібліятэкар палка, грузін Гіві Качладзе.

Пасля працяглай дыскусіі, а ў ёй бралі чынны ўдзел яшчэ мастак, фатограф, пісар сакрэтнай часці і іншыя служывыя нашага дружнага ўзвода сувязі, высветлілася, што без ста наркамаўскіх гэтую заблытаную праблему ніяк нельга вырашыць.

— Рускі зольдат — хорошы зольдат! — падхвальвалі нас пастаянныя кліенты гаштэта (кафэ) у самай блізкай ад палка вёсцы і шклянкамі глыкалі на «халяву» нашу гарэлку.

Ідэя замяніць чаркі шклянкамі была мая, гэтак жа як і ссунуць сталы — дзеля вялікай і непарушнай дружбы з брацкім нямецкім народам. Спачатку, вядома, частаваліся асобна, а пасля, як добра стукнула ў галовы, аб’ядналіся. Гаворка вялася надзвычай жыццярадасная, праўда, на мігах і пальцах. У асобных выпадках дапамагалі мае сціплыя веды мовы гаспадароў, ці, дакладней, гасцей, бо частавалі іх мы. Скажу толькі адно, на вачах рушыўся міф, быццам немцы п’юць мала. Дзесьці праз гадзіну-дзве, калі ў палку сыгралі «адбой», а цемень добра-такі ахутала хвойнік, на ўскрайку якога стаяла кафэ, доблесныя «зольдаты» лыка не вязалі. А яны, «не пітушчыя», здаравенныя, расчырванелыя, глушылі «шнапс» пад «Езус пахвалёны». Але тут адчыніліся дзверы кафэ, і намаляваўся, з невыразнымі тварамі (ого, столькі выжлукціць!), камендацкі патруль...

— Гаўптвахта, Бім, цудоўнае месца для філасофскага роздуму над сэнсам жыцця. Нездарма ж філосаф Дыяген жыў у бочцы і таксама разважаў над гэтай вечнай галаваломкай...

Праўда, уласная галава лопалася (гарэлка ў немцаў — дрэнь), у грудзях нешта ныла, а ў роце быццам пераначаваў увесь наш баявы ўзвод сувязі. Суцяшала хіба што адно: Мікіту Сяргеевічу, мабыць, сёння куды горш. Увогуле, да жыцця трэба ставіцца выключна па-філасофску. Так, як гэта робяць мае землякі: мне кепска, але вунь сусед у пятлю галавою залез. Асабіста я гэта ўжо тады, падсвядома, нутром, адчуваў. А пазней, калі ўпершыню прачытаў «Молитву оптинских старцев» зразумеў: у гэтай малітве ўся сусветная філасофская думка і людская мудрасць. Упэўнены: тысячы людзей штодня стаяць на ростанях, апынуўшыся ў цяжкім, магчыма, безвыходным становішчы. Спадзяюся, што гэта кароткая малітва дапаможа ім выжыць. Не стану перакладаць яе, баюся штосьці наблытаць. Тым больш, што малітва кананічная:

*«Господи, дай мне с душевным спокойствием встретить все, что принесет мне наступающий день. Дай мне всецело предаться воле Твоей святой. На всякий час сего дня во всем наставь и поддержи меня. Какие бы ни получал известия в течение дня, научи меня принять их со спокойной душой и твердым убеждением, что на все святая воля Твоя.*

*Во всех словах и делах моих руководи моими мыслями и чувствами. Во всех непредвиденных случаях не дай забыть, что все ниспослано Тобой.*

*Научи меня прямо и разумно действовать с каждым членом семьи моей, никого не смущая и не огорчая.*

*Господи, дай мне силу перенести утомление наступающего дня и все события в течение дня. Руководи моею волею и научи меня молиться, верить, надеяться, терпеть, прощать и любить. Аминь».*

— Падобна, Бім, на тое, што Львоўскае ваенна-палітычнае вучылішча і кар'ера ваеннага журналіста мне былі не наканаваныя. Сапраўды, цюцька, а калі б, з маім характарам, трапіў на гаўптвахту, праслужыўшы гадкоў з дзесяць?!

## У раёнцы

— Слабавата мы з табою, Андрэй Недурэй, сеем яравыя, — толькі што вярнуўшыся з райкама партыі і ледзь паспеўшы скінуць з плеч вынашанае дэмісезоннае паліто, гаворыць мой новы шэф, загадчык сельгасаддзела рэдакцыі раённай газеты «Наперад, таварышы!» Якуб Сідорык. Бачна, яму там далі добры наганяй. Ён, цяжка сапучы, садзіцца за невялікі, з трыма шуфлядкамі, якія, калі спрабуе іх выцягнуць, слаба слухаюцца, стол. Шморгнуў сюды-туды адной шуфлядкай, другой... Пасля схіляе спрэс лысую, з рэдкімі астаткамі, каля вушэй і патыліцы, сівымі валасамі галаву. Гладзіць лысіну, чэша былую раскошу і на стосік чыстых лістоў паперы, што ляжаць перад носам, сыплецца перхаць.

Сідорык — сімпатычнейшы чалавек! Сама лагода... Яму застаўся год да пенсіі. Лічы, жыццё аддаў раёнцы. А гэта сапраўдны подзвіг. Можа, нават большы, чым усе Гераклавыя. Нішто так не выцягвае жылы і не смокча кроў, як праца ў раённай газеце. Мяне ён кліча Андрэем Недурэем. У нас поўнае ўзаемаразуменне.

— Слабавата сеем, — паўтарае дзядзька Якуб, цяжка ўздыхае і дадае: — Ім там, вядома, з вокнаў райкама лепш відаць, што творыцца на зямлі.

А на зямельцы, я ведаю, што дзеецца; там-сям яшчэ ляжыць сцукраваны, пачарнелы снег і з тэхнікай на поле не ўзбіцца. І ведаю, што зараз зробіць гэты шчыры працаўнічок газетнай нівы. Так і ёсць. Ён працягвае левую руку да мінулагодняй падшыўкі газеты, падсоўвае яе бліжэй да сябе, пачынае гартаць. Спачатку перакідвае нумары раёнкі не гледзячы, дабраўшыся да газет, у якіх асвятлялася мінулагодняя пасяўная кампанія, пачынае ўважліва перачытваць свае ўласныя інфармацыі аб ходзе тамтэйшай сяўбы.

«Зараз пачне званіць», — думаю я і не памыляюся. Сідорык правай рукой падцягвае да сябе старэнькі, чорны тэлефонны апарат, здымае трубку, не дачакаўшыся гудка, б'е пальцамі левай рукі па рычажках тэлефона, прыслухоўваецца, задаволена хітае галавой і набірае патрэбны нумар. Дзіўная рэч, але ў яго галаве яшчэ знаходзіцца месца для нумароў тэлефонаў сакратароў партыйных арганізацый і старшынь калгасаў. Памяць добрая, хоць часам і падводзіць. Пачынаецца гаворка:

— Іванавіч? Здароў. Гэта Сідорык... Пазнаў? Значыцца, багатым так і не стану. Ды і ліха з ім, багаццем. Ты мне лепш скажы, — ён пільна ўзіраецца ў газету, — гэты твой Шапялевіч жывы? Не спіўся і ў турму не сеў? Рыхтуецца, кажаш, выехаць у поле? Гэта добра. А дзе ён будзе сеяць, каля якой вёскі? Ага... А калі пачнеце сяўбу? Праз дні два-тры? У вас там як заўсёды? Усё добра? Ну, бывай здароў...

У наступным нумары раённай газеты «Наперад, таварышы!» з'явілася вось такая інфармацыя:

*«Ударнымі тэмпамі»*

*«Ударнымі тэмпамі ў калгасе «Камунар» вядзецца сяўба яравых. Узоры працы на добра падрыхтаваных палетках паказвае лепшы механізатар гаспадаркі Міхась Шапялевіч. З раніцы да позняга вечара шчыруе на сваім жалезным кані сумленны працаўнік. Ужо з першых дзён ён паставіў сабе задачу выконваць і перавыконваць нормы пасеву збажыны. Гэтаму ў вялікай ступені спрыяе і распрацаваны партыйнай арганізацыяй калгаса план па паспяховым правядзенні пасяўной кампаніі.*

*Трэба помніць, што сёння закладваецца трывалая аснова пад будучы багаты ўраджай. Якасная і своечасова праведзеная сяўба, узорны догляд пасеваў — гарантыя таго, што ўзятыя сацыялістычныя абавязацельствы сабраць па дваццаць восем цэнтнераў зерня з гектара, будуць выкананы і перавыкананы».*

Вось так нараджаліся героі сяўбы-жніва і важкія цэнтнеры-тоны.

А што ж выпадала на маю долю? Цяжкаваты на пад’ём Сідорык часцей за ўсё даручаў мне пісаць рэпартажы. Тэматыка «літраба» сельгасаддзела газеты вядомая. Гойсаў па калгасах, саўгасах — дзе пешадралам, дзе на спадарожных машынах ці рэйсавым аўтобусе — і апісваў слаўныя будні земляробаў. Асабліва ўрэзаўся ў памяць адзін выпадак. Прыехаў у калгас напісаць той жа рэпартаж са жніва. Дабраўся да пераспелага жытнёвага поля і нямала быў здзіўлены тым, што не чуваць ужо звыклага для мяне гулу камбайнаў. Яны былі, але ўсе стаялі «на прыколе». А самі камбайнеры, збіўшыся ў гурт, гулялі... у карты. Было па поўдні, дзесьці каля трох гадзін дня. Сама працаваць... Пра гэта і спытаў «капітанаў палявых караблёў». Акінуўшы маю рашучую паставу, маладзейшы з мужчын, у замасленым камбінезоне і з чорнымі ад мазуту рукамі, не вельмі злосна, але даволі яхідна сказаў:

— Ты лепш спытай, ці палуднавалі мы сёння...

Аказваецца, штосьці там у калгаснай сталоўцы здарылася і, хлопцы, застаўшыся галоднымі, забаставалі. Рэпартаж атрымаўся жывы і даволі востры. Рэдактару пазванілі з райкама партыі і пахвалілі... яго. Праўда, ён і мяне адзначыў на чарговай рэдакцыйнай «лятучцы».

Матляўся па раёне і ўсё шукаў той калгас, у якім калгаснікі з песняй, пад гармонік, едуць на працу і з працы. Пачаў жа яго шукаць з гадоў адзінаццаці. З той пары, калі прачытаў раман аднаго вядомага беларускага празаіка пра маляўніча распісанае ім, развясёлае калгаснае жыццё. Помніцца і сёння, як у тым творы чубаты брыгадзір наярваў на гармоніку, побач з ім на фурманцы сядзелі чырванашчокія маладзіцы, гарланілі вясёлыя песні, а конь імчаў так, што рыжыя хвост і грыва развяваліся на ветры.

На мяне, чулага хлапчука, яшчэ нават не падлетка, той раман зрабіў вялікае ўражанне, пакінуў у душы свой след. Я пільна пачаў узірацца ў жыццё сваёй вёскі, бацькоў, суседзяў, аднавяскоўцаў і нічога нават блізкага не заўважаў. Пазней, праўда, калі вёска ачуняла ад ваеннай навалы і людзі сталі на ногі, былі па святах і вечарамі ў выхадныя дні музыка, песні, скокі. Але каб на работу і з работы пад гармонік!.. Тады, змалку, задумаўся: пэўна, пісьменнік нешта пераблытаў, такая вясёлая «маліна» можа быць толькі ў горадзе. І... засабіраўся, у думках, у горад. Аднак пісьменніцкая прыгожая казка заставалася жыць у душы. Спадзяваўся і спадзяюся адшукаць той калгас.

— Вось якая яна, — дарагі ты мой сабачка, — сіла друкаванага слова, апавітага багатай фантазіяй творцы! Не тое, што тваё: гаў-гаў...

Бадай, самы час згадаць, як апынуўся ў раёнцы. Пасля дэмабілізацыі не стаў уладкоўвацца на будоўлю, пайшоў на завод паўправаднікоў вучнем

наладчыка. Вялікі, закрыты (вытворчасць сакрэтная) цэх. І ажно бялютка ў вачах ад касынак і халатаў маладых дзяўчат. Якіх жа там толькі не было! Чарнявых, бялявых, прыгожых, дасціпных, усмешлівых... На любы густ! Вось дзе нядаўняму салдату была магчымасць разгарнуцца! Дык жа шкодзіла адна рыса ўласнага характару. Ніколі не быў Дон Жуанам ці Казановам. Не ўмеў імі быць, хоць часам і хацеў стаць на іх месца. Аднойчы французскі пісьменнік Стэндаль, аўтар цудоўных раманаў пра каханне, глыбокі знаўца жаночай псіхалогіі, сказаў, відаць, у адчаі: я аддаў бы ўсе свае раманы за тое, каб мець столькі жанчын, колькі іх мае мой брат, капітан гвардыі.

Што ж шкодзіла праз усё жыццё хутка ўваходзіць у давер, без асаблівых намаганняў браць у палон сэрцы прыгожай паловы чалавецтва? А вось што... Я выхаваны на савецкіх газетах (памятаеце, развозіў пошту і, перш чым аддаць газеты адрасатам, прачытваў іх усе, да аб'яў уключна). А яшчэ — узгадаваны на патрыятычных кніжках і фільмах, кшталту «Свінарка і пастух». Карацей кажучы, змалку ўва мне рос безнадзейны рамантык, адарваны ад рэальнага жыцця. Чуў і не раз ад розных людзей: калі ты ўжо спусцішся з нябёсаў на грэшную зямлю? Сапраўды, калі?

Варта было пазнаёміцца з харошай дзяўчынай, як пачынаў несці напышлівую, мудрагелістую лухту, кшталту карыснасці абмежаванага асабістага эгаізму, як сродку абароны сваёй асобы ад эгаізму натоўпу. Мае разважанні аб «высокіх матэрыях» выклікалі ў мілых дзяўчат спачатку здзіўленне, а пасля жах. Як правіла, першае спатканне было і апошнім. Літаральна на другі вечар мог бачыць, як прастакаваты хлопец (зусім не лепшы за мяне!)ціскаў у абдымках і ўзасос цалаваў маю Джульету. А яна ж мне здавалася такой цнатлівай і недаступнай...

Затое рабіў відавочныя поспехі ў набыцці прафесіі наладчыка станкоўпаўаўтаматаў. За гэтымі станкамі сядзелі ўсё тыя ж прыгажуні і паялі дыёды. Наладчыкам належала спраўна сачыць, каб пры паянні ні ў якім разе не збіваўся цэнтр. Мой настаўнік, наладчык пятага разраду Міхась Ярыга, быў сапраўдны самародак. Хадзілі легенды пра яго светлую галаву і залатыя рукі. Казалі, што калі з-за мяжы прывезлі гэтыя паўаўтаматы, то іх ніяк не маглі запусціць у вытворчасць ні энергетыкі цэха і завода, ні механікі. А ён здолеў!

Але вось бяда, у цэху рэчкай ліўся спірт. Чысты, медыцынскі. На наш участак яго выдавалі літраў восем, калі не больш. Майстар атрымліваў «вогненную ваду», хаваў у сейф, а пасля выдаваў на прамыўку дыёдаў-трыёдаў і іншыя патрэбы вытворчасці, і не толькі вытворчасці... А ў канцы змены хадзіла камісія і здымала рэшткі спірту. Колькі яго заставалася не расходаваным, настолькі на наступны дзень уразалі норму. Эканоміць спірт не было ніякага сэнсу, прэміі за гэта не давалі. А таму... Мужчыны з большага разводзілі і пілі непасрэдна ў цэху, бралі з сабою, ідучы ў сталоўку палуднаваць, хавалі і выносілі ў пластмасавых, вузкіх і плоскіх, ёмістасцях (прывязвалі да галені ног) за прахадную. Дзяўчаты ж у канцы змены налівалі спірт у неглыбокія ванначкі, ставілі туды свае стройныя ножкі, знарок падкасваючы як мага вышэй халаты (на спакусу нам, хлопцам) і салфеткамі праціралі ступні і пальцы.

Мой настаўнік спіўся да таго, што, калі ўзнікала патрэба адрэгуляваць цэнтр, трошкі падкруціць ці аслабаніць той ці іншы шрубок, не мог адвёрткай патрапіць у проразь — рукі не слухаліся. Спачатку прасіў мяне дапамагаць яму, а пазней, калі я асвойтаўся, спіхнуў мне на абслугоўванне свае два паўаўтаматы.

Такая будучыня мяне ніяк не задавальняла. Чалавек, які аднойчы даслаў допіс у газету ці часопіс і пабачыў сваё выдрукаванае прозвішча, за рэдкім выключэннем, трапляе ў пастку, якая называецца творчасць. Нагадвалі аб

сабе зычлівыя парады настаўніцы беларускай мовы і літаратуры, начальніка палітаддзела і наша клятва з Аляксандрам Багалюбавым падчас адседкі на гаўптвахце. А пакляліся мы ў тым, што пасля дэмабілізацыі, ён, кроў з носа, паступіць у Маскоўскі інстытут міжнародных зносін, а я — у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Парушаць клятву, дадзеную на гаўптвахце, нельга!

Узважыў сваё становішча, пачаў пісаць і дасылаць допісы ў рэспубліканскія маладзёжныя газеты. Друкавалі. Плацілі сякі-такі ганарар. Наведваўся ў рэдакцыі і паступова завязаў знаёмствы з хлопцамі, амаль аднагодкамі, якія працавалі журналістамі. Стрэў неяк у беларускамоўнай маладзёжцы «Чырвоная змена» земляка. Падчас чарговай сустрэчы ён спытаў:

— Хочаш паспрабаваць сябе ў раёнцы? Званіў знаёмы рэдактар, прасіў параіць для працы здольнага хлопца. Патэлефанаваць яму?

— Дык я ж без адукацыі?! — вырвалася ў мяне.

— А ты хіба яшчэ дакументы не падаў ва ўніверсітэт? — здзіўлена спытаў ён.

— Падаць-то падаў, але ці паступлю?

— Глупства, на завочнае аддзяленне паступіш. То што? Тэлефанаваць?

Не марудзячы, набраў патрэбны міжгародні нумар тэлефона, цёпла павітаўся, перайшоў да справы. У мяне калацілася сэрца, я чуйна ўслухоўваўся не толькі ў кожнае слова, нават у інтанацыі яго голасу.

— Зорак з неба не хапае, — тым часам казаў мой добразычлівец пра мяне. — Але хлопец талковы, цягавіты і перспектыўны. З выпрабавальным тэрмінам? Нармальна. Добра... Скажу...

Скончыўшы гаворку, спытаў:

— Чуў? Месяц рэдактар будзе прыглядвацца да цябе. Так што бяры на сваім заводзе водпуск і едзь у горад Н. (ён назваў яго). Зараз я запішу табе каардынаты рэдакцыі.

Не стаў браць водпуск, а проста звольніўся з завода. Амаль з пустым армейскім чамаданам купіў білет на цягнік і падаўся «ў людзі».

Праз два тыдні мяне паклікаў рэдактар раёнкі Швораў, прыязна ўсміхнуўся, ветліва загаварыў:

— Гэта... Ты, Андрэй, можаш ехаць звальняцца. Будзем залічваць цябе літсупрацоўнікам у штат рэдакцыі.

— А я ўжо звольніўся! — радасна выпаліў і, мусіць, пачырванеў, бо твар загарэўся агнем.

— Рызыкоўны ты, Андрэй, хлопец. А раптам... Э-э-э... Нясі сваю працоўную кніжку.

Я падхапіўся з крэсла, рынуўся да дзвярэй, наўздагон пачуў:

— Пажывеш пакуль у рэдакцыі... А там пабачым...

Вось такім ветрам занесла мяне ў горад Н., дзе пачаў свой журналісцкі шлях, які расцягнуўся на чвэрць стагоддзя.

У раёнцы тым часам тварылася не абы-што. Усе, як кажуць, стаялі на вушах, але ніхто не хацеў шчыраваць. Пазванілі з райкама партыі і абавязалі тэрмінова даць газетны матэрыял аб узнагароджанні брыгадзіра паляводчай брыгады, жанчыны, ордэнам Леніна. Падзея на той час значная, можна сказаць, цэнтральная ў жыцці ціхага, непрыкметнага райцэнтра. Рэдактар нахмурыў густыя бровы, на яго хударлявым, бледным (хварэў на язву страўніка) твары праступіў кволы румянец. Швораў абвёў насцярожанымі карымі вачамі наш нешматлікі, але, як тады казалі, дружны калектыў. Усе маўчалі, патрыятычныя пачуцці ва ўсіх нас драмалі, ніхто не хацеў перціся аўтобусам за трынаццаць кіламетраў у калгас, дзе жыла і шчыравала ўдарніца палёў і ферм.

Свой мудры і ўжо ўпарты позірк шэф спыніў на мне. І зразумела чаму: самы малады, да таго ж паўгода жыве ў рэдакцыі, спіць на аграмаднай, коўзкай, цвёрдай, абабітай чорным дэрмацінам канапе, якая стаіць у кабінеце намесніка рэдактара, грошай не плаціць, праўда, па сто грамаў час ад часу прастаўляе. Яму і ўсе козыры ў рукі, няхай бярэ ў зубы білет і джагае на спатканне з гераіняй будучай замалёўкі, а калі пашанцуе, то і нарыса.

Суцяшала адно: брыгадзіраў і іх бурную дзейнасць я ведаў, лічы, з пялёнак. Колькі ж іх, апівох, перавярнулася ў адной толькі нашай вёсцы — пальцаў рук і ног не хопіць, каб пералічыць. Гарластыя, нахрапістыя, слова не вымавяць без мацюка. Здаралася, заходзілі і да нас у хату, бацька запрашаў. Частавалі, каб даў каня дроў прывезці, каб дазволіў сена на няўдобіцы ўкасіць, каб не надта панукаў, каб... Словам, як тады здавалася, задачка ў мяне — для першакласніка.

А пара ўладарыла жніўная, гарачая. Распаленае зыркім сонцам паветра не варушылася, намёку на лёгкі ветрык не было, не трапяталіся на дрэвах лісткі, нават птушкі пахаваліся ў цянёк. Вось такой спякотай трэба валюхацца ў душагубцы-аўтобусе.

Трохі давялося пабегаць, перш чым напаткаў ардэнаноску. Жанчына як жанчына. Вясковая кабета сярэдніх гадоў, твар, шыя, рукі да локцяў дужа загарэлыя, валасы русыя, гладка зачэсаныя назад і сабраныя ў пук на патыліцы, паркалёвая сукенка шчыльна аблягае паўнаватую фігуру, ногі вышэй шчыкалатак парэпаныя, у чырвоных пісягах ад колкага іржышча... Калі шчыра, асабліва не ўзіраўся. На полі, дзе стрэліся, сноўдалі камбайны, порстка пад'язджалі парожнія аўтамабілі і, марудна калыхаючыся, ад'язджалі гружаныя зернем. Па пожні павольна хадзілі буслы, кружыліся і каркалі, задаволеныя багатым спажыткам, асмялелыя вароны. Брыгадзірка была ўся ў клопатах, пра высокую ўзнагароду, вядома, ведала, але, як падалося, яшчэ не ўцяміла як след, што за шчасце звалілася ёй на галаву. А можа, не паказвала выгляду, што рада? Ці яшчэ што?

Мы прыселі каля капы саломы, пагаварылі, я сёе-тое занатаваў у блакнот і пашыбаваў на той самы аўтобус, які праз паўгадзіны павінен быў вяртацца ў горад.

Ужо ў дарозе пачаў рабіць накіды будучага «твора». Была ў ім і вялікая ўдзячнасць «роднай партыі і дарагому ўраду», крыніцай біла працоўнае напружанне, быў і кароткі «заечы сон» гераіні, якая і ў сне думае аб ударнай працы... Было ўсё, акрамя самога чалавека, яго душы, радасцей і турбот... Таму, калі ўжо ў рэдакцыі дапрацаваў свой опус, а машыністка, з незадаволеным тварам (за шмат гадоў працы ў рэдакцыі яе ўжо нудзіла ад гэтых «ударных працоўных будняў»), аддрукавала, рэдактар прачытаў і напісаў у куточку сваім роўным каліграфічным почыркам: «Як фатограф. Каб заўтра раніцай пераапрацаваны матэрыял ляжаў на маім стале...»

Намеснік рэдактара Гузін, трошкі старэйшы за мяне (мы амаль што сябравалі), прачытаў і таксама зганіў. Але параіў:

— Аўтобуса ўжо не будзе. Позна. Бяры ногі ў рукі, імчыся да гэтай брыгадзіркі і пагавары толкам, пастарайся разварушыць чалавека...

Роўненька, пехатою, сухой і пыльнай дарогай пераадольваў я вярсту за вярстой да запаветнай вёскі. У чырвоным бляску садзілася сонца, і нясцерпная дзённая спякота паступова ападала. Глядзеў больш удумліва і на зжатыя палеткі, дзе на шорсткім іржышчы ў лагчынах пастухі пасвілі кароў, і на пасівелыя ад пылу спарыш і трыпутнік, цыбатую мятліцу, што раслі паўз дарогі. Прыпыніўся каля рассыпанага зерня, тут была калдобіна, вадзіцель, мабыць,

газу не скінуў і машыну, відаць, моцна хістанула; услухоўваўся ў блізкія ўжо галасы людзей, што завіхаліся на зернятоку, галашэнне пеўняў і брэх сабак.

Хату брыгадзіркі паказалі вяскоўцы. Гаспадыня была дома, упраўлялася па гаспадарцы, вылівала з вядра ў вялікае карыта свінням мешанку, нязлосна сварылася на двух укормленых парсюкоў, бо лезлі пад рукі. Тут жа сакаталі куры, цікавалі, каб пажывіцца з карыта крышаном бульбы. Я запыніўся і чакаў. У садзе спелі вялікія, з кулак, грушы, наліваліся ядраным сокам антонаўкі, чырванелі крутымі бакамі цыганкі, галіны ад іх гнуліся ледзь не да зямлі. Сама хата, звонку абшаляваная і пафарбаваная ў жоўты і зялёны колеры з блакітнымі аканіцамі, мела выгляд абжыты, дагледжаны. Гэта яшчэ больш уразіла мяне, калі пазней ужо, седзячы ў чыстай палове хаты за круглым сталом, даведаўся, што брыгадзірка ніколі не была замужам і жыве адна.

А яна ўбачыла газетчыка, не здзівілася, паглядзела так, быццам іншага і не чакала. Запрасіла ў хату, адно папрасіла крышку пачакаць, пакуль загоніць у загарадку і падоіць карову. Іх ужо з пашы пастухі прыгналі.

Пасля была вялікая і поўная да берагоў патэльня смажанага сала з убітымі, добрым дзясяткам, яйкамі і... бутэлька хлебнай самагонкі. І склалася іншага роду гаворка. Ардэнаноска піла чарка ў чарку са мной, расчырванелася, гаварыла ахвотна і дасціпна. Гэта была валявая, упраўная маладзіца, не абцяжараная сям’ёй і ўсім, што вымушае вясковую жанчыну разрывацца на часткі; яна, вядома ж, глыбока ў душы перажывала сваё адзіноцтва і таму без астатку аддавалася працы. Гэта быў яе паратунак, магчымасць сцвердзіцца ў вачах вяскоўцаў. Але самым нечаканым адкрыццём стала яе іранічнае стаўленне да ўзнагароды:

— Ордэн? Ёсць мне калі насіць яго! Няхай ляжыць... Есці, мусіць, прасіць не будзе... А то ж... На цыцку павешу і буду красавацца сярод кароў і свіней.

І яна зарагатала, не засмяялася, а менавіта зарагатала — жыццярадасна, напасрэдна і гучна, так, як гэта ўмеюць вясковыя людзі.

На развітанне ўкінула ў мае кішэні яблыкаў і пашкадавала, што мне давядзецца ноччу валачыся за блізкі свет. Але дарога пайшла толькі на карысць. Ціхае зорнае неба, бясконцае стракатанне конікаў, прыглушаныя начныя гукі, водар іржышча і скошанай травы, мляўкасць зямлі і неабдымная шырыня сусвету добра настройвалі на творчы роздум. Не па-казённаму, не штампамі думаў і разважаў я цяпер... Зусім у іншым святле бачылася, па праўдзе кажучы, трагічная постаць маладой жанчыны, яе ранняе сіроцтва, завочная вучоба ў сельгасінстытуце, няпростыя адносіны з вяскоўцамі, жаданне знайсці сваё месца сярод людзей на гэтай зямлі.

Пісаў давідна, а пасля сам жа і аддрукаваў напісанае на машынцы. Прыснуў на «сталінскай», так яе ў рэдакцыі называлі ўсе, канапе, не распранаючыся, гадзіны паўтары.

Рэдактару нарыс спадабаўся, ён папрасіў зайсці ў кабінет свайго намесніка Гузіна, адкрыў сейф, дастаў і адкаркаваў пляшку гарэлкі, паставіў чаркі, бляшанку свіной тушонкі (па тым часе вялікі дэфіцыт), махнуў рукой на сваю язву.

— Даваце, хлопцы, вып’ем пакрысе, — і ўжо звяртаючыся да мяне: — Будзе з цябе журналіст. Будзе...

Пабачыўся яшчэ раз з гераіняй нарыса, той самай ардэнаноскай, праз гады, калі працаваў загадчыкам сельгасаддзела моладзі ў рэспубліканскай маладзёжнай газеце. Надарылася адпаведнае: у сталіцы ладзілася нарада перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Перад пачаткам работы ў прасторным вестыбюлі тоўпіліся, гаманілі госці з усіх куткоў Беларусі. Сярод гэтага тлуму я раптам заўважыў нібы знаёмы твар. На грудзях жанчыны, акра-

мя ордэна Леніна, ззяла Залатая Зорка Героя Сацыялістычнай Працы. З лёгкім сэрцам стаў прабірацца скрозь натоўп як мага бліжэй да жанчыны, каб пераканацца, што не памыліўся. Гэта была яна... «Можа быць цудоўная запеўка для справаздачы з нарады! — шчыра ўзрадаваўся. — Нельга ўпускаць такую магчымасць». Жанчына запыніла позірк сваіх строгіх шэрых вачэй на маёй асобе і, было бачна, што ў яе галаве і памяці ўсплываў нейкі ўспамін.

— А мы з вамі сустракаліся, — павітаўся я і як мага лагодней загаварыў першым. — Памятаеце? З нагоды ўручэння ордэна да вас прыязджаў газетчык з раёнкі... Цяпер у вас яшчэ і Зорка Героя — шчыра віншую.

Яе твар крыху памякчэў і нават паспрабавала ўсміхнуцца:

— Чаму ж... Помню, помню... Хаця і шмат вады сплыло з таго часу. — Жанчына гаварыла як бы нехаця, праз сілу, штораз абшморгваючы полы свайго, пэўна, дарагога, аксамітнага, зялёнага касцюма, аблямаванага вузкай залацістай палоскай, і азіралася наўкола.

Не сказаць, каб пастарэла, але штосьці мужчынскае з'явілася ў абліччы колішняй пышнагрудай маладзіцы. Яна неяк усохла, рысы твару агрубелі, і веяла ад яе ўпартасцю, упэўненасцю, ганарлівасцю. «Падобна на тое, што мой план зрабіць запеўку для газетнага матэрыялу разбураецца на вачах», — падумаў я і ўсё ж надзеі не губляў. А таму зрабіў яшчэ адну спробу «разгаварыць» чалавека:

— Усё там жа, брыгадзірам працуеце?

Яна здзіўлена, нібы толькі-толькі зваліўся з месяца, паглядзела на мяне, нафарбаваныя губы сутаргава перасмыкнуліся, і чыста па-бабску, трошкі сварліва, нават з раздражнёнасцю, адказала:

— Там зайздроснікі і зласліўцы гатовыя былі мяне са свету зжыць. Яны маю хату падпа...— на паўслове абарвала гаворку, кінула кароткае «ізвініте» і таропка падалася насустрач важнаму сівагаловаму мужчыну.

«Кім жа яна і дзе цяпер працуе? — вярэдзіла, не пакідала мяне думка і пазней, калі нарада пачалася. — Ясна, як белы дзень, мая гераіня стала іншым чалавекам...»

Адказ атрымаў, калі неўзабаве вядучы шаноўнага сходу аб'явіў:

— Зараз перад вамі выступіць кавалер орэна Леніна, Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса (ён назваў якога, а затым назваў прозвішча жанчыны старшыні) і назваў раён. Але гэта быў не той раён, у якім мне давялося ўпрэгчыся ў журналісцкі воз.

Работа... Работа... Тлумныя будні раённага газетчыка. Жыццё не гарыць, а тлее, як тыя халтурныя запалкі. А што акрамя работы?! Мне ж толькі стукнула дваццаць тры! Самы час захапляцца дзяўчатамі... Нягледзячы на сваю закамплексаванасць, пазнаёміўся з вельмі цікавай тутэйшай прыгажуняй. Дакладней, яна сама праявіла ініцыятыву.

Нездарма людзі кажуць: дзе коратка, там і рвецца. Толькі наважыўся раскрыць сэрца, цалкам аддацца прыемным успамінам, як зазваніў мабільнік. Хто ж гэта можа быць? Ага, жонка, відаць, тужліва ёй без мяне. Зараз падвесялю... А можа, адчула мой юрлівы настрой і не хоча, каб згадваў грахі маладосці?!

— Думала, і дня там не вытрываеш, — са здзіўленнем кажа яна. — Ажно нічога, нават не тэлефануеш. Мне ж адной сумна.

— Ты не павінна нудзіцца, бо я цябе замуж выдаў.

— За каго?!

Вось яна жаночая логіка! Не пацікавілася, ці ў сваім я розуме, жартую ці кажу сур'ёзна, урэшце, магла б проста сказаць: а я цябе прасіла? Дык жа не, падавай ёй адразу прынца.

— За папуаса.

— Каму што, а лысаму расчоска, — смяецца жонка. — Мог бы лепшую партыю падабраць.

— Ты не адчайвайся, ён жа папуас-шэйх. Ці лепш сказаць шэйх-папуас.

Маўчыць, і я, апярэджваючы буру, мушу далікатна тлумачыць, што і да чаго. Кажу, што званіла сястра, выдала мне па першае чысло, і ёй няма патрэбы паўтарацца. Рэзюмэ цярплівай да маіх конікаў жонкі было такое:

— Ты — поўная безнадзёга. Але добра, што папярэдзіў. І на тым, дзякуй... Слухай! — раптам ускліквае яна. — Ты, можа, там якую Маньку прыгарнуў да сябе?! Табе толькі волю дай.

Маўчу. Не сказаць, каб нявыкрутка, але трэба як мага хутчэй завяршаць непрыемную гаворку, спускаць яе на тармазах. Каяцца і апраўдвацца — справа абсалютна марная. Жанчыны толькі гэтага і чакаюць, каб перайсці ў наступ. У такой сітуацыі лепш аджартавацца.

— Во, бачыш, выскачыла замуж за шэйха, дык ужо і нос задзерла, — кажу «пакрыўджана». — А мне нельга нават Маньку прыгалубіць.

— Так... Ты там без мяне прапасці не прападзеш, але натворыш такога, што пасля сорамна будзе ў вочы людзям глядзець, — разважліва гаворыць жонка. — Давядзецца ехаць і ўтаймоўваць цябе. Але ўжо калі прыеду, то мала не падасца.

— Сышліся мы, Бім, на тым, што яе пяшчотным рукам проціпаказана халодная вада, у якой трэба паласкаць посуд, а бегаць дажджом і снегам у туалет таксама не камфортна. Раю і табе, цюцька, быць гібкім з сваёй жаночай палавінай. Ну, ну... Не круціся — нічога не перападзе. Пачакай крыху...

Але варта паказаць свой нос, з якога закапала (мабыць, прастудзіўся) на двор. Накінуў на плечы апранаху, прыдатную на ўсе выпадкі вясковага жыцця ватоўку, якой варта было б прысвяціць оду, і выйшаў на абшморганы нагамі дашчаты ганак. Трошкі падмарозіла, неба высакаватае, але сеецца рэдкая снежная пацяруха, дыхаецца лёгка і радасна. Ступіў крок, другі, прымеркаваўся прайсці ў сад. Пад нагамі захрупасцеў зашэрхлы снег, мусіць, дождж ноччу ўсё ж пакрапаў. Павеяў лёгкі ўсходні ветрык, і з галін старой яблыні-антонаўкі пасыпалася махнатая шэрань. «Для фотакарэспандэнтаў сёння самы ўдалы дзень, пейзажы — залюбуешся». Падумаў і ўсміхнуўся, усё ж жыве ўва мне прафесіянал! Можа, сцягацца ў гай? Вунь ён цямнеецца, напрасткі хвілін дваццаць хадзьбы... Успомніў: маці за дзень да смерці, схуднелая і бледная, ціха прашаптала: каб хадзілі ногі, сынок, і магла дайсці да гая — усе лісцікі на бярозах перацалавала б... Маці, нягледзячы на сваё цяжкае жыццё, таксама была рамантыкам.

Агарнуў лёгкі сум, але паддавацца маркоце не стаў. Матуля пражыла восемдзесят чатыры гады, дай бог кожнаму. Хацелася думаць аб тым кароткім і не да канца разгаданым каханні.

...Непадалёку ад будынка рэдакцыі, у зялёным і ўтульным, праўда, невялікім скверы, была абгароджаная высокай металічнай сеткай танцпляцоўка. Тры разы на тыдзень граў духавы аркестр, ладзіліся танцы. Купіў за трыццаць капеек уваходны білет — і танцуй на свежым паветры да ўпаду. Вось туды, вечарамі, калі пусцела рэдакцыя і ад суму, як кажуць, пачыналі дохнуць мухі, я стаў бегаць на танцулькі. Варта сказаць, што сама танцпляцоўка была ўсё ж незвычайная. Ніколі такой не бачыў — ні раней, ні пасля. Падлога паркетная, а паркет кожны раз перад пачаткам танцаў націралі... Ліха яго ведае чым, але кружыцца ў вальсе на ім было адно замілаванне. Ногі самі слізгацелі ў такт непаўторнай духавой музыкі.

Аб'явілі «белы» танец. Вядома ж, вальс. Ах, гэты «белы» танец! У каго не ёкала, не заходзілася сэрца ў чаканні, што вось зараз падыдзе Яна, самая прыгожая і вясёлая, ледзь прыкметна паклоніцца і з мілай усмешкай скажа: «Дазвольце вас...» І яна падышла, аднекуль, здаецца, з-за маёй спіны, павярнулася і з вабнай усмешкай ціха спытала: «Патанцуем?»

У народзе, калі хочуць пахваліць дзяўчыну, звычайна, кажуць: у яе ўсё на сваім месцы. І Бэлу, так звалі незнаёмку, прырода не пакрыўдзіла, шчодра надзяліла хараством. Статная, высакаватая, нават трошкі вышэйшая за мяне (я метр семдзесят два), смуглявая, валасы чорныя, густыя, хвалістыя, раскіданыя па плячах і... вочы. Вялікія, глыбокія, колеру спелага восеньскага каштана... У іх можна было ўтапіцца.

Бэла застыла ў чаканні, а я ад нечаканасці на нейкі момант разгубіўся і марудзіў. Апамятаўся, таропка, як папугай, паўтарыў «патанцуем» і неяк няўклюдна ўзяў дзяўчыну пад мяккую цёплую ручку. На Бэле была тонкая крэмавая крэпдэшынавая сукенка з кароткімі рукавамі.

— А вы, я прыкмеціла, невялікі ахвотнік танцаваць? — мы ледзь уліліся ў круг, як з мілай усмешкай зазначыла дзяўчына.

«Мабыць, назірала за мной, — здагадаўся, і адчуў як моцна затахкала сэрца.— А можа, папікае, што не па-джэнтэльменску паставіўся да яе запрашэння на танец?»

— Ды-ы-ы... Я кепскі танцор, — паспешліва, нібы апраўдваючыся, выціснуў я з сябе.

— Не скажыце! Вальс вы танцуеце цудоўна... Я раней сачыла за вамі, — і яна засмяялася. — Вы жывяце і працуеце ў рэдакцыі?! Як жа вы там спіцё? — не сунімалася дзіўнае стварэнне.

— Па-салдацку жыву. Сплю на «сталінскай» канапе. Маю дзве прасціны, замест падушкі кладу паліто пад галаву.

Упершыню адчуў лёгкасць у адносінах з дзяўчынай. Так, так... Не было звыклай напружанасці, фальшу, не трэба было прытварацца разумнікам і выдумляць ліха ведае што.

— Дарэчы! — апамятаўся я. — А вы, Бэла, адкуль ведаеце пра мяне і маё жыцце-быццё?

— Здагадайцеся!

Аркестр іграў вальс «На сопках Маньчжурыі». Мы лёгка кружыліся (усё ж вальс я сапраўды танцую хвацка), а яна і зусім лятала, як пярынка... Як жа тут засяродзіцца і здагадацца!

— Не ведаю, — прызнаўся. — Гарадок невялікі...

У той вечар Бэла так і не раскрыла сваю таямніцу, хоць мне дужа хацелася ведаць, адкуль такая яе дасведчанасць. Пачутае, аднак, прыемна казытала нервы, цешыла маё самалюбства. Усё ж хтосьці мной цікавіцца!..

Пасля танцаў праводзіў знаёмую незнаёмку з яе дазволу дахаты. Ішлі па няроўным вузкім тратуары нешырокай, паабапал абсаджанай ліпамі вуліцы. Цьмяна гарэлі рэдкія ліхтары. На зыходзе быў жнівень. Днём прыпякала, стаяла гарачыня, а вечарамі наступала прахалода, адчуваўся надыход блізкай восені. У вячэрняй цішы цвірчэлі ўсюдыісныя цвыркуны. Скрозь былі драўляныя, праўда, дыхтоўныя, з разнымі аканіцамі, дамы, якія патаналі ў яблынях, грушах, вішнях. У палісадніках яшчэ цвілі гладыёлусы, садовы рамонак, густа пахлі флёксы, іх у нас называюць гашта. А вось высокія і густыя кусты «бабінага лета» яшчэ не распусціліся.

— Як жа вы, Андрэй, паразімуеце ў сваей рэдакцыі? У вас жа, калі не жартуеце, нават накрыцца няма чым? — і Бэла засмяялася грудным смехам.

— Я загартаваны. Да таго ж прыдумаў, як выкруціцца: замест падушкі падшыўку газет пад галаву, а паліто — наверх, замест коўдры...

Не стаў апавядаць, што тыдні са два таму прыязджаў у камандзіроўку мой зямляк, той самы добразычлівец з маладзёжнай газеты Вазько, з чыёй лёгкай рукі я і апынуўся тут. Ён ужо ачольваў рэспубліканскую газету і яго стрэлі прыязна. Рэдактар Швораў нават даў старэнькую рэдакцыйную «Волгу», і мы з Гузіным запрасілі жаданага госця з’ездзіць на Дняпро. Вядома, узялі трошкі выпіць і з большага закусіць. Рэдакцыйны вадзіцель Міша ведаў утульную мясціну, і праз якой паўгадзіны мы сядзелі на ўтравянелым беразе рэчкі. Гузін з шафёрам падаахвоціліся паплёскацца ў халаднаватай вадзе, а мы з земляком толькі знялі кашулі і засталіся сядзець. Гаманілі спачатку аб усім і не аб чым.

— Гаварыў з Шворавым пра цябе, — раптам прызнаўся Вазько. — Ён задаволены тваёй працай. Ды я і сам бачу, што расцеш. Апошні твой нарыс напісаны на ўзроўні дыхтоўнага пісьменніка...

Ён змоўк, адмахнуўся ад авадня, сарваў доўгую і тонкую сцяблінку пушыстай мятліцы, пачаў завязваць яе вузлом. Хлопцы з крыкам і смехам усё яшчэ боўталіся ў вадзе, запрашалі і нас скупнуцца, пераконвалі, што вада цёплая.

— Трэба табе, Андрэй, перабірацца ў Мінск. Тут перспектыва даволі туманная. Адна газета... Ці мала што... З рэдактарам не паладзіш: куды падасіся? — працягваў Вазько. — У рэспубліканскую газету пакуль ранавата, хоць ты і паступіў ва ўніверсітэт... Давай у шматтыражку? Га? Пакуль працуй, набірайся вопыту, а я тым часам празандзірую, дзе можна цябе ўладкаваць. Калі што высветлю, паведамлю. Дамовіліся?

У той першы вечар я не расказваў Бэле пра свае планы. А яна далікатна прамаўчала ці не адважылася больш дапытвацца, «ціснуць» на мой мазоль. Хоць самому, шчыра кажучы, абрыдла вакзальнае жыццё. Пачварную «сталінскую» канапу гатовы быў разбамбіць і выкінуць з другога паверха.

Мы развіталіся, папярэдне дамовіліся аб наступнай сустрэчы. Ляцеў на сваё «седала» не тое каб на крылах, але зямлі пад сабою не адчуваў. А праз тыдні два запрасіў Бэлу ў рэдакцыю. Куды ж яшчэ?! У рэстаране з акладам сто рублёў не надта разгуляешся.

Была нядзеля, стаяў ясны, пагодлівы дзень. Я ўзяў у краме бутэльку сухога чырвонага вінаграднага віна, кавалачак галандскага сыру, вядома ж, цукерак. Па дарозе купіў трошкі яблык і груш. Сустрэліся каля добра знаёмага нам парку і паціху рушылі да будынка рэдакцыі. Бэла неяк загадкава, падалося, нават хітра пасміхалася. У яе вялікіх цёмных вачах гулялі «чорцікі». Літаральна праз якой паўгадзіны, калі выпілі трошкі віна і яна асвойталася, пацікавіўся: ці падабаецца ёй у рэдакцыі? Быў жа ўпэўнены, што на дзяўчыну рэдакцыйная абстаноўка мусіла зрабіць адпаведнае ўражанне. А ў адказ пачуў:

— Я тут, Андрэй, бывала і не раз. Мой дзядзька, Саламон Маркавіч Аршанскі, працуе ў вас загадчыкам аддзела прамысловасці. Ведаеце такога? — і яна зайшлася вясёлым, шчаслівым смехам.

На маю бедную галаву нібы вылілі вядро сцюдзёнай вады. Вось дык навіна! Мажліва, у гэты момант я меў разгублены выгляд, бо Бэла паспяшалася супакоіць:

— Ён расказваў пра вас, але не ведае, што мы сустракаемся, — скрозь смех весела гаварыла дзяўчына.

«Дык вось яна, «крыніца» інфармацыі! — ачомаўся і пакрысе ўтаймоўваўся я. — Добра, што паводзіў сябе прыстойна і асаблівых вольнасцей не дазваляў».

Выпілі яшчэ па глытку віна, і Бэла пахваліла мяне за добры густ.

— Вінаграднае чырвонае віно спрые крыватворнасці ў арганізме, — ужо сур'ёзна тлумачыла яна. — Кажу гэта як медык.

— Крыві ў маіх жылах хоць адбаўляй. Ажно кіпіць, калі гляджу на вас,— не вельмі ўдала пажартаваў я.

— У такіх выпадках добра дапамагае халодны душ. Шкада, але ў вас яго няма, — сказала яна з усмешкай і ўжо сур'ёзна параіла: — Вазьміце і пачніце пісаць раман... Вось дзе спатрэбіцца ваша гарачая кроў! Пішаце вы складна. Раю паспрабаваць.

У жыцці Бэла была больш вопытная і разважлівая, нават практычная. Старэйшая за мяне на год, яна паспела скончыць медыцынскі інстытут і працавала неўрапатолагам у раённай бальніцы. Маё запозненае сталенне і вецер у галаве, калі не памыляюся, яе толькі цешылі. Цешыў і я сябе, што ёй, мабыць, цікава бавіць час са мной.

Мы гаварылі, жартавалі, смяяліся. Раптам Бэла ўтаропілася на дзверы кабінета-пакоя (я сядзеў спінай да ўваходу), і твар яе зрабіўся сур'ёзным. Я павярнуўся, і ў прыадчыненых дзвярах убачыў бледны, як звычайна, без крывінкі, твар рэдактара Шворава. Толькі гэтага яшчэ не хапала! Пакуль ацэньваў прыкрую сітуацыю, Бэла першая ачуняла, лагодна запрасіла:

— Далучайцеся... У нас харошае вінаграднае віно...

— Дзякую, дзякую... Адпачывайце, — заспяшаўся шэф і таропка прычыніў дзверы.

Я не лічыў патрэбным зачыняцца на ключ, а вось, ці пастукаўся ён папярэдне, не ведаю і па сённяшні дзень. Урэшце, ён і сам, я гэта заўважаў не раз, заходзіў у выхадныя ў свой кабінет, які быў насупраць, з нейкай цікавай жанчынай. Ужо ж не з жонкай... Бо вясёлая гамана і прыглушаны смех сведчылі пра тое.

Аднак жа заставацца далей не выпадала. Мы прыбралі са стала і ціха, як мышы, падаліся на вуліцу.

— Ён вас не ведае?— спытаў у Бэлы.

— Наўрад ці... У рэшце рэшт, гэта не мае значэння. Вы жывяце ў рэдакцыі, адпаведна, можаце запрашаць у госці каго заўгодна, — упэўнена і зусім слушна адказала яна і дадала: — У наступны выхадны запрашаю вас да сябе. Не супраць?

Дом быў прасторны, з вялікай колькасцю пакояў. Мы прайшлі ў адзін з іх, даволі велікаваты і ўтульны. Цешыла вока чысціня і акуратнасць. Драўляны ложак з разнымі спінкамі запраўлены бэжавым пледам, тры, кожная меншая за папярэднюю, падушкі, на якія было накінута беласнежнае ўзорчатае тонкае покрыва. На сцяне, над ложкам, — бра, звыклае люстра са столі не звісала, яго проста ў пакоі не было. Стаяла і мяккае крэсла, якое пры неабходнасці раскладвалася і служыла яшчэ адным ложкам. На стале — крыштальная ваза з вялікімі садовымі рамонкамі і настольная лямпа. Стосікам ляжала медыцынская літаратура, нават тоўстая картка нейкага хворага. Мабыць, Бэла ўзяла яе з сабою, каб лепш унікнуць у гісторыю хваробы ці ўнесці запісы, якія не паспела зрабіць на працы. Вось першае ўражанне і тое, што кінулася ў вочы. Ага, каля стала стаяла яшчэ адно, звычайнае, цвёрдае, лёгкае крэсла.

— Сядайце, Андрэй... Сядайце, дзе вам будзе больш зручна. Я збегаю ў сад прынясу груш. Каб вы ведалі, якія яны ў нас смачныя! Слуцкія бэры, — і з гэтымі словамі Бэла схавалася за дзвярамі.

Мы смакавалі грушы і не надта галасна гамanілі. Усё ж у доме былі не адны.

— Андрэй, — з нейкай ціхай пяшчотай сказала Бэла. — Чаму б вам не перабрацца з рэдакцыі на прыватную кватэру? Нельга ж так здзекавацца са

свайго здароўя! Неўзабаве зіма... На першым часе вы маглі б пажыць і ў нас. Я ўжо гаварыла з бацькамі. Яны не супраць, нават вітаюць маю ідэю.

Я не быў гатовы да такога павароту падзей. Не быў! Жыць пад адным дахам з дзяўчынай, у якую ты калі і не закаханы, але якая табе зусім не абыякавая, нават падабаецца? А што далей?.. Жаніцца не ўваходзіла ў мае планы, калі гэта намёк на жаніцьбу. Хто я?! Хлопец ніштаваты, магчыма, з пэўным будучым. Але ж, але ж... Адукацыі пакуль няма — раз. Быць прымаком — два. Зарплата — кот наплакаў— тры. Свайго ні кала ні двара — чатыры... Не, не такім уяўлялася мне ўласнае жыццё. Заўсёды верыў, веру і перакананы: мужчына павінен граць першую скрыпку ў сямейным аркестры. Але для гэтага трэба цвёрда стаяць на нагах, мець трывалы падмурак, каб быць незалежным і самастойна прымаць рашэнні. Інакш гвалт над тваёй воляй, вечныя згрызоты сумлення...

Мы працягвалі сустракацца, але пасля той размовы паміж намі нібы чорная кошка прабегла. Не было колішняй шчырасці, лёгкасці і паразумення.

— Будзе з цябе журналіст. Будзе... — паўтараў ужо знаёмае рэдактар газеты Швораў, калі праз тры месяцы, падвыпіўшы, праводзіў на чыгуначны вакзал. Але спачатку ўпрошваў:

— Заставайся. Ажаніся. Кватэру жалезна абяцаю. Праз тыдзень, я ж член бюро райкама. Паедзеш? Шкада адпускаць. Выйдзе з цябе някепскі газетчык.

Я слухаў, маўчаў і думаў: дзевяць месяцаў пракачаўся на мулкай канапе, а ён нават не здагадаўся пасяліць мяне ў рабочы інтэрнат. Паеду. Хлопцы клічуць...

— На тым, Бім, і развіталіся. На рэдактара, скажу табе шчыра, злосці не затаіў, удзячны за навуку. Ды і чалавек той быў, царства яму нябеснае, неблагі. Шкада, што больш сустрэцца не давялося. Вось, цюцька, за што сябе дакараю: збіраўся з’ездзіць і ўсё адкладваў. Прыкра на душы. Табе гэта пачуццё знаёмае?

## У шматтыражцы

Вялікі горад вымагае ад чалавека вялікіх духоўных і фізічных высілкаў. Што тычыцца асабіста мяне, то ўжо, зрэшты, згадваў, калі і чаму ўпершыню ўзнікла думка ўцячы з вёскі. Акрамя жадання пабачыць лепшы свет і развясёлае жыццё, было імкненне самарэалізавацца. Здавалася тады, варта толькі апынуцца ў горадзе, як сама жыццёвая плынь вынесе цябе на высокі бераг дабрабыту і славы. Як бы не так!..

— Званіў наш агульны знаёмы, гаварыў пра вас, — пасля вітання і даведаўшыся аб мэце майго прыходу, прамовіў без асаблівага энтузіязму гладкі, круглатвары, з рэдкімі валасамі на галаве, рэдактар шматтыражкі «Машынабудаўнік» Быстрыцкі. Ён паправіў акуляры, акінуў прыдзірлівым позіркам маю асобу, спыніў увагу на новым, светла-карычневым паліто і дадаў: — Для пачатку напішыце матэрыял. Ну-у-у, кшталту нарыса. Ёсць цікавы чалавек — начальнік кавальскага корпуса. Сам збіраўся напісаць, ды неяк усё часу нестае.

— Колькі дзён на падрыхтоўку матэрыялу? — спытаў я па-дзелавому.

— Думаю, тыдзень хопіць... Калі мяркуеце пайсці на завод? — спытаў ён і яшчэ раз акінуў позіркам мой франтаваты выгляд.

— Хоць зараз! — нібы руплівы піянер, адрапартаваў я.

Быстрыцкі згодна кіўнуў галавой, пазваніў у парткам, папрасіў, каб мне выпісалі пропуск на завод. Ужо выходзячы з кабінета, я злавіў на сабе яшчэ

адзін яго пільны позірк, ні то хітраваты, ні то насмешлівы. «Далося ў знакі яму маё паліто», — падумалася тады. І толькі калі апынуўся на тэрыторыі вялізарнага завода, а трошкі пазней, у запыленым і загазаваным кавальскім корпусе, здагадаўся: я тут у сваёй светлай шыкоўнай апратцы — белая варона...

Гахалі шматтонныя молаты, з-пад іх сыпаліся снапы іскраў, дрыжалі сцены і зямля, стаяў бясконцы, хоць вушы затыкай, грукат, сноўдалі сюды-туды электракары, людскіх галасоў немагчыма было пачуць, тым больш, разабраць. Крычаў на вуха аднаму, другому рабочаму, пытаў, дзе адшукаць героя будучага нарыса, а ў адказ толькі ўзмах рукі: ці то адчапіся, ці то ідзі вось у гэтым напрамку. І — кароткія здзіўленыя позіркі на мой піжоністы выгляд. Самі кавалі былі апрануты ў грубыя брызентавыя паношаныя робы, майстры і дзяўчаты-кантралёры — у сініх зашмальцаваных халатах. Я ўжо і не рады быў, што, атрымаўшы ў раёнцы разлік, адшкадаваў грошай і набыў сабе гэтую абнову. Лепш пачуваўся б тут у тым, паношаным і выцертым...

Блындаў па корпусе з пачуццём сваёй нікчэмнасці, як раптам прыгадалася гісторыя, якая крыху падняла настрой і супакоіла.

У нашу сярэднюю школу, пасля заканчэння інстытута, прыехаў настаўнік рускай мовы і літаратуры. Малады чалавек неўзабаве пазнаёміўся і ажаніўся з першай прыгажуняй у вёсцы, дачкой брыгадзіра, Наташай. З таго часу колішнюю весялуху і шчабятуху нібы падмянілі. Яна напінalася, высільвалася, са скуры лезла, абы гаварыць толькі па-руску. Так хацеў яе «інтэлігентны» муж. Аднойчы вясковая маладзіца і яе абраннік наведаліся ў раённы цэнтр, каб у тамтэйшым універмагу нагледзець, прыцаніцца і купіць Наташы новае паліто. Выбраў абнову для сваёй любімай жонкі сам настаўнік. Зайшлі ў кабіну, каб прымераць. Шторку не завешвалі — няхай людзі любуюцца ці зайздросцяць. Маладзіца апранула паліто і, ззяючы ад радасці, выпаліла:

— Ой, как красіва! — крутанулася перад люстэркам і ўжо са шкадаваннем дадала: — Но трошкі ў срачаццы жмець...

Дарэчы, мне заўсёды «трошкі ў срачаццы жмець», бо не хапае ўпэўненасці ў сабе і годнасці.

Галоўны каваль корпуса меў маладзецкі выгляд. Высокі, дужы, з басістым голасам, і цёмным, як ва ўсіх тутэйшых рабочых, тварам, ён падаўся мне энергічным і дзелавым. Выслухаў, запыніў позірк на маім паліто (а як жа!), глыбока ўздыхнуў і проста будзённа сказаў:

— Выпэцкаецеся ў нас... Дзе ж нам прытуліцца? Хадзем-ка мы з вамі на тэрыторыю. У курылцы пасядзім, там і пагаворым.

Было яму гадоў трыццаць, можа, з невялікім гакам. Звычайная біяграфія: вёска, школа, політэхнічны інстытут, завод... Не надта густа, каб напісаць добры нарыс. Праўда, рос хутка — майстар, старшы майстар, начальнік цэха, начальнік корпуса. Варта было перакінуцца на вытворчыя справы, і чалавека нібы падмянілі. Уразіла крытычнае стаўленне амаль да ўсяго: ад арганізацыі працы да самога сябе. Мне гэта спадабалася, бо сам люблю ўсё, усіх і ўласную персону, у тым ліку, крытыкаваць. Бясспрэчна, мой герой быў кіраўніком новай генерацыі.

Выходзіў за прахадную з упэўненасцю, што нарыс павінен атрымацца. Не ведаў таго, што яшчэ сем увішных і амбіцыйных хлопцаў і дзяўчат спрачаюцца са мной за «цёплае» месца літсупрацоўніка шматтыражкі з акладам сто дваццаць рублёў.

Праз два дні (аператыўнасць — галоўнае ў такіх варунках) прынёс напісаны ад рукі нарыс. Быстрыцкі па тэлефоне вёў з некім перамовы аб рамонце свайго «Масквіча-412» і на мяне нуль увагі, нават не адказаў на вітанне.

Дарэчы, колькі помню, мой новы шэф увесь час даводзіў да ладу легкавік. Пастаянна тэлефанаваў на завод, з кімсьці дамаўляўся, прасіў вытачыць тую ці іншую дэтальку. Ці ездзіў ён калі на сваёй машыне — не ведаю, бо ні разу не бачыў яго за рулём. Быў у Быстрыцкага яшчэ адзін вялікі клопат: як адшукаць дванаццаць залатых апосталаў, схаваных Радзівіламі ў іхнім Нясвіжскім замку. Ён збіраў усе матэрыялы, якія з'яўляліся ў друку на гэту тэму, сам ездзіў у замак, калупаўся ў архівах... Карацей, стрэў яшчэ аднаго рамантыка.

Ён скончыў важную гаворку, узбуджаны і далёкі ад маіх праблем, мелькам кінуў вокам на не надта разборлівы почырк, коратка, нібы адмахваючыся ад мухі, сказаў:

— Машыністцы, машыністцы... Аддрукуе — прачытаю.

Я не стаў назаляць чалавеку, нават не спытаў, калі патэлефанаваць ці самому завітаць. Трываў цэлы тыдзень, роўна столькі, наколькі хапіла вытрымкі. Пасля цярпенне лопнула: што будзе, таго не мінаваць, набраў, вывучаны на памяць, нумар тэлефона.

— Дзе ты прапаў?! — адразу ж пачуў у трубцы ўзрушаны, крыху хрыплаваты, голас Быстрыцкага. — Прыязджай з працоўнай кніжкай. Будзем афармляць.

Гэта «ты» канчаткова пераканала, што з рэдактарам мне пашанцавала, свой чалавек. Так яно і сталася. Ён не надта ўнікаў у нашы журналісцкія клопаты і турботы. На рэдакцыйных лятучках рэй вёў адказны сакратар газеты Булыга. З ім узгаднялі тэмы, планавалі работу, вырашалі ўсе пытанні тлумнага журналісцкага жыцця. Калі ж, набегаўшыся па заводзе і адпісаўшыся, збіраліся ўжо да хаты, даволі часта заходзіў Булыга і таямніча казаў:

— Віктар Сцяпанавіч запрашае да сябе.

Абодва нашы «начальнікі» былі заядлыя карцёжнікі. За доўгім рэдактарскім сталом збіраўся ўвесь мужчынскі калектыў рэдакцыі. Заседжваліся дапазна. Быстрыцкі не любіў прайграваць, мы гэта ведалі і стараліся менавіта яго пакінуць у «дурнях». Аднак гуляў ён зусім няблага і кожны раз стараўся адыграцца. Кубак гарбаты, які звычайна ставіў перад сабою перад пачаткам гульні, так і заставаўся стаяць некранутым. Мы ж, згаладалыя, ахвотна нішчылі пячэнне і гарбату, якімі ён нас частаваў. Увогуле, наш рэдактар быў чалавекам надзвычай зямным, як кажуць, без мух, цярплівым да нашых журналісцкіх выбрыкаў і спагадлівым. Дапамог, дзякуй яму, без цяганіны і муштры ўладкавацца ў заводскі інтэрнат, які стаў для мяне прытулкам на доўгія гады.

— Менавіта, Бім, жыццё ў рабочай камуне пакінула ў душы глыбокі след. Якім яно было? Усяго хапала: і смеху і грэху. Набярыся цярпення. А я табе, збольшага, раскажу...

...Жыццё гарадскога чалавека — гэта, як безупынны бег з перашкодамі. Вясковыя падлеткі, дзяцюкі, маладыя дзяўчаты пакінулі свае хаціны і апынуліся ў вялікім, незнаёмым, чужым горадзе. Дарэчы, адзін знакаміты беларускі паэт і празаік так і сказаў: усе мы з хат. Праўда, не ўдакладніў: дзе атабарыліся? Апынуліся ж няўрымслівыя шукальнікі спакуслівага гарадскога жыцця, часцей за ўсё, у інтэрнатах: фабрычных, заводскіх, будаўнічых, студэнцкіх...

Як жа яны там пачуваюцца? Тэма, скажам шчыра, у беларускай літаратуры амаль не распрацаваная. Псіхалагічная ломка, прыстасаванне вясковага юнака ці дзяўчыны да новых, нязвыклых умоў жыцця — хваравітая і, часам, непасільная ноша. Тут і зламаныя лёсы, і расчараванні, і цяжар бытавых праблем... Адарваўшыся ад жывой зямліцы, вой, як цяжка ўкараніцца на асфальце!..

Асабіста ў мяне, сякі-такі вопыт існавання ў інтэрнацкім гамузе быў: да службы ў войску жыў у адным рабочым. Засяліўся ў заводскі інтэрнат, пазнаёміўся з рабочымі хлопцамі, пільна пачаў прыглядацца да іх жыцця-быцця, і...

пачаў сёе-тое занатоўваць у блакнот. А, калі шчыра, проста назіраць, запамінаць, аналізаваць: нарадзілася задумка напісаць аповесць пра жыццё рабочых людзей.

«Бура ў ціхай гавані» — так называлася аповесць, пісалася яна спакваля, урыўкамі. Але паступова вымалёваўся сюжэт і дзеючыя асобы. Тым больш, што фактуры, у сэнсе, само жыццё маіх герoеў, было навідавоку. Я сам быў у гушчы падзей і адным сярод усіх. Урэшце, твор вычытаны, выпраўлены і ў ім пастаўлена апошняя кропка. Куды паслаць? Калі ўжо напісаў, дык, пажадана, каб было надрукавана. Вядома, даслаў у выдавецтва.

Самае цяжкае і прыкрае для аўтара — чаканне водгуку рэцэнзента і рашэння выдавецтва. Дачакаўся! Чытаю з глыбокім хваляваннем і трымценнем у сэрцы. «...Мова аповесці Андрэя Ляшкевіча «Бура ў ціхай гавані» арганічная, беларуская ў самым глыбокім сэнсе гэтага слова. Бо хіба мала мы сустракаем пішучых па-беларуску, але так, быццам мова ім чужая?.. Дыханне народнай мовы, паўтаруся, добра характарызуе твор. А калі ёсць мова, ёсць і пісьменнік. Гэта не намі сказана, але пацвярджаецца нязменна.

Галоўны герой твора слесар машынабудаўнічага завода, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі Пятро Усцінавіч Шыбека выпісаны аўтарам надзвычай удала...

Уражвае яго чалавечнасць і дабрата, дзяржаўнае мысленне рабочага чалавека, клопат пра падрастаючае пакаленне... Аўтар паказвае свайго героя ў розных складаных жыццёвых сітуацыях: на рабочым месцы, у сям’і, заводскім калектыве, пры выкананні шматлікіх грамадскіх абавязкаў... Твор псіхалагічна насычаны, высокі і мастацкі ўзровень... Рэкамендую ўключыць аповесць у выдавецкі план... Павел Місько».

Варта зазначыць, што і масцітыя літаратары і пачаткоўцы марылі атрымаць станоўчы водгук на свой твор менавіта ад Паўла Андрэевіча Місько: сумленнага і прынцыповага чалавека, таленавітага празаіка. Мне пашанцавала. Толькі аповесць свету не пабачыла. Аднак здавацца не ў маім характары. Даслаў рукапіс у адно шаноўнае перыядычнае выданне. Праз пэўны час атрымаў адказ ад паважанага мной творцы, дарэчы, добра мне знаёмага, з якім у прыязных адносінах і па сённяшні дзень. Змяшчаю гэта пісьмо цалкам, без купюр.

«Дарагі Андрэй! Згодна з меркаваннем рэдкалегіі, аддзел прозы вымушаны вярнуць аповесць «Бура ў ціхай гавані», паколькі тэматычна яна не ўпісваецца ў «перабудовачны» план, распрацаваны рэдакцыяй на перспектыву. Твор крыху састарэў: клопаты рабочага дэпутата, дзейнасць парткама, камітэта камсамола выглядаюць не натуральнымі з пазіцый сённяшняга дня. Ведаючы, што аповесць не ўдасца «прабіць» на старонкі часопіса, было б непрыстойна тлуміць тваю галаву пустымі абяцанкамі. З павагай... 11 студзеня 1990 г.».

Грымнула перабудова! Пісаліся не толькі новыя «перабудовачныя» планы, а стваралася і новая літаратура. Неяк адразу ж нікчэмнымі сталі турботы рабочага чалавека, калгасніка, настаўніка, інжынера... Урэшце, само жыццё з яго спрадвечнымі ісцінамі Дабра і Зла адышло на іншы план. Ды што там казаць пра нейкі рукапіс?! Тут лёсы народаў некалі магутнай дзяржавы, звыклае жыццё людзей, гадамі і дзесяцігоддзямі з цяжкасцю наладжаны побыт — ужо нікога не цікавілі! Па сутнасці, на вачах разбураліся духоўнасць, мараль, эканоміка..

— А што ж, Бім, меліся атрымаць і атрымалі ўзамен? Як вядома, святое месца доўга пустым не бывае. Прыйшоў «добры і багаты» дзядзька Сорас са сваімі фондамі і грашовымі грантамі. З уласцівай яму энергіяй, менавіта ён тады і заняўся «рашэннем» праблем рабочай (і не толькі!) моладзі: яе «выхаваннем», мэтай якога было разбурэнне калектывізму, узаемавыручкі і павагі,

сумленнага стаўлення да працы, высокіх маральных паводзін у грамадстве... Усё добрае і чалавечае пачало ахайвацца. У «дзядзькі» Сораса, цюцька, і яго памагатых мелася «цудоўная» праграма, як перарабіць на свой капыл маладую Беларусь. Але людзі нашы разумныя і мудрыя. Яны хутка выкрылі — «высакародны» намер чужынца-«мецэната» і параілі яму сабраць манаткі...

І ўсё ж вынікі, як ні прыкра, хоць і не ашаламляльныя, але маюцца. Асабліва ў культурным і духоўным жыцці, у тым ліку ў літаратуры. З'явіліся новыя, адпаведныя часу, «творы» і іх пісакі-наватары. Трымаю ў руках калектыўны, выдрукаваны ў прыватным выдавецтве, высілак іх «мадэрновай» працы. Вось нейкая сумніцельная маладзіца Ала Пудзіла (псеўданім?) піша, як да Янкі Купалы завітаў Якуб Колас. Чытаю і дзіву даюся!.. Падаю скарочаны варыянт чалавечай подласці. «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі!» — набраў Купала на клявіятуры і задумаўся. У гэты час да яго прыйшоў Колас... Утаропіўся у манітор: «А што такое "пасад"»? — «Сам думаю. Нешта тут не так». — «Вядома, не так! Можа, хацеў напісаць «пасат», а не «пасад», можа памылка ў цябе? У сэнсе: «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны фальксваген-пасат між народамі!» — Колас адсунуў млоснага Купалу ад клявіятуры і выправіў «пасад» на фальксваген-пасат між народамі: «Вось цяпер іншая справа! Хоць трохі лагічна. Эх ты, клясік!»

Далей — болей подласці і пошасці. Значыцца, д'ябальская задумка руйнавальнікаў беларускай духоўнасці дала свой плён? Агідна? Так! Паратунак, пасля знаёмства з «творамі» падобнага кшталту, адзін: старанна вымыць рукі. Суцяшае адно: звіхнуліся з розуму толькі прыкормленыя. Хрыстапрадаўцы. Абсалютная большасць моладзі, як і раней, цвяроза глядзіць і ацэньвае жыццё. З павагай і пашанай ставіцца да сваіх духоўных лідараў, свайго слаўнага мінулага і цяперашняга. І, што самае важнае, як і раней, шчыруе каля станкоў, на канвеерах... Цяжкай працай, а не пустой, бяздарнай балбатнёй, здабывае свой хлеб надзённы. Жыве ў рабочых інтэрнатах у даволі складаных умовах, але падачак у «спонсараў» не клянчыць.

— Ведаеш, Бім, — зноўку звяртаюся да адзінага свайго маўклівага суразмоўцы, — давай мы палітыку пакінем палітыкам — занадта у ёй шмат падводных рыфаў. Лепш вернемся да майго творчага жыццяпісу. Возьмем, ды згадаем з табой сёе-тое, апісанае мной у шматпакутнай аповесці. Ёсць, сабачка, упэўненасць, што тое, аб чым я пісаў больш як трыццаць гадоў таму застаецца надзённым і цікавым. Чаму? «Перабудоўшчыкі» скасавалі партыйныя і камсамольскія камітэты, шмат яшчэ чаго... Ды засталося само жыццё з усімі яго праблемамі!

## Гісторыя першая: проза жыцця

Лагодным і задуменным вераснёўскім вечарам на балконе цаглянага двухпавярховага дома пасляваеннай пабудовы стаяў чалавек сталага ўзросту, бацька дваіх дзяцей, рабочы чалавек Шыбека Пятро. Павяваў ледзь улоўны свежы ветрык, ціха-ціха шапацела лісце гонкай таполі, што расла побач з домам. Заціхалі гукі вялікага горада, сплываў у небыццё дзённы тлум, на небе высыпалі і замільгалі першыя зорачкі. Сцішаны і ўціхамiраны, Шыбека стаяў, абапёршыся на балконную парэнчу, думаў пра свой непрадбачаны клопат.

Пасля адседкі года ў турме вярнуўся Міхась Кураш: былы яго вучань, здатны слесар-інструментальшчык, харошы, але задзірысты хлопец. Трапіў

на зону за бойку ў інтэрнаце. Неяк на заводзе вырашылі правесці сумесны вечар трох інтэрнатаў — двух мужчынскіх і жаночага. Задума добрая. Няхай моладзь танцуе, весяліцца і, вядома, знаёміцца. А раптам...

Але, невядома па чыёй бязмозглай ініцыятыве і з чыйго дазволу — у самы разгар вечарыны — прывезлі некалькі скрынак віна. Бяры і пі — колькі душа жадае. Калі прадуктовыя крамы пазачыняліся, пачалі прыходзіць па «пойла» аматары выпіць нават з вуліцы. Вось тут і пачалося. Гаспадары добра падпілі і распачалі бойку з захмялелымі няпрошанымі гасцямі. Не стаяў у баку і Міхась Кураш: махаў кулакамі налева і направа.

Адседзеў сваё і вярнуўся, так бы мовіць, да разбітага карыта: ні прапіскі, ні жылля... Часова працуе грузчыкам у магазіне, куды дапамагла ўладкавацца знаёмая дзяўчына — яна прадавец, і, магчыма, будучая жонка Міхася. Патэлефанаваў яму, Шыбеку, папрасіў паспрыяць, каб зноўку ўладкавацца на завод. Шыбека паабяцаў дапамагчы. Нават паспеў перагаварыць па гэтай справе з начальнікам участка Карповічам. А Міхась у дамоўлены дзень не патэлефанаваў. Праўда, папярэдне казаў, што са сваёй дзяўчынай збіраюцца ехаць да яе бацькоў у вёску...

Назаўтра, калі Шыбека ўжо сабраўся ісці ў сталоўку палуднаваць, як да яго, шырока ўсміхаючыся, падышоў Карповіч і даволі гучна аб’явіў:

— Ідзі, Усцінавіч, да тэлефона. Твая прапажа знайшлася. Чакае на прахадной. Скажы, няхай піша заяву слесарам-інструментальшчыкам трэцяга разраду. Чалавека нам усё роўна трэба браць. Ігар Першын ідзе ў войска служыць.

Шыбека ўдзячна кіўнуў галавою і, як быў у рабочым сінім халаце, так і пакіраваў да выхаду. Міхась усхвалявана прахаджваўся крыху воддаль, раз-пораз кідаючы нецярплівыя позіркі ў бок прахадной. Убачыў Шыбеку, таропка падаўся насустрач. Пятра Усцінавіча непрыемна ўразіў позірк хлопца: вінавата-ліслівы. Але ён тут жа знайшоў і апраўданне таму: «Дапякло жыццё, закруціўся. А куды падзенешся? Тут і сам, бадай што, заёрзаў бы». Каб хутчэй пазбавіцца непрыемнага ўражання, жартаўліва спытаў:

— Хваліся, як цешча стрэла?

— Усё было на самым высокім узроўні, Усцінавіч, — устрапянуўся Міхась. — Частавала, як і належыць, блінамі і кілбасой, пальцам піханай.

— А чаму ў аўторак не пазваніў? Я чакаў...

— Ды Іра, як даведалася пра нашу гаворку, дык прымусіла адразу ж заяву пісаць на звальненне. Сама пайшла да загадчыцы магазіна, сама і ў аддзел кадраў з’ездзіла. Сказала ехаць адразу ж з усімі дакументамі і кідацца перад вамі на калені — прасіць, каб дапамаглі. Так што я, Усцінавіч, ужо звольніўся. Дакументы, вось яны, — паляпаў сябе па кішэні пінжака Кураш.

— Спраўная дзяўчына твая Іра, — шчыра здзівіўся Шыбека. — А на вяселлі вашым я скора патанцую?

Міхась шморгнуў носам, панурыўся, цяжка ўздыхнуў:

— З вяселлем асечка атрымалася...

— Што так? — насцярожыўся і нават прыпыніўся Шыбека. — Сам жа кажаш— цешча сустрэла як найлепшага госця.?! Хіба цесць не ўпадабаў? То не яму жыць...

— Не-е-е, Усцінавіч! Усё нармальна і з цесцем. Чалавек ён памяркоўны. Сястра ў маёй Іры ёсць. Старэйшая на тры гады. Замуж выходзіць. На Кастрычніцкія святы і вяселле. Цешча сказала, што ў адзін год два застоллі не агораюць. Давядзецца, сказала, з год пачакаць.

— Гэта не бяда. Не гарыць. Можна і пачакаць...

— Яно-то так, Усцінавіч. У самога за душой дух ды пятух. Нават касцюма прыстойнага не маю. Калі ўсё будзе добра з работай, то за год хоць апрануся

ды на пярсцёнкі якую сотню сэканомлю. Толькі вось не ведаю, дзе жыць, пакуль тое вяселле?

— А дзе цяпер перабіваешся?

— У аднаго знаёмага. Выпівоха добры... Іра не хоча, каб там жыў. Трэба шукаць якое прыстанішча... А тут яшчэ і прапіскі няма...

Міхась унурыў галаву, па-старэчы сутуліў плечы, задумаўся. Лоб адразу прарэзалі дзве глыбокія маршчыны. Мужчыны якраз ішлі праз скверык, у канцы якога знаходзіўся будынак заводакіраўніцтва. Пад нагамі шапацела апалае, яшчэ не счарнелае ад восеньскіх дажджоў і часу лісце. Шыбека глянуў уздоўж дарожкі. Сям-там на клёнах і ліпах гарэлі барвовыя і жоўтыя агеньчыкі.

І ўжо зусім нечаканым для Пятра Усцінавіча было срэбра павуціны, што ціха гойдалася на яшчэ не збуцвелай траве заводскага скверыка. Начаканым, бо яшчэ ўчора, ды і сёння, як ішоў на работу — гэтага павуціння не было. Інакш ён бы яго абавязкова заўважыў. Гэта ж самая першая прыкмета бабінага лета! Той пары, калі ў прыродзе пануе такое ўціхаміранне, што, здаецца, вялікі грэх не тое што пакрыўдзіць чалавека, а сказаць адзін другому нават неасцярожнае благое слова; той пары, калі сонца, наталяючы людскія душы цяплом і ласкай, быццам пераконвае нас не ачарсцвець за доўгую халодную зіму сэрцам, быць спагадлівым да сваіх блізкіх і далёкіх.

Шыбека расчуліўся і каб небезуважны, нават прыгнечаны выгляд Міхася, бадай што спыніўся б на хвіліну-другую, каб палюбавацца гэтай прыгажосцю. Аднак глянуў на хлопца, стрымаўся і нават папракнуў сябе: «Добра табе цешыцца, калі ў самога ў жыцці ўсё больш-менш ладзіцца. А бядак паміж небам і зямлёю матляецца...»

«Нешта ж Усцінавіч змоўк, — захваляваўся Міхась. — Можа, ужо не рады, што звязаўся са мною? І то праўда: навошто яму я? Што я, радня якая? Сваіх клопатаў у чалавека, мабыць, не абрацца. А тут трэба ісці прасіць кагосьці за мяне, угаворваць... Не кожнаму гэта па душы...»

«Разаб’юся ў дошку, а хлопца ўладкую. Заадно і ў інтэрнат трэба пасяліць. А чаму б і не?! — аж здзівіўся і ўзрадаваўся свайму раптоўнаму рашэнню Шыбека. — За адным заходам трэба ўсё рашыць. Вось так».

«Яно-то бывае, што чужы чалавек лепшым акажацца, чымся якая радня,— цешыўся надзеяй Міхась. — Можа, і я калі выручу яго ці каго іншага».

— У нас новы начальнік аддзела кадраў палкоўнік у адстаўцы. Чалавек справядлівы, прынцыповы, але крыху сухаваты, — парушыў маўчанне Шыбека. — Дысцыпліну любіць. Так што ты, Міхась, не пярэч яму, а адказвай коратка: «Ёсць! Будзе зроблена!» Зразумеў?

— Гэта я, Усцінавіч, здолею. У мяне тут, у горадзе, робіць зямляк-сусед. Добрую пасаду мае. Вось я яго адшукаў, аднойчы званю, кажу так і так, дапамажы з работай. Ён мне адказвае: «Ёсць! Усе твае пытанні вырашым. Звані». Так у нас і павялося. Я званю-званю, кажу, мае фінансы спяваюць рамансы і ўвогуле хоць галавой у пельку, а ён як заведзены: «Ёсць! Усе твае пытанні вырашым. Звані». Каб не Іра, то, век волі не відаць, за дармаедства зноў бы мог загрымець за краты ці на «хімію».

— Мабыць, твой зямляк з пароды тых, якія акрамя свайго карыта больш нічога не хочуць ведаць, чуць і бачыць. Хапае і такіх, — і Шыбека, узыходзячы на высакаваты ганак заводакіраўніцтва, нават грэбліва махнуў рукою.

Пакуль падымаліся на другі паверх, пасля ішлі па доўгім калідоры, Міхась, хоць і адчуваў непрыемны халадок у грудзях, знешне стараўся быць спакойным. Засяроджаны, сур’ёзны, такім хлопец і ўвайшоў услед за Шыбекам у кабінет начальніка аддзела кадраў.

— А-а-а! Пятро Усцінавіч! Вітаю, вітаю, — борзда падняўся з-за стала высокі, стройны, маладжавы мужчына і працягнуў руку Шыбеку. — Даўнавата вас не бачыў. Як вашы дэпутацкія справы?

— Ды вось, Андрэй Сцяпанавіч, справы такія: трэба хлопца выручыць, памагчы стаць на правільную дарогу, — самавіта і важка загаварыў Шыбека, і Міхась падзівіўся і яго тону, і яго манеры годна трымацца.

— А мне ўжо званіў начальнік участка Карповіч, — усміхнуўся кадравік і ўпіўся пранізлівымі чорнымі вачамі ў Міхася, спытаў добразычліва, але патрабавальна: — Як думаеш далей жыць?

— Паводле савецкіх законаў, — вытрымаў позірк кадравіка Міхась і дадаў без пыхі: — Працаваць трэба. Грошы зарабляць.

— Во! — ажывіўся начальнік аддзела кадраў. — Будзеш жыць сумленна, працаваць як належыць — ніхто цябе і словам не папракне. Правільна, Усцінавіч?

— Вы, Андрэй Сцяпанавіч, самі вялікую жыццёвую школу прайшлі. Вас вучыць не трэба. Вы разумееце жыццё, — схітраваў Шыбека. — Правільна кажаце: калі ўжо дапамагаць хлопцу, то трэба яго і ў інтэрнат пасяліць. А то жыве на птушыных правах.

— Вядома, паселім. Я выпішу ордэр на пасяленне. Наш абавязак дапамагаць маладым, — ахвотна пагадзіўся кадравік, але тут жа спахапіўся: — Толькі, Усцінавіч, ордэр жа, самі ведаеце, павінны падпісаць сакратар камітэта камсамола і намеснік дырэктара па кадрах і быце... Каб там нас не паправілі...

— Нічога, нічога, Андрэй Сцяпанавіч, я сам схаджу з хлопцам, — супакоіў пільнага кадравіка Шыбека. Выпісвайце ордэр...

— Глядзі, — паківаў пальцам Міхасю начальнік аддзела кадраў. Усцінавіч бярэ цябе пад сваю адказнасць. Не падвядзі нас.

Кураш нічога не адказаў ды, па праўдзе кажучы, нічога і не збіраўся адказваць. Яго непакоіла адно: а раптам кадравік перадумае? Хацелася, як мага хутчэй выйсці за дзверы, на калідор. Тут яго бянтэжыў і гэты строгі кабінет, і ўнушальны, у рост чалавека, шырокі сейф... З напятымі, як струны, нервамі, блытанымі думкамі выйшаў у калідор і аж затрымцеў ад жадання хутчэй выказаць сваю падзяку Шыбеку.

— Пятро Усцінавіч! Век волі не бачыць! Ё-маё, — ціха але пранікнёна і ўзрушана пачаў ён. — Я вам усё жыццё буду ўдзячны... Вы — вялікі начальнік...

— Пачакай, пачакай, Міхась. Не лапачы, — перапыніў хлопца Шыбека. — Дарэчы, кідай ты гэты свой блатны жаргон. Адвыкай. Навошто табе гэта? Што было, тое быллём парасло. І запомні: ніякі я не начальнік. Я — рабочы...

— Дык жа аўтарытэт які! Гэты кадравік з вамі, ого, як паважліва гаварыў. Мяне ён і слухаць не стаў бы...

Шыбека разумеў душэўны стан хлопца, якому хацелася выгаварыцца. Ён і сам адчуваў у гэтым патрэбу. Кожны раз, калі Пятру Усцінавічу ўдавалася памагчы чалавеку, ён нібы рабіўся шырэйшы ў плячах, вальней дыхаў і ямчэй адчуваў сябе на нагах. Гэта была натура не такая ўжо і рэдкая. Шыбека мог быць безуважным да людзей удачлівых, шчаслівых, задаволеных сабой — жывуць, няхай сабе і жывуць на здароўе. Але яго як магнітам цягнула да люду неўладкаванага і непрыкаянага. Ён фізічна, да болю ў сэрцы адчуваў іх непрыстасаванасць да жыцця і, калі б мог, прытуліў бы, сагрэў цяплом сваёй шырокай душы.

— Пагаворым, Міхась, пасля. Нам жа трэба яшчэ паспець, пакуль у начальства не пачаўся абед, да намесніка дырэктара і сакратара камітэта камсамола.

Шыбека зірнуў на гадзіннік і на яго твары адбілася заклапочанасць. Ён нейкі момант маўчаў, штосьці прыкідваў у галаве, пасля прапанаваў:

— Ты пасядзі — вунь крэслы стаяць. А я да намесніка сам схаджу. Гэта адна-дзве хвіліны. Таму за сваімі справамі няма калі ўнікаць у такія дробязі.

Сапраўды, калі Шыбека ўвайшоў да Кропава, той гаварыў па гарадскім тэлефоне, на стале, чакаючы сваёй чаргі ляжала знятая трубка ўнутранага, заводскага. Да таго ж нейкая маладзіца, здаецца, з жыллёва-камунальнага аддзела, гартала перад Кропавым накладныя, а той іх падпісваў. Ён на міг адарваў ад папер вочы, зірнуў на Шыбеку, якога ведаў, кіўнуў галавою: ці то павітаўся, ці то запрасіў прысесці. Пятро Усцінавіч выкарыстаў гэты знак павагі па-свойму, падышоў да стала і паклаў крышку збоку ад накладных ордэр на засяленне. Кропаў умомант ацаніў, што ад яго патрабуецца, размашыста распісаўся і, працягваючы размову па тэлефоне, ужо не гледзячы на Шыбеку, працягнуў яму падпісаную паперку.

Камітэт камсамола месціўся паверхам вышэй. Вось туды зараз і кіравалі нямала здзіўлены імклівым ходам падзей Міхась Кураш і яго добразычлівец Шыбека.

Аднак з ходу трапіць да сакратара не ўдалося. У таго ў кабінеце сядзела чалавек восем маладых хлопцаў і дзяўчат, ішло пасяджэнне бюро. У сектары ўліку Пятру Усцінавічу сказалі, што давядзецца чакаць хвілін дваццаць, а мо і з паўгадзіны.

Каб не сноўдацца па калідоры, не мазоліць вочы, Шыбека прапанаваў:

— Хадзем на вуліцу, пасядзім у скверыку, пакурым.

Толькі прымасціліся на лаўку, Пятро Усцінавіч узрушана загаварыў:

— Ты вось, Міхась, кажаш: аўтарытэт. Не буду прыбядняцца — павага ёсць. І сярод свайго брата рабочага, і сярод, як кажуць, начальства. А чаму? Вось глядзі. Я ўжо з табою амаль гадзіну блындаю. Так? А хлопцы на ўчастку пацеюць. І гэта не толькі сёння я адлучыўся. Можа, давядзецца і заўтра, і паслязаўтра... Ну і што? Я ж рабочы! Пачну бегаць туды-сюды, сюды-туды — пагалоска ведаеш якая пойдзе і на ўчастку, і на заводзе? Скажуць, у начальства на пабягушках. А хто за мяне будзе рабіць? Не, Міхась, тут трэба меру ведаць. Я вось з табой гадзіну пабуду — запішу. Пасля зноў, калі давядзецца адлучыцца запішу. Набярэцца восем — іду да Карповіча, кажу: так і так, у гэту суботу выходжу на работу. Усе гэта ведаюць. Таму ніхто ў мяне пальцам і не поркае. Вось яно як.

— Дык я ж помню, Пятро Усцінавіч, які вы гарачы да работы! — усклікнуў Міхась. — Але ж і робат спраўна робіць. А аўтарытэту не мае.

— Гэта таксама, Міхась, правільна, — пагадзіўся Шыбека і раптам спытаў: — Ты Вальковіча памятаеш? Пры табе ён яшчэ слесарам-інструментальшчыкам рабіў?

— Вальковіч... Вальковіч... — наморшчыў лоб Кураш. — А-а-а! Гэта той, што блыху ва Уладзівасток за капейку па шпалах загоніць? Помню! А як жа!

— Ён і цяпер робіць на ўчастку. Ты яго, дарэчы, не чапай, не пад'ялдыквай. Ну яго... Чалавек такі... Благі, можна сказаць. А рукі — залатыя. Вось што цікава. Нядаўна прычапіўся: давай, Усцінавіч, зойдзем да мяне. Паглядзіш, які я рамонт зрабіў у кватэры.

— Штосьці прахіндзею трэба было, не інакш, — выказаў здагадку Міхась.

— Во-во! Я, вядома, і сам здагадваўся, але ж няёмка адмовіць чалавеку. Вось і пайшлі пасля змены.

Шыбека нечакана змоўк, пасля падхапіўся з лаўкі, спрытна злавіў жоўты кляновы ліст, які павольна круціўся і падаў долу, паклаў на сваю шырокую далонь, пяшчотна пагладзіў яго і пачаў з цікаўнасцю разглядаць:

— Табе, Міхась, ніколі не здавалася, што кляновы ліст нагадвае нашу родную Беларусь? Ну-у-у, па сваёй форме... Паглядзі, пры выпадку на карту, — і ён шчыра засмяяўся.

І тут, дваццацісямігадовы, яшчэ малады хлопец, шчыра пазайздросціў амаль пяцідзесяцігадоваму мужчыну, якога жыццё не толькі не песціла, а круціла як у бетонамяшалцы. Падзівіўся яго свежасці пачуццяў, душэўнай цеплыні, спакою і ўпэўненасці.

— То слухай, Міхась, чым усё скончылася. Прыйшлі, значыцца. Жонка яго балбоча і балбоча, маўляў, не чакала, у хаце хоць шаром пакаці... А бачу — на стол цягне і цягне... Ну, урэшце, тут нічога дзіўнага. Гэта жаночая палітыка. Чакаю, што сам Валькові заспявае.

Выйшлі мы на балкон пакурыць, а балкон у іх не балкон, а — лоджыя. Глянуў я і знямеў. Упоперак, амаль на ўсю шырыню, у некалькі ярусаў зроблены паліцы, а на іх сохне парэзаны тоўстымі лустамі хлеб. «Што гэта ў цябе?» — пытаю. — «Ат, жонка на хлебазаводзе робіць, дык як ідзе з работы, то буханку-другую і нясе». — «І шмат насушыў?» — пытаюся. — «Мяшкоў восем, — адказвае, — ды бяда — ставіць няма дзе».

Ведаеш, Міхась, стаю, гляджу на гэтыя сухары, а ўнутры ўсё сцялася, закамянела, аж у горле запяршыла, нейкі камяк падступіў. Я ж дзіцём у канцлагеры скарынцы рады быў, ды і пасля вайны ў дзіцячым доме ўдосталь хлеба не еў. А тут такое глумленне! Хацеў адразу павярнуцца і пайсці, але перасіліў сябе і пытаю: «Нечага, Сцяпан, хацеў ад мяне?» — «Ага, — адказвае, — павінны дзяліць дачныя ўчасткі, то закінь за мяне слова ў заўкаме. Цябе паслухаюць...»

— Ну і прахіндзей! — голасна здзівіўся Міхась.

— Я ж, Міхась, — госць. А госць павінен паводзіць сябе прыстойна. Я яму адно сказаў: «Машына, Сцяпан у цябе ёсць — будзе і дача. Толькі ведай, што сёння яшчэ шмат людзей на свеце, якія рады былі б вось гэтым цвілым сухарам. Памятай і пра гэта...» Спаслаўся, што не маю часу, развітаўся і пайшоў.

— Правільна, Усцінавіч, зрабілі! — горача адобрыў Кураш. — Не пашкодзіла б яму па зубах даць, а яе месяц аднымі сухарамі карміць. А то нябось ад’елася на тым хлебазаводзе? Гладкая?

Шыбека моўчкі padняўся з лаўкі, зірнуў на гадзіннік, заклапочана сказаў:

— Усё. Пайшлі, Міхась. А то камсамольцы скорыя на ногі. Уцячэ наш сакратар. Яшчэ дзень у цябе прападзе.

— Трэба ўжо сёння, Усцінавіч, дзела да канца давесці, — падхапіў Кураш. — Заўтра б пайшоў у інтэрнат уладкоўвацца, а з панядзелка на работу. Ну і абрадуецца мая Іра! — не стрываў Міхась.

Падымаючыся на трэці паверх, Шыбека злавіў сябе на думцы, што не ведае, як будзе звяртацца да сакратара камітэта камсамола. Хлопец ён малады, але ж блізка яны не знаёмыя. Ведае прозвішча — Курмановіч, клічуць Валянцін. А па бацьку? Ім не раз даводзілася сустракацца на шматлікіх нарадах, нават сядзелі амаль побач у розных прэзідыумах... Трымаўся Курмановіч не фанабэрыста, аднак, з годнасцю, якая, праўда, крыху не пасавала з яго ўзростам. Урэшце Шыбека падумаў, што ўсё вырашыцца само сабой — на месцы.

Прыйшлі яны своечасова: сакратар быў у кабінеце адзін. Сядзеў за сталом што стаяў літарай «Т», праглядваў газеты. Да светлага спартыўнага пакрою пінжака, зашпіленага на ўсе гузікі, і белай сарочкі добра пасаваў гальштук у шырокую чырвоную і вузкую чорную палоскі. На гладка паголеным ружовым твары застыў адбітак заклапочанасці і значнасці.

— Нам ордэр на засяленне ў інтэрнат падпісаць, — павітаўся і счакаў пакуль зойдзе Кураш, пачаў Шыбека, падышоў да стала, паклаў паперу.

— Што, Пятро Усцінавіч, відаць, земляка ўладкоўваеце? — шматзначна ўсміхнуўся Курмановіч. — Дык што за хлопец? Адкуль?

Не дачакаўшыся запрашэння прысесці, Пятро Усцінавіч сеў за прыстаўку да стала сакратара. Курашу паказаў на крэслы, што стаялі ўздоўж сцяны. Калі той прымайстраваўся, пачаў тлумачыць:

— Гэты хлопец калісьці ў нас на заводзе працаваў. Пасля...

Шыбека коратка пераказаў гісторыю Кураша. Скончыў, падсумаваў:

— Трэба, Валянцін, падтрымаць чалавека. З кім не бывае. Конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца.

— То ж конь, Пятро Усцінавіч. А чалавеку галава дадзена не толькі, каб шапку насіць. Думаць яму трэба было раней, а то цяпер апамятаўся, — жорстка, не зважаючы нават на прысутнасць Кураша, даводзіў Курмановіч.

«Гаворыць пра чалавека так, быццам і няма яго тут. У трэцяй асобе. Нявыхаванасць ці зазнайства?!» Аднак Шыбека стрымаўся і на гэты раз, лагодна, з жартам сказаў.

— Выхаванне вінавата. Выхоўваем моладзь у адрыве ад зямных рэалій. Я вось сёння збіраюся на работу, уключыў радыё, чую — нейкі джыгіт бадзёрым голасам спявае: трэба нам, хлопцы, жыццё прыгожае пражыць і трэба штосьці ў гэтым жыцці здзейсніць. А каб хто ў яго запытаў: што здзейсніць? Здзяйсняюць жа дзясяткі, ну, сотні, хай, тысячы! Абсалютная ж большасць, мільёны, проста працуюць, вучацца... Значыцца, лухта. Ружовы туман. І ўвогуле, як можна прыгожае жыццё пражыць без цяжкай працы? Правільна я кажу?

Курмановіч разгубіўся, ён не чакаў такой гаворкі і цяпер утароплена глядзеў на Шыбеку. А той ужо завёўся і не мог стрымацца.

— Чалавек звязаны з космасам тысячамі ніцей, але сваёй пупавінай, нервамі ён звязаны найбольш з зямлёю. Таму і павінен быць як маланкаадвод, пастаянна заземленым. Не трэба дымавых заслон і нязбытных абяцанак-цацанак. Цяпер дурняў няма, больш — разумных і, на жаль, хітрых...

— Гэта пытанне спрэчнае, таварыш Шыбека, — ачомаўся сакратар камітэта камсамола. — Здаровая рамантыка павінна прысутнічаць у выхаваўчым працэсе. Інакш мы і БАМ не пабудуем. А што датычыцца засялення ў інтэрнат, то вы ж самі ведаеце: тых, хто аслабаніўся з месцаў заключэння, паводле існуючых у нас на заводзе правілаў, мы не пасяляем у нашы інтэрнаты.

— Няма правілаў без выключэнняў, — пачаў губляць цярпенне Шыбека.

— У такім разе мне трэба выйсці на сакратара парткама, узгадніць з ім гэта пытанне...

— Валянцін! — урэшце не стрываў Шыбека . — Навошта гэты бюракратызм? Я, як член Камісіі па рабоце з моладдзю Вярхоўнага Савета рэспублікі лічу, што хлопца трэба пасяліць.

У імгненне твар Курмановіча заліўся густой чырванню, нервова задрыжэлі вусны, а на лбе выступіў пот. Ён неяк адразу зніякавеў, страціў сваю самавітасць.

— Ды я што, Пятро Усцінавіч! Канешне! Толькі каб не было ніякіх вынікаў...

— Не будзе, Валянцін. За гэтага хлопца я ручаюся.

— Во! Калі пад вашу адказнасць, то можна і падпісаць, — ажывіўся Курмановіч і ўпэўнена паставіў свой подпіс. На Міхася, здаецца, за ўвесь час размовы ён так ні разу і не глянуў...

— Магчыма, Бім, цябе зацікавіла: хто расказаў мне гэту гісторыю? Пачакай крышку — сам усё зразумееш...

***Працяг будзе.***

## Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ



### ПАДЗЯКА І ЛЮБОЎ

Гукі стогалосых звонкіх гусляў
Абдымаюць зорны небакрай:
— Божа, падарыў Ты беларусам
Самы прыгажэйшы ў свеце Край.

За красу і шчодрасць ніў жытнёвых,
Ціхіх рэк, азёраў і лясоў,
За напеўнасць мілай сэрцу мовы
Шлю Табе падзяку і любоў.

Чуеш, Божа, струнаў звон баладны
У самоце замкавых руін,
У гаркоце палыноў курганных,
Што трывожны будзяць успамін?

Паўстаюць суровыя падзеі,
У якіх сыны маёй зямлі
Баранілі Край ад ліхадзеяў,
Волю, як свой гонар, берaглі…

Божа мой, прашу Цябе я шчыра
Малітоўным голасам душы:
— Захавай навек маю Айчыну,
Ад любой напасці ўберажы!

---

*__Пецюкевіч Уладзімір Генрыхавіч__ нарадзіўся 1 сакавіка 1943 года ў вёсцы Цяцеркі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў факультэт электрыфікацыі Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі (1969). Працаваў у Будаўніча-мантажным упраўленні ў Мінску, у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту.*

*Аўтар паэтычных кніг «Узняўся белы птах» (2004) і «Струны пілігрыма» (2011). На яго вершы напісаны шэраг музычных твораў рознымі кампазітарамі.*

## БУДСЛАЎСКАЯ МАЦІ БОЖАЯ

Будслаўская Маці, заступніца наша,
Не раз памагала Ты нам устаяць:
Калі ўсё наўкола гуло і стагнала,
Малілася Ты — і знікала напасць!

З надзеяй прасветлай, з малітвай удзячнай
Глядзім мы на Твой цудатворны абраз.
Будслаўская Маці, заступніца наша,
Маліся, маліся, маліся за нас!

Прасі ў свайго Сына нам гэтакай сілы,
Каб грозны Чарнобыль адолець змаглі,
Свой Край беларускі ўсім сэрцам любілі
І мову бацькоўскую ў ім берaглі!

Прасі ў Пана Бога, каб сонца і зоры
Святлей асвяцілі нам шлях да Нябёс,
Каб мы ўжо ніколі не зведалі гора:
Ні жальбы сіроцкай, ні ўдовіных слёз!..

З надзеяй прасветлай, з малітвай удзячнай
Глядзім мы на Твой цудатворны абраз.
Будслаўская Маці, заступніца наша,
Маліся, маліся, маліся за нас!

## КУРАПАЦКАЯ МАЛІТВА

Даруй грахі, прабач грахі нам, Божа ўсемагутны,
Знімі з душы правінаў цяжкі груз,
Каб курапацкіх лютых здзекаў і пакутаў
Не зведала ўжо болей Беларусь.

Дабраславі, дабраславі нас, Божа міласэрны,
Разладу каб не мелі між сабой
І Курапатаў новых цень не лёг страшэнны,
Акроплены крывёю і слязой.

Не дапусці, не дапусці, Ўсявышні, дзён гаротных,
Перадсмяротных стогнаў на зямлі,
Не дапусці, каб мы шукалі ворагаў народа,
Сваіх братоў забойцамі былі…

Даруй грахі, прабач грахі нам, Божа ўсемагутны,
Знімі з душы правінаў цяжкі груз,
Каб курапацкіх лютых здзекаў і пакутаў
Не зведала ўжо болей Беларусь.

## БАГІНЯ ВЯСНЫ

Не налюбавацца мне табой ніколі:
Ты — рабінка ў садзе, ты — бярозка ў полі.
А якія вочы! — сінь вады азёрнай.
А якія косы! — залатыя промні.

О вясны багіня, прыгажуня Ляля,
Без цябе тужліва мне ў бязродных далях,
Без цябе не бачу веснавой сцяжыны,
Без цябе не чую трэляў салаўіных!

Першае спатканне мроіцца і сніцца:
Ты ідзеш насустрач мне ад вір-крыніцы
І даеш напіцца мне вады з вядзерца…
З той пары дзівоснай у маім ты сэрцы.

З выраю вярнуся жоравам самотным,
Песняй пагукаю ля тваіх варотаў.
Ты мяне пачуеш, ды не выйдзеш з дому —
Ты сваё каханне аддала другому…

О вясны багіня, прыгажуня Ляля,
Без цябе тужліва мне ў бязродных далях,
Без цябе не бачу веснавой сцяжыны,
Без цябе не чую трэляў салаўіных!

## НЕ ЧАРУЙ МЯНЕ, КАЛІНА

Не чаруй мяне, каліна, белацветам незабыўным,
Я і так не сплю начамі ў старане чужой.
Не сумуй, краса-дзяўчына, што я родны дом пакінуў
І кружу, кружу па свеце, нібы вецер той!

Сніцца-мроіцца мне часта наша возера юнацтва:
Чайкі белыя і плёскат вёсел над вадой,
Дзе любілі мы з табою плысці ў чоўне мараў ясных,
Разлівацца над зямлёю песняй веснавой.

А вярнуўшыся дадому, не маглі расстацца доўга
І наслухацца ля весніц трэляў салаўя.
Сны вяшчуюць, дзякуй Богу, мне зваротную дарогу —
Абдыму цябе я скора, любая мая!..

Не чаруй мяне, каліна, белацветам незабыўным,
Я і так не сплю начамі ў старане чужой.
Не сумуй, краса-дзяўчына, што я родны дом пакінуў
І кружу, кружу па свеце, нібы вецер той!

* * *

Адкляпаў, як мог, касу,
Адмянташыў,
Луг скасіў — вясны красу —
Не заўважыў.

Перайшоў на луг другі,
Што пад гаем.
Там, у пояс, мурагі
Спатыкаю.

Не любуюся красой,
Хоць і звабна, —
Трэба ўправіцца з касьбой
Да жніва мне.

Будзе вырай за жнівом,
Развітанне
З каласком і васільком,
Як з каханнем.

## ПРЫЛЯТАЙ, ЗЯЗЮЛЬКА

Мілае зязюльчына «ку-ку»
Над жытнёвым полем празвінела,
Пажадала шчасця каласку
І самотным рэхам паляцела.

Ой, мая зязюлька, сумна мне.
Ну чаму так рана адкувала?
Змоўкла ты — і сэрца не пяе,
Веснавой крылатасці не стала.

Прылятай, зязюлька, прылятай,
Хоць у сны мае, жаданай госцяй,
Не давай журыцца, не давай
Па маёй натхнёнай маладосці!

Ажыву я цёплаю вясной —
Даляціць твой голас дзіўны з бору.
Буду зноў, зязюлька, я з табой
Славіць песняй родныя прасторы.

Жаўруком-званочкам дзень пры дні
Буду я кружыцца над зямлёю,
А калі стамлюся ў вышыні,
Папрашу цябе я ўсёй душою:

— Накувай, зязюлька, накувай
Мне яшчэ гадоў крылата-ўзнёслых.
Прыгадай, вяшчунка, прыгадай
Ты мае былыя цуда-вёсны!

* * *

Па кладцы іду я,
Па вузенькай, хісткай,
Унізе бушуе
Вада ў камяніскax.

Іду, балансую,
Бы канатаходзец,
А вецер спрабуе
Хадзе перашкодзіць.

Ён безданню грозіць —
Душа ледзянее.
Ды ўсё гэта дробязь,
Калі ёсць надзея

І вера ў самога
Сябе, як у Бога,
Калі ёсць трывога,
Што кліча ў дарогу,

Калі ёсць такое,
З чым сэрца — навечна,
Як з роднай зямлёю,
З усім чалавечным...

Па кладцы іду я,
Па вузенькай, хісткай,
Унізе бушуе
Вада ў камяніскax.

* * *

У жыцці часцей бывае гэтак,
Як на той завеянай дарозе:
Па сумётах вецер — крутавертам,
Ты брыдзеш і валішся ў знямозе.

Падымаешся — і зноў наперад,
Бо ёсць мэта (свецiць, як агеньчык),
Да якой ты дойдзеш — моцна верыш,
Перад бурай з роспачы не ўкленчыш.

Зубы сцяўшы — крок за крокам да́лей,
Ледзянымі голкамі прашыты,
Бо ёсць Неба з неспазнанай тайнай,
Бо ёсць Казка, дзе яшчэ не быў ты.



Юры СТАНКЕВІЧ

# БРАМНІК ЗАЎЖДЫ САМОТНЫ

*Аповесць*

## Замест уступу

*Ён нягучна пастукаў у дзверы і на Максімава «не зачынена» ўвайшоў у цесны куток, дзе ледзь месціліся ложак, падрапаны стол і рыпучае крэсла. На выгляд яму было каля сарака гадоў: сярэдняга росту, у чорным плашчы, вакол галавы з гладка зачасанымі назад калеру саломы валасамі нібы гайдалася вузкае кола святла. Каб не гэта, дык, адным словам, дзядзька з вуліцы.*

*— Вы хто такі? — здзіўлена спытаў дванаццацігадовы Максім Гудаў. — Калі да бацькі, то ён спіць.*

*— Я да цябе, Максім, — сказаў незнаёмец і дадаў сарамяжліва: — Я — анёл. Імя — Херувім. Прыйшоў, каб выканаць тваё адзінае жаданне. Заўваж — адзінае.*

*— Нешта не верыцца.*

*— Нікому не верыцца.*

*— А што ад мяне трэба? — крыху памаўчаўшы, пацікавіўся хлопчык.*

*— Загадаць. Толькі і ўсяго. Да кожнага чалавека ў дзяцінстве прыходзіць нехта з анёлаў. Заўваж, толькі аднойчы. Хто што просіць. Адзін — цукерак, другі — ровар, трэці... Але... Што жадаеш ты? Хвіліну на роздум. Больш часу не маю.*

*— Не трэба хвіліну, — хлопчык паказаў рукой на сцяну, дзе вісеў плакат з выявай футбаліста. — Хачу быць галкіперам. Варатаром. Такім жа вялікім, як ён.*

*Анёл падышоў да сцяны, угледзеўся ў плакат і сказаў:*

*— Такім ты быць не здолееш, бо яму, калі ён яшчэ выступаў, не было роўных. А ўсё вялікае — непаўторнае. Але тваё жаданне я занатоўваю. Ты не пашкадуеш. Вось тут, на плакаце, стаўлю подпіс. Цяпер — бывай.*

---

***Станкевіч Юры Васільевіч*** *нарадзіўся 21 студзеня 1945 года ў горадзе Барысаве. Працаваў на фабрыках і заводах, вучыўся ў вячэрняй школе. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1969 г.) Працаваў у барысаўскай аб'яднанай газеце «Камуністычная праца», у часопісах «Маладосць», «Крыніца».*

*Аўтар кніг прозы: «Луп» (1988), «Анёлы на бальшаку» (1992), «Армагедон 1895» (2000), «Любіць ноч — права пацукоў» (2000), «Сатырыкон» (2003), «Апладненне ёлупа» (2005), «Мільярд удараў» (2008), «П'яўка» (2010), «Шал» (2012).*

*— Бывай і ты, — развітаўся хлопчык і... прачнуўся. У пакойчыку нікога не было. Максім Гудаў перавёў позірк на сцяну. Знаёмая постаць у карычневай футболцы з выявай тыгровай галавы. Мужны квадратны твар, кароткая стрыжка.*

*«Хасе Луіс Фелікс Чылаверт Ганселес, — прачытаў ён у каторы раз. — Парагвайскі галкіпер. Нарадзіўся 27 ліпеня 1965 г. у г. Лука. Рост 1 м. 92 см. Удзельнік двух чэмпіянатаў свету. Аўтар адзінага ў свеце «хет-трыка» сярод варатароў. Выключны пенальтыст і выканаўца штрафных udараў. Забіў за спартыўную кар'еру 62 галы».*

*...Але што гэта?*

*Хлопчык ускочыў і ўсутыч наблізіўся да плаката на сцяне.*

*Знізу нешта высвечвалася, нейкі надпіс.*

*І раптам ён прачытаў: «Згода. Херувім».*

## «Гранд-стадыён». Францыя. Ліон.

Са свайго месца на «банцы» — лаўцы запасных, васямнаццацігадовы Максім Гудаў убачыў, як іх асноўны варатар — трыццацігадовы Сяргей Румаш, выскачыў на перахоп і ў паветры, у скачку сутыкнуўся з абаронцам сапернікаў з «Ліона», які незаўважна, з-за спіны, падключыўся да атакі. Цёмнаскуры, мажнага целаскладу «лібера»[1], ішоў на «набяганне» з выстаўленым каленам, што і вырашыла лёс Сяргея Румаша ў гульні.

Збіты з ног, ён паімкнуўся ўзняцца, але спробы адна і другая, былі дарэмныя. Суддзя на полі, англічанін Стайлз, у жыцці паліцэйскі, паказаў цёмнаскураму абаронцу ўсяго толькі «гарчычнік» і спыніў матч. Выклікалі ўрача і адразу «брыгаду». І не паспелі яшчэ пакласці асноўнага варатара Румаша на насілкі, каб вынесці з поля, як «коўч»[2], галоўны трэнер — Пал Палыч Грак, схапіўся спачатку за галаву, спадзяваўся, можа, што будзе выдаленне, але хутка апамятаўся і змрочна кінуў яму: «Размінайся ў тэмпе і — на паляну».

Замена. І калі ўжо выбягаў, нацягваючы пальчаткі, да сваёй штрафной, пачуў услед: «Пацярпі да перапынку, не прапусці».

Пакуль бег, падумаў, што вось ён, галкіпер з дубля, якога, лічы, выпадкова павезлі за іх каманду — «Рэйду» на адну шаснаццатую Лігі Еўропы, нечакана (верагодна толькі на гэты матч) будзе стаяць за «аснову». І ўсё з-за таго, што атрымаў траўму другі варатар, а цяпер, выцякае — і першы, Румаш. Менавіта яму цяпер давядзецца выцягнуць за ўсіх увесь цяжар, і на які момант жахнуўся, але думаць ужо не было ні часу, ні магчымасці, тым больш — баяцца. Толькі прыгадалася: а як зрабіў бы на яго месцы вялікі Луіс Чылаверт, яго кумір?

А вось і яго «гаспадарка». Вароты, як і паўсюдна, памерам сем трыццаць два на два сорак чатыры метра, ды штрафная перад імі. Ды яшчэ мяч. Ён выбіў яго далёка наперад — няхай адчуюць яго ўпэўненасць. Стадыён загудзеў. Увогуле цяперашняя гульня — па сутнасці, суцэльны для гаспадароў гандыкап[3]. Каб выйсці ў чарговы раўнд, яго камандзе трэба альбо нічыя з нулявым вынікам (і тое, у залежнасці ад таго, як згуляюць у групе), альбо перамога. Але, па настроі, па ўнутранай перакананасці (а ён адчуваў яе), гатоўнасці, імпэту да перамогі — не было. Не «каціў» у іх тэму і так званы «аўтобус» — звышаба-

[1] Лібера (сп.) – свабодны абаронца.

[2] Коўч *(з анг.)* — трэнер.

[3] Гандыкап *(англ.)* — фора.

ронная тактыка. Каб стварыць сапраўдны «бетон» у абароне, рэальных сіл не хапала. І спадзявацца ім заставалася хіба толькі на ўдачу.

Ходу матча ён прадбачліва чытаў. Гульню «Ліона» вёў іх плэймейкер Бурэ — паходжаннем з Метраполіі, белы, вопытны распасоўшчык і дырыжор. Крайнія нападаючыя, часта мяняючыся месцамі, раз-пораз разрывалі абарону. Урэшце, адзін з гэтых «аўтсайдаў», Фаркон, выскачыў на ўдар, і ён толькі на ўзроўні падсвядомасці выцягнуўся ў струну і адбіў мяч кончыкамі пальцаў. Стадыён расчаравана выбухнуў тысячамі галасоў. «Сэйв![1] — пранеслася ў галаве. — Выдатны сэйв!» — і, падымаючыся, убачыў краем вока, як «коўч» Палыч далёка за броўкай ускочыў з лаўкі і ўскінуў угору вялікі палец. Толькі цяпер ён унутрана супакоіўся. Гэты ўдалы сэйв надаў яму ўпэўненасці. Ён стаў адрозніваць ігракоў з каманды садпернікаў, успамінаў урыўкамі іх характарыстыкі з прагляду фрагментаў гульняў, з перадматчавай разборкі, якой так усякі раз надаваў значэнне Палыч. Толькі б не «праваліліся» абаронцы, — мільгала ў яго галаве. Вытрымаць і не прапусціць. Да перапынку, між тым, яшчэ заставалася хвілін трыццаць.

Але ўжо праз хвіліну іх «вінгер» — ігрок, які любіць прарывацца да чужых варот па броўцы, падманным фінтом праскочыў абаронцу Жалкевіча (гэх, Жэня, Жэня!) і зрабіў хітрую і дакладную перадачу, якой і пачалася знакамітая чатырохходовая камбінацыя — нібы з вучэбнага фільма, і замкнуць яе ўжо набягаў усюдыісны Бурэ.

— Я! — закрычаў тады ён, як звычайна крычаць галкіперы, калі бяруць на сябе адказнасць за небяспечны эпізод, і рвануўся таму насустрач, па магчымасці закрываючы целам сектар варот. Але ўсё той жа Жэня Жалкевіч, тупа раззлаваны і ўзбуджаны сваім папярэднім пралікам, літаральна скасіў Бурэ проста ў пачатку штрафной. Тут як тут бег ужо да іх рэферы Стайлз са сваёй знакамітай з’едлівай усмешкай на твары.

Лысы яго чэрап блішчэў ад поту. Масіўныя сківіцы сціскалі свісток. Не марудзячы, ён крыважэрна паказаў на «кропку» — адзінаццаціметровую адзнаку.

Пенальці.

Стадыён падняўся і зароў.

Што ж, падумаў ён. Такія моманты для галкіпера непазбежныя. Гульня ёсць гульня. Толькі не расслабіцца, узважыць усё: хто будзе біць, які спакваля кіне позірк і ў які вугал варот, біць з якой нагі, і, адпаведна з тым, як пачне разбег? Пачуццё самоты раптоўна нахлынула на яго і так жа імгненна адступіла. Так, ён адзін, і гэта нармальна.

Дык, усё-такі — хто? Мяч, тым часам, забраў Стайлз і сам панёс і паклаў яго на «кропку». Урэшце, як і чакалася, да яго «скіраваў» пацярпелы.

Дык вось — Бурэ. Ён і будзе выконваць. Цяпер варта сачыць за ім, за кожным рухам. Так, паправіў мяч, уладкаваў яго на самы кончык адзнакі — усё-такі на некалькі сантыметраў бліжэй да варот. Знаёмая хітрасць. Кінуў імгненны позірк у адзін вугал, у другі. Панізу. Так, хутчэй за ўсё будзе біць нізам у адну з «шасцёрак» — ніжніх зон створа варот ля штангі. Пэўна, ужо прыгадаў, што рост галкіпера, яго, Максіма, рост, больш за сто дзевяноста, і, значыць, ён можа выцягнуць верхні мяч, калі, вядома, прыгадае вугал. А вось ніжні — наўрад. Пайшоў і спыніўся для разбегу.

Што рабіць? Узяць пенальці — для варатара першая і ганаровая справа. Але ж зрабіць гэта заўсёды вельмі цяжка: прыкладна, адзін шанец з дзеся-

---

[1] Сэйв (сп.) — па-майстэрску адбіты мяч.

ці. Кожны з галкіпераў у такіх непажаданых выпадках выкарыстоўвае свае асабістыя напрацоўкі і хітрасці. Ён раптам успомніў адну з парад трэнера Палыча на гэты кшталт — збіць праціўніка з панталыку — і падумаў: а раптам спрацуе?

Максім хіснуўся ў правы бок, нагнуўся і зрабіў выгляд, што падымае з зямлі ці то каменьчык, ці то страчаны кімсьці шып ад бутсы. Той, хто будзе біць, вырашыць, што варатар кінецца менавіта ў гэты правы ніжні вугал, дзеля чаго цяпер і рыхтуецца, а каб не атрымаць траўму, нешта падбірае з зямлі.

З іншага пункту гледжання — гэта можа быць псіхалагічны падман. Але ў выканаўцы няма часу думаць. Яго падсвядомасць хістаецца ад супрацьлеглых маланкавых паімкненняў, і … хутчэй за ўсё ён выбірае менавіта супрацьлеглы вугал, а не той, адкуль нешта падабрана.

Варатар Максім Гудаў прыгнуўся і на які момант замёр у чаканні.

Чым будзе біць Бурэ? «Пад’ёмам?» «Пырам?» «Шведкай» — гэта значыць, знешнім бокам ступні, альбо ўнутраным — «шчоткай»? А то яшчэ «паненкай» — знакамітым ударам па навеснай траекторыі даўняга вядомага чэшскага іграка Паненкі?

Урэшце, як бы ён ні біў — галоўнае ўгадаць, у які бок паляціць мяч. Дакладней — у які вугал? Сачыць за разбегам. Так, свісток Стайлза. Разбягаючыся, Бурэ ледзь перамясціўся ў правы ад яго бок. Значыць… будзе біць нізам і ў левы вугал. Верагодна, усяго толькі верагодна. Але…

І ён, на якое імгненне раней, апераджаючы ўдар Бурэ, кінуў цела і правую руку ў ніжні левы вугал, і … мяч адчувальна драпнуўшы кісць, змяніў напрамак, чыркнуў па бакавой стойцы і — вылецеў за вароты.

Стадыён зашумеў, узарваўся.

— Так! — закрычаў і ён разам з ім, і радасць выбухнула ў ім, і, высока падскочыўшы, ён сакануў рукой паветра. — Так! Я ўзяў пенальці! Так! Выцягнуў з самага вугла!

Упэўненасць спакваля авалодвала ім. І хоць пачуццё самоты засталося, амаль што знікла боязь прапусціць недарэчны гол, якога так прагнуў цяпер увесь саракатысячны натоўп тутэйшых заўзятараў, ды яшчэ ў сто раз большая іх колькасць перад экранамі тэлевізараў. І не меншая колькасць прыхільнікаў яго каманды там, на радзіме, спадзявалася зараз на яго спрыт і ўменне валодаць сабой і сітуацыяй, і, адпаведна, спадзявалася, што ён не прапусціць гол.

Валодаць сабой — вось за што ён увесь час змагаўся. Максім часам небеспадстаўна лічыў, што з нараджэння надзелены хоць і ў малой ступені зародкамі аўтызму, гэтай хваробай стагоддзя, пра якую раней амаль нічога не ведалі, але цяпер, дзякуючы распрацоўкам вядомых псіхааналітыкаў, азнаёміліся многія. І ён раз за разам перасільваў у сабе падсвядомае жаданне схавацца, зрабіцца непрыкметным, незаўважным ад усіх. Тым больш у такія адказныя моманты, як гэтая лёсавызначальная для іх усіх гульня.

Між тым гульня набывала своеасаблівую ўнутраную напружанасць. У гаспадароў пляцоўкі не атрымаўся «хуткі» гол, якога пэўна дабіваўся на ўстаноўцы перадусім іх трэнер, і каманда па ходзе матча змяняла рытм. Барацьба ў асноўным цяпер ішла ў цэнтры поля, дзе асноўная нагрузка прыходзілася на паўабаронцаў. Тут ужо амаль усё вырашала тэхніка прыёму і адпасоўкі мяча ў адзіны рух, пра што ім бесперапынку даводзіў патрабавальны Палыч, і што яны штодня адпрацоўвалі на трэніроўках.

Хвілін за пятнаццаць да перапынку ён ужо двойчы выходзіў на перахват пры падачы корнераў[1] і абодва разы паспяхова. Але расслабляцца не выпадала. Метрах у дваццаці ад яго штрафной пляцоўкі абаронца Віталь Шаўцоў (гэх, Віталь, Віталь!) неабдумана «заваліў» форварда сапернікаў, вопытнага і хітрага і, як ён ведаў, схільнага да сімуляцыі Анры Базэна. Штрафны. І вельмі небяспечны за нападзенне на іграка ў атацы. У дадатак, як і чакалася, Стайлз палез у кішэню і выцягнуў «гарчычнік».

Максім захваляваўся, паказаў абаронцам, каб правільна і хутчэй паставілі сценку, сачыў за тым, што адбывалася ля мяча. Намер біць выказалі двое, яшчэ адзін адцягнуўся крыху назад. Хутчэй за ўсё ён будзе біць верхам і пад распасоўку. Найграная камбінацыя. Стайлз адступіў у бок і свіснуў.

Мяч, хітра закручаны «шчоткай», імкліва вылецеў з-пад удару і пайшоў па крывой у левы верхні вугал варот. І цела яго па загадзе нервовых клетак, якія імгненна аддалі каманду мышцам, ірванулася ў той самы левы верхні, туды, у «дзявятку».

У скачку ён адчуў, як пальцы рукі ў пальчатцы сутыкнуліся з мячом, і той пайшоў уверх, за перакладзіну, на вуглавы.

Сэйв!

Стадыён расчаравана зашумеў.

## Пяццю гадамі раней

Спякотным летнім вечарам, а ў наваколлі стаяла ўстойлівая гарачыня, у кватэры дырэктара і адначасова трэнера абласной дзіцячай футбольнай школы Міхаіла Катовіча прагучаў званок. Катовіч зняў слухаўку. Званіў дзіцячы трэнер з раённай спартшколы, яго даўні знаёмы Пётр Сманцар.

— Міхась! — сказаў ён пасля некалькіх дзяжурных фраз, — я знайшоў у пасёлку Лаўніца — гэта тэрыторыя нашага раёна — цікавага хлопчыка. Яму трынаццаць год, і ён гуляе ў незвычайны футбол. Табе варта залічыць яго да сябе — не пашкадуеш.

— Што ж у ім такога незвычайнага, Пётра?

— Гэта — будучы варатар ад Бога. Я выпадкова паглядзеў адну мясцовую дзіцячую гульню. Ён адзін варты ўсёй каманды. Заўтра ў іх фінал на мясцовай «паляне». Ты б падаслаў каго са сваіх скаўтаў[2].

— Не магу. Сам ведаеш — час адпачынкаў. Схадзі, калі зможаш. За мной, як кажуць, не прападзе.

— Атлусцеў ты там у вобласці. Ведаеш, што і я — у адпачынку, і футбол — не мой профіль. Бывай!

І трэнер Пётр Сманцар раздражнёна кінуў слухаўку на рычаг.

Але назаўтра, калі крыху астыў, ён, быццам нехта штурхаў, усё-такі пайшоў на лаўніцкі мясцовы стадыёнчык, занядбаны і неўпарадкаваны, дзе ўжо пачыналася традыцыйная летняя фінальная гульня дзіцячых каманд. Гульня, амаль без заўзятараў, праходзіла спачатку даволі вяла. Варатар Максім Гудаў, які і быў мэтай яго інтарэсу, высокі, гнуткі хлопец, узяў пару мячоў, адзін з якіх, на думку трэнера Сманцара, быў стоадсоткава галявы, потым засумаваў, але неўзабаве стаў праяўляць сваю незвычайную актыўнасць: камандаваў абаронцамі, гнаў іх наперад, выбягаў з варот далёка за штрафную, і, урэшце, выканаў пенальці: сам забіў гол.

---

[1] Корнер (сп.) — вуглавы ўдар.

[2] Скаўт *(з англ.)* ––чалавек, які вядзе разведку і вярбоўку ігракоў для свайго клуба.

* * *

Трэнер Смансар, між тым, вырашыў давесці сваю добраахвотную місію да канца, вылавіў пасля гульні хлопчыка, прадставіўся і прапанаваў:

— Не супраць, калі я пагавару з тваімі бацькамі? Пара табе, братка, рэалізавацца ў жыцці.

Высокі, пад сто восемдзесят — вызначыў Пётр Смансар — хлопчык, зацікаўлена агледзеў незнаёмага дзядзьку шэрымі вачыма, нерашуча правёў далонню па коратка стрыжанай светлавалосай галаве.

— Навошта? І пры чым тут бацькі?

— Табе варта пачаць ездзіць на трэніроўкі ў абласную футбольную школу. Упэўнены — цябе залічаць.

— Праўда? — вочы хлопчыка ўспыхнулі радасцю.

— Зуб стаўлю, — пажартаваў трэнер Пётр Смансар. — Там у мяне сябра дырэктарам — Міхась Катовіч. Былы футбаліст. Можа, чуў пра такога?

— Чуў, — памаўчаўшы, сказаў хлопчык, — ён калісьці гуляў за «Дынама». Так?

— Добра, што ты ведаеш. Дык згода? Тады паехалі. Вунь і мая тачка стаіць.

Але адказам на прапанову была нечаканая зацятасць. Максіма нешта турбавала.

Усё высветлілася, калі трэнер Смансар разам з хлопчыкам зайшлі да таго ў кватэру. Яшчэ ў кутку, у прыхожай, ля вешака, ён мелькам убачыў сетку з пустымі бутэлькамі, убогую мэблю, пашарпаныя шпалеры, пачуў пах тытуню. І ўвогуле, пах неўладкаванасці і галечы.

Бацька Максіма, азызлы, з нездаровым тварам, сядзеў на кухні і паліў. Ад яго да таго ж ледзь улоўна несла алкаголем.

— У спартыўную школу? — спытаў ён. — Ну, дык у чым праблема? На здароўе. Няхай трэніруецца.

Трэнер Пётр Смансар сеў на зэдлік, які яму прапанавалі, і пачаў тлумачыць. Да школы адсюль каля пятнаццаці кіламетраў. Туды ходзіць аўтобус. Трэніроўкі спачатку па тры разы на тыдзень.

— Аўтобус бясплатны? — перапыніў яго бацька хлопчыка.

— Не. Білеты і ўзмоцненая пайка — гэта ўжо ваш клопат.

— Тады, я — пас. Вам трэба — вы і аплачвайце.

Нічога акрэсленага не сказала і маці хлопчыка, якая вярнулася з працы (бацька, як аказалася, быў увогуле часова беспрацоўны), крывіла вусны ў няшчырай усмешцы, таксама запаліла. Ёй было відавочна цяжка ад прысутнасці незнаёмца.

Трэнер Пётр Смансар развітаўся і сышоў.

— Не крыўдуй на нас, Максімка, — адразу звярнулася да сына маці. — Прысядзь, паеш. Вось бацька ўладкуецца на працу — адразу замовім табе, што трэба.

— А пакуль тое, можа, па бутэлечку для вас збегаць? — з’едліва спытаў ён. — Ці пустую тару здаць? — І, грукнуўшы дзвярыма, выскачыў з кватэры. Так, ён крыўдаваў на бацькоў. І не за тое, што не знайшлі сябе ў жыцці, а за тое, што пачалі піць. З іншага боку — бацькоў не выбіраюць. Вось вырасце крыху — і ўсё будзе інакш. Гэ-х-х, як яму хочацца паступіць у тую знакамітую школу, стаць футбалістам! Галкіперам. Такім, як вялікі Луіс Чылаверт. Напісаць бы яму ліст, спытаць парады. Але…

Максім спыніўся ў роспачы. Сонца перайшло ў зеніт. У двары было пуста. Пагаварыць з кім? Няблага б з Юляй, дзяўчынкай з паралельнага шостага «Б»,

з якой зусім надаўна пачаў сябраваць. Дык яна, пэўна, на лецішчы. Пайду да цёткі — урэшце вырашыў Максім.

* * *

— Заходзь, — абрадавалася пляменніку цётка Люба. — Абедаў сёння? Гавары праўду.

— Не паспеў.

— Нешта ты змрочны. Зноў з бацькамі дрэнна? Ну, можаш не адказваць, і так усё бачна. Сядай за стол — будзеш есці.

Праз гадзіну ён выклаў цётцы ўсё. Любіў яе. І што бацькі п'юць, і што ён вельмі хоча трэніравацца ў спартыўнай футбольнай школе, і што няма грошай на праезд. І ўвогуле — у яго дома няма нават якога таннага камп'ютара і таго горш — ён не мае мабільніка. А ён так хоча глядзець у запісе матчы з удзелам свайго ўлюбёнага Луіса Чылаверта. І што надакучыла і сорамна прасіць, каб яму далі гэтых запісаў-праглядаў, асабліва чэмпіянатаў свету, у сяброў аднакласнікаў, калі заходзіць да тых у госці.

Цётка Люба слухала, ківала, думала нешта сваё.

А праз дзень уручыла яму мабільны тэлефон і грошы — на праезд.

— Месяцы на тры хопіць, — дадала яна, — а потым разбяромся. Не згубі мабільнік. Гэ-х ты, сваяк мой гаротны. А камп'ютар, ужо прабач, пабагацееш — купіш сам. Ахвярую, чым магу.

Ён горача дзякаваў. Абяцаў цётцы дапамагаць, чым можа. Ведаў і ўвесь час памятаў, што цётчына дачка Вольга захварэла на анкалогію і памерла ў дзіцячым узросце, а муж сышоў да маладой, і што цётка Люба ўвесь час адна. І не сказаць, што заможная.

## «Гранд-стадыён». Францыя. Ліон

Корнер — гэта заўсёды вялікая небяспека для галкіпера. Не раз і не два Палыч, як трэнер, паўтараў яму, што асцярожнасць — не загана, і кожны выхад з варот на перахват мяча павінен быць маланкавы і з матэматычнай дакладнасцю пралічаны на адпаведнасць, інакш ствараецца рэальная рызыка прапусціць крыўдны мяч. У кожнай камандзе існуюць засакрэчаныя найграныя камбінацыі на падачу вуглавога ўдару. Выконвае такі вуглавы звычайна адзін і той жа ігрок, альбо два. Перадусім ён калі-некалі сігналізуе, як будзе біць, у якую кропку ля варот, каб туды набягалі паўабаронцы, форварды ці падкраўся хто з высакарослых бекаў[1], альбо проста разыгрывае мяч кароткім пасам на выхад у штрафную саперніка.

…Цяпер гаспадары «паляны» спяшаліся, і чарговы вуглавы, не раздумваючы, разыгралі кароткім пасам у адзін дотык. Мяч падхапіў паўабаронца Нумба — увішны мурын з шапкай заплеценых валасоў на галаве — дрэдамі, і пачаў змяшчацца да цэнтра, неблагім дрыблінгам абышоў паўабаронцу Віталя Шаўцова, а пасля аднаго з бекаў — Максім нават не паспяваў заўважыць каго, пракінуў мяч сабе пад удар, пад левую нагу. Знаёмы яго фінт для варатара. Максім памятаў гэта з папярэдняга прагляду відэазапісу. Тым не менш удар заспеў яго знянацку. Мяч пайшоў верхам, у правую дзявятку. Менавіта туды, захапіўшы, як рэзерв на паратунак,

[1] Бек *(з англ.)* — абаронца.

некалькі дзясятых доляў секунды і кінуў ён у скачку сваё цела. Ад рукі мяч зрыкашэціў у перакладзіну і непрадказальна вылецеў назад, у штрафную, куды ўжо набягалі і форварды гаспадароў, і свае бекі. У мітусні апошнія і выбілі мяч за бакавую.

«Сэйв!» — падумаў ён, падхопліваючыся з зямлі.

Стадыён зноў расчаравана ахнуў. Напруга крыху аслабела, але пільнасць, як ён адчуваў, не варта было губляць нават на імгненне. Не дарэмна, як ён ведаў, за дзевяноста хвілін матча варатар губляе ў вазе ад трох да пяці кілаграмаў.

Між тым, час хоць, на яго погляд, вельмі марудна, але няўмольна для гаспадароў, бег да перапынку. Няўмольна, бо ісці ў распраналыню, не забіўшы гола, яны, гаспадары пляцоўкі, не жадалі. Пэўна, на гэта і была ўстаноўка іх трэнера. Забіць. Хоць бы адзін мяч. Тады і з'явіцца ўпэўненасць у сваіх сілах, і наадварот — пачуццё прыгнечанасці ў гасцей. Як ужо ведаў Максім — у спартыўнай прэсе прагназавалі вынікі дзвюх сустрэч. У мясцовых сродках масавай інфармацыі ў спартыўнай прэсе цалкам аддавалі перамогу сваёй камандзе, і, наадварот, лічылі іх, футбалістаў з невядомай Беларусі, — аўтсайдарамі, вартымі памяркоўнай паблажкі, ледзь не пагарды. Успрымалі трэцеразрадным заводскім клубам, які цудам прасачыўся ў плэй-оф Еўралігі, і то, дзякуючы зніжцы ўзроўню асабістага складу каманды, жаданнем даць адпачынак «асноўнікам» перад адказнымі матчамі. Букмекеры цалкам, нібы змовіліся — прымалі стаўкі на карысць гаспадароў пляцоўкі з максімальна завышаным каэфіцыентам.

* * *

Мяч зноў упарта затрымліваўся на іх палавіне поля. Максім бачыў, як паўабаронцы раз-пораз памыляліся і прайгравалі адзінаборствы. Хапала і тэхнічнага браку. «А што, калі ў гаспадароў выкінуць на замену, нібы чорцікаў з табакеркі, пару сваіх лепшых форвардаў, так званых "джокераў"?» — думаў ён.

Але да замены пакуль не даходзіла. Пару разоў яму білі з-за штрафной, метраў з дваццаці пяці. Максім даволі ўдала адбіў абодва ўдары. Прадчуваў, што самае цяжкае чакае яго наперадзе. Пачуццё адзіноты зноў ахапіла яго, але ненадоўга.

Надзея ўспыхнула ў ім, калі раптам пабачыў, як завабіліся атакай гаспадары і «правaліліся» іх абаронцы — адразу двое. Нападаючыя, нашыя хлопцы, праскочылі іх і апынуліся проста перад варотамі Жуля Дзюпона — галкіпера гаспадароў, але на іх ужо набягалі, вярталіся бекі. Не зусім падрыхтаваны ўдар хоць і з цяжкасцю, але выцягнуў з ніжняга вугла іх варатар. «Сэйв! — з павагай падумаў ён пра Дзюпона, — выдатны майстра».

У сектарах нядобра загулі заўзятары. Да броўкі паляцелі фаеры, пацягнуўся дым. Удалечыні, метрах у сямідзесяці ад яго, Стайлз незадаволена засвісцеў, на некалькі секунд прыпыніў гульню. Фаеры патушылі і выкінулі з поля. Адначасова Стайлз праверыў свой гадзіннік, і Максім зразумеў, што вось-вось скончыцца гэты бясконцы для яго першы тайм.

Жуль Дзюпон, раз'юшаны тым, што ледзь не прапусціў, вымаўляў сваім бекам нешта не вельмі для іх прыемнае. Выбіў мяч. І зноў на вароты Максіма пасунулася чарговая атака. Ігракоў рашуча падганяў наперад іх трэнер, што выбег да броўкі. Гол у раздзявалку! Гол! Забейце гол! — крычалі самі за сябе яго красамоўныя жэсты.

Пачалася сапраўдная навала. Нападаючыя, а за імі і абаронцы саперніка пачалі гнаць мяч наперад, да штрафной Максіма, там-сям уступаючы ў жорсткія адзінаборствы. У адзін з такіх момантаў ён літаральна «зняў» мяч з нагі Мбваны, атрымаўшы моцны ўдар нагой у жывот. Наўрад ці справакаваны. Перахапіла дыханне. Але ён падняўся на ногі.

І ў той жа час прагучаў свісток Стайлза на перапынак.

## Трыма гадамі раней

Пасля чарговай трэніроўкі дырэктар школы папрасіў Максіма крыху затрымацца.

— Размова ў нас з табой будзе сур’ёзная, — пачаў ён. — Ты адзін з нашых лепшых маладых футбалістаў, але гэтую школу ты ўжо пераўзышоў. На маю думку, табе больш мэтазгодна перайсці ў спартыўны інтэрнат. Там поўнае дзяржаўнае забеспячэнне, і табе варта ўжо вызначыцца, як з часам пачынаць гуляць за які сур’ёзны клуб, але ты ўжо гэта збольшага вырашыш сам. Да таго ж ты, лічы, уключаны ў юніёрскую зборную рэспублікі. І, як я ведаю, многія старшыні праўленняў клубаў, трэнеры, шматлікія «скаўты», як кажуць, паклалі на цябе вока.

Хачу цябе, Максім, у гэтым сэнсе вельмі сур’ёзна папярэдзіць. На працягу сваёй спартыўнай кар’еры (калі ты, вядома, і далей будзеш займацца футболам) цябе будуць чакаць не толькі слава і захапленне заўзятараў, магчыма неблагія грошы, якія ты станеш зарабляць, калі трапіш у рукі больш-менш сумленных футбольных агентаў, трэнераў, але і цяжкія трэніроўкі, пераезды, якія будуць вымотваць цябе ды, як правіла, адна адказная гульня ў тыдзень, зборы і матчы за рэспубліканскія каманды. Будуць падпільноўваць траўмы — ад іх нікуды не дзенешся. На жаль, і сямейная неўладкаванасць. Запомні, што я табе кажу. Будзь абачлівым, як станеш падпісваць кантракты. Памятай, што ты талент, але за спінай у цябе няма падтрымкі ўплывовых бацькоў, сваякоў. Толькі ты адзін будзеш адказны за сябе. Але, кажу гэта ўсё не дзеля таго, каб ты падумаў, што вось — я амаль што майстра, і кропка. Табе яшчэ далёка да сапраўднага майстэрства, у цябе яшчэ няма вопыту, і многія таленты, не меншыя, чым ты, спыняліся і драбнелі, бо не хацелі расці далей, пераставалі працаваць, а то, яшчэ горш, і збочвалі на крывую дарожку. І дзе яны зараз? Хто спіўся, іншы пайшоў, да слова, «па базару», яшчэ нехта «даў нырца» ў крымінал і цяпер адпачывае «на шконцы». Я вельмі хачу, каб ты абмінуў усё гэта і стаў сапраўды вялікім варатаром — такім, напрыклад, як Леў Яшын, датчанін Петэр Шмейхель, італьянец Джанлуіджы Буфон ці твой улюбёнец Луіс Чылаверт. Тым больш, што ты ад сэрца любіш футбол. А футбол ужо даўно стаў не толькі асобным, самым папулярным відам спорту на планеце, а і своеасаблівым пластом культуры, мастацтвам, калі хочаш. Прыйдзе поспех, і ты станеш не толькі славутым, а і заможным. Але ўмова ўсё тая ж: працаваць. Дарэчы, як у цябе з бацькамі? Мне давядзецца размаўляць з імі.

— Так, па-рознаму.

— Бацька ўсё яшчэ зазірае ў чарку?

— Здараецца, — засмучана пацiснуў плячыма Максім. — Але ён быццам знайшоў працу. Уладкаваўся, кажа, на завод.

— А маці?

— Таксама працуе. На швейнай фабрыцы. Ды мне цётка Люба дапамагае больш за іх.

— Так, так, — думаў услых дырэктар. — З бацькамі, бадай, мы дамовімся, і цётка, вядома, не будзе супраць. Усё гэта вырашым у бліжэйшы час. А пакуль тое, табе варта расці не толькі побач з мячом, а і ў сэнсе інтэлекту. Чытаць кніжкі, глядзець цікавыя стужкі, не злоўжываць Сецівам. Ты што чытаў апошні раз?

— Уладзіміра Караткевіча. «Дзікае паляванне караля Стаха». Настаўніца параіла.

— Добра. Нават выдатна. Але зараз усе пераключаюцца на карцінкі, так бы мовіць. Больш глядзяць на дысплеі. Такі час. Якую апошнюю стужку ты ўпадабаў?

— Прагледзеў праз Сеціва. Лепшы футбольны матч усіх часоў і народаў, як палічылі яшчэ ў мінулым стагоддзі.

— І што за матч? Хоць я ведаю, але… Ну-ка…

— «Бразілія — Вугоршчына». На чэмпіянаце свету тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят шостага года. Ды яшчэ так званую «Бітву пры Бёрне», на чэмпіянаце свету ў тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят чацвёртым годзе — самую драматычную бойку ў гісторыі футбола.

— О-о, гэта была гульня! Я і цяпер пад настрой гляджу раз на год.

— А яшчэ чэмпіянаты свету з удзелам Чылаверта.

— Дарэчы, пра твойго куміра. Многія спецыялісты лічаць яго гульню занадта рызыкоўнай, а самога — апантаным, вар'ятам, які па ходзе матча штурхаў за сабой у гэтую своеасаблівую апантанасць і ўсю каманду. А ягоныя рэйды да чужых варот? Вар'яцкія, інакш на скажаш, галы, якія ён забіваў? Але, чаго не адымеш, дык гэта таго, што ён сапраўды быў геніяльным галкіперам. Геніяльным вар'ятам. І яшчэ. Брамніку заўсёды варта быць гатовым ахвяраваць сабой. У тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят шостым годзе, у фінале Кубка Еўропы, немец Берт Траўтман атрымаў траўму, але працягваў гуляць да канца, бо замены яму не было. Яны выйгралі 3:1. Пасля гульні аказалася, што ў яго зламаная шыя.

* * *

Яшчэ па дарозе дамоў, Максім патэлефанаваў з мабільніка Юлі і дамовіўся сустрэцца. Апошнім часам ён рэдка бачыў дзяўчыну, хіба як праводзіў яе са школы. Яны сябравалі ўжо гады два. Юля за год неяк раптоўна вырасла і расквітнела. Бацька дзяўчыны быў галоўным інжынерам на мясцовым крухмальным заводзе, а маці — загадчыцай швейнага атэлье. Максім ведаў, што Юліны бацькі нічога не мелі супраць іх сяброўства, але лічылі гэта часовай падлеткавай з'явай, і, як прагаварылася аднойчы са смехам яму Юля, былі радыя і таму, што ён, Максім, хоць і з неўладкаванай, ува многім небяспечнай сям'і, але, хлопец прыстойны, прытрымліваецца здаровага ладу жыцця, не ўжывае спіртнога, не паліць, і, крый божа, не «шыраецца». А што прысвяціў сябе спорту і хоча стаць футбалістам — дык гэта таксама ўсё падлеткавае. Вось скончыць школу, і пачнецца сапраўднае жыццё. З пытаннямі іншага парадку: вучыцца далей, альбо адразу служыць у войску, кім і дзе працаваць, як зарабляць грошы, каб утрымліваць сям'ю і дзяцей.

Некалькі раз Максім заходзіў да дзяўчыны на кватэру. Не ў параўнанне, яе бацькі былі заможнымі і ўсяляк песцілі дачку. Юлін брат — Кірыл заканчваў школу і хацеў паступіць у прэстыжны прыватны сталічны інстытут. Было ў яго, як ведаў Максім, і тайнае захапленне: ён іграў на гітары, няблага спяваў і сачыняў музыку. Зухаваты, са срэбранай завушніцай, моднай прычоскай і

апрануты на поўны прыкід, ён выклікаў у Максіма дваістае пачуццё: з аднаго боку — павагу да творчай, як ён лічыў, рысы ў таго ў характары, а з другога — прыхаваны недавер да яго здольнасцей. Спяваў Кірыл то па-англійску, то па-руску, і неяк, на яго думку, з чужых галасоў. І тэксты песень былі, на яго погляд, слабаватыя. Папса. «Ты б на роднай мове паспрабаваў», — параіў ён яму аднойчы, але Кірыл зняважліва адмахнуўся: «Несучасна, зараз усе па-англійску бацаюць».

* * *

…Максімаў бацька сядзеў за бутэлькай піва, быў не ў гуморы. Маці яшчэ не прыйшла з работы.

— Ты б не паліў у хаце, — зрабіў заўвагу Максім.

У адказ бацька ўзняўся з зэдліка і адчыніў фортку. Хлопец заўважыў раптам, што той ужо на галаву ніжэйшы за яго.

— Чаму не на працы? — з’едліва пацікавіўся Максім.

— Не падышла, значыць. Шукаю лепшую.

— Маці пашкадуй.

— Уладкуюся. Абяцалі на днях. Паеш, там маці табе пакінула тое-сёе. Сам і разагрэй.

Максім хацеў расказаць яму пра размову з трэнерам, пра інтэрнат, але чамусьці перадумаў, вырашыў адкласці да вечара, калі прыйдзе маці.

Трэніроўка патрабавала адпачынку, але жаданне пабачыць Юлю было мацнейшае. Хлопец зайшоў да сябе ў пакойчык, пераапрануўся і выцягнуў з паліцы кніжку, між старонкамі якой ляжалі грошы, якія яму ахвяравала цётка.

Палавіны грошай… не хапала. З хвіліну ён шукаў іх, але дарэмна. Урэшце, усё было і так зразумела: піва на стале, пад ім — пустая бутэлька з-пад гарэлкі. Ад крыўды перахапіла дыханне.

— Грошы браў? — спытаў ён у бацькі, ледзь стрымліваючыся.

— Пазычыў крыху, — не стаў той адмаўляцца. — На днях вярну, не сумнявайся.

Максім моўчкі агледзеў яго постаць, пакамечаную вопратку, непаголены твар, і, праглынуўшы камяк у горле, выскачыў за дзверы. «У інтэрнат, — вырашыў канчаткова. — І неадкладна».

* * *

З Юляй сустрэліся на цэнтральнай плошчы, ля помніка. Дзяўчына прыйшла крыху пазней, ён ужо хацеў тэлефанаваць ёй на мабільнік. Раптам, як ужо неаднойчы было ў апошні час, заўважыў, што яна амаль зусім дарослая: раздаліся па-жаночаму клубы, аформіліся грудзі. Толькі з твару была падлетак, і ад таго яшчэ больш мілавідная і пекная.

Бралася ўжо на вечар. Сонца на даляглядзе занырнула ў хмары, частка з тых хмар апынулася проста над галавой. Пырснула дробным летнім дажджом.

— Пайшлі ў кафэшку, пасядзім, пагаворым, — прапанавала дзяўчына.

— Згода, — падтрымаў яе Максім і абмацаў кішэні — праверыў, ці захапіў з сабой грошы. Цётчыны грошы былі пры ім: усё, што засталося ад бацькоўскага наведвання.

У кавярні селі за свабодны столік. Дзяўчына замовіла каву і марозіва. Максім ад марозіва адмовіўся, сказаў, што толькі паеў дома. У цеснаватым

памяшканні было няшмат наведвальнікаў, хіба што за здвоеным сталом у куце ўладкавалася шумная кампанія моладзі. Былі сярод іх і дзяўчаты. З музычнага аўтамата звыкла гучала надакучлівая расійская папса.

— У мяне навіна, — адразу пачаў Максім. Ён вырашыў не адкладваць размову на потым. — Палавіна яе — добрая, другая — дрэнная. З якой пачынаць?

— А ты яе раздзялі на две часткі. Дрэнную — выкіні.

— Не выпадае. Карацей кажучы, я буду залічаны ў інтэрнат спартыўнага профілю. На поўнае забеспячэнне. Жыць буду ў абласным цэнтры, трэніроўкі амаль штодня. Там і школу давядзецца заканчваць. Гэта — першая палавіна.

— А дрэнная?

— Тое, што будзем рэдка бачыцца.

— А я адразу і не падумала, — крыху памаўчаўшы, сказала дзяўчына. — Дык не ўвесь час ты будзеш у свой футбол ганяць. А то тут на мяне ўжо, як кажуць, запалі.

— Гэта хто яшчэ? — насцярожана спытаў Максім.

— Ды так. Да Кірыла заходзіць той-сёй.

— Спадзяюся, ты мяне ў архіў не здасі?

— Не здам, Максімка. Супакойся.

Яны доўга гаманілі ні пра што — перайшлі на іншыя тэмы, гаварылі пра настаўнікаў, дырэктара школы па мянушцы «Цыркуль», пра тое, як паедуць на выхадныя на возера, але ў душы хлопца ўжо пасяліўся цьмяны неспакой, і зноў на нейкія імгненні ён адчуў сябе самотным.

— Хіба я падобны на аўтыка? — спытаў раптам ён у дзяўчыны.

— Што так?

— Нешта не зусім мне файна бывае часам сярод людзей. Калі іх зашмат. Калі шуму многа. І бацькоў сваіх я не паважаю. Навошта жывуць? Ні сэнсу, ні мэты.

— І ў мяне не ўсё гладка. Кірыл арганізаваў па-за школай рок-гурт. Прыходзіў дамоў пад кайфам. Сябры ў яго такія: «на шмаль» ці на «калёсы» могуць падсадзіць.

— Танэлі ў вушы, ці ў губы яшчэ не паўстаўлялі? — нядобра з’яхіднічаў Максім. — Дрэды не заплялі?

— Ну, такіх прыдуркаў я побач не пацярплю, ты ж мяне ведаеш.

Між тым, за кутным сталом станавілася ўсё больш неспакойна. Афіцыянтка прыбрала пустыя бутэлькі з-пад віна, прынесла новыя. Адтуль збегалі ўжо да музычнага аўтамата, зрабілі музыку грамчэй. Пачалі танчыць, але не сур’ёзна, а з прыхаваным сцёбам, па-дурному крыўляючыся і перацвельваючыся.

Адзін з іх — скуласты, чарнявы, доўгавалосы, з дэгенератыўнымі рысамі твару падышоў да іх століка.

— Не супраць, калі я запрашу вас на танец? — хіснуўшыся, спытаў у Юлі, знарок не зважаючы на Максіма.

— Супраць. Вы — п’яны.

— Ты б спачатку патлы свае падстрыг ды пазногці пачысціў, — прапанаваў Максім.

Усталявалася нядобрая паўза.

Доўгавалосы нейкі час абдумваў.

— Што, не «даганяеш»?

— Ды ты чо, апух, у натуры? — нібы схамянуўся і зароў доўгавалосы. Праблему хочаш? Будзе зараз табе праблема. — І ўжо зрываючыся на істэрыку, закрычаў: — Пацаны! Мяне гэтыя смаркачы пакрыўдзілі!

Да іх століка заспяшаліся яшчэ двое. Максім ужо і так зразумеў, што бойкі не пазбегнуць. «Тупалобцы, — мільганула ў галаве, — нідзе ад іх няма спакою. Каб толькі гэты“воласагалоў”» не зачапіў Юлю».

Але доўгавалосы пасунуўся ўсутыч да яго і памкнуўся ўхапіць за каўнер кашулі. Максім ухіліўся, адкінуў нагой крэсла, аказаўся на галаву вышэй і ўляпіў таму ў твар кулаком. Падбеглі двое, бязладна замахалі рукамі, адпіхнулі дзяўчыну ў бок. Юля крыкнула нешта, кінулася на дапамогу. Столік абрынуўся долу, разбіўся посуд. Адразу выбегла афіцыянтка, выхапіла мабільнік, каб выклікаць міліцыю.

Максім круціўся вужом, адбіваючыся ад звярэючых з кожнай хвілінай нападнікаў. У пэўнай ступені яго ратавала тое, што яны былі ўжо на добрым падпітку, і таму перашкаджалі адзін аднаму.

— Заб’ю! — зароў між тым доўгавалосы, кінуўся да свайго століка, ухапіў пустую бутэльку, разбіў аб край і ўтрымліваючы за рыльца так званую «ружачку», марудна пайшоў назад, да яго.

— Сцеражыся, Максім! — пачуў ён усхваляваны крык Юлі.

— А як адзін на адзін? Слабо? — гучна спытаў ён доўгавалосага. Адразу ўсе спыніліся. Чакалі.

— Тым горш табе! — рынуў на яго той.

Максім паспеў адскочыць у бок, падхапіў з падлогі крэсла і з размаху абрынуў на галаву доўгавалосага. Той пахіснуўся, рука з разбітай бутэлькай апусцілася, марудна асеў на падлогу.

Праз некалькі хвілін бойку спынілі міліцыянты. Гарадскі аддзел быў амаль побач. Апыталі афіцыянтку. Усіх удзельнікаў адвялі ў пастарунак. П’яных задзірак зачынілі ў «малпачнік», а Юлю з Максімам, як непаўнагадовых, праз нейкі час адпусцілі дамоў.

Максім правёў дзяўчыну да пад’езда, хацеў адразу пайсці да цёткі, але Юля павяла яго з сабой.

— Што здарылася? — убачыўшы Максімаў твар з набухлым вокам, устрывожана запыталася Юліна маці. Выйшаў са свайго пакойчыка і Кірыл.

— Няслаба падмаладзілі, — адно пракаментаваў ён.

Максіму зрабілі халодны кампрэс. Ён пасядзеў крыху і хутка развітаўся.

Начаваць ён пайшоў да цёткі. Пабачыўшы яго твар, цётка Люба ахнула і замітусілася: прапанавала нейкія лекі, знайшла і прыклала да вока бадзягу, каб хутчэй сышла гематома.

— А галава не баліць? Можа, да лекара варта звярнуцца?

Максім, як мог, супакоіў жанчыну. Давялося коратка расказаць ёй пра тое, што з ім здарылася.

— Ну, няхай, — урэшце згадзілася тая. — Такая ўжо ваша мужчынская доля: бараніць свой дом, жанчыну, сям’ю.

Раніцай Максім сабраўся, пацалаваў цётку Любу і заспяшаўся на аўтавакзал.

Праз тыдзень ён ужо ўладкаваўся на новым месцы, у інтэрнаце спартыўнага профілю. Пачалося новае жыццё. Многае ў ім яму спадабалася: цікавыя, прафесійныя трэніроўкі, жорсткі распарадак дня, зусім па-іншаму, больш цікава і мэтаскіравана праходзілі і заняткі ў школе.

Усё радзей і радзей даводзілася сустракацца з Юляй. На гэта ён звычайна скарыстоўваў напоўніцу адзіны выхадны дзень. Аднойчы дзяўчына сама прыехала да яго. Максім паказаў ёй інтэрнат, месца, дзе жыў, стадыён. На развітанне Юля моцна пацалавала яго і адразу заспяшалася на аўтобус.

Неасэнсаваная трывога і сум пасяліліся ў Максімавай душы. І зноў усё часцей яго ахоплівала пачуццё адзіноты. Прадчуваў, што наперадзе чакаюць вялікія, але пакуль яшчэ не зусім для яго акрэсленыя змены.

## «Гранд» стадыён. Францыя. Ліон

Перапынак Палыч выкарыстаў творча і ад пачатку да канца. Намаляваў на планшэце некалькі імклівых схем з камбінацыямі, заклікаў не аддаваць сярэдзіны поля, ні ў якім разе не «правальвацца» ў абароне, як здарылася ў першым тайме, і лавіць саперніка на контратацы. Так — яны на чужой «паляне», але вырваць перамогу, і тым больш нічыю, цалкам рэальна. Мы чаго сюды ехалі — апынуцца ў якасці «дрэў»[1]? І ўжо на выхадзе спытаў Максіма:

— Ну, як, не прапусціш?

А ў самога задрыжаў голас, і толькі ласкава падштурхнуў таго ў спіну рукой:

— Зрабі, што здолееш!

І адразу пачалося сапраўднае пекла. Стадыён кіпеў незадаволеным гулам. Ліонцы, нібы машына, якой дадалі хуткасці, хваля за хваляй накатваліся на вароты. Настырныя цёмнаскурыя крайнія, атакі якіх пачынаў усё той жа плэймейкер Бурэ (не забіў пенальці і таму быў вельмі раз’юшаны), раз-пораз небяспечна забягалі ў штрафную і толькі іх паспешлівасць, ігнараванне вугла абстрэлу і рэакцыя яго, брамніка, зноў і зноў выцягвалі пагражальную сітуацыю. Гол наспяваў, усе гэта адчувалі, але… але, яго не было.

Дабавілася працы лайнсманам[2], бо абаронцы гублялі сілы і пачалі рызыкоўна ствараць штучныя афсайды. Урэшце нехта з суддзяў непазбежна затрымаўся з адмашкай, і варатар Максім Гудаў зноў аказаўся адзін на адзін з нападаючым сапернікаў. І зноў на нейкае імгненне пачуццё адзіноты ахапіла яго, калі раптам убачыў, што бекі «праваліліся», а прама па цэнтру ў штрафную ўрываецца цёмнаскуры паўабаронца сапернікаў Мбвана і ніхто са сваіх бекаў ужо не здолее яго спыніць. Кароткія, ліхаманкавыя думкі прабеглі ў галаве Максіма. Самае важнае ў такі момант для галкіпера — гэта з хуткасцю камп’ютара перабраць усе варыянты далейшага, угадаць накірунак удару, бо выскачыць на перахват ён ужо не паспяваў, і не даць падмануць сябе абвадным фінтом, на якія быў асабліва здольны цёмнаскуры хаўбек, што ён ужо ведаў з папярэдняга прагляду відэазапісу.

Між тым Мбвана, які апынуўся метрах у пяці ад варот, нахіліў корпус улева, а ён, безумоўна, быў «праўша», і, значыць, будзе біць правай нагой, па ўсім бачна — «шчоткай». Вось яго нага ўжо заносіцца для ўдару, і накірунак палёту мяча і яго будучая траекторыя скláліся ў галаве Максіма ў адно. І адразу мозг аддаў загад мышцам і целу, якое ва ўсю даўжыню з усёй магчымай хуткасцю распласталася над зямлёй, закрываючы сабой той адзіна магчымы сектар перад варотамі для трапнага выніку.

Удар! Мяч, нібы выштурхнуты з гарматы, сутыкнуўся з яго целам і — зрыкашэціў у бок, дзе яго падхапіў Жэня Жалкевіч і, ад граху, выбіў доўгай «свечкай» далей ад сваіх варот.

Стадыён незадаволена ахнуў і загудзеў.

---

[1] Дрэва (сп.жарг.) — ігрок, які не апраўдвае таго, чаго ад яго чакалі.

[2] Лайнсман *(з англ.)* — суддзя на лініі.

Сэйв! Яшчэ адзін сэйв! І ён перамог. Максім убачыў, як у роспачы паваліўся на зямлю проста перад ім Мбвана і біў яе кулаком. А пасля падняўся і закрычаў, звяртаючыся да Бурэ:

— Ты бачыў, што ён зрабіў?! Не — ты бачыў?

Максім крыху разумеў французскую — вучыў у школе, і таму разабраў.

Чаму так заўсёды марудна цягнецца час? — думаў ён. — Колькі там да фінальнага свістка? Хутчэй бы. Як гуляюць у гэтыя ж хвіліны ў групе? Ці дастаткова нам будзе нічыёй, якую яшчэ трэба неяк выпакутаваць, вырваць у гаспадароў пляцоўкі? Постаць Палыча мітуслівa мільгала за броўкай. Ён павінен быў ужо ведаць папярэднія вынікі групавых першых таймаў? Павінен ці не?

Мяч, між тым, доўгі час не пакідаў сярэдзіны поля. Са сваёй штрафной Максім нервова назіраў, як адчайна змагаліся за яго паўабаронцы, урэшце адабралі, адпасавалі назад бекам, а тыя ўжо яму — усё правільна, цяпер важна збіць тэмп, пацягнуць час. Як там пачувае сябе «асноўнік» — Сяргей Румаш, у якога, пра што коратка паведаміў у раздзявалцы трэнер, верагодны пералом рабра. Што ж, у галкіпераў такія траўмы не рэдкасць. Знакаміты варатар Чэх увогуле пасля аперацыі гуляе ў спецыяльным шлеме на галаве.

Максім паволі зрабіў разбег і выбіў мяч як мага далей — больш цягнуць час не выпадала, бо пунктуальны Стайлз мог адразу сунуць у нос «гарчычнік».

## Годам раней

У нядзелю Максім прачнуўся рана, бо з вечара ўключыў будзільнік на мабільным тэлефоне. Апрануўся ў лепшае і паехаў на аўтавакзал, узяў білет на маршрутны аўтобус. З сабой вёз падарункі цётцы Любе (атрымаў грошы за зборы і першыя выступленні за юнацкую каманду краіны) і ў кішэні — чырвоную аксамітавую каробачку, у якой ляжаў заручальны пярцёнак для Юлі.

Дзяўчына сустрэла яго на плошчы. Паводзіла сябе даволі дзіўнавата. Выйшла з цёмна-сіняй «мазды», скіравала да камерцыйнага шапіка, азірнулася, памахала рукой вадзіцелю іншамаркі, якая адразу і ад’ехала. Толькі тады заспяшалася да яго.

Юля была ў шыкоўным летнім строі, высокая, смуглявая — паспела загарэць на чэрвеньскім сонцы. Яна днямі, таксама як і Максім, скончыла школу. Месяцы два яны ўвогуле не бачыліся, і Максім быў цяпер вельмі рады і ўсхваляваны. Нават не спытаў, хто яе падвозіў.

Дзяўчына стрымана пацалавала яго.

— Ну ты і расцеш, — сказала, белазуба ўсміхаючыся.

Сапраўды, юнак, які стаяў перад ёй, ужо пераваліў за сто дзевяноста сантыметраў, раздаўся ў плячах, узмацнеў.

— Хто гэта цябе сюды прывёз? — раптам адразу ўспомніў Максім.

— Ды так, адзін знаёмы. Праехалі, як кажуць. І дадала рассеяна:

— Куды мы зараз? Што прапануеш?

— А пайшлі ў кавярню. Памятаеш, дзе мы пабіліся з гопнікамі?

— Ну, а што — прыкольна. Пайшлі.

У кавярні мала што змянілася. Працаваў музычны аўтамат. Гучала папса. Яны выбралі столік, незнаёмая маладая афіцыянтка прыбегла з меню, круцілася побач, назвала Максіма «дарагім госцем».

— Што гэта яна? Запала на цябе? — здзівілася Юля. — Хоць што тут дзіўнага? Ты — відны. Дзеўкі цябе любяць.

— Мяне пазнаюць. Заўзятары. Паўсюль цікавяцца футболам. Але чакай, вось. — Максім выцягнуў з кішэні аксамітавую каробачку, пасунуў да дзяўчыны.

— Табе.

Юля марудна раскрыла яе, выцягнула пярсцёнак.

— Ты сур'ёзна — Максім? — яна чамусьці разгубілася, нават пабляднеў твар.

— Больш чым. Прапаную табе разам з гэтым сімвалам сваё сэрца. Як ты — згодная?

— Дзякуй. Я расчулена. Але, але… з'явіліся новыя абставіны.

— І што за яны, Юля? — праз паўзу спытаў Максім. Ён ужо зразумеў: нешта пайшло не так, як варта было. Быццам падзьмуў халодны паўночны вецер. Даўняе пачуццё самоты на кароткі момант ахапіла яго.

— Паслухай, Максім, — мне думаецца, ты варты нечага большага. Ну, чым гэты твой футбол цябе ачмурыў? Вядома, ты становішся папулярны, нават мясцовыя гопнікі цябе ведаюць і быццам паважаюць, але ў свеце столькі магчымасцей. Няўжо табе так важна, што тысячы няўдачнікаў на стадыёне — ты толькі паглядзі на іх твары буйным планам — будуць, як кажуць «ташчыцца» ад таго, што ты ўдала зловіш нейкі мячык, ці адаб'еш яго? Ты мог бы стаць якім адвакатам, урачом, акцёрам, спеваком, мала кім яшчэ…

— Па-твойму, які-небудзь выскаляка на сцэне робіць для людзей больш? Я не ўпэўнены. І потым, футбол — маё прызванне. Тут ужо нічога не пераглядзіш. Я сам захацеў гэтага.

— І твой анёл, які назваўся Херувімам, адобрыў? Так?

— Так.

— І ты верыш у такую лухту?

— Я толькі выказаў жаданне. А ён дапамагае яго здзейсніць. Я буду вялікім галкіперам. Можа, нават такім, як Чылаверт.

— Ну, спорт — гэта не тая мэта, да якой, на мой погляд, трэба імкнуцца. Большасць тых спартняжак к старасці проста вартыя жалю. Гаротныя, нікому не патрэбныя людзі. А дзе гарантыя, што ты не станеш такім? У той большасці?

— Так, я лічу, што ў тваіх словах ёсць нейкая рацыя. Але, толькі частка яе. Бадай што, пасля таго, як скончу выступаць ці ў выніку якога няшчаснага выпадку, траўмы — мне давядзецца застацца сам-насам з цяжкасцямі, і, магчыма, нікому з тых, хто цяпер апякае мяне, мае праблемы не вельмі будуць патрэбныя. Але брамнік, як я даўно зразумеў, часам адзінокі. Нават, заўсёды самотны. Бо ён вартаўнік, і на ім адным адказнасць за тую браму, якую ён сцеражэ. Неістотна — якую. Прабач за рыторыку, але гэта па жыцці. І я пастараюся сустрэць пераход да новага жыцця падрыхтаваным. Буду вучыцца, магчыма, стану трэнерам. Урэшце, тое, што я здолею зарабіць за дзесяць—пятнаццаць год выступленняў, столькі я наўрад ці атрымаю, як адвакат, доктар, інжынер. Хіба што знакамітыя дураплясы маюць больш. Але які з мяне дурапляс?

— Па-мойму, гэта не зусім сур'ёзна. Не крыўдуй, але… але я пакуль не змагу прыняць тваю прапанову, — дзяўчына адсунула каробачку. — Яшчэ раз — не крыўдуй. Ты ўвесь час далёка, раз-пораз бяруць на спартыўныя зборы, цябе могуць прызваць і ў войска, а дзеўка з узростам, як кажа маці, «заляжалы тавар». Прабач.

Максім скамянела маўчаў. Ніколі б не падумаў, не чакаў такога. Раптам успомніў, спытаў:

— У цябе нехта з'явіўся? Гэта ён цябе падвозіў на «маздзе»?

— Так.

— І хто гэты шчаслівец, калі не сакрэт? Ці не з яго голасу ты зараз гаворыш?

— Хаваць не буду. Ён паспяховы бізнесовец. У сталіцы мае дзве крамы. На дзесяць год старэйшы. Але цікавіцца музыкай. Спявае. Кірыл нас пазнаёміў. Ну, я — такая вось аказалася. Не ідэал. Сцерва. Думай, што заўгодна. Застанёмся сябрамі? Хочаш — я табе і ўсю ноч ахвярую? Толькі скажы.

Слёзы нечакана з'явіліся на вачах дзяўчыны. Нешта ў яе словах было штучна нацягнутае, нейкі душэўны надрыў — ён гэта добра адчуваў. Ці кажа яна яму праўду? Нешта было не так.

— Я не супраць, — вырвалася ў яго пасля працяглага маўчання.

— Не думала, што ты згодзішся. Меркавала — «сядзеш на крыўду» і расход… Але… але я таксама не магу так лёгка з табой разысціся. Мы так даўно разам. Ну, што за жыццё такое клятае?

Максім задумаўся на секунду.

— Сёння цётка Люба паехала на лецішча. У яе там чатыры соткі. Вернецца праз суткі, не раней. Асобны пакойчык у яе кватэры мой, ты ж ведаеш, — прапанаваў ён.

— Тады вядзі. Куды хочаш. Толькі патэлефаную сваім, скажу, што затрымаюся ў сяброўкі.

* * *

Ключ ад цётчынай кватэры заўсёды быў з ім. Максім адчыніў дзверы, прапусціў дзяўчыну наперад. І адразу нібы нейкая сіла кінула іх адно да аднаго. Не было ўжо ніякіх думак, спадзяванняў, крыўдаў, — толькі спрадвечнае жаданне поўнай блізкасці.

Праз нейкі час, калі яны, урэшце сцішыўшыся, ляжалі ў спусташальнай цішыні, Максім, спытаў:

— Дык што здарылася, Юля?

Дзяўчына доўга маўчала, пасля чаго парушыла паўзу.

— Мяне прайгралі ў покер.

… Паўза.

— Ты хоць у тэму? А сур'ёзна?

— Куды ўжо сур'ёзней. Атрымалася наступнае. Кірыл па дурноце сеў за картачны стол з «каталамі» ці нейкімі шулерамі са сталіцы. Ён і раней часта пагульваў і даволі ўдала, але ж, як аказалася на гэты раз, да пары. Прагуляў вялікія грошы. А іх трэба было неадкладна вяртаць. Бандосы адразу паставілі яго «на лічыльнік». Намаляваліся, як кажуць, больш «рэальнымі», чым ён мог сабе ўявіць. Бадай, яго б маглі і забіць. Ён кінуўся туды-сюды — ніхто не даў яму і стольніка. Патлумачылі папулярна: час такі, што пазычаць больш як пяць умоўных адзінак нікому не варта. Брат брата «кідае». Вось тады ён і звярнуўся да… ну таго самага сябра, бізнесоўца. Той даў грошы, але з умовай, што сястра, я значыць, пайду за яго замуж. Высветлілася, што даўно ўжо выглядзеў мяне, спакваля прасвятліў, як рэнтгенам і чамусьці вырашыў, што я яму, як кажуць, у масць. Кірыл стаў перада мной на калені і… папрасіў. Я… я не жадала, каб ён памёр. Я бачыла тых бандосаў — гэта вельмі сур'ёзна.

— А калі падключыць міліцыю?

Дзяўчына горка ўсміхнулася.

— Не будзь такі наіўны. Што ім менты прад'явяць? Пустату? Патрэбныя ж доказы махлярства, ашуканства, шантажу. Іх няма. А тое, што нехта з некім гуляў у покер, дык які тут крымінал?

— Твой брат — ідыёт. Нікчэмнасць. Як ён мог падстаўляць цябе?

— Вось так і падставіў. Ён лічыць, што да ўсяго робіць мне вялікую паслугу. Уладкоўвае жыццё. І што ты са сваім футболам — звычайны няўдачнік. Несамавіты. Без падтрымкі. Без перспектываў на будучыню.

— І аніяк нельга адпасаваць назад?

— Нельга, Максім. Я не жадаю. Каб ты ведаў, як мне цяжка.

* * *

Па дарозе дадому, варта ж было паказацца бацькам, Максім выняў з кішэні каробачку з пярсцёнкам, размахнуўся і закінуў далёка ў прыдарожнае кустоўе.

— Каму Бог пашле, — з горыччу ўсміхнуўся сам сабе.

## «Гранд» стадыён. Францыя. Ліён

Максім Гудаў, вядома, разумеў, што каманда не здолее змяніць манеру гульні адразу, як чалавек, які не можа нацягнуць на сябе іншую скуру. Стыль той самай гульні — гэта тое, што назапашваецца гадамі і ўкараняецца назаўсёды. Прадбачліва вывучыць асаблівасці гульні саперніка — значыць выведаць яго планы і ў выніку — перамагчы.

Канцоўка матча яўна збівалася на шэраг істэрычных эпізодаў. Гаспадарам пляцоўкі была неабходная перамога, і не ў адных прызавых грашах тут была справа. Дзясяткі тысяч заўзятараў чакалі, няўмольна патрабавалі яе ад сваіх пестуноў. Дзеля чаго яны прыходзілі сюды, на стадыён, гублялі асабісты час? Пэўна, яшчэ і таму, што кожны з іх па-свойму любіў футбол — гэтую самую папулярную гульню ў свеце, і цяпер хацеў ад сваіх улюбёнцаў поўнай аддачы. Чаго яны, урэшце, сюды і зараз прыйшлі, купілі далёка не танныя білеты? Каб усцешыцца перамогай — вось чаго.

Максім, між тым, усё часцей выходзіў на перахват, бо мяч падоўгу затрымліваўся на яго палавіне поля, крычаў з-за таго на сваіх абаронцаў. Ушчуваў іх. Як ні дзіўна, хоць ён, лічы, выпадкова заняў месца Сяргея Румаша, яму бездакорна падпарадкоўваліся. Палыч ужо нічога не мог зрабіць. Ні парадай, ні дапамагчы чым іншым. Ды яго б і не пачулі. Няўмольны Стайлз, дарэчы, зрабіў яму папярэджанне за залішнюю актыўнасць ля броўкі.

Прыкладна хвілін за пяць да канца матча Бурэ выскачыў з ім адзін на адзін, але далёка адпусціў мяч, і Максім літаральна «зняў» яго з нагі форварда. Бурэ, якому ў гэты дзень яўна не шанцавала, тым не менш каварна скарыстаў момант і адчувальна заехаў яму буцай у грудзі. Што ж, прамільгнула ў галаве ў Максіма, гэта балюча, але і гэта можна выкарыстаць сабе на карысць, пацягнуць час. Дзесяць, дваццаць, трыццаць секунд могуць вырашыць усё. Тым больш, Стайлз усё бачыў і не стане яго вініць. Дарэчы, колькі хвілін ён дадасць да асноўнага часу?

Максім урэшце падняўся на ногі, зрабіў супакойваючы жэст сваім і выкінуў мяч у поле свабоднаму хаўбеку. Гульня працягвалася. А яшчэ праз паўхвіліны гаспадароў пляцоўкі ледзь не злавілі на контратацы. Толькі жорсткі знос за дзясятак метраў ад штрафной выратаваў іх ад гола. Стайлз у чарговы раз узняў угору жоўтую картку. А потым зноў выдатны сэйв выдаў іх варатар Жуль Дзюпон — выцягнуў мяч з-пад перакладзіны. Асістэнты, між тым, высвецілі банэры — рэферы дадаў тры хвіліны дадатковага часу.

Напруга матча дасягнула, між тым, найвышэйшай адзнакі. Час быццам цягнуўся бясконца. Гаспадары ліхаманкава атакавалі і зноў ледзь не пацярпелі ад контратакі, хіба што вынеслі мяч на вуглавы.

Корнер. За хвіліну, максімум за дзве да фінальнага свістка, — падумаў ён і кінуў позіркам да «банкі». Там, за броўкай, ужо ліхаманкава ўздымаў угору рукі Палыч. Значыць, справы ў групе для іх — не вельмі, і нічыя ўжо нічога не вырашае. Хвіліна да свістка Стайлза. Так, хвіліна, не больш. «Пара», — падумаў зноў, скінуў пальчаткі і імкліва рушыў наперад, пакідаючы сваю штрафную, да цэнтральнага круга і за яго, насустрач здзіўленаму гулу стадыёна — туды, да чужых варот. Што будзе там, ён не мог і не здольны быў прадугледзець, але нешта неасэнсаванае гнала яго туды. Так іншым разам рабіў яго кумір, вялікі Чылаверт. І няхай трэнеры, спецы ад футбола, журналюгі лічылі і лічаць таго апантаным, вар'ятам, праўда, з агаворкай — геніяльным вар'ятам, — ён быў лепшы сярод лепшых — і гэта ўжо і ёсць сапраўдны футбол, у які той гуляў, і ў які варта гуляць і яму.

Падаваць вуглавы пабег правы хаўбек, нястомны Алесь Саковіч, але і здалёк было бачна, як ён стаміўся. У штрафной сапернікаў — мітусня, разборка па персонах, звыклы прэсінг. На яго, варатара з чужой штрафной, які ўзнік за спінамі, у той момант ніхто асабліва не зважаў. Яшчэ не разабраліся. Ужо ўклініваючыся ў гэты гармідар, ён ускінуў руку, даваў знак Саковічу, каб падаваў на дальнюю стойку, і адначасова рвануўся туды, на свабодны пятачок, не губляючы бакавым зрокам палёт мяча, няблага закручанага Алесем, і, урэшце, у падзенні «злавіў» яго галавой ля самай стойкі.

Стадыён ахнуў у адзін голас і — наступіла цішыня. Мяч праслізнуў у сетку варот.

Ён убачыў, як Стайлз паказаў на цэнтр, як потым перавёў позірк на свой судзейскі гадзіннік, і што было сіл, быццам на стометроўцы, ірвануў назад, да сваіх варот: яшчэ заставаліся хоць і лічаныя, але з дзясятак секунд, і магло здарыцца ўсё, што заўгодна, а на броўцы падскокваў, радасна крычаў нешта і трыўмфаваў Палыч.

Вароты ўжо на ўсялякі выпадак страхаваў абаронца Дзіма Гуркоў, але раптам зухавата ўхапіў рукамі перакладзіну і павіс на ёй, дэманструючы сваё захапленне, забоўтаў нагамі, і тут жа ззаду прагучаў свісток Стайлза аб заканчэнні гульні. Да яго, брамніка, ужо беглі, абдымалі, павалілі на траву.

Перамога. Яны выйшлі з групы.

* * *

Пасля мітусні дарожных збораў у самалёце «БелАвія» ўсёй камандай вярталіся дамоў. Максім уладкаваўся ля ілюмінатара на ганаровае месца побач з трэнерам. Палыч свяціўся ад радасці. Краявіды з вышыні раз-пораз прыцягвалі Максімаў позірк сваёй маляўнічай дасканаласцю.

Маўчалі.

Маладзенькая сцюардэса прынесла на разносе каньяк, шакалад.

— Гэта ад экіпажа. Яны ўчора глядзелі тэлерэпартаж.

— Не адмовімся.

«Коўч» Грак, ён жа Палыч, згодна кіўнуў. Радасная ўсмешка не пакідала яго твар.

— Дзякуем. Усім вам і пілотам прывет ад нашых пацаноў.

— І вось яшчэ газета. Ліёнскія спартыўныя экспрэс-навіны. Тут у асноўным пра вас, Максім. Я крыху ведаю мову. Перакласці? Не ўсё, але паслухайце:

«… Гэтая яшчэ год-два таму малавядомая каманда з Беларусі, сябры якой у большасці гуляюць у ахвотку, за невялікія грошы, сенсацыйна выйшла з плэй-оф. Але самае сенсацыйнае — тое, што каманда прывезла з сабой невядомага галкіпера, які ў будучым магчыма стане побач з легендамі сусветнага футбола, і чый клас гульні напомніў нам вялікага Луіса Чылаверта… Дэбют Максіма Гудава — адкрыццё матча, і ўвогуле групавых гульняў…»

* * *

У Мінскі аэрапорт прыляцелі запозна, але іх чакалі. Журналісты, той-сёй са сваякоў. Пасыпаліся радасныя воклічы, усе загаманілі. Нават пануры «асноўнік» Румаш (разумеў, што яго месца ў асноўным складзе каманды пахіснулася) заўсміхаўся насустрач жонцы.

Максіма Гудава асабіста не сустракаў ніхто.

## Замест эпілога

*З ліста:*

*«...Ведаю, што табе, Максім, у гэтыя дні, не хапае часу, каб наведаць наш пасёлак, бацькоў, мяне, але веру, што хутка пабачымся. Сачу за тваімі выступленнямі, хвалююся і за цябе, і за каманду. Хоць і мала што разумею ў футболе. Хацела паехаць у аэрапорт, каб пабачыць цябе, але пасаромелася: старая. Дый яшчэ прычына. Спаткала неяк Юлю. Не ведаю, што там у цябе з ёй адбылося, але... але дзяўчына цябе не забыла. Яна нават абяцала, што паедзе цябе сустракаць. Казалі, што быццам раней ледзь не выйшла замуж, але нешта ў яе не склалася, да таго ж загінуў яе брат Кірыл. Знайшлі раніцай забітым у скверы на вакзале. Дзяўчына яна, на маю думку, вартая. Прыязджай.*

*Твая цётка Люба».*

**Сяргей МАЦВЕЕЎ**

# ЯК ГАРМОНІЯ СВЕТАБУДОВЫ

*«Полымя» не ўпершыню знаёміць чытача з перакладамі ўдмурцкай паэзіі на беларускую мову. Некалькі гадоў назад у часопісе была надрукавана падборка вершаў народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі. Пераўвасабляў вершы на беларускую мову Віктар Гардзей. А зусім нядаўна «ЛіМ» надрукаваў паэтычныя творы Ларысы Марданавай. Перакладчык — Рагнед Малахоўскі. І вершы самога Сяргея Мацвеева таксама ўжо друкаваліся ў беларускім літаратурна-мастацкім штотыднёвіку. А яшчэ Вячаслаў Ар-Сяргі быў прадстаўлены ў аўтарскай анталогіі паэзіі народаў свету «Лучнасць», над якой Мікола Мятліцкі працаваў доўгія гады паралельна са сваім заняткам арыгінальнай паэзіяй.*

*«Калі паўстала сонца над зямлёй / У першы светлы дзень летазлічэння, / Энергія, што мкнула ўсцяж бруёй, / Яшчэ не мела ў космасе наймення», — зазірае Сяргей Мацвееў у далёкія і разам з тым блізкія для чалавека прасторы. Блізкія — яшчэ і таму, што чалавеку ўласціва змагацца з Сусветам у раскрыцці таямніц. Нават калі для кагосьці з нас гэтае змаганне можа аказацца бессэнсоўным... Вершы Сяргея Мацвеева вельмі часта сягаюць у касмічныя вышыні. Але ж без гэтага палёту паэзію сапраўдную не ўявіць. Паэзію любога народа... Нешта касмічнае ёсць і ў прыцягненнях нашых перакладчыкаў да ўдмурцкага мастацкага свету, так, у прыватнасці, уяўляецца мне ў апошнія гады... Вячаслаў Ар-Сяргі, Ларыса Марданава, зараз — Сяргей Мацвееў... Ведаю, што ў некаторых перакладчыкаў ёсць памкненні да адкрыцця і пераасэнсавання твораў іншых паэтаў з далёкай расійскай глыбінкі, з Іжэўска, Сарапула, іншых старонак Удмурціі... І мо яшчэ неаднойчы ўдмурцкія вершы «азораць свету далячынь» (Сяргей Мацвееў) якраз па-беларуску... Жывучы спадзяваннямі на гэта, хацелася б нагадаць, што ў беларуска-ўдмурцкіх літаратурных сувязяў ёсць трывалая аснова...*

*Давайце згадаем хаця б некаторыя факты такога яркага пабрацімства, пранікнення адной культуры ў другую.*

*У гады сталінскіх рэпрэсій вымушана звязаў свой лёс з далёкай удмурцкай старонкай адзін з пачынальнікаў беларускай драматургіі Міхайла Грамыка. Дарэчы, ва Удмурціі ведаюць пра гэты факт. Артыкул, прысвечаны нашаму суайчынніку, надрукаваны нядаўна ў Іжэўску ў літаратурна-мастацкім часопісе «Кенеш». А ў Вялікую Айчынную вайну на Беларусі ваяваў удмурцкі празаік Міхаіл Лямін. Пра гэта ён расказаў у дакументальнай аповесці «Чатыры гады ў шынялі». Яна неаднойчы выдавалася на рускай мове. Мне здаецца, што проста наш абавязак — перакласці яе на беларускую мову і выдаць у Мінску. Хаця б ужо ў знак удзячнасці да франтавіка Міхаіла Ляміна... Ля вёскі Навікі на Віцебшчыне загінуў удмурцкі паэт Піліп Кедраў. Пра гэты факт яго біяграфіі, творчы лёс легендарнага сына ўдмурцкага народа расказвае ў сваёй паэме Міхаіл Пятроў... У Іжэўску, між іншым, доўга жыў і працаваў рускі празаік Валерый Болтышаў, які нарадзіўся ў Віцебску. Неаднойчы бываў ва Удмурціі беларускі празаік, драматург Васіль Ткачоў. З Удмурціяй звязаны лёс і паэтэсы Лідзіі Возісавай, якая зараз жыве ў Мінску. Доўгі час у Іжэўску жыў і працаваў у мясцовым універсітэце ўраджэнец Рэчыцы, літаратуразнавец Барыс Восіпавіч Корман. Яго кандыдацкая дысертацыя, між іншым, прысвечана творчасці Максіма Багдановіча.*

*У розныя гады на сцэнах удмурцкіх тэатраў ішлі спектаклі па п'есах Кастуся Губарэвіча, Аркадзя Маўзона, Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка... Цікавым падаецца і такі факт. У пасляслоў'і да кнігі Янкі Купалы «А хто там ідзе?» на мовах свету яе ўкладальнік, літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша піша наступнае: «Удмурты з вершам Янкі Купалы пазнаёміліся яшчэ ў 1915 г. Верш ва ўзнаўленні Кузебая Герда (К. П. Чайнікава) быў змешчаны ў падпольным рукапісным часопісе «Семінарскае пяро». У перакладзе імя аўтара твора адсутнічала, а «беларусы» былі зменены «ўдмуртамі». Удмурты ішлі грамадой, неслі на худых плячах, у мазолістых руках сваю бяду, крыўду. Удмурты імкнуліся людзьмі звацца...» Ва ўдмурцкай перыёдыцы ў розныя гады надрукаваны творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Васіля Ткачова... Дык, можа быць, і нам наспеў ужо час пашырыць прастору ўдмурцкага мастацкага слова ў Беларусі?.. На крайні выпадак першыя крокі ў гэтым накірунку ўжо зроблены. І перакладчыцкая руплівасць Міколы Мятліцкага ў пераўвасабленні вершаў Сяргея Мацвеева — добрае на тое сведчанне.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

* * *

Калі паўстала сонца над зямлёй
У першы светлы дзень летазлічэння,
Энергія, што мкнула ўсцяж бруёй,
Яшчэ не мела ў космасе наймення.

Сваё аблічча Бацька-Бог надаў
Адаму з Евай: вы — дзве палавіны.
Гармоніі ўтварыўся вечны сплаў,
Працяў нямы Сусвет да сарцавіны.

Іуда шчэ Ісуса не прадаў,
І жэрдкі шчэ — не ўзлёт распяты крыжа,
І ўвесь Сусвет раззораны вітаў
Не свастыку, што наступае хіжа, —

І Мефістофель быў яшчэ анёл,
Паіў Сусвет гаючым ён ялеем,
І Фауст шчэ над светам не ўзышоў,
Над тым, што сёння ў свеце мы умеем.

## ЧЫРВОНАЕ І ЗЯЛЁНАЕ

І колерамі, і водарам
Сёння мой свет жыве:
Суніцы-іскрыны зводдалі
Ўсміхаюцца мне ў траве.

І што там два колеры — выдумка:
Зялёны й чырвоны ўсяго.
Ды сёння я зноўку выберу
Іх вабны жывы агонь.

Чырвоны сунічны колер
Сягоння я не сарву, —
Пагладжу — душу спатолю —
Малую яе галаву.

Тады мне праменнем сваім
Успыхнуць суніцы ў лясах.
І будзе зырчэць агнявым
Колерам іхні пах.

І хто нам гаворыць: свет
Сэнс страціў, незразумелы?
Калыша увесь Сусвет
Водар сунічны спелы.

* * *

Я ў нечай гульні ўсяго толькі прынада
І гэткі заўважны, як мох на сцяне.
Шчэ сэрцу майму не адкрылася здрада
І пошапак ціхі ўсё чуецца мне

Не толькі з нябёсаў — з-пад глебы, з паветра,
З глыбознае самай, што ёсць, глыбіні.
У пошапку хваляў — пылінка на ветры —
Жыццё маё мкнецца да зор чысціні.

І доўжацца гульні — у зорнасці неба
Знікаюць за імі няўмольныя дні.
Здавён чалавека прыводзіць патрэба
У свет наш трывожны для гэтай гульні.

Калі ж не спасцігнеш гульні тае сутнасць, —
Падумаеш: той, хто ў чаканні знямог,
Каб несці ў міжзор’е жывую прысутнасць,
Не ведае нават,
Што ён і ёсць Бог.

* * *

Зляцяць мае вершы ў касмічную выш,
Калі на зямлі абарвецца мой крок.
Дзяўчына спляце самы зыркі вянок
З валошак на ўзмежку, дзе жыта і ціш.

Яе, прыгажуню, паглядам крану,
Пачуўшы, як сэрца сціскаецца зноў.
Дыханнем — напружанай хваляй вятроў —
Былое жыццё на імгненне вярну.

Дзяўчына не ведае: кветкі наўкруг —
Нязнаная слову пяшчота мая.
Сарве яна кветкі каля ручая
І рушыць яго узбярэжжам на луг.

Забудзецца сном у глыбокай траве,
Праспіць непрабудна да ўсплёску зары.
Сны буду шаптаць ёй аб даўняй пары,
Дзе чуйнае сэрца каханнем жыве.

Як сны, свае вершы убачыць паэт,
Што сыдуць аднойчы з касмічных глыбінь,
Азораць Сусвету яны далячынь
І нават тады, калі скончыцца свет.

* * *

Па дарозе, што ў вербах старых,
На Вялікдзень вярнуся дадому.
Ля парога на родным двары
Я, вандроўнік, пакіну утому.

Маці сына пасадзіць за стол,
Бацька чаркаю поўнай прывеціць.
І чырвонае яйка наўкол
Морак раніцы ззяблай прасвеціць.

Маці ў грубцы ўзгадуе агонь,
Бацька гляне дапытліва ў вочы.
Чарку вып’ю адну і ўсяго,
Да наступнай зусім не ахвочы.

«Ну ж і моцная, Божа ты мой!» —
Вытру спехам слязінку-макрэчу.
І агонь асалоды зямной
У сцішэлай душы затрапеча.

Я забуду, узнік ён адкуль,
Не згадаю, куды адыходзіць.
Ява тая, дзе быў я дасюль,
Сны нязводныя стане наводзіць.

Яйка-чырвань ляжыць на стале
Як гармонія светабудовы.
Хоць і вабіць спакусна, але
Ўзяць у рукі яго не гатовы.

Бога я аб адным папрашу:
Хай здаровіцца бацьку і маці.
Просьбай гэтай ніяк не грашу,
З ёй святлей яшчэ зробіцца ў хаце.

***Пераклад з удмурцкай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***



Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# ПА ДРУГІ БОК ЦЕНЮ

*Аповесць*

## 1

Цёмная ноч шчыльнай покрыўкай ахінула наваколле. Абрысы дрэў і кустоўя паступова гублялі сваю форму і павольна, быццам не згаджаючыся, знікалі ў цемры, што асядала на зямлю. Лёгкі туман, які яшчэ нядаўна няўпэўнена курэў у забалочаных нізінках, падняўся вышэй і асцярожна папоўз па нешырокай лясной дарозе.

Навокал было ціха, пуста і дзіка, і ад гэтых цішыні і пустаты патыхала нейкай жудасцю. Нават неба занепакоілася, нібы не верыла спакою, што панаваў на зямлі, і апусцілася ніжэй да яе. А праз нейкі час, каб лепш агледзецца, запаліла ў сваёй вышыні тысячы зорак-ліхтарыкаў. У іхнім нежывым святле ажылі клубы туману. Заварушыліся, здавалася, пераўтварыліся ў агромністую галодную пачвару, якая нервова шукала здабычу сярод гэтага забалочанага лесу. Жудасць расплывалася паўсюль. Яна ўжо адчувалася не толькі ў вусцішнай цішыні лесу: ёю напаўнялася зямля, яна зыходзіла з кожнай роснай травінкі, з кожнага нерухомага лісточка, куста, дрэва.

Неўзабаве яна запанавала паўсюль і адчуваць яе жывой істоце было невыносна цяжка, таму дзіўна, што тут, па дарозе, на магутным чорным кані ехаў коннік.

Ён ехаў нетаропка і збоку магло падацца, што і вершнік, і яго конь перадолелі немалы шлях, моцна стаміліся і зараз толькі і шукаюць прыдатнае месца для адпачынку.

Але коннік і не думаў спыняцца, ён ехаў далей, нават не ехаў, а, здавалася, плыў разам са сваім канём над вузкай дарогай. Ні тупат капытоў, ні ляскат зброі, ні конскае фырканне не парушалі цішыню і гэтым яшчэ больш узмацнялі пачуццё асуджанасці і страху.

Коннік спыніўся, пачуўшы чалавечыя галасы: непадалёк ад яго на беразе невялікага ляснога возера гарэла пяць вогнішчаў, ля якіх мітусіліся людзі.

---

*__Мажылоўскі Уладзімір Барысавіч__ нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслава Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1984). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў дырэктарам школы. Цяпер — загадчык аддзялення для састарэлых і інвалідаў Браслаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

*Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».*

Адтуль да яго слыху далятаді словы нейкай вясёлай песні. Там, ля вогнішчаў, віравала жыццё, там можна было адпачыць, падсілкавацца, выпіць кубак гарэлкі, але конніка гэта зусім не цікавіла. Наадварот, ён незадаволена, па-воўчы ўзвыў, потым павольна выцягнуў з похваў вялікі двухручны меч, прашаптаў нешта свайму каню ў вуха і ўпэўнена накіраваў яго проста на вогнішчы.

І хутка нечалавечыя крыкі жаху і болю разарвалі начную цішыню, а калі яны сціхлі, коннік зноў паказаўся на лясной дарозе. Гарэзлівы маладзік выскачыў з-за хмаркі, асвяціў наваколле сваім трапяткім святлом, зазірнуў воіну ў твар і адразу ж знікавеў, чамусьці разгубіўся, а праз імгненне і наогул палахліва схаваўся за сваёй хмаркай. А ваяр, спакойны і абыякавы, гэтак жа як і з'явіўся, бязгучна знік у густым тумане.

Зноў цяжкая цішыня апусцілася на наваколле і толькі рэзкае патрэскванне галавешак, што дагаралі ў вогнішчах, парушалі гэты нежывы спакой.

Раптам з туману, нібы з-пад зямлі, паказалася чалавечая постаць. Згорбленая, з доўгім валоссем, у лахманах яна нагадвала вурдалака, якому надакучыла неймаверна колькі ляжаць у магіле і ён падняўся з яе, каб паглядзець на Божы свет сваімі пустымі вачніцамі.

Постаць павольна перамяшчалася ад вогнішча да вогнішча, пераварочвала трупы забітых, мацала іх раны кастлявай рукой, спалохана войкала. Ля аднаго з трупаў яна затрымалася даўжэй. Некалькі разоў правяла па ім халоднай далонню, зазірнула пад павекі, прыклала вуха да яго грудзей.

— Жывы? — побач спыніўся адзін з воінаў, якія прыбеглі на шум і крыкі да возера. — Што тут адбылося, ведзьма?

Старая жанчына ўзнялася на ногі, абтрэсла ад пяску, друзу і травы рукі і, не гледзячы ні на кога, ціха, нібы заклінанне, прагаварыла:

— Калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, калі ж памрэ — то прынясе багаты плён іншым.

— Ты што шэпчаш, старая карга? — раз'юшаны воін моцна страсянуў жанчыну за плячо. — Хто пасек нашых сяброў? Кажы!

Ля яго і старой пачалі збірацца людзі.

— Ды адчапіся ты ад яе, Даніла, — нехта прыйшоў на дапамогу жанчыне. — Не бачыш хіба, што яна не ў сваім розуме?

— Гэта ж мясцовая вядзьмарка, баба Кандраціха, — пачуўся з натоўпу другі голас. — Яна няшкодная. Тут яна кветкі і карэньчыкі розныя збірае, каб дзяцей сялянскіх лячыць.

— А я і не абвінавачваю яе ў смерці нашых сяброў, — апраўдваўся першы воін. — Так засячы чалавека можа толькі ратнік, спрактыкаваны ў забойстве.

— Гэты будзе жыць, — старая кіўнула на ляжачага, ля якога стаяла, — але жыццё ў яго будзе не зямное, а нябеснае.

— Што ты шэпчаш, вядзьмарка? — зноў узвіўся Даніла і нервова засмяяўся. Затым паказваючы на акрываўленае цела, сказаў, звяртаючыся да астатніх: — Яна кажа, што Якуб будзе жыць, што яна яго вылечыць.

Некалькі воінаў нахіліліся над целам Якуба, перавярнулі яго з боку на бок. Адзін прыклаў далонь да яго грудзей. «Не, ён ужо мёртвы, — сказаў расчараваны. — Яму зараз бацюшка патрэбны, а не лекар».

— Ён будзе жыць, — зноў паўтарыла Кандраціха.

— Ну дык вылечы яго, — нядобрая ўсмешка скрывіла вусны Данілы, — а мы табе і грошай, і прадуктаў пакінем. Так я кажу, хлопцы?

Старая прамаўчала, нічога не адказала ратніку. А калі той наважыўся яшчэ нешта сказаць, кіўнула галавой: «Нясіце!» і першай пакрочыла ў бок недалёкага лесу.

Жыла Кандраціха ў невялікай, замшэлай паўзямлянцы амаль на самым узлеску. Разам з ёй гэтае дзіўнае жытло падзялялі стары кот і беспародны, незразумелай масці, сабака. Старая кінула на лаву парваны, пагрызены мышамі кажух. Пачакала, пакуль мужчыны пакладуць на яго параненага, сказала, каб як мага найхутчэй прынеслі ёй жбанок мёду, касу цыбулі, часнаку, маку, гаршчок мядзведжага тлушчу, жытнюю муку, крупы, рэпу, моркву і капу грошай.

— А грошы табе навошта? — здзівіўся патрабаванням шаптухі Даніла. — Што ты з імі ў лесе рабіць будзеш?

Кандраціха знізу ўверх паглядзела на ратніка. Яе цёмныя вочы слязіліся.

— Вы сягоння тут, а заўтра шукай вас па свеце, — нібы шолахам ветру данёсся да яго яе адказ. — А не спатрэбяцца грошы — у зямлю закапаю, дзівасіл на іх расце добра.

У той жа дзень старая вядзьмарка атрымала ўсё, што прасіла, а на наступны войска знялося з месца і пакрочыла ў кірунку Полацка. Перад тым, як сысці, да яе жытла пад’ехаў на кані Даніла.

— Як там Якуб, бабуля? — не вітаючыся пацікавіўся ён у старой, якая сустрэла яго з драўлянымі начоўкамі ў руках. — Можа, ужо ачуняў мой сябар?

— На ўсё воля Божая, — адказала тая і, прашаптаўшы нейкія словы, выліла з начовак у крапіву акрываўленую ваду. — А турбаваць хлопца дарэмна не трэба, прыйдзе час і ён сам ачуняе.

Зараз, днём, шаптуха выглядала зусім не так, як ноччу. І інакш, чым учора, калі Даніла прывёз ёй прадукты і грошы. За гэты час яна моцна змянілася: яшчэ больш сагнулася, быццам на яе плечы лёг няведама які цяжар. Яна схуднела, здаецца, усохла, пачарнела з твару і толькі цёмныя, калючыя вочы па-ранейшаму блішчэлі сярод маршчын. Старая глянула на яго, і ратнік скурай адчуў вар’яцкае ззянне яе вачэй.

— Восенню будзем вяртацца назад — заеду, — каб хутчэй пазбавіцца ад непрыемнага пачуцця, паабяцаў Даніла. — Праведаю Якуба, а заадно і цябе, старая ведзьма. Пагляджу, на што ты патраціла нашы грошы, — з гэтымі словамі ён прышпорыў свайго жарабца і хутка схаваўся за дрэвамі.

— Не прыедзеш ты сюды, галубок, бо жыць табе засталося не больш за месяц, — прашаптала старая і, падхапіўшы начоўкі, знікла за дзвярыма зямлянкі.

## 2

Жнівень 1579 года быў сыры і стылы. Частыя дажджы расквасілі дарогі, затапілі лугі і паплавы, зрабілі няўтульным лес. У перамешанай з конскім гноем дарожнай твані вязлі ногі людзей і коней. Рухацца па такіх дарогах, нешта перавозіць стала амаль немагчыма. І вада! Вада была паўсюль: халодная, яна чвякала ў ботах, зацякала за каўнер, зябкімі змейкамі вілася па спіне і хутка змочвала адзенне да апошняй ніткі. Толькі агонь ратаваў ратніка, толькі ён даваў чалавеку цяпло і магчымасць прыгатаваць гарачую ежу — паратунак ад прастуды і іншых хвароб.

Ішоў пяты дзень аблогі Полацка войскамі караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя. Мінула шаснаццаць гадоў, як горад захапілі войскі маскоўскага цара Івана Васільевіча. Увесь гэты час Літва збіралася з сіламі, каб вызваліць яго. Шаснаццаць гадоў спадзяванняў і расчараванняў, крапатлівай падрыхтоў-

кі і веры ў перамогу. Шаснаццаць гадоў жыцця! А тут — на табе, яшчэ такое надвор'е.

Аблога зацягвалася. Перапоўненыя вадой равы і набрынялая вільгаццю зямля не давалі магчымасці ліцвінам і палякам падабрацца да сцен горада, падцягнуць штурмавыя вежы і лесвіцы. Мокрыя дубовыя бярвёны гародняў не загараліся ад распаленых ядраў і адно злосна шыпелі, што выклікала злосць у ліцвінскіх гарматнікаў і смех у маскавітаў.

У дадатак да ўсяго пачасціліся перабоі з прадуктамі харчавання. З жахам адзначаў для сябе ваявода ліцвінска-польскага войска Мікалай Радзівіл Руды, што яго воінства ўсё больш і больш апаноўвае няверʼе ў перамогу. Ён разумеў, што бяскорміца і непагадзь нішчаць салдацкую волю, што праз дзень-другі не ўтрымаеш сваіх вояў ні сілай, ні золатам, ні страхам пакарання. Думаў, што недалёка той час, калі яны, галодныя, пакінуць свае пазіцыі, знясславяць ліцвінскую зброю і яе старадаўнюю доблесць. «Пракляты дождж!» — гэтымі словамі ён пачынаў свой дзень, імі ж яго і заканчваў.

Асабліва абуралася нямецкая пяхота. Не вельмі хацеў Радзівіл наймаць гэтых ратнікаў на службу. Капрызныя і пыхлівыя, сквапныя да грошай яны прыўнеслі ў ліцвінскае войска бязладдзе. Здарылася так, што зараз у нямецкім лагеры пачалася крываўка. Каб спыніць распаўсюджванне гэтай хваробы, вечарам немцы вельмі моцна напіліся. Яны, нават не выставіўшы варты, заваліліся спаць. А ноччу ў іх лагеры пачалася незразумелая мітусня. Там чуліся чалавечыя перадсмяротныя стогны, разам з тым — жахлівае нейкае рыканне… Здавалася, у начной цемры на людзей абрынулася нейкая пачвара і пачала пазбаўляць іх жыццяў.

Адразу працверазеўшы, вартавыя з жахам узіраліся ў цемнату, прыслухоўваліся да жудасных гукаў, спадзяваліся, што гэта дождж і вецер шумяць у верхавінах далёкага лесу. Аднак дарэмнымі былі іх спадзяванні — сярод шатроў бязгучна насіўся цёмны цень конніка. Крыссе яго чорнага плашча, нібы вялікія крылы, драпежна матлялася ў паветры, ператвараючы вершніка ў пасланца іншага свету. Кроў замярзала ў жылах вартавых, пазбаўляла іх розуму, сціскала дых. І ўсё ж нехта з іх перамог страх, падняў трывогу, ударыў у трывожны звон, дзіка закрычаў. Наваколле адразу ж напоўнілася гукамі пераклічкі, ярчэй успыхнулі паходні, вогнішчы, зазвінела зброя.

А начны прывід знік гэтак жа бязгучна і хутка, як і зʼявіўся.

Раніцай Стэфан Баторый выклікаў да сябе Мікалая Радзівіла Рудога.

— Што там здарылася ў нямецкім лагеры? — нават не прапанаваўшы, як звычайна, свайму ваяводу віна, запытаўся кароль.— Што за дурныя плёткі распаўсюджваюцца сярод нашых жаўнераў?

Радзівіл разгублена паціснуў плячыма і паспрабаваў апраўдацца:

— Учора вечарам нямецкія наёмнікі напіліся, а ноччу маскавіты зрабілі вылазку з крэпасці, заканапацілі некалькі нашых гармат, зарэзалі дзясяткі два немцаў — і ўвесь страх.

Толькі пасля гэтага кароль кіўнуў на крэсла ля невысокага століка:

— Сядай, пан Мікалай. Частуйся, — і, пачакаўшы, пакуль ваявода нальe ў кубак віна, пацікавіўся: — А пра якога гэта Крывавага Фрыдрыха шэпчуцца салдаты?

Радзівіл зрабіў глыток моцнага венгерскага віна, задаволена прыжмурыў вочы, прамармытаў: «Добрае віно!» і адказаў:

— Чутка пра гэтага Фрыдрыха пайшла гуляць па нашай арміі яшчэ ад Друі, дзе невядомая банда напала ноччу на нашых разведчыкаў і ўсіх пагалоўна выразала.

— І колькі там загінула чалавек?

— Здаецца, чалавек дзесяць — пятнаццаць.

— І што, ніхто з іх не застаўся ў жывых? — Баторый падышоў да століка, узяў кубак з віном, зрабіў вялікі прагны глыток. — Ніхто не бачыў бандытаў?

— Ад першага нападу ў жывых заставаўся адзін чалавек, Якуб з Залесся, але ён, пэўна, памёр ужо, бо быў увесь пасечаны.

— А што, былі і яшчэ напады? — кароль спыніўся насупраць ваяводы і запытальна паглядзеў яму ў вочы. — Чаму ты маўчаў, князь?

— Пра што расказваць? — Радзівіл падняўся на ногі, аднак кубак з віном з рук не выпусціў. — Пра тое, што звычайныя рабаўнікі заб'юць з дзясятак нашых разявак, а тыя потым, каб апраўдацца, прыпісваюць гэта нейкаму прывіду, якога ўжо зрабілі сімвалам вайны? — Ваявода не адвёў позірку, некалькі імгненняў глядзеў у цёмныя, быццам вір, вочы свайго караля, шукаў там разумення і, не знайшоўшы яго, няўпэўнена дадаў: — Хаця, калі шчыра, ваша міласць, і я пачынаю верыць у гэтага міфічнага Фрыдрыха.

— Цікава!

— Калі здарыўся першы напад, я падумаў, што гэта п'яныя пасеклі адзін аднаго і прамаўчаў. Пасля другога — сам разбіраўся, быў на месцы трагедыі і бачыў дванаццаць абезгалоўленых трупаў, прычым большасць з іх былі рассечаны амаль напалову. Так рабаўнікі не сякуць. Так забівае толькі спрактыкаваны воін, а такі воін ніколі рабаваць не будзе. Трэці напад здарыўся ўжо тут, у першую ноч асады. І там: чатырнаццаць амаль распалавіненых ратнікаў. Але самае загадкавае тое, што на зямлі пасля нападу не бачна аніякіх слядоў бойкі: ні конскіх, ні чалавечых.

— Ты кажаш, што адзін чалавек усё ж выжыў. Што ён расказаў?

Радзівіл сумна ўсміхнуўся. Ён ведаў, што Стэфан Баторый вельмі любіў слухаць самыя неверагодныя гісторыі, аднак у сваім расказе ваявода не бачыў нічога цікавага. У ім было шмат невядомага, незразумелага, страшнага, а такое палохае, выклікае пачуццё няўпэўненасці.

— Якуб з Залесся нічога не расказаў, бо быў мёртвы.

— Вось табе і на! — усміхнуўся кароль. — Нядаўна ты казаў, што ён застаўся жывы, а зараз, — што памёр!

— Прайшоў амаль месяц, як я бачыў бедалагу. У тое, што ён выжыў, я ніколі не паверу, бо рана ў яго была страшэнная — ад галавы да поясу і, калі б не кальчуга, то… — ваявода безнадзейна махнуў рукой.

— Ладна, — кароль падышоў да крэсла, крыху падумаў і сеў у яго. — Ты таксама сядай, пан Мікалай, — і калі Радзівіл уладкаваўся ў сваім крэсле, запытаўся: — Усё ж пра якога Фрыдрыха пляткараць салдаты?

— Быў такі крыжак, вялікі маршал ордэна Чорнага Крыжа Фрыдрых фон Валенрод…

— Ведаю, чуў. Рыцары гэтага ордэна насілі белыя плашчы з вышытым на іх чорным крыжам.

— Дык вось, гэты Фрыдрых 16 сакавіка 1410 года напаў на Ваўкавыск, падпаліў горад і пасек мноства людзей…

— Ну, здаралася такое і са мной. Ды і ў цябе, пан Мікалай, пэўна, таксама было падобнае?

— Справа ў тым, — Радзівіл ніяк не адрэагаваў на жарт свайго караля, — што крыжак напаў на горад і пасек людзей у вербную нядзелю. Але ж, і ты гэта ведаеш, што з даўніх часоў у хрысціян існуе звычай: у святочныя дні, звязаныя з Хрыстом і Багародзіцай, ваенныя дзеянні не распачынаць, і парушэнне гэтага звычаю лічыцца святатацтвам і патрабуе суровага пакарання.

— Усё гэта так. Толькі з тых часоў прайшло паўтара стагоддзя і пра таго Валенрода ўжо даўно забыліся нават яго праўнукі.

— Праўнукі, можа, і забыліся, а люд паспаліты памятае і кажа, што ў сечы на палях Грунвальда на Фрыдрыха фон Валенрода ваўкавысцы палявалі асобна. Яны не проста забілі яго, а загналі ў возера Любень, дзе ён і патануў разам з канём. Вось з тых часоў і мітусіцца яго непрыкаяная душа паміж гэтым светам і царствам мёртвых, ніяк не можа знайсці прытулку і супакаення. І там, дзе з’яўляецца коннік у чорным плашчы і на чорным кані — чакай вайны ці страшэннага мору.

— У Валенрода быў белы плашч.

— За сто пяцьдзясят гадоў ён стаў чорным ад людской крыві.

— І хто зможа яго спыніць? Што кажуць людзі?

Радзівіл няўпэўнена паціснуў плячыма і чамусьці паўшэптам прамовіў:

— Людзі кажуць, што забіць яго можа толькі такі ж нябожчык, як і ён сам.

Кароль спалохана перажагнуўся.

— Ты што, ваявода? Што ты кажаш? Дзе яго ўзяць, жывога нябожчыка? — Баторый зноў перажагнаўся і прашаптаў кароценькую малітву. — Ды і хопіць, пан Мікалай, пра нябожчыкаў, давай лепш пасмакуем вось гэтага венгерскага віна… Хаця, — Баторый хітра прыжмурыўся, — ты ж ваявода і разбярыся сам і з Валенродам, і з жывымі нябожчыкамі, і з плёткамі, што непакояць душы нашых жаўнераў.

## 3

Якуб з Залесся нечакана з’явіўся ў лагеры ліцвінаў у канцы жніўня. Яго шчаку перасякаў глыбокі рубец, які прыкметна адцягваў управа рот, ад чаго твар ратніка здаваўся грозным і нават злосным. Аднак не выраз на яго твары палохаў сустрэчных і знаёмых, іх палохалі яго вочы: пустыя і ў той жа час бяздонныя, быццам глядзіш не ў вочы, а ў глыбокую студню, прыглядаешся і бачыш там нечае, толькі не сваё, адлюстраванне. Раней гаваркі і вясёлы, знаўца мноства песень, зараз ён больш маўчаў, а калі і гаварыў, то адным-двума сказамі. На прапанову ротмістра казацкай харугвы Барыса Жабы выбраць з яго табунка самага гарачага жарабца адказаў, што такі жарабец яму без патрэбы і паказаў, што здзівіла ўсіх, на яшчэ не старую, але ціхую і рахманую кабылу па мянушцы Пышка. Толькі сваю янычарку ён бярог, быццам блізкага чалавека і, нібы з чалавекам, шэптам размаўляў з ёй аб нечым патаемным.

— Такога казака згубілі! — бедаваў ротмістр, аднак у справы Якуба не ўмешваўся, баяўся.

Якуб пад сцены крэпасці не хадзіў. Ён цэлымі днямі, а, здаралася, што і ноччу, выязджаў на сваёй кабылцы ў лес ці да балота. Там гадзінамі стаяў на адным месцы, прыслухоўваўся, потым, па вядомай толькі яму аднаму камандзе, раптоўна зрываўся з гэтага месца і імчаў у іншае, дзе зноў цярпліва нечага ці некага чакаў.

Аднойчы вечарам Даніла паспрабаваў пабыць са сваім сябрам, урэшце разабрацца, чаму той так дзіўна паводзіць сябе. Ён ціха пад’ехаў да Якуба, нейкі час пастаяў побач, як і ён прыслухоўваючыся да наваколля, але хутка гэта Данілу надакучыла і ён шэптам запытаўся:

— Ты некага чакаеш?

Якуб крыху падумаў і кіўнуў.

— Калі не сакрэт — каго?

— Фон Валенрода, — прагучаў адказ, і ад таго, як былі сказаны гэтыя два словы, у Данілы на галаве зашавяліліся валасы: яму адказаў не чалавек, а нябожчык і голас яго гучаў не з вуснаў, а аднекуль з вышыні.

— І дзе ён зараз? — Даніла ўсё ж перасіліў страх.

— У нас за спінай.

Такога адказу Даніла не чакаў. Ён рэзка азірнуўся і нібы напароўся на позірк крыжака ў старадаўніх, пачарнелых ад часу даспехах. Той сядзеў на моцным кані, цела якога таксама бараніла браня, і глядзеў на іх. Такія ж, як у Якуба, пустыя і нежывыя вочы бяздоннымі праваламі віднеліся ў шчыліне яго шлема. Данілу раптам падалося, што Валенрод мог бы даўно засячы іх абодвух і, каб не трапіць пад крыжацкі меч, ён, забыўшыся пра братэрскую вернасць, рэзка ўкалоў свайго жарабца шпорамі. Конь прысеў ад болю, а праз імгненне, ламаючы кусты, імчаў да свайго лагера.

Якуб з’явіўся ў лагеры раніцай.

— Не трэба больш так рабіць, — вось і ўсё, што ён сказаў Данілу.

У той жа дзень Даніла загінуў ад варожай кулі.

А адвячоркам да Якуба падышоў Барыс Жаба.

— Паслухай, Якубе, — пачаў ротмістр пасля таго, як яны абодва схаваліся ад нуднай імжы пад густым клёнам. — Некалі мы сябравалі, разам хадзілі за перакоп, елі з аднаго катла верашчаку. А зараз? Даніла загінуў, ты жывы, але змяніўся…

— Я нежывы, Барыс.

— А які ты?

— Нежывы.

— Як нежывы? — Жаба спадзяваўся, што яго сябар жартуе, паспрабаваў злавіць яго позірк, але той быў сур’ёзны і глядзеў некуды ў бок лесу. — Ты ж ясі, як усе, размаўляеш, ездзіш на кані… Дарэчы, куды ты ўсё ездзіш? Каго палюеш? Раней ты любіў вайну, а зараз цябе і на аркане пад сцены крэпасці не зацягнеш. Што з табой, братка?

— Раней я бараніў жывых ад жывых, а зараз бараню жывых ад нябожчыкаў.

— А навошта нас бараніць ад нябожчыкаў? — дурнавата рагатнуў Барыс і тут жа асекся, бо ўрэшце ўбачыў пустыя вочы сябра і зразумеў, што той не жартуе. — Ад якіх нябожчыкаў?

— Ад Валенрода.

— Ад Крывавага Фрыдрыха? Дзе ж ты яго знойдзеш, калі ён загінуў сто пяцьдзясят гадоў таму?

— Я яго бачу кожны дзень і зараз не я яго, а ён мяне шукае. Чакае, калі на небе канчаткова вырашаць ягоны лёс і я вызвалю яго спакутаваную душу, адпушчу яе на суд Божы.

— Навошта ж ён зараз забірае людскія жыцці?

— Некалі ён па сваёй волі пераблытаў паняцці дабра і зла, паставіў сябе на адну прыступку з Богам…

— Ты апраўдваеш яго дзеянні і ў той жа час хочаш забіць яго!

— Я не маю права ні асуджаць яго, ні апраўдваць. Я павінен выканаць рашэнне іншых і выратаваць яго ад яго ж самога, бо сто пяцьдзясят гадоў адлучэння — гэта ўжо занадта страшэннае пакаранне нават для такога грэшніка, як Валенрод… А ён жа некалі быў ратнікам Божым.

Сказаўшы гэта, Якуб з Залесся падхапіўся на ногі і накіраваўся да сваёй цярплівай кабылкі.

— Мяне Фрыдрых чакае, — замест развітання прагучалі яго словы.

## 4

У канцы месяца ўрэшце выглянула сонца і амаль у той жа дзень ліцвіны падпалілі сцяну крэпасці. «Прасіце літасці ў нашага караля», — крычалі яны праз вялізны пралом у сцяне маскавітам, аднак тыя не спяшаліся гэтага рабіць, чакалі падмогі ад свайго цара.

Баторый злаваўся. «Не хочаце па-добраму, будзе па-дрэннаму!» — вырашыў ён і загадаў безупынку, днём і ноччу, абстрэльваць замак. Ад распаленых ядраў загараліся вежы, і хутка высокія языкі полымя палыхалі ў розных кутках замка. Чужынцы ўжо не супраціўляліся, а іх ваяводы са сваім уладыкам епіскапам Кіпрыянам зачыніліся ў Сафійскім саборы, бо ведалі, што ліцвіны не адважацца апаганіць сцены храма смертазабойствам.

І ўсё ж раніцай трыццатага жніўня маскавіты не вытрымалі, выкінулі белую анучу ў знак капітуляцыі і паддаліся на каралеўскую ласку. Толькі ўладыку Кіпрыяна і некалькіх, найбольш палахлівых ваяводаў давялося сілай выцягваць з Сафіі, мабыць, так яны баяліся не Божай, а чалавечай кары за свае злачынствы перад палачанамі, таму і не выходзілі самі.

А вечарам кароль склікаў сваіх ваяводаў, каб пачуць ад іх пра страты і набытыя трафеі. Ён уважліва слухаў сваіх памочнікаў і дарадцаў, некаторыя лічбы ўдакладняў, задаволена чмокаў губамі. І яму было чаго радавацца — больш за трыццаць гармат, трыста гакаўніц, шэсцьсот ручніц-мушкетаў папоўнілі арсенал каралеўскага войска. Выслухаўшы звесткі аб людскіх стратах, Баторый спахмурнеў і загадаў адслужыць памінальныя службы ва ўсіх полацкіх цэрквах.

— А што будзем рабіць з палонам? — у канцы нарады пацікавіўся Радзівіл. — Ці, можа, даруем ім іх злачынствы?

— За злачынствы іх судзіць будзе пан Езус, а сапраўдны ваяр — літасцівы ваяр! — загадкава адказаў кароль і закончыў нараду.

Раніцай наступнага дня Баторый аб’явіў сваё рашэнне наконт палонных. Кароль быў занадта літасцівы да чужынцаў, дараваў усім ім волю і дазволіў кожнаму з іх, хто не жадае застацца ў Літве, узяць з сабой столькі асабістых рэчаў, колькі той зможа панесці на сабе. Што тут пачалося: захопнікі абдзіралі аклады старажытных абразоў, ламалі крыжы на алтарах і цэрквах, адрывалі пазалочаныя вокладкі кніг бібліятэкі Сафійскага сабора. Усё гэта яны чаплялі на сябе, а зверху, не зважаючы на спёку, яшчэ накідвалі нарабаваныя раней футры. А каб на чужынцаў не напалі па дарозе азлобленыя немцы ці ўгорцы, Баторый загадаў Радзівілу Рудому выдзеліць для іх аховы эскадрон казакоў Барыса Жабы.

Радзівіл не зразумеў свайго валадара, аднак скарыўся каралеўскай волі.

Наступным днём палонных пасадзілі на калёсы і адправілі з Полацка ў Масковію.

Адышоўшы ад горада на даволі значную адлегласць, тыя канчаткова паверылі, што выратаваліся з Божай ласкі. Але чамусьці пачалі лаяць ліцвінаў, абражаць іх годнасць, мову і веру.

— Усё, хопіць, — першым не вытрымаў Барыс Жаба і падняў руку, патрабуючы ад падначаленых увагі. — Далей няхай едуць самі, — сказаў ён і рашуча павярнуў каня, паехаў назад да Полацка. За ім павярнулі ратнікі.

Узняўшыся на пагорак, Якуб дакрануўся да пляча свайго ротмістра і кіўнуў назад у бок чужынцаў:

— Ля лесу іх усіх чакае смерць.

— Смерць?.. — здзівіўся той. — І хто іх усмерціць?

— Валенрод.

— Адкуль ты ведаеш? — спытаў Жаба. Ён не мог паверыць у гэта, спалохана глядзеў на сябра: жартуе? Аднак твар Якуба быў цвёрды, ніводная жылка не пульсавала на ім, ніводная рыса не мянялася. Значыць, не жартуе.

— Прыслухайся і ўсё зразумееш.

Казацкі ротмістр з пагорка ўважліва агледзеў узлесак, да якога набліжаліся адпушчаныя палонныя, прыслухаўся, але акрамя тупату конскіх капытоў нічога не пачуў.

— Нічога падазронага я не пачуў і не ўбачыў.

— Лес маўчыць, — сказаў Якуб.

Восеньскі лес, які зусім нядаўна поўніўся птушынымі галасамі, і сапраўды падазрона маўчаў. Нават не было чутно варання, якое звычайна цэлымі зграямі суправаджала вялікія абозы, чакаючы спажывы.

— Так, маўчыць, — пагадзіўся ён. — Ну і што з гэтага?

— Птушкі адчулі смерць.

«А птушкі тут пры чым? Яны што, як і ты, памагатыя Валенрода?» — хацеў спытаць Жаба. Ён ужо раскрыў рот, аднак у гэты момант з лесу ўзнялася велізарная чорная птушка. Цяжка размахваючы крыламі, яна паляцела да калоны былых палонных. Птушка ляцела над самай зямлёй бязгучна, і тыя не адразу ўбачылі яе. А калі заўважылі, нема закрычалі. Іх жахлівы крык скалыхнуў цішыню і вусцішнае рэха, адбіўшыся ад неба, якое, здаецца, раптам стала цвёрдым, бы шкло, з неймавернай сілай абрынулася на зямлю, туды, дзе знаходзіўся абоз. І раптам перад ім птушка пераўтварылася ў ваяра, велізарны меч якога бліскавіцай мільгануў у паветры і са страшэннай сілай апусціўся на першую ахвяру…

Хутка ля лесу, дзе быў абоз, не засталося ніводнай жывой душы. Невялікая купка казакоў на чале з ротмістрам ашаломлена глядзела на ўсё гэта… Ваяр нібы праплыў у паветры над месцам пабоішча, укінуў меч у похвы і нетаропка накіраваўся ў бок лесу.

— Ну вось, здаецца, і ўсё! — сказаў Жаба. — Час і нам у лагер.

— Я застаюся, Барыс, — прагучаў побач голас Якуба.

Ротмістр чакаў гэтага ад сябра, таму і не адгаворваў яго. Ён зразумеў, што пасля смяротнага ранення ля Друі Якуб стаў іншым чалавекам і ўжо не чалавечыя абавязкі ўскладзены на яго плечы, і хто ўсклаў на яго гэтыя абавязкі, Барыс мог толькі здагадвацца.

— Ці ўбачымся мы з табой яшчэ калі, дружа? — вочы ротмістра сталі вільготнымі.

— Думаю, не, — абыякава прагаварыў Якуб і працягнуў руку: — Бывай!

Якуб спусціўся з пагорка і паімчаў да лесу. Барыс Жаба перахрысціў яго ў спіну. Той гэта адчуў, спыніўся, павярнуўся — шчаслівая ўсмешка раптам з’явілася на яго скалечаным твары і, як падалося Барысу, Якубавы вочы ўспыхнулі радасным, жывым святлом. «Бывай, дружа!» — данёс вецер яго апошнія развітальныя словы.

Больш пра Крывавага Фрыдрыха ў Літве не чулі.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# ВЕРШАВАННЕ РАННЯГА КУПАЛЫ

*(На прыкладзе зборнікаў «Жалейка» і «Гусляр»)*

Беларуская паэзія мае вялікія дасягненні. Гісторыя беларускага літаратурнага верша налічвае пяцьсот гадоў. Трывала замацаваліся ў ёй класічныя формы. Цікавыя знаходкі ў галіне рытмікі і страфікі выяўляе маладое пакаленне паэтаў Беларусі.

Адзін з першых беларускіх даследчыкаў верша — Сімяон Полацкі. Яго слыннымі прадаўжальнікамі сталі Ян Чачот, Іван Насовіч, Яўхім Карскі, Максім Багдановіч. У савецкі перыяд у галіне беларускага вершазнаўства вызначаюцца працы А. Вазнясенскага, У. Дубоўкі, А. Клышкі, І. Ралько, М. Грынчыка, В. Рагойшы, А. Кабаковіч, М. Янкоўскага, Н. Гілевіча і інш. У XXI ст. абаронены кандыдацкія дысертацыі, звязаныя з даследаваннем верша, Ульянай Верынай («Верлібр у паэзіі беларускага авангарда 1980—1990-х гадоў», 2001), Аляксандрам Дуброўскім («Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша», 2003), Марыі Кудрашовай («Паэтыка беларускіх замоў: вобразны свет, гукавая арганізацыя тэксту», 2005). Аднак шматлікія пытанні гісторыі і тэорыі беларускага верша не знайшлі належнага тлумачэння, і ўвогуле кола спецыялістаў-вершазнаўцаў у апошні час значна звузілася. Гэтая акалічнасць выклікае не толькі пэўнае збядненне беларускага вершазнаўства, але і адмоўным чынам уплывае на даследаванне гісторыі беларускай паэзіі, літаратурную крытыку, не дазваляе цалкам ацаніць эстэтычную каштоўнасць паэтычнага тэксту.

Даследаванне верша Янкі Купалы прыцягвала да сябе ўвагу літаратуразнаўцаў. Аднак і на сённяшні дзень не сціхае дыскусія наконт паслядоўнасці ўсталявання сілаба-танічных прынцыпаў у творчасці Янкі Купалы, асабліва ў першых яго зборніках, адсутнічае даведнік вершаваных памераў усёй творчай спадчыны паэта (накшталт «Метрычнага даведніка да вершаў Максіма Багдановіча» І. Ралько). Даследаванні М. Грынчыка, звязаныя з рытма-інтанацыйным ладам Купалавага верша, падверглiся крытычнаму перагляду І. Ралько, які выступаў за перавагу сілаба-тонікі ўжо на першапачатковым этапе творчага развіцця паэта. Вось чаму мэтазгодна разгледзець вершаванне ранняга Янкі Купалы на прыкладзе першых двух яго зборнікаў, акрэсліць шляхі засваення і ўсталявання ім вядучых прынцыпаў вершавання, што з’яўляюцца вызначальнымі для ўсяго далейшага развіцця беларускай паэзіі.

Першы зборнік Янкі Купалы «Жалейка» быў выдадзены ў 1908 годзе ў Санкт-Пецярбургу выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца». Змяшчаў ён 95 вершаў 1905—1907 гг. і паэму «Адплата кахання». Зборнік двойчы канфіскоўваўся царскімі ўладамі. Беларуская інтэлігенцыя ў большасці сваёй з энтузіязмам успрыняла выхад «Жалейкі». Літаратурны крытык Леў Клейнбарт адзначаў, што «Жалейка» выражала нацыянальны ўздым тагачаснага грамадства. У 17-м нумары «Нашай Нівы» за 1908 г. выйшла станоўчая рэцэнзія Владака з Казіміраўкі (Уладзіміра Самойлы) на дадзены зборнік. «Велічыню і гібкасць здольнасці» Янкі Купалы, яго «здатнасць да ўсестаронняга развіцця» адзначае і Максім Багдановіч у крытычным артыкуле «Глыбы і слаі» (1911г.) , аднак першыя вершы песняра лічыць «шурпатымі», «слаба апрацаванымі з боку формы і мовы» [1, с. 186].

Вершы «Жалейкі» ствараліся на хвалях рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг. У іх адчуваецца непрынятце паэтам сацыяльнай несправядлівасці, разуменне гаротнага стану сялян, іх чалавечай годнасці і права на лепшую долю. Сам Янка Купала кажа пра сябе: «Я сын беларускай вёскі, узгадаваны яе нядоляй, бачыў крыўду і гора. Мне хацелася намаляваць вобраз народа, які ідзе з рукамі ў крывавых мазалях, з нагамі ў лапцях і нясе на плячах сваю крыўду» [2, с. 31].

Зборнік скрозь насычаны беларускімі тыпамі. Сустракаем тут «бабульку-прадаўшчыцу зёлак», добрага гаспадара Сцёпку Жука, старцаў, сяўца, жней і г. д. І трэба заўважыць, што ў многіх выпадках праца сялян мае сімвалічнае значэнне змагання за лепшую долю:

І поўнай мазолістай жменяй
Жытцо па раллі раскідае,
Хавае ў зямельку надзею,
Што возьме з сяўбы? — не згадае
(*«Сяўцу»*) [4, с. 227].

Янка Купала адухаўляе прылады працы («друг мой неадчэпны, саха ты крывая»), дрэвы (ліпу, вольху). Такім чынам, «ужо ў «Жалейцы» спакваля пачынае сцвярджацца прынцып двайнога ўспрыняцця рэчаіснасці: з аднаго боку, рэалістычна-дакладнае, з другога — асэнсаванне яго ў вобразах сімвалах» [2, с. 23].

Паэт, гіпербалізуючы казачную моц селяніна, мяняе настрой ад пераможнага і бадзёрага:

Я ўсё закляну,
Усё сілай папру,—
З гор зраблю даліну,
А з далінкі гару!
*(«З песень беларускага мужыка»)*
[4, с. 141].

да элегічнага, засмучонага, які праяўляецца на фоне лірычных пейзажаў:

Шумныя бярозы
Пабяліў мароз.
Хацеў бы я плакаць,
Дый не маю слёз
*(«З песень нядолі»)* [4, с. 116].

Паразважаем над выкарыстаннем пэўных вершаваных памераў для выяўлення азначаных тэм і настрояў у зборніку «Жалейка». Пададзім іх у спецыяльнай табліцы (гл. табл. 1.1).

**Табліца 1.1 — Размеркаванне рытмікі ў зборніку «Жалейка»**

| Памер | Колькасць вершаваных радкоў | Усяго |
|---|---|---|
| Х4343 | 48; 20; 32; 32; 24; 30; 28; 32; 32; 64; 40; 28; 80; 20; 48; 32; 32 | 622 |
| Х4 | 40; 42; 32; 12; 18; 18; 16; 32; 16; 120; 40; 32 | 400 |
| Х3 | 36; 44; 45; 60; 43; 44; 20; 44; 40; 48 | 428 |
| Х4242 | 24 | 24 |
| Х3Я3 | 32 | 32 |
| Я4 | 24; 30; 28; 54; 48; 45; 44 | 273 |
| Я3 | 44; 48; 34; 20; 20;20; 108 | 294 |
| Я4343 | 18; 8 | 26 |
| Д2 | 40; 104 | 144 |

| Памер | Колькасць вершаваных радкоў | Усяго |
|---|---|---|
| Д4/Ан4 | 20 | 20 |
| Ам4 | 28; 15; 72; 16; 16; 108; 36 | 291 |
| Ам3 | 40; 40; 28; 48 | 156 |
| Ам2 | 50; 56; 56 | 162 |
| Ам4343 | 40 | 40 |
| Ан4 | 24; 68; 64; 32; 40 | 228 |
| Ан3 | 28; 24; 24; 32 | 108 |
| Ан2 | 80; 16; 40; 28; 28; 28; 36;32; 28 | 288 |
| Інтанацыйны | 15; 36; 36 | 87 |

**Малюнак 1.1 — Вершаваныя памеры зборніка «Жалейка»**




Правёўшы неабходныя падлікі, я прыйшла да выніку, што ў зборніку «Жалейка» вядучае месца займаюць харэічныя памеры (гл. мал. 1.1). Харэй з рэгулярным чаргаваннем 4-стопных і 3-стопных радкоў налічвае 622 радкі, чатырохстопны харэй — 400 радкоў, трохстопны харэй — 444 радкі (з улікам памеру Х3/Я3), харэй з рэгулярным чаргаваннем 4-стопных і 2-стопных радкоў — 24 радкі. Усяго — 1490 радкоў (41 % ад агульнай колькасці радкоў зборніка).

«Як неаднойчы падкрэслівалася ў вершазнаўчай літаратуры, мы не можам назваць, па сутнасці, аніводнага вершаванага памеру, страфы, віду верша, якія б ужываліся толькі ў адной нейкай жанрава-тэматычнай сферы, для выяўлення нейкага аднаго матыву... У той жа час заўважана, што ў свядомасці ўспрымальніка, гэтаксама як і стваральніка, паэзіі нярэдка існуе пэўны эмацыянальна-экспрэсіўны стэрэатып, звязаны з тым ці іншым вершаваным памерам», — піша В. Рагойша ў манаграфіі «Беларускае вершаванне» [6, с. 124].

Імклівасць, узбуджанасць, яркая экспрэсіўнасць харэічнай страфы, на маю думку, і з’яўляецца падобным стэрэатыпам яе ўспрымання. Аднак у «Жалейцы» харэй мае як мінорную танальнасць, адлюстроўвае неўладкаванасць жыцця, душэўны боль:

Кепска, браткі, жыць нам стала!
Няма шчасця, добрай долі;
Калі хлеб ёсць — няма сала,
Хоць гарэлкі дык даволі

*(«Кепска»)* [4, с. 215], —

так і бадзёры настрой і надзею:

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу з думкай падлятаеш,
Шчасця зычыш для людзей

*(«Аўтарцы “Скрыпкі беларускай”»)* [4, с. 126].

Змешаны тып харэя (Х4343) мае яшчэ і цікавую сэнсава-інтанацыйную дынаміку, заснаваную на прынцыпе антытэзы:

Няма хлеба, няма солі,—
Чужому рабі;
Няма шчасця, няма долі,—
Вось тут і жыві
*(«Вось тут і жыві»)* [4, с. 205].

Генетычна гэты вершаваны памер «непасрэдна звязаны з традыцыямі народнай песні, асабліва з яе каламыйкавым відам» [3, с. 223].

Другое месца ў зборніку належыць ямбічнай кадэнцыі. Чатырохстопны ямб налічвае 273 радкі, трохстопны — 294, ямб з раўнамерным чаргаваннем 4-стопных і 3-стопных — 26 радкоў. Усяго — 593 радкі (16 %).

Ямб успрымаецца даволі ўраўнаважаным. Найчасцей у «Жалейцы» ён перадае бадзёры і аптымістычны настрой:

Душой я вольны чалавек,
І гэткім буду цэлы век!
*(«Песня вольнага чалавека»)*
[4, с. 197].

Але выкарыстоўвае Янка Купала ямб і ў павольнай плыні пейзажных замалёвак, у вершах з элегічным настроем:

Шуміць маркотна вольха
Над рэчкаю бурлівай,
Аброслая на доле
Бадылямі, крапівай
*(«Вольха»)* [4, с. 87].

Актыўнае засваенне Янкам Купалам двухскладовых памераў сведчыць пра «канчатковае ўсталяванне сілаба-танічных прынцыпаў у беларускай паэзіі XX ст.» і «рашаючы ўплыў народнай паэзіі на рытмічную структуру нацыянальных форм беларускага верша» [3, с. 228].

На трэцім месцы ў «Жалейцы» — чатырохстопны амфібрахій (без уліку паэмы «Адплата кахання») — 281 радок (8 %). Амфібрахій блізкі да гутарковай стыхіі беларускай мовы (ананімныя гутаркі, вершы Багушэвіча, Цёткі, Янкі Лучыны). Найчасцей ён перадае глыбокія філасофскія роздумы і перакананні:

Ці пойдуць пажары, хваробы пад стрэхі,
Ці голад, ці холад, ці смутак у хаце, —
Ня йдзі да палацу шукаці пацехі! —
Там толькі пачуеш зласлівыя смехі.
Ой, раю — ня рвіся к багатым, мой браце!
*(«Не рвіся к багатым»)* [4, с. 69].

Такім чынам, Янка Купала пачынае з засваення найбольш традыцыйных форм сілаба-тонікі (ямба і харэя). Паралельна прыходзіць паэт і да трохскладовых памераў, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці да народна-апавядальных традыцый.

У сваіх творчых пошуках Янка Купала, безумоўна, улічваў здабыткі папярэднікаў. Найперш — Янкі Лучыны і Францішка Багушэвіча.

Янка Лучына шмат у чым папярэджваў развіццё беларускай версіфікацыі ў пазнейшыя гады, яе бліскучы ўзлёт у пачатку XX ст. Сілаба-тоніка (27 вершаў) складае 84% ад яго творчай спадчыны. Перавагу Янка Лучына аддаваў двухскладовым памерам. 12 з 27 яго вершаў напісаны харэем (Х4 — 5 вершаў, Х3 — 3 вершы, Х4343 — 3 вершы, Х7 — 1 верш) (гл. табл. 1.2).

**Табліца 1.2 — Сістэмы вершавання Янкі Лучыны**

| Сістэма вершавання | Колькасць вершаў | Працэнт ад агульнай колькасці | Памер (колькасць) |
|---|---|---|---|
| Сілаба-тоніка | 27 | 84% | Х3 — 3; Х4 — 5; Х4343 — 3; Х7 — 1; Я3 —1; Я4 — 3; Я5 — 1; Я6 — 1; Ам3 — 1. Д4 — 1. Ан2 — 2; Ан4 — 3. Лаг. — 2. |
| Сілабіка | 4 | 13% | С11 — 2; С12 —1; С13 — 1. |
| Тоніка | 1 | 3% | АС3/8 |

Францішак Багушэвіч таксама паступова пераходзіў да сілаба-тонікі. У яго «Смыку беларускім» (1894) ужо няма ніводнага сілабічнага твора. Першае месца ў дадзеным зборніку займае Х4343, як і ў «Жалейцы» (гл. табл. 1.3).

**Табліца 1.3 — Размеркаванне рытмікі ў зборніку «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча**

| Памер | Колькасць радкоў |
|---|---|
| Х4343 | 168 |
| Х44443 | 40 |
| Х4444 | 136 |
| Х4 | 98 |
| Х3 | 22 |
| Ан3 | 26 |
| Тк2 | 24 |
| Тк4-3 | 60 |
| Тк3-4 | 106 |
| АС 2/10 | 16 |
| П.а.2 | 16 |

Параўнаем рытміку Купалы жалейкавага перыяду з блізкімі па часе зборнікамі Максіма Багдановіча і Якуба Коласа.

М. Багдановіч звярнуўся да традыцый, найбольш распрацаваных у славянскай і ў першаю чаргу — рускай паэзіі. У яго зборніку «Вянок» (1913) даволі раўнамерна ўжыты асноўныя канстантныя структуры сілаба-тонікі. Я4 (27%) ад колькасці радкоў аказаўся найбольш прыдатным для раскрыцця асноўных тэм (гл. табл. 1.4).

**Табліца 1.4 — Размеркаванне рытмікі ў зборніку «Вянок» М. Багдановіча**

| Памер | Колькасць радкоў |
|---|---|
| Х4 | 86 |
| Х4343 | 40 |
| Х4747 | 8 |
| Х5 | 58 |

| Памер | Колькасць радкоў |
|---|---|
| Х6 | 60 |
| Х6565 | 6 |
| Х8383 | 12 |
| Я4 | 379 |
| Я4242 | 16 |
| Я5 | 125 |
| Я6 | 134 |
| Я6464 | 10 |
| Д2 | 8 |
| Д3/Ан3 | 6 |
| Д4 | 66 |
| Д4343 | 28 |
| Д6 | 20 |
| Ам3 | 8 |
| Ам4 | 34 |
| Ам5 | 20 |
| Ам6 | 8 |
| Ан3 | 80 |
| Ан4 | 61 |
| Ан4343 | 8 |
| Ан5 | 5 |
| Інтанацыйны | 102 |

У зборніку «Песні жальбы» Якуба Коласа (1910 г.), як і ў «Жалейцы», дамінуе змешаны тып харэя (834 радкі). Увогуле, харэічная кадэнцыя з’яўляецца вядучай (Х4 — 608 радкоў, Х3 — 396 радкоў). Больш спарадычна Якубам Коласам распрацоўваліся ямбічныя і трохскладовыя памеры (гл. табл. 1.5).

**Табліца 1.5 — Размеркаванне рытмікі ў зборніку «Песні жальбы» Я. Коласа**

| Памер | Колькасць радкоў |
|---|---|
| Х3 | 396 |
| Х4 | 608 |
| Х4343 | 834 |
| Я3 | 20 |
| Я4 | 32 |
| Д4 | 36 |
| Д4343 | 16 |
| Ам2 | 32 |
| Ан2 | 80 |
| Інтанацыйны | 72 |

Такім чынам, Янка Купала сваім першым зборнікам замацаваў у беларускай паэзіі традыцыі сілаба-тонікі, улічваў пры гэтым вопыт папярэднікаў, жывыя народныя і еўрапейскія традыцыі. Аўтар «Жалейкі» паказаў бязмежнасць тэматычнага поля лірыкі, еднасць з беларускім этнаграфічным светам, характарам народа, эстэтычнымі традыцыямі.

Другі зборнік Купалы «Гусляр», як і першы, пабачыў свет у Пецярбургу. Адбылося гэта 13 кастрычніка 1910 года ў друкарні Пянткоўскага. Паэт прыехаў сюды ў снежні 1909 г., пачаў наведваць курсы А. Чарняева, навукова-літаратурны гурток, створаны па ініцыятыве Б. Эпімах-Шыпілы, стаў сваім у тамтэйшым культурным асяроддзі. Янка Купала ўжо меў добры стос вершаў — аснову «Гусляра», за якімі выйшлі з-пад пяра новыя: «Песня сонцу», «Я ад вас далёка», «Гэй, капайце, далакопы» і інш. Зборнік сустрэў шматлікія станоўчыя ацэнкі. Беларускі пісьменнік і крытык Альгерд Бульба ў сваёй рэцэнзіі на «Гусляра», надрукаванай у газеце «Наша Ніва» 21 кастрычніка 1910 г., адзначаў у творах паэта вялікае багацце фантазіі, форм, настрояў, здольнасць гарманічна зліць у адным вершы думку і пачуццё. Заўважаючы рост Купалы-вершатворцы, М. Багдановіч пісаў: «Талент Купалы ўзрастае, пашырае круг сваіх тэм і ўжо не галосіць (ці лепей не толькі галосіць), а павявае ўжо смеласцю, жыццёвай сілай і пагардай».

У другім Купалавым зборніку больш поўна і глыбока раскрываецца перад паэтам сутнасць чалавечага існавання. Чалавек тут выступае як волат духу, магутны гусляр, які павінен пракласці «к сонцу зорны шлях». Паэт шле «Прывітанне» беларускаму народу, заклікае да плённай сяўбы добрага зерня на роднай глебе:

За плугамі за сваімі
На прасторы Божым
Чыстым сэрцам, вольнай думкай
Песню-казку зложым
*(«Прывітанне»)* [5, с. 152].

Вершы «Гусляра» па-філасофску заглыбленыя, Купала разважае аб няспыннасці часу, заканамернасцях гістарычнага працэсу, праблеме пераемнасці пакаленняў:

Нічога вечнага на свеце
Няма для шумнага жыцця;
Здарэнні, многія сталецці
Ідуць пад века забыцця
*(«Кругаварот»)* [5, с. 200].

Адной з цэнтральных тэм зборніка, безумоўна, з'яўляецца тэма мастака і свету, мастака і народа. Цікава раскрываецца яна ў вершы «Сон», прысвечаным Янкам Купалам свайму настаўніку У. Самойлу. «Цень у белі», што з'яўляецца ў сне, ёсць «песня і ліра», якія раскрываюць духоўную моц творчасці:

І страх жыцця цябе аставе,
І бор пачне шумець жыццём;
Мы след праложым табе к славе
Чаго жадаў, мы ўсё дадзём
*(«Сон»)* [5, с. 131].

На высокі ўзровень выходзіць і пейзажная лірыка. Своеасаблівая метафарычнасць, успрыняцце прыроды як жывой, адухоўленай ствараюць яскравыя візуальныя ўяўленні. Купалаўская вясна ходзіць «у вянку з пралесак, у святлянай шаце», «сяміцвет-вясёлкай ззяе над далінкай» («Вясна») [5, с. 191]. «Прыгожа-квяцістае» лета купае сонца ў «полыску рос» («Лета») [5, с. 194].

Якія ж вершаваныя памеры паэт абірае для належнага ўвасаблення сваіх думак? (Гл. табл. 2).

**Табліца 2 — Размеркаванне рытмікі ў зборніку «Гусляр»**

| Памер | Колькасць вершаваных радкоў | Усяго |
|---|---|---|
| Х4343 | 24; 12;24;20;12;32;24;32;20;46;8;140 | 414 |
| Х4 | 28;32;32;18;28;32;12;20;48;8 | 258 |
| Х3 | 24;28;32;28;36;16;28;20;36;44;36;30;24;20 | 402 |
| Я4 | 28;16;52;20;20;24;24;8 | 192 |
| Я3 | 36 | 36 |
| Я6464 | 60 | 60 |
| Д2 | 28;30 | 58 |
| Д3 | 16;28;28 | 72 |
| Д4 | 32; 12;45;12 | 231 |
| Ам3 | 34;24 | 58 |
| Ам2 | 50; 56; 56 | 162 |
| Ам4 | 40 | 40 |
| Ан2 | 32;16;20 | 68 |
| Ан3 | 20;40;64;28 | 152 |
| Ан4343 | 16;28;144 | 188 |
| Танічны | 32;36;24;48;116 | 256 |

**Малюнак 2 — Вершаваныя памеры зборніка «Гусляр»**




Статыстычныя падлікі паказваюць, што ў «Гусляры», услед за «Жалейкай», адбываецца актыўнае засваенне паэтам сілаба-танічных прынцыпаў вершавання.

Самай распаўсюджанай формай для выражэння думак сталі харэічныя памеры (гл. мал. 2). Харэй з рэгулярным чаргаванне 4-стопных і 3-стопных радкоў налічвае 414 радкоў, трохстопны харэй — 402 радкі, чатырохстопны харэй — 258 радкоў. Усяго — 1074 радкі (41% ад агульнай колькасці радкоў зборніка).

Харэй у Янкі Купалы выступае і як бадзёрае ўхваленне зямной працы, стваральнай працы селяніна:

Вот часіна! вот агніста
Завярцела, закруціла!
Прэ ў палі, ў лугі ўсё чыста,
Ажно глянуць неяк міла

*(«Пятровы час»)* [5, с. 193], —

і мае мінорную танальнасць, выражае горкае непрыняцце паэтам адчужанасці і закінутасці чалавека ў свеце сацыяльнай несправядлівасці:

З плачам думка-песня льецца
Па замучанай старонцы,
З плачам рэха адаб'ецца...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

*(«Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?»)* [5, с. 162].

У інтэнсіўным узрастанні змешаных чатырох- і трохстопных харэяў нельга не адчуць уплыву народна-песеннай стыхіі. Як адзначалася раней, гэты памер непасрэдна звязаны з каламыйкавым відам народнай песні. «Як характэрны кампанент метрыкі Купалы, ён аказаўся адной з найбольш прыдатных форм для беларускай сілаба-тонікі. Гэты тып рытмічнай упарадкаванасці радка можна назваць «натуральнай стапой», якая падобна антычным формам сапфічнай і алкеічнай стапы набыла значэнне спецыфічна беларускай формы верша», — слушна адзначаў М. Грынчык у манаграфіі «Шляхі беларускага вершавання» [3, с. 192]. Змешаным тыпам харэя (Х4343) ствараe багатыя рытмаўтваральныя магчымасці, аблягчае страфічную будову верша, дапамагае пазбегнуць манатоннасці інтанацый:

Пойдзе плавам песня-казка
Ў свет аб нашай славе,
Дзіву дасца свет вялікі
Гэтакай праяве

*(«Прывітанне»)* [5, с. 152].

Аднак імклівасць і ўзбуджанасць харэічнай кадэнцыі ўраўнаважваюць памеры трохскладовыя, найперш анапест, які займае ў зборніку другое месца (Ан 4343 — 188 радкоў), у адрозненні ад «Жалейкі», дзе на другім месцы двухскладовы памер — ямб. Трохскладовыя памеры беларускай сілаба-тонікі арыентаваны на гутарковую стыхію мовы, традыцыі ананімных вершаваных гутарак і апавяданняў. Філасофская заглыбленасць «Гусляра» вымагае менавіта дадзенай вершаванай арганізацыі. Аднак і ў гэтым выпадку Янка Купала ўдала пазбягае залішняй манатоннасці, аддае перавагу змешанаму тыпу анапеста з чаргаваннем 4-стопных і 3-стопных радкоў (188 радкоў):

Адгукніся, душа, песняй звонкай грымні!
Няхай песня з віхрамі памчыцца.
Ў братніх сэрцах няхай разгарацца агні.
Думы новай пальюцца крыніцай

*(«Адгукніся, душа»)* [5, с. 154].

На трэцім месцы ў «Гусляры» ямб. Чатырохстопны ямб налічвае 192 радкі, трохстопны — 36 радкоў, ямб з рэгулярным чаргаваннем 6-стопных і 4-стопных радкоў — 60 радкоў. Усяго 288 радкоў (12 % ад агульнай колькасці). Купала выкарыстоўвае даволі ўраўнаважаны ямб для перадачы цыклічнасці, паслядоўнасці, няспыннасці агульначалавечых падзей:

За годам год, за родам род,
Што хвалі хмар, што плесні вод,
Па зменах змен, на ўсход, на сход,
Ідзе-брыдзе на быт, на звод...

*(«За годам год»)* [5, с. 164].

Даволі значнае месца займае ў зборніку «Гусляр» і танічны верш (256 радкоў, ці 11 %). Для прыкладу, у «Жалейцы» ўсяго 87 радкоў танічнага верша. А значыць, танічны прынцып узмацняецца ад зборніка да зборніка. Але гэта зусім не аспрэчвае трывалае ўсталяванне сілаба-тонікі ў беларускім вершаванні пачатку XX стагоддзя. Гэта з'ява выяўляе істотныя ўнутраныя заканамернасці эвалюцыі беларускага верша ў перыяд яго станаўлення. «Гэтаксама як раней (XVI—XVIII стст.) народны верш «расхістваў» сілабіку, паскараючы і аблягчаючы яе пераход да новай сістэмы вершавання — сілаба-танічнай, цяпер (XIX—XX стст.) ён актыўна пачынае ўплываць на сілаба-тоніку, прадвызначаючы нараджэнне чыста-танічнага літаратурнага верша», — сцвярджае В. Рагойша ў манаграфіі «Беларускае вершаванне» [6, с. 52]. Названыя заканамернасці сфармуляваны М. Багдановічам у тэзісах пра «вершы беларускага складу». Думаецца, што менавіта пра танічныя вершы зборніка, заснаваныя на традыцыях беларускай песеннай культуры, А. Бульба пісаў у сваёй рэцэнзіі: «Ці кінецца Купала ў даўкі быт, ці загляне ў даўкі курган, што віднеецца на нашай бацькаўшчыне… — з усяго дабудзе тон роўны, дабудзе той асобны беларускі матыў». Напрыклад, 2-акцэнтны 5-складовік «Ночка» паэтыкай нагадвае народныя песні, перадае веру ў абагаўленне прыроды:

Лягла туманом
Ночка на дварэ,
Звяванай сном
Зямлі гоман мрэ
*(«Ночка»)* [5, с. 197].

Такім чынам, услед за «Жалейкай», у «Гуслярэ» Янка Купала замацоўвае ў беларускай паэзіі традыцыі сілаба-тонікі, у значнай ступені садзейнічае нараджэнню літаратурнага танічнага верша. Зборнік «Гусляр» распачынае філасофскі струмень у беларускай нацыянальнай лірыцы. Агульнафіласофскія, агульначалавечага дыяпазону вершы «Гусляра» выявілі наватарскі характар зборніка, сцвярджалі яго як яшчэ адну значную прыступку ў развіцці не толькі Купалы-лірыка, але і ўсёй беларускай літаратуры.

Рытмічная структура ранніх вершаў Янкі Купалы даволі разнастайная. Паэт свабодна і арганічна засвойвае і сінтэзуе формы славянскай сілаба-тонікі, імкнецца абапірацца на найбольш развітыя і прадуктыўныя яе здабыткі. Найбольш перспектыўныя для пераходу ад чыстай сілабікі да сілаба-тонікі формы шасці- і васьміскладовікаў своеасабліва праяўляюцца на раннім этапе творчасці паэта ў перавазе трох- і чатырохстопных харэяў і ямбаў. Затым засвойваюцца блізкія да гутарковай плыні двухстопныя амфібрахіі і анапесты, непарыўна звязаныя з традыцыямі народнай тонікі. Купала закладае і традыцыі літаратурнага танічнага верша. Вялікі ўклад унёс паэт у пашырэнне тэматычнага поля беларускай лірыкі, арганічна спалучыўшы змест і вершаваную форму.

## Спіс літаратуры

1. Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. / Максім Багдановіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — Т. 2: Мастацкая проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. — 316 с.

2. Гніламёдаў У. В. Янка Купала: новы погляд: дапам. для настаўніка / У. В. Гніламёдаў. — Мінск.: Народная асвета, 1995. — 176 с.

3. Грынчык М. М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. — Мінск: Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, 1973. — 264 с.

4. Купала Я. Поўны збор твораў: у 9 т. / Янка Купала. — Мінск.: Мастацкая літаратура, 1995. — Т. 1: Вершы, пераклады 1904 — 1907. — 462 с.

5. Купала Я. Поўны збор твораў: у 9 т. — Янка Купала. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1996. — Т. 2: Вершы, пераклады 1908 — 1910. — 342 с.

6. Рагойша В. П. Беларускае вершаванне: вучэбна-метадычны дапаможнік / В. П. Рагойша. — Мн.: БДУ, 2011. — 207 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 12 лютага 2013 года.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

### Вершаванне ранняга Купалы (на прыкладзе зборнікаў «Жалейка» і «Гусляр»)

### Рэзюмэ

Аб’ектам даследавання ў артыкуле з’яўляюцца вершаваныя творы, якія ўвайшлі ў зборнікі Янкі Купалы «Жалейка» (1908) і «Гусляр» (1910). На іх аснове разглядаецца рытма-метрычная своеасаблівасць ранняга перыяду творчасці паэта, прасочваецца характар эвалюцыі Янкі Купалы-вершатворцы. У працэсе даследавання было выяўлена, што Янка Купала, творча пераасэнсоўваючы жывыя фальклорныя традыцыі, традыцыі ананімных гутарак, улічваючы вопыт папярэднікаў (Янкі Лучыны, Францішка Багушэвіча), еўрапейскія традыцыі, сваімі першымі зборнікамі замацаваў у беларускай паэзіі прынцыпы сілаба-тонікі, садзейнічаў нараджэнню літаратурнага танічнага верша.

**Yuliya ALEICHANKA**

### Versification of Early Kupala (on the Example of Books «Zhaleyka» and «Guslyar»)

### Summary

The poems included in Yanka Kupala’s books «Zhaleyka» (1908) and «Guslyar» (1910) are analyzed in the article. The considered rhythmic and metric identity of the early period of Kupala’s poetry is based on them, and the nature of Yanka Kupala’s evolution as a poet is traced. It was revealed that Yanka Kupala, creatively reinterpreting the living folk traditions, the traditions of anonymous talks, considering european traditions and the experience of predecessors (Yanka Luchina, Frantsishak Bagushevich), established principles of syllabic and accentual verse in belarusian poetry and promoted literary accentual verse due to his first books.

# ІВАН ШАМЯКІН І РУСКІЯ ПЕРАКЛАДЧЫКІ

*У першыя пасляваенныя гады ў беларускую літаратуру ўвайшла цэлая кагорта маладых таленавітых пісьменнікаў, напоўненых энтузіязмам і радасцю ад Вялікай Перамогі, — Іван Мележ, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Іван Навуменка, Васіль Быкаў, Пятро Прыходзька, Уладзімір Карпаў, Алесь Савіцкі і многія іншыя. Пры падтрымцы сваіх старэйшых калег, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Міхася Лынькова, Ільі Гурскага, Кандрата Крапівы, яны пачынаюць актыўна друкавацца ў перыядычным друку, выдаваць асобнымі кнігамі свае творы. Вось як аб гэтым у дзённіках «Роздум на апошнім перагоне» пісаў Іван Шамякін, успамінаючы першую публікацыю сваёй аповесці «Помста»: «Вольга (старэйшая сястра жонкі І. Шамякіна. — **А. Ш.**) знайшла два нумары «Беларусі». Маючы адзіны адрас, я паслаў «Помсту» ў «Беларусь». У добрыя рукі трапіла мая аповесць — Ільі Данілавічу Гурскаму. Не маючы магчымасці надрукаваць яе ў сваім танюсенькім часопісе, ён перадаў яе суседзям — у «Полымя». А там прозай загадваў Усевалад Краўчанка, а галоўным быў Пятрусь Броўка. Рэч ім спадабалася, і яны з ходу запусцілі яе ў нумар. Для пэўнасці я даў жончын адрас, ведаў, што хутка звольнюся. Прыехаў у Пракопаўку — і да радасці звароту яшчэ і гэта радасць: аповесць прынялі да друку. Адчуванне гэтае можа зразумець хіба той, хто сам перажыў такую радасць – першую публікацыю ў сур'ёзным выданні. На сёмае неба ўзнёсся я. Помню, калі ў студзені атрымаў здвоены 11—12 нумар «Полымя» — прыслала з Цераховўкі Вольга Філатаўна — і разгарнуў яго ў сельсавеце, дзе змяшчаліся пошта і медпункт, мяне ажно ліхаманіць — ад незвычайнай узбуджанасці».*

*На творы І. Шамякіна, як і на творы іншых маладых тады пісьменнікаў, пачалі звяртаць увагу рускія перакладчыкі. Адным з першых твораў І. Шамякіна, перакладзеных на рускую мову, быў раман «Глыбокая плынь», завершаны ў 1948 годзе і апублікаваны ў часопісе «Полымя». Пачало рыхтавацца асобнае выданне на беларускай мове. Твор прыцягнуў да сябе ўвагу маскоўскай перакладчыцы С. Грыгор'евай, якая мела і беларускія карані. У наступным годзе раман адначасова выйшаў на беларускай мове ў Мінску і рускай мове ў Маскве. С. Грыгор'ева потым прызнавалася, што вельмі захапілася «Глыбокай плынню» і пераклад зрабіла за два месяцы. Сам жа І. Шамякін у дакументальнай навеле «Сюжэты» з цыкла «Начныя ўспаміны» пра гэты пераклад напісаў наступнае: «Руская кніга з'явілася ў адным годзе з беларускай — у 1949-м. Аператыўнасць! Не сам я — Броўка завёз экземпляры «Полымя» ў «Новый мир». Часопіс не даў. Але супрацоўніца, якая чытала па-беларуску, наша магілёўская Соф'я Мазо (яна ж Караганава — па мужу, Грыгор'ева — па літаратуры) ацаніла раман і прапанавала «Советскому писателю». Пасля прызналася: пераклала за два месяцы. Што ж, дзякуй ёй». Да твораў І. Шамякіна С. Грыгор'ева звярнулася яшчэ раз праз адзінаццаць гадоў: у 1960 годзе яна пераклала п'есу «Не верце цішыні».*

*Акрамя С. Грыгор'евай творы І. Шамякіна на рускую мову перакладалі Міхаіл Гарбачоў, Арсен Астроўскі, Павел Кабзарэўскі, Валянціна Шчадрына і іншыя. Але найбольш плённыя творчыя і сяброўскія адносіны склаліся ў І. Шамякіна*

*з ленінградскімі перакладчыкамі Паўлам Кабзарэўскім і Арсенам Астроўскім. Прычым апошні пачаў творчыя адносіны з І. Шамякіным у канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў, пераклаўшы на рускую мову такія апавяданні, як «Дзве сілы», «Сялянка», «Хадакі», «Першае спатканне» і многія іншыя. Потым былі раманы «У добры час» (1953), «Крыніцы» (1959), «Сэрца на далоні» (1964), «Снежныя зімы» (1970), «Атланты і карыятыды» (1974), пенталогія «Трывожнае шчасце» (1960—1970; разам з П. Кабзарэўскім. Гэтыя два перакладчыкі працавалі разам і над аповесцю «Першы генерал» (1970)).*

*Захавалася перапіска І. Шамякіна з пецярбургскімі перакладчыкамі, якая адлюстроўвае як творчыя стасункі, так і бытавыя адносіны. Ліставанне адбывалася на беларускай і рускай мовах. Перапіска з П. Кабзарэўскім працягвалася амаль два дзесяцігоддзі, з 1951 па 1970 год. Паміж аўтарам і перакладчыкам завязаліся цесныя сяброўскія адносіны, таму ў лістах размова ідзе не толькі пра творчыя пытанні, але і пра дзяцей, сям'ю, адпачынак і ўсё тое, без чаго не можа пражыць чалавек. Тое ж самае можна сказаць і пра перапіску з А. Астроўскім, якая захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу.*

*Прапануем увазе чытачоў лісты Івана Шамякіна да П. Кабзарэўскага на беларускай мове, якія захоўваюцца ў БДАМЛМ.*

Дарагі Павел!

Атрымаў твой ліст. Шчыра дзякую за віншаванне. Прабач, што я не змог цябе павіншаваць: круціўся, як вавёрка ў коле, перад самым маем рабіў справаздачу за сваю чатырохгадовую дзейнасць сакратаром партбюро. Нарэшце вызваліўся ад гэтай пачэснай нагрузкі. Але ад гэтага мне стала не вельмі лягчэй: навязалі новую работу — намеснікам старшыні Праўлення ССП. Броўка ўзяў на чатыры месяцы адпачынак, і я мушу сядзець усё лета ў Мінску. Безумоўна, што не вельмі разгонішся ў такі час пісаць; за два месяцы напісаў дзесяць старонак рамана. Робіцца падчас страшна: жыццё праходзіць, а пісаць усё няма часу. Калі ж будзе гэты час? Як знаходзілі яго нашы класікі?

Чакаем цябе ў госці. Прыязджай. Перадавай прывітанне Арсенію Георгіевічу. Нешта ён стаў вельмі скупы на пісьмы. Я паслаў яму месяцы паўтара таму выпраўлены рукапіс «У добры час», — і ён ні слова. Ці атрымаў хоць?

Шчырае прывітанне Тасі ад мяне і Машы.

Ад душы жадаю табе поспехаў і шчасця ў жыцці.

Цісну тваю лапу.

Твой Іван Шамякін

9/V 54 г.

P.S. А ты па-сяброўску, калі ласка, даведайся, як там справы з маім «У добры час», і ў Арсенія, і ў «Лениздате». Ты ж ведаеш: дэкада ў снежні г.г. Ці нельга да гэтага часу выдаць?

І. Шамякін

*...рабіў справаздачу за сваю чатырохгадовую дзейнасць сакратаром партбюро.* — У 1950—1954 гг. І. Шамякін — сакратар партбюро СП БССР.

*Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905—1980)* — беларускі паэт. Народны паэт БССР. У 1948—1967 гг. — старшыня праўлення СП БССР.

*...напісаў дзесяць старонак рамана.* — Рамана «Крыніцы» (1953—1955).

*...прывітанне Арсенію Георгіевічу.* — Арсенію Георгіевічу Астроўскаму (1897—?), рускаму літаратуразнаўцу і перакладчыку.

*Я паслаў яму месяцы паўтара таму выпраўлены рукапіс «У добры час»...* — выслаў для перакладу на рускую мову.

*Тася* — жонка П. Кабзарэўскага.

*Маша* — Шамякіна Марыя Філатаўна (1921—1998), жонка І. Шамякіна.

*...як там справы з маім «У добры час», і ў Арсенія, і ў «Лениздате».* — Раман І. Шамякіна «У добры час» на рускай мове ў перакладзе А. Астроўскага выйшаў

у Ленінградзе ў 1955 годзе. *«Лениздат»* — савецкае і расійскае шматпрофільнае ўніверсальнае выдавецтва, заснавана ў 1938 г. як выдавецтва Ленінградскага абкама ВКП.

*...дэкада ў снежні г.г.* — відаць, маецца на ўвазе Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве (11—21 лютага 1955 г.).

Дарагі Павел!

Я атрымаў тваё пісьмо. Дзякую табе. Я меркаваў, што А. Вялюгін адвёз табе карэктуру — я так прасіў яго — і ты змог перанесці ўсе праўкі ў аповесць. Цяпер табе трэба абавязкова дачакацца «Полымя»: праверыць усё дэталёва, бо ў аповесці зроблены істотныя папраўкі. Куды яе прапанаваць — у які часопіс? — табе, Павел, відней, ты больш звязаны з гэтымі часопісамі, ведаеш работнікаў. Я не пярэчу ні супраць «Невы», ні супраць «Молодой гвардии». Вельмі добра, калі хто-небудзь з іх згодзіцца. А не — трэба будзе рашуча націснуць на «Дружбу народов», яны — абавязаны друкаваць нацыянальных аўтараў.

Кніжка для «Молодой гвардии» — ідэя цудоўная і, думаю, зусім рэальная. Ім ад нас не адкруціцца. Аповесць добра ўзмацніць кніжку і па тэме і па аб'ёму.

Як жыву? Хвароба выбіла з творчай каляіны. Тры месяцы нічога не пішу і наогул нічога не раблю. Зараз адчуваю сябе лепш, але брацца за працу лянуюся. Маша таксама, нарэшце, стала на ногі і лечыць дамашнімі сродкамі мяне і малых. Навіны ты нашы ведаеш. Вельмі ўразіла мяне смерць Шчарбатава. Крыўдна — хлопцу 37 год і ў хаце засталася трое малых дзяцей.

Што там з раманам Чарнышэвіча? Выдавецтва прыслала Броўку пісьмо (я знайшоў яго ў шуфлядзе стала), што не маюць магчымасці ўключыць у план. Шкада. Трэба даць раман у «Сов.<етский> писатель», але ў арыгінале, няхай рэцэнзіруецца па арыгіналу. Гэта надзейней, бо рэцэнзіруюць у такім выпадку людзі, якія ведаюць Беларусь, нейкім чынам звязаны з ёй.

Перадавай самы шчыры прывет Тасі ад мяне і ад Машы.

Будзь здароў

твой Іван Шамякін

P.S. «Полымя» табе выслаць ці ты атрымліваеш?

Адрас Макаёнка: Захарава, 27, кв. 20 тэл. 4-16-32.

Яшчэ раз цісну тваю руку

І.

7/ІІ 57 г.

*...што А. Вялюгін адвёз табе карэктуру...* — карэктуру аповесці І. Шамякіна «Непаўторная вясна» (1956).

*...дачакацца «Полымя»...* — першая аповесць «Непаўторная вясна» (1956) з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964) была апублікавана ў часоп. «Полымя» 1957, № 1.

*Куды яе прапанаваць — у які часопіс? — табе, Павел, відней...* — размова ідзе пра надрукаванне аповесці «Непаўторная вясна» на рускай мове. Аповесць друкавалася ў газ. «Знамя юности».

*«Нева»* — савецкі штомесячны часопіс, выдаецца ў Ленінградзе з красавіка 1955 года. Заснаваны на базе «Ленинградского альманаха».

*«Молодая гвардия»* — тут маюцца на ўвазе і літаратурна-мастацкі, грамадска-палітычны, навукова-папулярны часопіс «Молодая гвардия» і савецкае і расійскае кніга-часопіснае выдавецтва «Молодая гвардия», якое выпускае мастацкую, грамадска-палітычную і навукова-папулярную літаратуру для дзяцей і юнацтва. І часопіс і выдавецтва заснаваны ў Маскве ў 1922 г.

*«Дружба народов»* — штомесячны літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаецца ў Маскве з 1939 г.

*Шчарбатаў Георгій Міхайлавіч (1919—1957)* — беларускі пісьменнік.

*Што там з раманам Чарнышэвіча?* — Відаць, маецца на ўвазе раман бела-

рускага пісьменніка А. Чарнышэвіча (1912—1967) «Рассвет», які выйшаў на рускай мове толькі ў 1960 годзе ў ленінградскім выдавецтве ў перакладзе П. Кабзарэўскага.

*«Сов.<етский> писатель»* — савецкае і расійскае выдавецтва, заснавана ў Маскве ў 1934 г. З 1938 г. — выдавецтва Саюза савецкіх пісьменнікаў. З 1992 года працавала на камерцыйнай аснове. З 2009 г. практычна кніг не выдае.

*Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920—1982)* — беларускі пісьменнік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1977).

Дарагі Павел!

Я прашу тысячу прабачэнняў, што так затрымаўся з адказам. Ты, відаць, лаеш мяне, так? Ты правы. Апраўдання няма, бо сам я ніколі не дарую людзям, якія не могуць напісаць колькі слоў блізкім сваім.

Я атрымаў тваё пісьмо ў Місхоры, але напярэдадні ад'езду: я выехаў на тры дні раней, бо Машы трэба было здаваць экзамен. Дні чатыры я круціўся ў Мінску. Потым павёз дзяцей у Церуху. Адзін, без Машы. Можаш зразумець, як мне «лёгка» з імі. Дарэчы, цяпер зразумеў, наколькі кепска мы выхоўваем нашых дзяцей: нічога не ўмеюць рабіць, панкі. Ваюю. Паднімаю іх па будзільніку, як ніколі, — у 7 гадзін раніцы. Прымушаю бегаць па лесе і г. д.

Не пішу і нават не чытаю. Куды там! У нас ішла сесія, і мне ў Мінску не ўдалося пагутарыць з Броўкам — ці меў ён размову ў «Дружбе народов», я прасіў яго. Самі яны — ні гу-гу. Я нічога не маю супраць надрукавання ў «Неве». Але калі яны адносяць на апошні нумар… Ці ёсць гарантыя? Мы можам адмовіць «Дружбе…» і аказацца ў дурнях. Трэба даведацца, калі прыняла «Д.<ружба> н.<ародов>» — даваць ім, на іх лягчэй уздзейнічаць, у выпадку чаго, калі ж яны моршчацца і дыпламатнічаюць — гаварыць сур'ёзна з «Невой». Я вельмі паважаю гэты часопіс. Але я сам быў рэдактарам і ведаю, якія бываюць нечаканасці. Пакуль што не спяшайся… Трэба выясніць адносіны «Д.<ружбы> н.<ародов>».

Ты ведаеш, я страшна не люблю ўсіх гэтых спраў па «ўстройству» рэчы. Яны аднімаюць надзвычай многа часу і энергіі. Добра было б пісаць і больш ні аб чым не думаць. Але, напэўна, такога «залатога» часу для пісьменнікаў ніколі не было і не будзе.

На тыдзень паеду ў Мінск. Сёння атрымаў пісьмо, што тыдзень аднесены на 25. Магчыма, да таго з'езджу ў Кіеў. Ад маёй Церухі — усяго 4-ы гадзіны язды. А я ўлюбён у Кіеў. Мне здаецца, што больш прыгожага горада ў Саюзе няма. Гэта — казка, песня, легенда, гісторыя і будучыня. Хочацца да Тыдня напісаць штонебудзь украінскае. Але мяне моцна адолела летняя лень, я выбіўся з каляіны.

Перадавай самае шчырае прывітанне тваім блізкім. Прывітанне Астроўскаму. Як прайшоў яго юбілей?

Да сустрэчы, дарагі Павел.

Цісну тваю руку — руку вечнага працаўніка.

Твой Іван

10/VI — 57 г.

Цяруха

*У лісце ідзе размова аб публікацыі аповесці «Непаўторная вясна» на рускай мове. Гл. таксама папярэдні ліст.*

*Місхор* — курорт на Крымскім паўвостраве (Украіна).

*Церуха* — вёска ў Гомельскім раёне Гомельскай вобласці, адкуль родам жонка І. Шамякіна — Марыя Філатаўна.

*У нас ішла сесія…* — відаць, сесія Вярхоўнага Савета БССР.

*«Дружба народов», «Нева»* — гл. папярэдні ліст і каментарый да яго.

*…тыдзень аднесены на 25.* — Тыдзень украінскай літаратуры ў Беларусі (25 чэрвеня — 2 ліпеня 1957).

*Як прайшоў яго юбілей?* — 60-годдзе з дня нараджэння А. Астроўскага.

Дарагі Павел!

Атрымаў твой ліст. Дзякую табе. Адчуваю сябе вінаватым, што не адказаў на твой папярэдні ліст.

Але, ведаеш, не шанцуе неяк увосень. Мінулую восень усе хварэлі і гэтую таксама. Перш злёг я сам, адразу ж пасля Кіева. Грып. Вылежаў. За мной — Сашка, у яго, бяднягі, пачалося пасля грыпа запаленне лёгкіх і ён два тыдні праляжаў у бальніцы, толькі ўчора забралі, і таму сёння ў хаце ў нас шумна і весела. Танюшка дома пралежала з запаленнем, аднак бегае ўжо. Ліна не пачынала хадзіць у 10 клас і, відаць, ёй прыйдзецца браць адпачынак на год: у яе кожны дзень павышаная тэмпература. Ёй трэба выразаць міндаліны, але ў сувязі з эпідэміяй грыпу аперацыі гэтыя зараз не робяць. Адна Маша, малайчына, трымалася на нагах і даглядала ўсіх нас.

Паездкі і хваробы выбілі мяне з творчай каляіны. Цяпер, калі і пішу што, то толькі артыкулы, якія заказваюць газеты. А гэта работа сумная і няўдзячная. Каму яны патрэбны гэтыя артыкулы?

Я чытаў, што «Нева» дае аповесць. Прыемна вельмі. Чакаю нумара. Калі ты дастанеш раней, чым ён пойдзе ў сетку, прышлі пару экземпляраў. 60 % я атрымаў. Даведку аб дзецях, здаецца, я пасылаў разам з умовай.

Як там жыве Астроўскі? Нешта ён не адгукаецца. Я спрабаваў яму званіць — ніхто не адказаў. Перадай старыку прывітанне. У канцы кастрычніка мне, відаць, прыдзецца ехаць у Маскву: я член праўлення «Советского писателя». Ці зможаш ты прыехаць на юбілей Коласа ў складзе Ленінградскай дэлегацыі? Высылаю табе «Крыніцы».

Прывітанне тваім блізкім.

Твой Іван

16/X 57 г.

*...адразу пасля Кіева.* — 17—24 верасня 1957 г. праходзіў тыдзень беларускай літаратуры ва Украіне.

*Сашка* — Шамякін Аляксандр Іванавіч (1950—1991), сын І. Шамякіна.

*Танюшка* — Шамякіна Таццяна Іванаўна (нар. 1948), дачка І. Шамякіна, доктар філалагічных навук.

*Ліна* — Шамякіна Ліна Іванаўна (нар. 1941), дачка І. Шамякіна.

*«Нева», «Советский писатель»* — гл. ліст ад 7 лютага 1957 і камент. да яго.

*...на юбілей Коласа...* — 75-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа (3 лістапада 1957).

*Высылаю табе «Крыніцы».* — Раман «Крыніцы» для перакладу на рускую мову.

Дарагі Павел!

Прабач, што я не адказаў на тваё пісьмо з Ленінграда: вельмі многа, браце, клопатаў у мяне.

16 мая я адправіў Машу і Ліну ў Місхор, і яны зараз там, у санаторыі «Беларусь», побач з табой. Будуць там да 12 чэрвеня.

Мы правялі шумна Тыдзень літоўскай літаратуры, на якім я моцна прастудзіўся, і вось ужо колькі дзён ляжу. Крыўдна. Хацеў я з дзецьмі прыехаць да вас у Крым, але цяпер Маша супраць гэтай задумы.

Мяркую ў чэрвені адпачыць і падагнаць аповесць. Заядае цякучка, ліха на яе. На творчую працу мала часу застаецца. Ды ты сам гэта добра ведаеш. Навін няма ніякіх. Рыхтуемся да з’ездаў і да 40-годдзя.

Жадаю табе адпачыць добра, набрацца сіл.

Пазвані маім.

З прыветам

твой Іван

30/V 58.

*...Тыдзень літоўскай літаратуры...* — 20—26 мая 1958 г. праходзіў тыдзень літоўскай літаратуры ў Беларусі.

*...падагнаць аповесць.* — Аповесць «Начныя зарніцы» з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964).

*Рыхтуемся да з'ездаў і да 40-годдзя.* — Да з'ездаў СП БССР і СП СССР і да 40-годдзя ўтварэння БССР, якое адзначалася 1 студзеня 1959 г.

Дарагі Павел!

Атрымаў тваё пісьмо. Не адказаў адразу, бо не была перадрукавана аповесць. Хацеў, каб зрабіць усё адразу. Сёння забраў ад машыністкі аповесць. Атрымалася па аб'ёму большая, чым я думаў. Высылаю яе табе. Надзеюся, што ты прыкладзеш усе сілы, каб перакласці сапраўды па-мастацку. Напісана яна, ты ўбачыш, своеасабліва, форма не новая, яе выкарыстоўвалі яшчэ класікі, але для такой тэмы яна новая. Увогуле, у супрацьлегласць свайму другу Янку, я не прыхільнік павествавання ад першай асобы. Але вось бачаш, паспрабаваў. Думаю, што атрымалася добра.

Аб п'есе. Прапушчаныя ці знарок выкінутыя перакладчыцай словы трэба ўставіць. Пакінь *Чаплін*. Разважанні Галіны Аляксееўны аб пажары ў лесе скарачаць не варта, яны кароткія і цікавыя.

Апошні месяц я прахварэў: абвастрыўся мой бранхіт. Адчуваю сябе і зараз кепска. Паслязаўтра ляцім з Машай у Місхор. Хачу да з'езда трохі падлячыцца. Вядома, і працаваць буду. Трэба канчаць чацвёртую аповесць, кніга ў плане дзяржаўнага выдавецтва, і яны патрабуюць здаць не пазней канца чэрвеня. Наўрад ці паспею. Хвароба, з'езд...

У «Молодую гвардию» я напішу заяўку. Вось так праходзіць маё жыццё.

Жадаю табе здароўя і поспехаў у працы.

Цісну лапу

твой Іван

Прывітанне ад Машы і дзяцей.

23/IV 59 г.

P.S. Рукапіс не вычытваў. Памылкі друку (машыністкі) ты зразумееш, спадзяюся.

*...не была перадрукавана аповесць.* — Аповесць «Агонь і снег» (1959) з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964).

*Высылаю яе табе.* — Для перакладу на рускую мову.

*Янка* — відаць, беларускі пісьменнік Янка Брыль (1917—2006).

*Аб п'есе.* — П'еса «Не верце цішыні» (1958).

*...да з'езда...* — да III з'езда ССП СССР (праходзіў 18—23 мая 1959 г.).

*Трэба канчаць чацвёртую аповесць...* — аповесць «Пошукі сустрэчы» (1959) з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964).

*...кніга ў плане дзяржаўнага выдавецтва...* — у 1960 годзе выйшла пенталогія «Трывожнае шчасце», якая складалася на той час з чатырох аповесцей.

Дарагі Павел!

Я не адказаў з Крыма табе па дзвюх прычынах. Па-першае, я не помніў усіх патрэбных даных; па-другое, я цвёрда быў упэўнены, што ў часе з'езда ты будзеш у Маскве, і мы там сустрэнемся. Гэтага не здарылася, на жаль. Чаму ты не прыехаў? Гасцявых білетаў было — колькі хочаш.

Цяпер я дома. Другое пісьмо тваё прывезла з Місхора жонка Артура Вольскага, якая там адпачывала.

Дома буду нядоўга. 3 чэрвеня еду ў Румынію, там будзе праходзіць дэкада беларускай культуры. Паехала выстаўка жывапісу і скульптуры, едзе хор Цітовіча і невялічкая афіцыйная дэлегацыя, у каторую я і ўваходжу.

У «Молодой гвардии» я быў, заяўку пакінуў. Рэдакцыя сустрэла гэта прыхільна. З Васільевым мне не ўдалося пагутарыць. Крыху пазней я штурхну яму пісьмо за подпісам Броўкі — для пэўнасці.

Хочацца хутчэй кончыць чацвёртую аповесць, але паездкі адрываюць ад работы. Вярнуся з Румыніі — засяду ў вёсцы.

Як ты сябе адчуваеш? Мацуйся, дружа. Адпачывай, лячыся.

Прывітанне Арсенію Георгіевічу і ўсёй яго сям'і.

Цісну тваю руку

твой Іван

30/V 59 г.

*...у часе з'езда...* — у часе III з'езда ССП СССР (18—23 мая).

*Вольскі Артур (Вольскі-Зэйдэль Артур Вітальевіч; 1924—2002)* — беларускі пісьменнік, перакладчык.

*Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910—1986)* — беларускі этнамузыказнавец, дзеяч харавога мастацтва, дырыжор. Народны артыст БССР (1955). Народны артыст СССР (1968). З 1952 г. арганізатар і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР (з 1988 г. яго імя; з 1991 г. — Рэспублікі Беларусь).

*Васільеў* — відаць, супрацоўнік выдавецтва «Молодая гвардия».

*...кончыць чацвёртую аповесць...* — аповесць «Пошукі сустрэчы» (1959) з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964).

*Вярнуся з Румыніі — засяду ў вёсцы.* — У вёсцы Церуха Гомельскага раёна Гомельскай вобласці.

*...Арсенію Георгіевічу...* — А. Г. Астроўскаму.

Дарагі Павел!

Ты, мабыць, крыўдуеш на мяне, што я так доўга не адказваў табе. Не трэба, стары, мы ж — свае людзі. І ты павінен зразумець і ведаць, што, па-першае, я ўвогуле не вельмі акуратны чалавек, а, па-другое, працаваў, як вол. Пасля Румыніі месяц сядзеў у Церусе і канчаў апошнюю аповесць. Кончыў. Прыехаў у Мінск — здаваў «Агонь і снег» у «Полымя». Цяпер здаю ўсю кнігу ў Дзяржвыдат. Сяджу з рэдактарам. І тут жа здаю «Пошукі сустрэчы» ў «Полымя». А тут яшчэ прыехалі румыны, і на маю долю выпаў ладны кавалак работы па днях культуры. Паедуць румыны — прынімаем латышоў. Усім гэтым прыходзіцца занімацца нам з Міхалам, бо Броўка ў адпачынку, а праз тыдзень едзе ў Амерыку — на Асамблею ААН.

Міхал рвецца ў Ленінград асабіста павіншаваць цябе з добрай датай. Я таксама віншую цябе яшчэ раз. Абнімаю. Кажуць, што цябе можна павіншаваць яшчэ з адной вельмі важнай падзеяй у тваім жыцці? Я не адважваюся гэта рабіць, бо сам ты маўчыш, не напісаў ні слова.

Як ідзе пераклад аповесці? Я табе вышлю карэктуру «Полымя», і ты зрабі зверку — там ёсць кой-якія істотныя папраўкі.

Арсенію я высылаю аповесць гэтымі днямі. Ён, відаць, яшчэ не прыехаў з Ірпеня? Ён пісаў мне, што «Молодая гвардия» ўключае кнігу ў план 1960 г. Маю намер прапанаваць «Роман-газете». Як ты глядзіш на гэта? Не спалохае «Неву» аб'ём? Гэта яшчэ каля 20 аркушаў.

Маша і дзеці перадаюць табе самыя шчырыя прывітанні.

Моцна цісну тваю трудавую руку

Іван

2/IX 59 г.

*Пасля Румыніі...* — удзельнічаў у Дэкадзе беларускай культуры ў Румыніі (3—13 чэрвеня 1959 г.).

*...месяц сядзеў у Церусе і канчаў апошнюю аповесць.* — Аповесць «Пошукі сустрэчы» (1959) з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964).

*...здаваў «Агонь і снег» у «Полымя».* — Надрукавана ў часоп. «Полымя», 1959, №№ 9, 10.

*Цяпер здаю ўсю кнігу ў Дзяржвыдат.* — Пенталогію «Трывожнае шчасце», якая на той час складалася з чатырох аповесцей.

*І тут жа здаю «Пошукі сустрэчы» ў «Полымя».* — Надрукавана ў часоп. «Полымя», 1959, № 11.

*А тут яшчэ прыехалі румыны…* — Да 2-га верасня ў Беларусі знаходзілася дэлегацыя румынскіх пісьменнікаў. Сярод мерапрыемстваў з гэтай нагоды ў клубе швейнай фабрыкі імя Крупскай адбыўся вечар, прысвечаны дасягненню літаратуры Румынскай Народнай Рэспублікі.

*…прынімаем латышоў.* — 10—17 верасня праходзіў Тыдзень латышскай літаратуры ў Беларусі.

*Міхал* — беларускі пісьменнік Міхась Калачынскі (1917—1990). З 1954 г. — адказны сакратар, з 1958 г. — намеснік старшыні праўлення СП БССР.

*…праз тыдзень едзе ў Амерыку — на Асамблею ААН.* — У верасні—снежні 1959 г. П. Броўка ўдзельнічае ў рабоце XIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

*…павіншаваць цябе з добрай датай.* — З 50-годдзем з дня нараджэння.

*Як ідзе пераклад аповесці?* — Пераклад аповесці «Агонь і снег» на рускую мову.

*Я табе вышлю карэктуру «Полымя»…* — карэктуру «Полымя» з аповесцю «Агонь і снег» з пенталогіі «Трывожнае шчасце».

*Арсенію я высылаю аповесць гэтымі днямі.* — А. Астроўскаму — аповесць «Пошукі сустрэчы».

*Ірпень* — горад абласнога значэння Кіеўскай вобл. (Украіна).

Дарагі Павел!

Да мяне дайшлі чуткі, што ты трохі занядужаў. Не трэба, мой друг. Мацуйся. У нас многа яшчэ спраў, якія мы, ты і твае беларускія сябры, павінны зрабіць агульнымі сіламі. Часам мы бываем няўважлівымі, неакуратна адказваем на пісьмы, але павер, мы заўсёды з цеплынёй, сардэчна і шчыра, успамінаем сваіх лепшых сяброў, і першым сярод іх цябе — чалавека, які аддаваў усе свае сілы і энергію справе прапаганды беларускай літаратуры.

Дзякую табе за шчырае пісьмо і за апавяданні, якія ты прыслаў. Мне радасна было даведацца, што лепшыя з іх прыняты недаступнай «Звездой». Як я жыву? Кручуся, як вавёрка. Кірую, выступаю, засядаю і … зрэдку пішу. Гэта сумна, што сапраўды мы пішам зрэдку. Але, відаць, такі ў нас рытм жыцця. Пішу я патроху новы раман аб гараджанах, людзях нашых дзён. Што выйдзе — не ведаю. Задума цікавая. Многа часу адняла п’еса. Я заракаўся пісаць іх, п’есы, але, бачаш, не ўтрымаўся — цягне на новы жанр. Чэхаў пісаў: «Испробовал все жанры, кроме стихов и доносов». А я і вершы пісаў.

Броўка недзе ў санаторыі, і я зноў адзін. Не, з Міколам Ткачовым цягнем гэтую «саюзную лямку», якая моцна ўжо намуліла нам плечы. Аднак трэба цягнуць.

Маша і дзеці перадаюць табе самы шчыры прывет.

Ачуняй хутчэй і прыязджай у госці.

Абнімаю цябе

твой Іван

15/III 61 г.

*…што лепшыя з іх прыняты недаступнай «Звездой».* — апавяданні І. Шамякіна не былі надрукаваны ў часоп. «Звезда», і ў гэтым часопісе пісьменнік ніколі не друкаваўся. *«Звезда»* — старэйшы штомесячны «толстый» часопіс Расіі. Выдаецца з 1924 г. у Ленінградзе (з 1991 — Санкт-Пецярбург).

*Пішу я патроху новы раман аб гараджанах…* — раман «Сэрца на далоні».

*Многа часу адняла п’еса.* — «Выгнанне блудніцы» (1960). Надрукавана: часоп. «Полымя», 1961, № 3.

*Чэхаў пісаў: «Испробовал все жанры, кроме стихов и доносов».* — У лісце да А. Пляшчэева ад 14 верасня 1889 г.

*А я і вершы пісаў.* — Пісаў вершы, будучы студэнтам тэхнікума будаўнічых матэрыялаў, і ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Даваенныя вершы не захаваліся.

*Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918—1979)* — беларускі пісьменнік. У 1959—1972 гг. — сакратар праўлення СП БССР.

Дарагі Павел!

Вельмі кранула ўсіх нас тваё пісьмо, дружа. Яно прыйшло якраз 17, калі сабраліся госці. Праўда, імянінніца была крыху нездарова, але ўсе адно радасці і вяселля было багата. Маша расчулена была да слёз тваім пісьмом. Толькі чалавек сапраўды вялікага сэрца, знаходзячыся сам у цяжкім становішчы, мог помніць так знамянальныя даты сваіх сяброў. Дзякуем табе ўсе за гэтую вялікую шчырую дружбу. Учора мне пазваніў Арсеній і паведаміў, што бачыў Любу, і яна сказала, што адчуваеш ты сябе значна лепш. Мы ўсе парадаваліся за цябе. І ўсёй сям'ёй шлем табе пажаданне хутчэй ачуняць, моцна стаць на ногі, якія так верна насілі цябе па многіх шляхах і дарогах, моцна ўзяць у рукі сваю выпрабаваную зброю — пяро. Каб зноў нас, тваіх сяброў і нашых чытачоў, парадавалі твае новыя пераклады! І каб з'явіўся твой раман, над якім ты працуеш многа год.

Будзь здаровы, наш друг.

Горача абнімаем цябе.

Твае Шамякіны

24/III 61.

*Арсеній* — А. Г. Астроўскі.

*Люба* — відаць, дачка П. Кабзарэўскага.

Дарагі Павел!

Прабач, дружа, што я так доўга не пісаў табе. У мяне даволі клапатлівае лета. Нарадзілася яшчэ адна дачка — Алеся. Пакуль я пільнаваў Машу перад родамі, потым насіў перадачы ў раддом. А цяпер жывем на дачы. Няньчу малую, амаль штодня езджу ў Мінск: прадукты, лекі, справы. Дзяўчаты мае паехалі ў Дубулты. А мы з Сашам дапамагаем маме.

Вось бачыш: дзяцей я раблю больш паспяхова, чым пішу раманы.

Раман пішацца павольна. Відаць, не той імпэт, не тыя гады, не тая энергія, як у час напісання «Глыбокай плыні». Амаль год працы (пачаў у мінулую восень), а выціснуў усяго нейкія паўтары сотні старонак чарнавой работы. Праўда, запяваю я заўсёды з трудом. Пакуль у галаве не сканструіруецца ўвесь сюжэт. Спадзяюся, што далей пойдзе хутчэй. Хоць — хто яго ведае. Планаваў у канцы 1962 «выдаць нагара». Наўрад, ці ўдасца. Так што аб перакладзе яго гаварыць рана. Безумоўна, я за тое, каб перакладалі мае старыя сябры — Арсеній і ты. Здаецца, ты мог пераканацца, што я чалавек пастаянны ў сяброўскіх прывязанасцях, як і ў каханні. Але дай ты мне, браце, скончыць гэты раман. Што яшчэ атрымаецца — невядома.

Нядаўна я палучыў пісьмо ад Арсенія. Ён піша, што табе лепш і ты перабіраешся ў Камарова. Гэта мяне парадавала. Мацуйся, Павел. У нас многа яшчэ спраў на гэтай неспакойнай, але добрай усё-такі зямлі. Прывітанне тваім блізкім.

Буду рады, калі ты не вельмі пакрыўдзішся на мяне і напішаш пару слоў. Маша перадае табе шчырае прывітанне і пажаданне здароўя.

Абнімаю цябе

твой Іван

20/VI 61 г.

*Раман пішацца павольна.* — Раман «Сэрца на далоні».

*...як у час напісання «Глыбокай плыні».* — Раман «Глыбокая плынь» пісаўся ў 1946—1948 гг.

*Амаль год працы (пачаў у мінулую восень)...* — Раман «Сэрца на далоні» пачаў у 1960 г.

*Арсеній* — А. Г. Астроўскі.

*Камарова* — пасёлак у Расіі, муніцыпальнае ўтварэнне ў складзе Курортнага раёна федэральнага значэння Санкт-Пецярбурга (у час напісання ліста — Ленінграда). Да 1948 г. — Келламякі.

Дарагі Павел!

Атрымаў твой ліст. Дзякую табе, дружа. За пісьмо. За віншаванні. За ўсё. Шкада, што цябе падводзіць здароўе. Прызнаюся, калі я даведаўся, што ты паплыў па Волзе, я шчыра парадаваўся быў за цябе. Дзякуй богу, думаю, Павел стаў цвёрда на ногі. Рамантуйся, браце.

Жыву я па-ранейшаму, скаваны працай і рознымі ўмоўнасцямі нашага асяроддзя, і путы гэтыя мне, відаць, ніколі не разарваць. Для гэтага трэба стаць анархістам, а я, хоць не вельмі арганізаваны, але дысцыплінаваны чалавек.

Умоўнасці гэтыя перашкаджаюць працаваць. Раман мой ужо каторы м-ц ляжыць без руху. Праўда, засмактала мяне драматургія: выпускаў «Блудніцу», а пасля разам з адным рэжысёрам зрабіў інсцэніроўку «Крыніц», спектакль пастаўлены да з’езда тэатрам імя Якуба Коласа. Але скажу табе па шчырасці, творчай радасці мне драматургія яшчэ не прынесла, хоць усе тры мае п’есы ідуць з поспехам і маюць увогуле станоўчую прэсу.

Я мару аб 2-3 м-цах спакойнай ціхай і плённай працы над раманам. Але Броўка пасля з’езда паехаў лячыцца, а я мушу несці ўвесь пасляз’ездаўскі груз дзейнасці СП.

Я і мая сям’я, Маша, Ліна, Таня, Саша і Алеся, — усе мы шлем табе і тваёй сям’і самыя шчырыя віншаванні са святам і пажаданні здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсіх кірунках.

Абнімаю цябе

твой Іван

4/XI 61 г.

*Раман мой ужо каторы м-ц ляжыць без руху.* — Раман «Сэрца на далоні».

*...выпускаў «Блудніцу»...* — п’еса «Выгнанне блудніцы» апублікавана ў часоп. «Полымя», 1961, № 3, асобнай кнігай выйшла ў 1962 г.

*...разам з адным рэжысёрам зрабіў інсцэніроўку «Крыніц», спектакль пастаўлены да з’езда тэатрам імя Якуба Коласа.* — Інсцэніроўку па рамане «Крыніцы», пастаўлены ў 1961 г. тэатрам імя Якуба Коласа (Віцебск) да XXV з’езда КПБ (26—28 верасня 1961 г.).

*...усе тры мае п’есы...* — «Выгнанне блудніцы», «Не верце цішыні», «Дзеці аднаго дома».

*...працы над раманам.* — Над раманам «Сэрца на далоні».

*Але Броўка пасля з’езда паехаў лячыцца...* — паехаў у лістападзе 1961 г. у Цхалтуба пасля XXII з’езда КПСС (17—31 кастрычніка), дэлегатам якога быў.

Дарагі Павел!

Маша і ўсе мы шчыра дзякуем табе, што ты і ў нялёгкі для цябе час не забываеш на сваіх сяброў, на іх сямейныя святы. Маша была проста расчулена і пасылае табе самыя сардэчныя пажаданні разам з словамі глыбокай удзячнасці. Усіх нас засмуціла, што ты зноў у бальніцы. Што здарылася на гэты раз? Ты, напэўна, па-ранейшаму не шануеш свайго здароўя? Цяпер табе трэба берагчыся і берагчыся. Разумеем, як цяжка табе, чалавеку, які ўсё жыццё працаваў многа і напружана. Суцяшае, што ты поўны творчага гарэння. Упэўнены, што мы неўзабаве сустрэнемся і, як раней, абмяркуем многія і многія праблемы нашай агульнай працы. Я жыву па-ранейшаму. Многа трачу дарагога часу на розныя непатрэбныя паседжанні. Але патроху пішу. Мабыць, ведаеш, што я апублікаваў у «Полымі» кінааповесць. На студыі яна пакуль што не рухаецца. «Цягну» раман, тэма складаная, матэрыял пачынае «захлёствваць», ледзь паспяваю «адкачваць». Работы яшчэ — Бог мой! Не той імпэт. Не тая сабранасць. Ды і самаму ўжо часам хочацца больш пагуляць з Алесяй. Ёй ужо дзясяты м-ц, яна цікавая, але патрабавальная ўжо, што не так — крычаць.

Вось і зараз пішчыць побач — не бяруць на рукі.

Вось так жыву.

Хочацца мне прыехаць да вас у Ленінград. Ты ведаеш, што «Трывожнае шчасце» хутка выходзіць, магчыма, нават тыражом 150000 экз. Я сам крыху затрымаў кнігу (яна даведзена да друку) — забракаваў вокладку. Сёння глядзеў перапрацаваную. Нічога, пусціў.

Мацуйся, мой дружа. Уся мая сям'я цябе вітае і жадае хутчэй стаць на ногі.

Паклон усім тваім блізкім.

Абнімаю

твой Іван

23/III 62 г.

*...я апублікаваў у «Полымі» кінааповесць.* — Кінааповесць «Не той гонар» («Полымя», 1962, № 2).

*«Цягну» раман...* — раман «Сэрца на далоні».

*...«Трывожнае шчасце» хутка выходзіць...* — выйшла ў 1962 г. на рускай мове ў Мінску. Перакладчыкі — П. Кабзарэўскі, А. Астроўскі.

Дарагі Павел!

Звяртаемся да цябе з вялікай просьбай — я, Маша, Ліна. У газеце «Звязда» пад рубрыкай «У лабараторыях вучоных» змешчана карэспандэнцыя В. Крывашэіна (з Ленінграда) «Блізарукасць вылечваецца». У ёй паведамляецца, што ўрач Уцехіна Алена Віктараўна і яе муж Ю. А. Уцехін вынайшлі сферапрызматычныя лінзы. Нашэнне такіх акуляр вылечвае блізарукасць. Паведамляецца, што пад кіраўніцтвам прафесара В. Чурылоўскага распрацавана тэхналогія вырабу такіх лінз. Іх пачаў выпускаць завод «Кінап».

Ты разумееш, як важна для Ліны хутчэй атрымаць такія акуляры. Яна моцна перажывае з-за сваёй блізарукасці. Калі б ты, наш добры друг, здолеў даведацца, у каго і якім чынам можна набыць такія акуляры, мы былі б табе вельмі ўдзячны.

Жывем па-ранейшаму. Навін асаблівых няма. Многа засядаем, мала пішам. Я планаваў закончыць раман недзе ў пачатку 1963. Але за апошнія тры-чатыры м-цы я амаль не рушыў з месца. Быў заняты кінасцэнарыем, юбілеем, гаспадаркай і г. д. Чакаю прыезду Броўкі. Тады забяруся ў Каралішчавічы і рвану. Сёння еду ў Маскву на нараду работнікаў літаратуры і мастацтва ў ЦК.

Прывітанне тваёй сям'і.

твой Іван Шамякін

15/XII 62 г.

*Чурылоўскі Уладзімір Мікалаевіч (1898—1983)* — першы дэкан аптычнага факультэта ЛІТМО, прафесар, оптык.

*...завод «Кінап».* — Агульная назва савецкіх заводаў кінаапаратуры. Вядомы ЛенКІНАП (пазней ЛОМО), Адэскі завод КІНАП.

*Я планаваў закончыць раман недзе ў пачатку 1963.* — Раман «Сэрца на ладоні».

*Быў заняты кінасцэнарыем...* — відаць, сцэнарый па рамане «Крыніцы».

Дарагі Павел!

Прабач, дружа, маю неакуратнасць і нічога кепскага не думай. Мы цябе любім, удзячны за тваю чуласць і сардэчнасць. У той жа дзень, калі Ліна прыляцела, Маша званіла табе і гаварыла з адной з тваіх дзяўчат. Нядаўна званіў я, але твой нумар чамусьці не адказаў. Безумоўна, я павінен быў напісаць. Але ў мяне была шалёная зіма. Праца і хваробы так змучылі, што цяпер наступіла нейкая дэпрэсія: я не пішу, не чытаю. Пяць м-цаў я «цягну» Саюз без шэфа. Раман. Сцэнарый. Я пракляў той час, калі згадзіўся звязацца з кіно. Паездкі. Хоць яны і прыемныя і цікавыя, але выбівалі з каляіны. А потым, пасля паездкі да выбаршчыкаў, дзён дзесяць моцна грыпаваў. А потым захварэлі Леся і Маша — грып і запаленне лёгкіх. Маша і цяпер яшчэ не зусім здаровая, і дзень свайго нараджэння сустрэла ў ложку. Спадзяюся, што ты зразумееш маё становішча і прабачыш маўчанне. Я сам па сабе чалавек не дужа акуратны, а тут яшчэ такія абставіны.

Безумоўна, усе мае тэрміны заканчэння рамана сарваліся. Раман не закончаны і дагэтуль. Маю надзею на вясну і лета: плюну на ўсё, уцяку куды-небудзь, у Церуху, і там ужо, напэўна, давяду да канца.

Я падаў у «Сов.<етский> писатель» заяўку на зборнік апавяданняў. Я ўключыў туды кінааповесць «Не той гонар» і напісаў Кір'янаву, што, калі пытанне аб уключэнні кнігі ў план 1964 г. будзе вырашана станоўча, я хацеў бы, каб пераклад гэтай рэчы быў даручаны табе. Можа, табе варта ў сваю чаргу звязацца з Кір'янавым, саслаўшыся на маё пісьмо.

Сёння я зноў еду ў Маскву, на пленум СП. Убачу Кір'янава — скажу яму яшчэ раз.

Вось так я жыву. Не вельмі разумна. Мнагавата навальваю на сябе. Трэба, відаць, патроху разгружацца. Але пакуль што атрымліваецца наадварот. Я думаю, што мы, дзеці палёў і лясоў, відаць, не прыстасаваны да сучаснага тэмпу гарадскога жыцця. Таму нам цяжка, і мы рана выходзім са строю. Але нічога не зробіш — трэба трымацца.

Мацуйся, дружа, і ты, вяртай свой прыроджаны аптымізм. Усё такі ў жыцці нямала радасцяў.

Прывітанне табе ад Машы, Ліны і ад усіх маіх малых, хоць, па сутнасці, малая — адна Леська.

Абдымаю цябе

Іван

24/III 63 г.

*Раман. Сцэнарый.* — Раман «Сэрца на далоні»; відаць, сцэнарый па рамане «Крыніцы».

*Я падаў у «Сов.<етский> писатель» заяўку на зборнік апавяданняў. Я ўключыў туды кінааповесць «Не той гонар» ~ пераклад гэтай рэчы быў даручаны табе.* — зб. «Листопад: повесть, рассказы» (1964).

*Кір'янаў* — супрацоўнік выдавецтва «Советский писатель».

Павел, дарагі!

Прабач, браце, што адказваю так позна. Я ніколі не вызначаўся акуратнасцю ў перапісцы, гэта мой недахоп. Але добрых сяброў сваіх я ніколі не забываю і не цураюся.

Гэта пісьмо мне цяжкавата пісаць, бо я мушу сказаць табе не зусім прыемную рэч — наконт перакладу майго рамана. Верны старой дружбе, я паслаў раман Астроўскаму. Ён бярэцца перакласці сам. Разважыўшы, я вырашыў, што аднастыльнасць перакладу станоўча адбіваецца на кнізе. Мой новы раман не разбіты нават на часткі, сюжэт яго вельмі дынамічны, час ахопліваецца кароткі, а таму мне цяжка было ўявіць яго ў перакладзе двух, добрых, але розных па стылю, пісьменнікаў. Арсеній Георгіевіч перакладаў мяне больш, і я больш звыкся з яго стылем і манерай. Спадзяюся, што ты правільна зразумееш мае матывы і не пакрыўдзішся. Думаю, што ў будучым у нас будзе магчымасць папрацаваць разам. Вось, напрыклад, у «СП» плануецца на 64 год мой зборнік, у які я ўключаю кінааповесць «Не той гонар», якая нікім яшчэ не перакладалася. Калі ты згодзен, я з прыемнасцю прыму тваю працу над ёй.

Між іншым, я пісаў ужо пра гэта Кір'янаву. Мяне просіць Гарбачоў, з паўмесяца назад прыслаў пісьмо. Сёння я адказваю яму, што паколькі я даваў слова табе, то справа гонару майго трымаць гэтае слова. Звяжыся, калі ласка, з Кір'янавым. Я напішу яму яшчэ раз.

Знаходжуся ў так званым «адпачынку», але працую, як ішак. Здаю ў «Полымя» раман, служу ў дачнай сям'і за шафёра, забеспячэнца і г. д. Хочацца куды-небудзь паехаць. Але куды?

Збіраўся ў Амерыку, на Асамблею. Урачы запярэчылі. Вяду з імі доўгія і нудныя перагаворы.

Вось так жыву. Як ты ў летні час маешся? Жадаю табе здароўя і поспехаў.

З сяброўскім прыветам

Іван Шамякін

18/VI 63 г.

*...я паслаў раман Астроўскаму.* — Раман «Сэрца на далоні» для перакладу на рускую мову.

*...у «СП» плануецца на 64 год мой зборнік, у які я ўключаю кінааповесць «Не той гонар», якая нікім яшчэ не перакладалася.* — Зб. «Листопад».

*Здаю ў «Полымя» раман...* — раман «Сэрца на далоні». Апублікаваны ў часоп. «Полымя» 1963, №№ 8—10.

*Збіраўся ў Амерыку, на Асамблею.* — На Асамблею ААН. Паехаў толькі ў верасні 1963 г.

Дарагі Павел!

Прабач, дружа, што я толькі цяпер сабраўся напісаць табе. Далібог, я, да атрымання ліста, не ведаў пра тваю аперацыю. А мы ўсе трохі эгаісты. Я занадта быў заняты сваёй уласнай хваробай, неадкладнымі творчымі справамі і — нельга сказаць, што забываўся на сяброў — не знаходзіў часу напісаць. Я вярнуўся з Амерыкі з хворай печанню. Такі востры халецыстыт, што тыдні тры я ляжаў дома ў ложку. А потым мусіў ехаць у Маскву, каб давесці да ладу раман. Вярнуўся адтуль перад самым новым годам і… захварэў на ангіну. Не здолеў нават паслаць сябрам традыцыйныя навагоднія прывітанні.

Цяпер, дзякуй богу, адчуваю сябе лепш. Але каб пісаць — забыўся нават, што гэта такое. Чытаю па абавязку члена камітэта па Ленінскіх прэміях. З усяго прачытанага пакуль што па-сапраўднаму спадабалася толькі адна кніга — «Дзікі мёд» Л. Первамайскага. Астатнія не лепшыя за тое, што напісаў я, грэшны. Кірую ў Саюзе. Збіраюся зноў у Маскву — на сесію Камітэта.

Навін асаблівых няма. Выдаў Ліну замуж. Так што скора магу быць дзедам. Старэем.

І. Мележ выбраўся на новую кватэру. Я ўбачу яго сёння ці заўтра і пагутару. Але помню, што я заводзіў з ім гэтую размову ўлетку. Энтузіязму асаблівага ён не праяўляў. Ды і раман яшчэ не гатовы, хоць нейкую частку ён друкуе ў № 1 «Полымя». Я абяцаю пагаварыць з ім. Але асабліва не спадзявайся на сілу маёй размовы. Будзь рэалістам да канца. Напішы яму сам. Выданне А. Чарнышэвіча — справа рэальная, але толькі на 1965 год. Цяпер у выдавецтве ідзе зусім другі працэс — скарачэнне плана. Ты пераклаў абедзве часткі? Чарнышэвіча я буду падтрымліваць з усёй энергіяй. Вось такія справы.

Як тваё здароўе? Спадзяюся, што цяпер усё пойдзе на лад пасля аперацыі. Трымайся. Не падай духам. Жыццё, хоць і бывае цяжкім, але яно прыгожае. У цябе будзе яшчэ многа светлых гадзін.

Прывітанне табе ад маёй сям'і.

Цісну тваю руку, якой ты напісаў і пераклаў многа тысяч старонак. Абнімаю

твой Іван Шамякін

22/I 64 г.

г. Мінск

*Я вярнуўся з Амерыкі з хворай печанню.* — З сесіі Асамблеі ААН. Вярнуўся датэрмінова.

*...мусіў ехаць у Маскву, каб давесці да ладу раман.* — Раман «Сэрца на далоні». Выйшаў на рускай мове ў перакладзе А. Астроўскага ў Маскве.

*...«Дзікі мёд» Л. Первамайскага.* — Раман (1963) украінскага пісьменніка Л. Первамайскага.

*Мележ Іван Паўлавіч (1921—1976)* — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972).

*І. Мележ выбраўся на новую кватэру.* — Пераехаў з вул. Карла Маркса, 36 на вул. Леніна.

*Ды і раман яшчэ не гатовы, хоць нейкую частку ён друкуе ў № 1 «Полымя».* — Раман «Подых навальніцы».

*Выданне А.Чарнышэвіча — справа рэальная, але толькі на 1965 год.* — У 1965 годзе на рускай мове выйшаў зб. А. Чарнышэвіча «Рассказы старого Артема» (перакладчык П. Кабзарэўскі), а ў 1966 г. — раман А. Чарнышэвіча «На рубеже веков» (перакладчык П. Кабзарэўскі).

14/XI 64 г.

Дарагі Павел,

ты прабач, што раблюся ўсё больш і больш неакуратны і няўважлівы. Мне здаецца, што я не на многа стаў горшы — самалюбівейшы, і не так ужо зазнаўся. Проста, відаць, я ўзваліў на свае плечы больш, чым магу несці, — сям'я, пісанне раманаў, кіраўніцтва, рэдкалегіі, саветы, грамадская дзейнасць, паток пісем, дзесяткі запрашэнняў, выдавецкія турботы. Але, і выдавецкія. Чамусьці мне здаецца, што раней іх было менш, гэтых турбот. Магчыма, я быў маладзейшы і не прыкмячаў іх. Магчыма, маладзейшыя былі мае сябры і добраахвотныя памочнікі — перакладчыкі, і яны бралі на сябе частку гэтых турбот. А цяпер пастарэў я і яшчэ больш пастарэлі вы, мае сябры-перакладчыкі. Я ўсё гэта разумею, але ад усёразумення такога мне не робіцца лягчэй. Я ўсё часцей задумваюся над тым, як бы разгрузіць сябе ад нейкай часткі гэтых шматлікіх абавязкаў. І як самаго сябе найлепш арганізаваць. Бяда яшчэ ў тым, што я чалавек неарганізаваны і, можа, нават кой у чым гультаяваты.

Як жыву? Табе няцяжка ўявіць, як я жыву. Яшчэ з кіно, дурань, звязаўся.

Дома, дзякуй богу, усё добра. Усе растуць, вучацца і патрабуюць плойму грошай, не паспяю зарабляць. У кожнага, брат, свае праблемы. Ты пішаш пра маю новую аповесць. Ты ведаеш: я не заключаю ніякіх умоў, не даю нікому ніякіх абяцанняў, пакуль рэч не гатова, і я не ведаю, што выйдзе, як удасца. Гэта амаль прымхлівасць. А тым больш, што праца, як ніколі, ідзе цяжка, а ў гэтыя хмурныя асеннія дні ўвогуле застапарылася. Пераглядаю раней напісанае. Будзе гатова, будзем жывы, здаровы, тады падумаем аб перакладзе.

Я ад душы радуюся, што ты зноў гэтак мужна выйшаў пераможцам у барацьбе з тваім злейшым ворагам — хваробай. Трымайся, Павел! Гэта вельмі правільна — не здавацца! Жыць цудоўна, што б там ні было! Праўда, часта мы ў маладосці неразумна растрачваем свае сілы, не плануем іх расход, забываемся, што нешта трэба пакінуць і на той час, калі нам пераваліць за 50 і за 60, і за 70. Пішы. Хай цябе не бянтэжыць, што я часам затрымліваю адказы. Я заўсёды помню пра цябе, мой добры друг, і ганаруся нашым даўнім сяброўствам. І я ведаю: шчырых сяброў у цябе нямала, дарэмна ты неяк выказваў мне даволі песімістычныя думкі.

Абнімаю цябе. Прывет тваім блізкім. Жадаю ўсім вам шчасця і радасці.

Твой Іван

*Яшчэ з кіно, дурань, звязаўся.* — Размова ідзе пра фільм «Крыніцы» па аднайменным рамане І. Шамякіна.

*...пра маю новую аповесць.* — Аповесць «Мост» (1964) з пенталогіі «Трывожнае шчасце».

Дарагі Павел!

Я ведаю, што ты, відаць, ужо трымаеш нацэленым пяро, каб выкрасліць мяне са спісу сваіх сяброў. То ці, можа, ужо зрабіў гэта. Прашу цябе: не спяшайся. Я па-ранейшаму поўны самых сардэчных пачуццяў да цябе, майго добрага старога і шчырага сябра. Я спадзяюся, што ты зразумееш, што я проста ўзваліў на свае плечы больш, чым, відаць, можа цягнуць адзін чалавек: пішу, кірую ў СП і ў сям'і, займаюся самай разнастайнай грамадскай работай і чым хочаш. А здароўе не тое. Дае асечку. Вось і зараз збіраюся ў Трускавец. А адтуль — зноў у Маскву, хваляваца за сябе і за сяброў сваіх.

На 12 сакавіка мы назначылі Пленум СП, а я не здолею прысутнічаць. Ты можаш прыехаць?

Я рад, што ты працуеш над перакладам такіх добрых пісьменнікаў, як Аркадзь і Алесь. Я ведаю, крыўдуеш трохі, што я паслаў свой «Мост» Арсенію. Але зразумей: я пастаянны ў сваіх пачуццях і прыязнасці, я прывык да перакладаў Арсенія і ўдзячны яму. Я адчуваў, што пакрыўджу старога, хворага чалавека, калі не яму даручу пераклад гэтай рэчы. Акрамя таго, я ведаў, што ты маеш сур’ёзную работу.

Спадзяюся, што гэта ні ў якім разе не скажацца на твае адносіны да мяне. У нас будзе яшчэ магчымасць папрацаваць разам, абы было здароўе. Вось гэтага я і жадаю табе ў першую чаргу. Саша перасылае пару сваіх здымкаў. Ацані яго работу.

Прывітанне тваёй жонцы і дзецям, з якімі я, на жаль, не здолеў пазнаёміцца асабіста. Прывет ад Машы і Ліны.

Абнімаю цябе, дружа.

Мацуйся!

Твой Іван

3/III 65 г.

*...ты працуеш над перакладамі такіх добрых пісьменнікаў, як Аркадзь і Алесь.* — Маюцца на ўвазе беларускія пісьменнікі Аркадзь Чарнышэвіч (1912—1967) і Алесь Асіпенка (1919—1994).

*...я паслаў свой «Мост» Арсенію.* — А. Астроўскаму для перакладу на рускую мову.

Павел, дарагі!

Не злуй ты на мяне, што я не заўсёды адказваю акуратна на твае пісьмы. Павер, я глыбока ўдзячны табе за ўсё і заўсёды помню і ўспамінаю аднаго са сваіх лепшых і шчырых сяброў з самымі цёплымі пачуццямі. Але, па-першае, я гультай. Толькі на адну работу ў мяне хапае сілы волі — пісаць раманы. Па-другое, я чартоўскі перагружан усялякімі абавязкамі; нахапаўся нагрузак, як сабака блох. Па-трэцяе, стала часцей і часцей падводзіць здароўе, апошні тыдзень ляжаў у ложку, тэмпературыў, падазравалі запаленне. Пісьмы твае я палучыў з даведкай пра Арсенія і з <нрзб>. Безумоўна, пастараемся ўсё выкарыстаць.

Як складаецца кніга аповесцяў?

Мы тады пэўна не дамовіліся. Якія аповесці пойдуць?

Передавай прывет сваім блізкім. І мае самыя найлепшыя пажаданні ўсім вам, усёй сям’і — старым, маладым, малым.

Абнімаю цябе.

твой Іван

29/III 67 г.

*Арсеній* — А. Астроўскі.

*Як складаецца кніга аповесцяў?* — Відаць, маецца на ўвазе кніга, у якую ўвайшлі раман «Крыніцы» і аповесць «Мост».

Дарагі Павел!

Знаходжуся ў Кіславодску. Пасля шумнай восені з паездкамі і банкетамі ўцёк сюды і стараюся папраўіць сваё здароўе, якое моцна пачало падводзіць мяне. З-за хвароб не выконваю сваіх творчых планаў.

Ходзячы па тутэйшых працэдурах, думаю пра сваіх сяброў. Яшчэ і яшчэ раз прыходжу да высновы, што дружба — гэтае самае каштоўнае, што дадзена чалавеку ў яго адносінах з другімі людзьмі. Часам у прагнасці да работы, эгаізму, сябелюбства ці проста глупства і яго дзіцяці — зазнайства, мы недастаткова цэнім гэты найдаражэйшы скарб. Не будзем ківаць пальцамі, аднясем гэта кожны да сябе. У мяне адзін грэх — прагнасць да работы, да пісання, якая перашкаджае

мне напісаць лішняе пісьмо, пазваніць і г. д. Я спадзяюся, што табе, чалавеку, які гэтак жа прагна і нястомна працуе, павінна быць зразумелым такі недахоп, асабліва калі яшчэ зрабіць папраўку на беларускую лень і непаваротлівасць.

Але ўсе мае добрыя сябры заўсёды ў маім сэрцы. І ты, мой добры сівы брат, у першай шарэнзе. Я ведаю: ты часам скланяеш мяне. Ты гэта выказваў нават Машы. Не рабі гэтага, калі ласка, бо будзе цябе грызці сумленне — самы страшны звер. Я з табой быў заўсёды шчыры, але прынцыповы: казаў праўду ў вочы.

З братэрскімі пачуццямі я жадаю табе, перш за ўсё, здароўя, шчасця і — што для нас з табой самае галоўнае — творчай радасці. Да сустрэчы. Віншую з вялікім святам Кастрычніка. Прывет усім тваім блізкім.

Абнімаю
твой Іван Шамякін
31/Х 66 г.
г. Кіславодск
Сан. ім. Семашко

Дарагі Павел!

Дзякую, шчыра дзякую за віншаванні, за тваю добрую памяць. Мне прыемна і радасна атрымаць тваё сардэчнае слова.

Узнагарод я атрымаў многа, а пішу ўсё павольней і — не дай божа — акажацца, што і горш. Разляніўся ці пастарэў. Планаваў кончыць раман у 67, добра, калі буду друкаваць у г.г.

Трывога твая дарэмная. Ні я, ні Максім, ніхто іншы з сакратароў не выказаў ні ценю сумнення ў шчырасці ўсяго, што ты перадаў нам, у тым ліку і размовы з Д. Граніным. Але ты ведаеш, што атрымалася: наш нявопытны карэспандэнт «Литгазеты» бухнуў інфармацыю: у Ленінградзе будзе праведзены Тыдзень бел.<арускай> літ<аратуры>. Мы адразу адчулі, што паставілі Граніна і ўвесь ваш сакратарыят у няёмкае становішча. Мы верым у шчырае жаданне Граніна і ўсіх таварышаў правесці тыдзень. Мы глыбока ўдзячны ўсім вам. Але мы, асабліва я і М. Ткачоў, старыя кіруючыя ваўкі, добра ведаем, што не заўсёды хапае аднаго жадання. На тыдзень, напэўна, патрэбна рашэнне абкама ці хаця б згода і — абавязкова рашэнне Сакратарыята ЛА. Патрэбны немалыя сродкі і г. д. г. д. аж да таго: а якая думка будзе сакратарыята СП СССР? Ці не так? Вось чаму мы адчулі няёмкасць. На Савеце па бел.<арускай> л-ры, карыстаючыся прысутн.<асцю> М. І. Камісаравай, на абмеркаванні плана я выказаў удзячнасць ленінградцам, сказаў, з якім энтузіязмам сустрэта ваша прапанова беларусамі, але папрасіў перадаць прабачэння за заўчасную інфармацыю. Я дакладваў пра гэта на сваім прэзідыуме, і ўсе ўхвалілі мой тактычны ход, які паможа і вам і настроіць на пэўную хвалю маскоўскае кіраўніцтва. Так што, як бачыш, усё наадварот. Цябе, відаць, нехта не зусім правільна інфармаваў. Зноў-такі нідзе і ні ў кога не ўзнікла і ценю недавер'я да цябе і твайго паведамлення, да тваіх захадаў у гэтым плане. За іх мы табе ўдзячны і просім будзіраваць справу аб нашым прыездзе. Усім нам хочацца ў Ленінград.

Баюся, што апавяданне я не напішу. Выбраў кавалак з рамана. Аддаў на машынку. Па-мойму, цікавы і сюжэтна закончаны, праўда, на тэму партызанскую — успамін былога камандзіра брыгады. Вышлю Арсенію Георг.<іевічу>. Калі падыдзе — дайце. Не — няхай прапануе жаночаму часопісу, там пра тое, як жанчына раджае ў атрадзе. Я напішу яму, Арсенію, калі буду высылаць рукапіс. Хай прабачыць, што не адразу адказаў на яго пісьмо. Я глыбока паважаю яго і не забываю ні на міг.

Да дактароў вашых я прыеду.

Удзячнасць і сардэчны прывет ад Марыі Філатаўны.

Вітаю ўсіх тваіх блізкіх. Абнімаю цябе.

Твой Іван

3/II 68 г.

*Планаваў кончыць раман у 67...* — раман «Снежныя зімы».

*...добра, калі буду друкаваць у г.г.* — Раман «Снежныя зімы» апублікаваны ў часоп. «Полымя», 1968, №№ 11, 12.

*Максім* — народны паэт БССР Максім Танк (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995).

*Гранін Даніїл Аляксандравіч (нар. 1919)* — рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

*Камісарава Марыя Іванаўна (1904—1994)* — руская паэтэса і перакладчыца.

*Выбраў кавалак з рамана.* — З рамана «Снежныя зімы».

*Вышлю Арсенію Георг.<іевічу>.* — А. Г. Астроўскаму для перакладу на рускую мову.

Павел!

Прабач, дарагі, я зусім заматаўся. Перад святам не быў у Мінску і таму не паслаў сваім добрым сябрам нават віншаванні. Першы раз нікому не паслаў. Пазвані Арсенію, папрасі ад майго імя прабачыць. Хрэнкоў нам прыслаў пісьмо і званіў С. А. Пілатовічу. Мы згодны. Відаць, аб агульнай танальнасці не падумалі ні мы, аўтары, ні ты, складальнік. Я. Брыль прапануе «На Быстранцы». В. Быкава, рашылі мы, даць «Альпійскую баладу». Высылаем дадаткова «Бульбу» і «Пакуль не развіднела». Пасылаю табе. Але я напісаў пра гэта Хрэнкову. Я хацеў бы, каб пайшла «Міхаліна», мне няёмка перад Гарбачовым, ён спадзяваўся на мой новы раман, пакрыўдзіўся.

Але калі выдавецтва пярэчыць, прапануй ім «Непаўторную вясну». Мне было б крыўдна, каб такая кніга выйшла без маёй рэчы. Шчыра табе прызнаюся, па-сяброўску, па-чалавечаму. Усе мы людзі, і я думаю, што нічога заганнага няма ў жаданні пісьменніка апублікавацца яшчэ раз.

Прывітанне ўсім тваім.

Пазвані Астроўскім.

Цалую

І. Шамякін

20/XI 68 г.

*Арсеній* — А. Г. Астроўскі.

*Хрэнкоў* — відаць, супрацоўнік выдавецтва «Лениздат» (г. Ленінград; з 1991 г. — Санкт-Пецярбург).

*Пілатовіч Станіслаў Антонавіч (нар. 1922)* — савецкі партыйны дзеяч, дыпламат.

*Я. Брыль прапануе «На Быстранцы».* — Аповесць «На Быстранцы» (1955).

*Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924—2003)* — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1980).

*В. Быкава, рашылі мы, даць «Альпійскую баладу».* – Аповесць «Альпійская балада» (1964).

*Высылаем дадаткова «Бульбу»...* — апавяданне беларускага пісьменніка Івана Чыгрынава (1934—1996).

*...і «Пакуль не развіднела».* — Аповесць (1966) беларускага пісьменніка Барыса Сачанкі (1936—1995).

*...каб пайшла «Міхаліна»...* — Аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна…» (1965).

*Гарбачоў Міхаіл Васільевіч (1921—1981)* — рускі савецкі перакладчык.

*...на мой новы раман...* — на раман «Снежныя зімы».

*...«Непаўторную вясну».* — першая аповесць (1956) з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1956—1964).

*...каб такая кніга выйшла без маёй рэчы.* — зб. «Белорусские повести», выйшаў у Ленінградзе ў 1971 г. У зборнік увайшла аповесць «Агонь і снег» з пенталогіі «Трывожнае шчасце».

Павел!

Лаеш мяне? І філасофствуеш аб тленности зямных каштоўнасцяў, аб нетрываласці дружбы, няўдзячнасці чалавечай і г. д.? Дарэмна. Усё больш трывалае, чым ты думаеш. Акрамя нас саміх — нашага здароўя. Пісьмо Кір'янаву і змест я паслаў тады ж, у красавіку. Увесь май праездзіў — быў у Бельгіі. Чэрвень пісаў — хацеў навярстаць тое, што прагуляў. Не атрымалася. Паездка ў Маскву. Свята наша. Пасля свята захварэў і зараз яшчэ адлежваюся на дачы: тэмпературыў, а цяпер баляць суставы, асабліва — правай рукі, часам я зусім раблюся непрацаздольны і панікую, палохаючы Марыю Філатаўну.

Пра кнігу аповесцяў я пісаў А. Г. Астроўскаму наступнае: «Лениздат» сваім патрабаваннем узняў трывогу ў нашым ЦК, бо там раптам выявілі істотны прабел у нашай прозе — адсутнасць твораў на тэмы сучаснасці. Нам ужо ківаюць. І зараз стала справай нашага прэстыжу давесці гэтую кнігу да выдання. Вельмі прашу цябе, Павел, і яго, Арсенія, памагчы нам і працай, калі трэба перакласці нешта дадаткова, — і перакананнем т.т. з «Лениздата», што кнігу абавязкова трэба пусціць у вытворчасць.

Над аповесцю працую. Упершыню аб'ём выйшаў з-пад маёй улады: думаў будзе аркушы чатыры, а ўжо напісаў шэсць, а канца не відна. Калі мусіш ісці за гістарычнымі падзеямі, мімаволі пачынае віцца вяроўка. Гэта мяне палохае і размагнічвае.

Як ты праводзіш лета? Дзе?

Здароўя табе, поспехаў. Прывет усёй тваёй сям'і.

М. Ф. передае табе шчырае прывітанне і найлепшыя пажаданні. Яна занята ўнукам, Лесяй і мной, нядужым і капрызным.

Абдымаю цябе

Іван Шамякін

16/VII 69 г.

*Пра кнігу аповесцяў...* — зб. «Белорусские повести» (Ленінград, 1971).

*Над аповесцю працую.* — Над аповесцю «Браняпоезд «Таварыш Ленін».

Павел!

Высылаю аповесць. Астроўскі мне званіў. Аб усіх дэталях мы дамовіліся. Спадзяюся, што два такія зубры, як ты і Арсеній, перакладуць хутка, добра і — галоўнае — арганізуюць публікацыю ў часопісе. Выданне асобнай кнігай я арганізаваў: «Молодая гвардия» прыслала мне дагавор.

Марыя Філатаўна і я дзякуем за віншаванне, добрыя пажаданні, за фота.

Прывітанне тваім блізкім.

Поспехаў табе ў працы, здароўя.

Цісну лапу

Іван Шамякін

17/III 70 г.

*Высылаю аповесць.* — Аповесць «Першы генерал» для перакладу на рускую мову.

*Спадзяюся, што два такія зубры, як ты і Арсеній, перакладуць хутка, добра і — галоўнае — арганізуюць публікацыю ў часопісе.* — Аповесць «Першы генерал» была перакладзена на рускую мову П. Кабзарэўскім і А. Астроўскім і апублікавана ў часоп. «Октябрь», 1970, № 11.

*Выданне асобнай кнігай я арганізаваў: «Молодая гвардия» прыслала мне дагавор.* — Асобнай кнігай на рускай мове аповесць «Першы генерал» выйшла ў Маскве ў 1972 годзе. Перакладчыкі — П. Кабзарэўскі, А. Астроўскі.

***Уступны артыкул,***
***падрыхтоўка тэкстаў і каментарый Алесі ШАМЯКІНАЙ.***

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

# ЗОРКА — СЛОВА ЖАНОЧАГА РОДУ!

*(Назіранні над асаблівасцямі гістарычнай прозы Людмілы Рублеўскай)*

У заходнееўрапейскім свеце ўсё актыўней выяўляецца ўвага да феномена жаночай творчасці. Паказальны для нас вопыт бліжэйшых суседзяў — украінцаў, дзе ўбачыла свет выданне «Незнаёмка: Анталогія ўкраінскай «жаночай» прозы і эсэістыкі другой паловы XX — пачатку XXI ст.» (Львоў, 2005). У анталогію ўвайшлі творы як шырока вядомых майстроў пяра Э. Аўдзіеўскай, Н. Бічуі, Н. Збароўскай, А. Забужка, В. Агеевай, Т. Гундаравай, С. Паўлычка, Л. Таран і інш., так і прадстаўнікоў маладзейшага літаратурнага пакалення С. Андруховіч, І. Карпы, Т. Малярчук і інш. Цікавы факт: анталогія надрукавана пры фінансавай падтрымцы прадпрымальніка-мужчыны І. Гоўды. Укладальнік і аўтар прадмовы, каментарыяў да твораў — таксама мужчына, літаратуразнаўца, «анталагічны віртуоз» В. Габар. У рэцэнзіі на выданне звернута ўвага на тое, што слова «жаночая» ў назве кнігі напісана ў двукоссі. «Анталогія рэалізуе вялікую літаратурную інтрыгу. З аднаго боку, сам укладальнік бярэ слова «жаночая» ў двукоссе як разнавіднасць псеўдалітаратуры. З другога, праводзіць неймаверна складаную работу ў яе пошуках… Гэта кніга насычана грунтоўным матэрыялам і проста-такі дыхае жаданнем пазнаць гэту загадкавую прозу, якая даўно існуе ў паралельным свеце замкнёнай «жаночай» культуры. Такую анталогію Украіна чакала даўно, яна даўно ўжо запатрабаваная. Бо для далейшага станаўлення літаратуры вельмі важна, што крытыкі і даследчыкі ўжо не адмаўляюць існаванне жаночай літаратуры, а знаходзяцца ў пошуках, спрабуючы зразумець яе непаўторнасць і разнастайнасць».

З украінскага боку прыглядаюцца і да беларускай жаночай літаратуры. Так, літаратуразнаўца Г. Улюра, вылучаючы прозу Н. Бабінай, В. Бабковай, М. Вайцяшонак, Т. Гарэлікавай, лічыць, што з пазіцый феміністычнай крытыкі можна разглядаць у іх творах толькі тэму параўнання сакральнай прасторы вёскі з прафаннай прасторай горада. Сярод шматлікіх феміністычных тэорый даследчыца карыстаецца той, паводле якой прырода, а значыць, і вёска, «параджаюць» вобраз жанчыны. Паралельная парадыгма — культура цывілізацыі, горад, мужчына. У заходнееўрапейскіх літаратурах у такіх выпадках адбываецца прыпісванне мужчынскаму элементу статусу гісторыі (гэта значыць — лінейнага прагрэсу, матывацыі і мэты), жаночаму — міфа і традыцыйна-народнай культуры (прырода і жанчына — цыклічныя і самаўзнаўляльныя).

У беларускай малой прозе Г. Улюра знаходзіць проціпастаўленне двух пачаткаў: мужчынскага як цывілізацыйнага і жаночага як прыроднага. На думку даследчыцы, беларускія пісьменніцы да мадэлі «жанчына-мужчына» звяртаюцца сапраўды з гендэрных канцэпцый, аднак самастойная рэалізацыя жаночага патэнцыялу ў іх творах, як правіла, не назіраецца. Тэма жанчыны, фактычна, упісваецца ў экалагічную тэму, што выступае як найбольш прыярытэтная. Выснова даследчыцы: беларуская літаратура актыўна не чэрпае з еўрапейскага феміністычнага мастацкага вопыту, бо не выяўляюцца ў ёй на поўную моц фрэйдаўская і антыфрэйдаўская канцэпцыі жаночай псіхікі, не

гучыць рэха навейшых філасофскіх дыскусій пра сутнасць феміннага і мускуліннага пачаткаў…

І ўсё-такі слова *зорка* — жаночага роду! На наш погляд, пісьменніцкі стыль беларускага аўтара-жанчыны выразна адрозніваецца ад дамінантнага літаратурнага патрыярхальнага стылю. У гэтым нас пераконвае мастацкі почырк Людмілы Рублеўскай — пісьменніцы гістарычнай тэмы.

Зразумела, мастацкаму асэнсаванню мінуўшчыны папярэднічаюць аб'ектыўныя — нейтральныя ў адносінах да полу рэцыпіента — навукова-даследчыцкія пошукі гістарычных фактаў, разнастайных рэалій, канкрэтыкі, што характарызуюць абраны аўтарамі мастацкага твора гістарычны перыяд. Сярод складаных і важкіх тэм беларускай мінуўшчыны — дзяржаўная польска-украінска-беларуская агульнасць, перыяды ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Да мастацкага асэнсавання гэтага матэрыялу апошнім часам актыўна далучыліся А. Дзялендзік, В. Чаропка, Л. Дайнека, Л. Рублеўская. Уводзячы творы Л. Рублеўскай у кантэкст творчых здзяйсненняў, што належаць мужчынскаму пісьменніцкаму пяру, падкрэслім: вельмі складаны, адказны матэрыял, звязаны з высокай патрыятычнай тэмай, можа распрацоўвацца жанчынай не менш паспяхова, як гэта зроблена пісьменнікамі-мужчынамі. Прыцягальнай сілай вызначаюцца моманты, што засведчылі, з аднаго боку, культурна-літаратурную супольнасць народаў Рэчы Паспалітай і ВКЛ, з другога, выяўлялі славянскі свет як сумарнасць супрацьлегласцей.

Паказальнымі ў нашых назіраннях з'явіліся мастацкія падыходы да гістарычнага перыяду, звязанага з дзейнасцю маршалка ВКЛ князя Міхаіла Глінскага. З гісторыі вядома, што М. Глінскі — асоба, якую палітычныя абставіны кідалі ў гушчу праблем пагранічча: ён ваяваў як на баку ВКЛ, так і супраць, трымаў руку то за Рэч Паспалітую, то за Масковію, католік па веравызнанні, імкнуўся стаць правадыром праваслаўных і г. д. Як падкрэслівае А. Дзялендзік у пасляслоўі да свайго кінасцэнарыя «Князь Міхаіл Глінскі», цікавасць да Глінскага з боку беларусаў тая самая, якую французы выяўляюць да Напалеона, народы Сярэдняй Азіі — да Тамерлана, манголы — да Чынгізхана, хоць усе яны пакінулі пасля сябе горы трупаў і рэкі крыві. Глінскі, як лічыць А. Дзялендзік, «не быў крыважэрным… Ён быў патрыётам ВКЛ, але ворагі выступілі супраць Глінскага адзіным фронтам. І ён прайграў. Паддаўшыся крыўдзе, здзейсніўшы адну памылку, Міхаіл пачаў рабіць іншыя… За злачынствам прыйшло пакаранне». В. Чаропка і ў сваіх дакументальных даследаваннях, і ў рамане «Храм без бога» паказвае М. Глінскага як чалавека «заблуканага і аблудлівага» (А. Сідарэвіч). Падыходы да вобраза М. Глінскага з боку ўкраінскіх пісьменнікаў маюць іншую канцэпцыю. У прыватнасці, Д. Мішчанка ў гістарычным рамане «Князь бунтаўнік» падае М. Глінскага як «патрыёта, выдатнага ўкраінска-польскага героя».

Людміла Рублеўская, у выніку ўласнага вопыту пазнання адзначанага гістарычнага перыяду, спыняецца на тагачасным высокім узроўні культуры на беларускіх землях, якая фарміравалася на скрыжаваннях павеваў Усходу і Захаду, звяртае ўвагу чытачоў на сітуацыю, якую характарызуе як «культуралагічны шок». «Культуралагічны шок» напаткаў Маскву, калі князь Міхаіл Глінскі разам з сям'ёй перабег да князя Васіля III. «Глінскі паездзіў па Еўропе, вучыўся маляванню ў рымскіх мастакоў, плаваў матросам на караблях ад Лондана да Гамбурга… Ягоная пляменніца Алена, што стала расійскай царыцай і маці Івана Жахлівага, на радзіме глядзела спектаклі хатняга тэатра, для якога яе бацька сачыняў музыку і п'есы, звыкла апраналася па апошняй еўрапейскай модзе — з гарсэтамі і дэкальтэ, танчыла на балях, ездзіла на паляванне…» Пісьменніца паказвае, што на расійскіх землях этыкет паводзін быў зусім іншым: «жанчын трымалі ў церамах, ганьбай лічылася… нават вучыць замежныя мовы».

Супастаўляючы розныя творчыя распрацоўкі аднаго і таго ж матэрыялу, бачым, што жаночы падыход прыўносіць гістарычна апраўданы, аднак цалкам неспадзяваны ракурс.

Наступны прыклад жаночай самабытнасці ў падачы гістарычнага матэрыялу звязаны з літаратурнай апрацоўкай міфаў, скіраваных на вызначэнне этнагенезу шляхецкага саслоўя. Характарыстыка ўнутрыпалітычнага і грамадскага жыцця Польшчы, ВКЛ, Галіччыны ў XVI— XVII стст. выяўляе спаборніцтва розных элітарных груповак, каталізатарам якога з'явілася *сармацкая тэорыя*. У глыбіні тысячагоддзяў зарадзілася меркаванне пра паходжанне чалавецтва ад сыноў біблейскага Ноя. Паводле сармацкай этнагенетычнай тэорыі, просты люд пайшоў ад Хама. Шляхта ж працягвала род «ваяўнічых сарматаў», што лічыліся нашчадкамі біблейскага Яфета. *Сарматы* (аланы, раксаланы, саўраматы, языгі і інш.) у VI—IV стст. да н. э. жылі на тэрыторыі ад сібірскіх рэк Об, Табол да Волгі і Дона. У III ст. да н. э. сарматы, перайшоўшы Дон, занялі землі сённяшніх паўднёваўкраінскіх стэпаў, выціснулі з Паўночнага Прычарнамор'я скіфаў, прасоўваючыся на Захад Еўропы, асталяваліся на тэрыторыі Прыкарпацця, польскіх абшарах, дайшлі і да Рыма.

Асабліва моцна ідэя «Вялікай Сарматыі» захапіла польскія тэрыторыі, падштурхнуўшы да выпрацоўкі сармацкай палітычнай ідэнтычнасці, якая аб'ядноўвала шляхту незалежна ад этнічнай прыналежнасці, мовы ці канфесіі. Шляхта Галіччыны выводзіла свой радавод ад раксаланаў, што лічыліся «царскімі сарматамі». На землях ВКЛ шляхта, натхнёная думкамі пра сарматызм, актыўна распрацоўвала версію пра сваё паходжанне ад старажытных рымлян. Сутнасць легенды, якая з некаторымі адрозненнямі зафіксавана ў працах М. Стрыйкоўскага, Я. Длугаша, І. Бельскага, «Хроніцы» Быхаўца, «Трактаце пра дзве Сарматыі» Мацея з Мехава і іншых запісах, — у тым, што на тэрыторыях Жамойці, Літвы, Навагрудчыны, Полаччыны ў часы Нерона ці Цэзара пасяліліся італьянскія ўцекачы на чале з «рымскім князем» Палямонам. З Палямонам і яго акружэннем пачалі звязваць свае княжацкія радаводы Радзівілы, Сапегі, Пацы. Легенда пра Палямона «адлюстроўвала імкненне шляхты ВКЛ даказаць сваё больш знатнае паходжанне ў параўнанні з польскай».

Ідэалогія сарматызму ўрэшце з'явілася тормазам у развіцці дзяржавы і грамадства. У энцыклапедыі «Вялікае Княства Літоўскае» чытаем: «Сарматызм вызначаўся кансерватызмам у эканамічных і грамадскіх адносінах, не дапускаў магчымасці змен у «шляхецкай залатой вольнасці» і дзяржаўным ладзе Рэчы Паспалітай». Пры гэтым гісторыя сведчыць, што сармацкія этнагенетычныя міфы працягвалі ўплываць на рэальную атмасферу жыцця аж да першых падзелаў Рэчы Паспалітай і страты ёю дзяржаўнасці ў XVIII ст.

Да розных варыянтаў сармацкай праблемы звяртаюцца ў гістарычных мастацкіх творах сучасныя беларускія пісьменнікі. На легендзе пра Палямона пабудавана канцэпцыя рамана Л. Дайнекі «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка». Яго героі, патрыёты роднай зямлі, змагаюцца з ворагамі, імкнучыся вярнуць страчаныя кляйноды, якія пацвярджаюць іх «рымскую» радаслоўную, у прыватнасці, сцягі з гербам «Калюмны», святыя рэліквіі «Залаты човен Палямона», «Ключ ад Трох Рэк», што былі захоплены ворагам падчас Лівонскай вайны ў Полацку. Як рэха сармацкай тэорыі гучыць матыў дапамогі лісоўчыкам з боку данскіх казакоў. У творы выступаюць рэальныя гістарычныя асобы, князі, тагачасныя правіцелі ВКЛ. Баявы паход здзяйсняецца з Нясвіжа, з рэзідэнцыі князя Мікалая Радзівіла Сіроткі, прымае ўдзел у ім княжацкі сын Юры. Задзейнічаны ў сюжэце і Ян Пётр Сапега, натхняе змагароў прыклад ранейшых перамог пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астрожскага. Вайсковыя атрады дасягаюць межаў з Масковіяй, у сюжэтныя перыпетыі ўключаецца акружэнне маскоўскага цара, Дзмітры Самазванец, Марына Мнішак.

Твор Л. Дайнекі, пацвярджаючы арыгінальную мастацкую індывідуальнасць аўтара, выпісаны ў традыцыі гістарычнага рамана Вальтэра Скота: хранатоп дарогі, баявыя дзеянні рыцараў з выяўленнем адвагі і вернасці ідэі, бясконцыя прыгоды закаханых.

Формы ўваходжання сарматызму ў свядомасць прадстаўнікоў розных грамадскіх колаў і розных народаў раскрываюцца і ў рамане Л. Рублеўскай «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега». Дыяпазон рэагавання пісьменніцы на гэтую з'яву вельмі шырокі: ад лёгкай іроніі да адкрытага захаплення. Л. Рублеўская, ствараючы шырокую панараму тагачаснага жыцця, выпісвае яе не столькі ў рэалістычна-побытавым, колькі ў маральна-інтэлектуальным, культуразнаўчым планах.

Польскай шляхце, па сутнасці, доўгі час належала найвышэйшая ўлада ў дзяржаве. Прадстаўнікі шляхты не ўпускалі момантаў, каб прынізіць прадстаўнікоў іншых слаёў насельніцтва, клапоцячыся штохвілінна пра тое, каб нішто не пагражала іх прывілеяванаму становішчу, якое было замацавана ў шматлікіх дзяржаўных прававых дакументах. Галоўны сюжэтны стрыжань рамана выбудаваны менавіта з улікам гэтых абставін. Аднак твор «Авантуры Пранціша Вырвіча…», як пазначае сама пісьменніца, напісаны ў стылі *прыгодніцкай фантастычнай літаратуры*. Жанр твора дае аўтару права канфліктныя супрацьстаянні розных груповак шляхты, іх фанабэрыстасць перад іншымі грамадзянамі краіны падаваць, не адступаючы ад гістарычнай праўды, у камічным, іранічным асвятленні. У прадмове да рамана Л. Рублеўская заўважае: «Шмат чаго шляхціц не мог сабе дазволіць: ганьба, калі цябе лупцавалі на зямлі… А падклаўшы дыванок — то ўжо і нічога. Вязе бедны шляхціц на поле гной — каб не атрымалася страты для гонару, належала ўторкнуць у вохкую кучу шаблю. Гнаць гарэлку — можна, а стаяць за варштатам альбо гандляваць у лаўцы, «локцем сукно мерачы», паводле Статута не шляхецкі занятак».

Цэнтральная фігура твора — малады хлопец Пранціш Вырвіч. Першапачаткова Вырвіч, якога пісьменніца характарызуе як «прайдзісвета, галадранца і валацугу», выяўляе гонар шляхціца пераважна на словах, падкрэсліваючы свае прэтэнзіі на выключнасць, бо з дзеда-прадзеда ён — шляхецкага роду, хоць і не мае маёмасці, не атрымаў належнай адукацыі, не можа пахваліцца і іншымі рэальнымі перавагамі адносна сябе ў дачыненні да свайго акружэння. Праўда, ён атрымаў у спадчыну ад бацькі-шляхціца шаблю, выдатна валодае ёю як фехтавальнік. Выява герба «Гіпацэнтаўр» на дзяржальні шаблі ды старая аблезлая «шапка з сапраўдным, хаця і паедзеным моллю собалем і жоўтым дыяментавым гузам» — бадай, адзіныя доказы шляхецкасці хлопца. Аднак, прапускаючы героя праз шматлікія прыгоды і выпрабаванні, пісьменніца падае яго ў развіцці. Урэшце яна захапляецца і Вырвічам, і тымі раманнымі персанажамі, якія, маючы гонар належаць да шляхецкага сармацкага саслоўя, паводзяць сябе як рыцары: шануюць жанчын, хочуць і ўмеюць трымаць слова, у выпадку неабходнасці гатовыя ісці на смерць у абарону агульнай з сябрамі ідэі і інш.

Як ужо адзначалася, сарматызм афармляўся ў дзяржаве як саслоўная ідэалогія, як ідэалогія богам абраных і пэўны час працаваў на еднасць і моц дзяржавы. Аднак зусім справядліва і тое, што высакароднымі рысамі, адукаванасцю, кемлівасцю, прыстойнасцю паводзін, вернасцю ў каханні была надзелена не толькі шляхта, але і людзі ніжэйшага стану. Менавіта ў такім ключы Л. Рублеўская выпісвае як узорную канцэпцыю ўзаемаадносін сваіх герояў. Пранцішу Вырвічу ўзняцца над самім сабой, крытычна ацаніць свае памылкі і недахопы дапамагае чалавек простага паходжання Бутрым Лёднік, які цаной цяжкай працы, самаахвярнасцю здолеў не занядбаць свае прыродныя здольнасці і ўзбагаціць іх ведамі ва ўніверсітэтах Еўропы. Адчуваецца, што, акцэнтуючы на вучонасці, кемліва-

сці, высакароднасці палачаніна Лёдніка, пісьменніца бачыла як прыклад вобраз Францыска Скарыны. Тое, што Лёднік, паводле задумы пісьменніцы, двойчы атрымаў у Еўропе ганаровае званне доктара навук, дазваляе ёй узняць высока інтэлектуальны ўзровень дыялогаў галоўных персанажаў рамана. Так, Л. Рублеўская цалкам апраўдана надзяляе Лёдніка ўменнем праводзіць псіхалагічныя эксперыменты і дыспуты. Натуральнымі з’яўляюцца размовы герояў пра тэатр, заўсёды да месца пададзены цытаты з Бібліі, з твораў філосафаў, пісьменнікаў Антычнасці, тых волатаў духу, якімі было пазначана тагачаснае жыццё Еўропы. Дзякуючы Лёдніку Пранціш Вырвіч даведваецца пра еўрапейскага гуманіста М. Мантэня, французскіх асветнікаў Ж. Русо, Ф. Вальтэра. Услед за Лёднікам ён будзе паўтараць словы ідэолага французскай рэвалюцыі Дэні Дзідро: «Чалавек не павінен быць рабом!»

На пачатку твора Пранціш Вырвіч, які закінуў вучобу, пешшу прастуе невядома куды ў пошуках прыгодаў. Пісьменніца з лёгкім гумарам заўважыла пры гэтым: «Але дзе-небудзь ды знойдзецца халяўны келіх для не дужа моцнага, але ладнага блакітнавокага шкаляра з усмешлівымі вуснамі і ўпартым русявым чубам…» Развіццё сюжэта пераконвае: шкаляр Вырвіч абавязкова падцягнецца да ўзроўню еўрапейскай вучонасці! Герой у канцы твора кіруецца ў Вільню, каб ў Віленскай акадэміі паглыбіць свае папярэднія веды, атрыманыя ў Мінскім калегіуме, і навуку, засвоеную ад Лёдніка.

Раманная прастора ў Л. Рублеўскай, у адпаведнасці з тагачаснай гістарычнай рэальнасцю, адкрыта для дзейнасці прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей: тут і аўтахтонныя палякі, літвіны, яўрэі і заходнееўрапейцы, у прыватнасці, нямецкія вучоныя. Сярод герояў — высокапастаўленыя рэальна існаваўшыя асобы: князі Радзівілы і Сапегі, якія канкурыруюць паміж сабою; гэта і члены роду Багінскіх, якія імкнуцца да яднання з Масковіяй. Аднак, як прадстаўніца беларускай літаратуры, пісьменніца найперш развівае тэму беларускага менталітэту.

Дыдактычна, але вельмі далікатна праводзіць ідэю патрыятычнага стаўлення да роднага краю на працягу ўсяго твора. Гэта і тыя ўпамінанні жаночых вобразаў з гісторыі Беларусі — Рагнеда, Еўфрасіння Полацкая, Анастасія Слуцкая, — у кантэксце з якімі пісьменніца малюе вобраз каханай дзяўчыны Лёдніка Саламеі Рэніч. Гэта і ўпамінанні перамог літвінскіх войскаў у бітвах з ворагамі. Гэта і інтэртэкстуальныя ўкрапленні беларускіх фальклорных твораў, і ўстаўкі ўласных вершаў Л. Рублеўскай. Гэта і тэкст з рэпертуару беларускага гурта «Стары Ольса,» дзе апяваецца непагасная слава продкаў:

Ехаў Літвін да па Сініх Водах…
Скакаў Літвін, ой ды пад Смаленскам…
Кляўся Літвін у святой Дуброве
На старым мячы,
На старым мячы
Чужынцаў сячы…

Прыгодніцкі характар развіцця сюжэта дазваляе Л. Рублеўскай сармацкія легенды, у тым ліку і легенду пра Палямона, арыгінальна спалучыць з беларускай нацыянальна-патрыятычнай ідэяй. Гераіня твора ўраджэнка Полацка Саламея Рэніч ведае сакрэтныя шляхі да падземных сутарэнняў, у якіх захаваныя святыя рэліквіі — дзіда заходнееўрапейскага правіцеля, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Отана, што наведваў Кіеўскую Русь яшчэ ў часы княгіні Вольгі, а таксама старабеларускія рукапісы, у тым ліку і славуты Полацкі летапіс. Зыходзячы з асабістых эгаістычных інтарэсаў, у барацьбу за авалоданне гэтымі святынямі ўключаюцца розныя бакі кіруючых колаў. Езуіты мяркуюць, што месца святыні ў Рыме, іншым святыня неабходная, каб прэтэндаваць на каралеўскі трон, і г. д.

Сармацкі касцюм выступае ў творы сваеасаблівым індыкатарам шляхецкага гонару. Пісьменніца амаль кожнага з князёў, прадстаўнікоў розных палітычных арыентацый, апранае ў сармацкі строй. Аднак, зразумела, не вонкавыя прыкметы з'яўляліся канчаткова пераканаўчымі арыенцірамі ў вырашэнні лёсу святынь. Каб не трапілі рэліквіі ў варожыя рукі, станоўчыя маладыя героі прымаюць самастойнае рашэнне, падтрыманае ўрэшце і загадам вялікага гетмана: «Ні вашым, ні нашым, але роднай зямлі…» «Святая рэч, якая ахоўвала стагоддзі нашу зямлю… і надалей будзе захоўвацца ў Полацку!»

Высновы ўкраінскага літаратуразнаўца М. Ільніцкага пра сталасць сучаснага ўкраінскага гістарычнага рамана маем усе падставы дапасаваць і да беларускага гістарычнага рамана: «Гістарычная тэмы ў літаратуры — гэта ўзмоцненая пульсуючая думка, а не толькі апісанне, узнаўленне падзей і фактаў. Наша літаратура даспела да мастацкага адлюстравання гісторыі духоўнай, гісторыі думкі, гісторыі ідэй. Чэрпаць з крыніцы мінулага вопыту гэту жывую ваду, якая аздараўляе нашага сучасніка, найпершая задача».

Працягваючы гаворку пра моцныя бакі гістарычнай прозы Л. Рублеўскай, назавём, услед за Дз. Марціновічам, «уменне пабудаваць сюжэт — яго нечаканыя павароты і забяспечваюць дынамізм у развіцці падзей». Пагодзімся з крытыкам, што пісьменніца падала беларускай літаратуры «ўзор новага тыпу герояў». Л. Рублеўская, як мы ўжо заўважылі, валодае тонкім уменнем спалучаць сур'ёзнае з гумарыстычным, рэалістычнае з інтрыгуюча прыгодніцкім. І нельга не прызнаць, што перыпетыі, у якія трапляюць яе героі, не менш захапляльныя, чым прыгоды французскіх мушкецёраў ці рускіх гардэмарынаў. Вызначаныя адметнасці твора паказваюць высокі ўзровень распрацоўкі раманнай ідэі. У асноўным гэтыя паказчыкі маглі б характарызаваць і почырк стваральнай рукі пісьменніка-мужчыны. Дзясятак гадоў назад выказванне Дз. Марціновіча «Л. Рублеўская — гэта наш беларускі Дзюма» самому крытыку здалося некалькі эпатажным. Выхад у свет у мінулым годзе рамана «Авантуры Пранціша Вырвіча…» працуе на пацвярджэнне гэтай высокай ацэнкі.

Аднак паўторымся: **усё-такі слова *зорка* — жаночага роду.** Пісьменніцкая апрацоўка гістарычнай канкрэтыкі ў Л. Рублеўскай выразна сведчыць пра менавіта жаночыя падыходы да матэрыялу. Адчуваецца, што пісьменніца знарок акцэнтуе сваю ўвагу на вобразе жанчыны. Так, у рамане «Авантуры Пранціша Вырвіча…» Л. Рублеўская, побач з беларускімі рэальнымі гістарычнымі асобамі, падае як галоўны вобраз разумнай, адважнай прыгажуні — палачанкі Саламеі Рэніч. Саламея не саступае ў спрыце і кемлівасці мужчынам. Акрамя таго, высакародная не па паходжанні, а па ўчынках, Саламея ў маральным плане пераўзыходзіць шматлікіх мужчын — прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя. Іранічная заўвага пісьменніцы пра тое, што «вучоная жанчына — абраза для прыстойнага грамадства», павінна ўспрымацца ад праціўнага: Саламея ўзвышаецца над сваім акружэннем!

Людміла Рублеўская выяўляе жаночы падыход да прыёмаў стварэння партрэтнай характарыстыкі герояў, як мужчын, так і жанчын. Аблічча, твар дзейнай асобы пісьменніца выпісвае, па сутнасці, толькі некалькімі штрыхамі. Выразнае дапаўненне да партрэтаў — апісанне адзення герояў, іх касцюмаў. Пры гэтым чытач адчувае спецыфіку жаночай назіральнасці, увагу да фасону, да колеру, дробных дэталяў.

Зрэшты, усе кампаненты ідыястылю Л. Рублеўскай паказваюць на яго спецыфічна жаночае напаўненне. Гэта і экзістэнцыйны выбар матэрыялу, і скрупулёзнасць яго кампазіцыйнай апрацоўкі. Гэта і погляд на рэчаіснасць: паказ разнастайнасці жыцця беларусаў пісьменніца падпарадкоўвае ідэі паразумення на ўсіх узроўнях — сацыяльным, грамадскім, нацыянальным. Менавіта імкненне да паразумення, як даказваюць вучоныя, — адна з кондавых рыс жаночай псіхікі.

Жаночы почырк аўтара — гэта і тэмперамент інтэлектуальнага рамантычна-лірычнага асвятлення, і эстэтычныя густы пісьменніцы. Гэта і асаблівасці выяўлення народнай традыцыі, зварот да адпаведных міфаў і легенд. Гэта і мастацтва моўнай палітры.

Агульны стыль твораў Л. Рублеўскай пазначаны размеранасцю, рытмічнасцю ў арганізацыі падзейнай і моўнай прасторы, у архітэктоніцы разгледжанага рамана «Авантуры Пранціша Вырвіча…». Фразы, нават з устаўнымі кампанентамі — народнымі прымаўкамі, старажытнымі афарызмамі, цытатамі вялікіх вучоных і г. д., — выпісаны па-жаноцку вельмі акуратна. З аднаго боку, пісьменніца, як сама прызнаецца, пісала так, «каб фразы звіваліся велігурыста і весела». У той жа час адчуваецца, што Л. Рублеўская падпарадкоўваецца такога роду дысцыплінаванасці, матэматычнай дакладнасці, якія існуюць пры перадачы ўзораў ва ўжытковым мастацтве вышыванкі. Паказальна таксама, што майстэрства сюжэтавядзення ў рамане характарызуецца не толькі адзіным лінейным вымярэннем. Развіццё аўтарскага аповеду нагадвае тыя прыёмы прасоўвання наперад, тую спецыфічную дынаміку формаўтварэння, якія абумоўліваюць прапарцыйнае расшырэнне ўзораў пры карункапляценні. Пры гэтым скразная арыентацыя на дасканаласць «слоўнага будынка» не ўспрымаецца як выява стандартызацыі. Л. Рублеўская прытрымліваецца ўласнага «правіла раўнавагі» пры апрацоўцы кожнага асобнага складніка цэлага малюнка. І гэта прыдае яе творам завершаную гарманічнасць, што дазваляе гаварыць пра асаблівы, жаночы артыстызм стылю пісьма пісьменніцы.

Падагульняючы гаворку пра феміністычны дыскурс у літаратуры, прызнаем, што сапраўдны талент мыслення, мастакоўскага рэагавання на свет — заўсёды непаўторны, і не толькі ў выпадку з пісьменнікамі-мужчынамі. Жаночая творчасць, як і мужчынская творчасць, калі яны, як кажуць, ад Бога, залежаць ад шматлікіх суб’ектыўных і аб’ектыўных фактараў. Творчасць — гэта вынік генератыўнага патэнцыялу таемных — мужчынскіх ці жаночых — сіл прыроды, працы душы творцы, яго інтэлекту, плюралізму нацыянальнага, індывідуальна-псіхічнага і сацыяльна-грамадскага вопыту.

Ігар АЎЛАСЕНКА

# МАНАЛОГ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА ПРА ГІСТАРЫЧНЫ ЛЁС БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



*Аркадзь Куляшоў.*

Драматычнае і супярэчлівае XX стагоддзе, на якое прыйшоўся жыццёвы шлях Аркадзя Куляшова, наклала істотны адбітак як на яго лёс, так і на творчую спадчыну. Аркадзь Аляксандравіч на ўласныя вочы быў сведкам і вялікіх дасягненняў гэтага веку, і вялікіх трагедый: ён засведчыў і першы палёт чалавека ў космас, і асваенне атамнай энергіі, і пранёс адчуванне пагрозы новага сусветнага канфлікту. У радках яго твораў гучаць і гонар за чалавечую годнасць, і мары аб будучых здзяйсненнях чалавецтва, і трывога за лёс наступных пакаленняў.

Станаўленне творчай асобы Аркадзя Куляшова праходзіла ўпоруч з асобнымі этапамі ў гісторыі Беларусі. Яго юнацтва, калі адбывалася фарміраванне маладога паэта, прыйшлося на хуткаплынны час беларусізацыі, а зварот да сацыяльных праблем супаў са складаным і трагічным перыядам 1930-х гг. Рэпрэсіі і Вялікая Айчынная вайна, забраўшы жыцці і пакалечыўшы лёсы многіх яго сяброў і паплечнікаў, у далейшым падштурхнулі паэта да асэнсавання цяжкага лёсу ўсёй нацыі.

Стаўшы сведкам многіх трагічных падзей, малады паэт паступова рабіў свае ўласныя высновы, адрозныя ад думак у рэчышчы афіцыйнай ідэалогіі. Аднак драматызм асобы Аркадзя Куляшова вызначаецца яшчэ і тым, што яго жыццё прыпала на складаны і супярэчлівы для творчага чалавека час. Чытаючы вершы паэта, задумваешся, наколькі глыбока ён адчуваў навакольную рэчаіснасць, як тонка прыкмячаў веянні новага часу, нават прадказваў будучыя падзеі. І разам з тым разумееш, што многія думкі аўтара так і засталіся нявыказанымі. Ва ўмовах адзінагалоснай падтрымкі курсу партыі, калі асабістыя смелыя думкі маглі лёгка стаць прычынай траўлі і наступнага заняпаду паспяховай творчай кар’еры, паэт часта не мог адкрыта выказаць тое, што хавалася глыбока ў яго душы. Жыццё ў такіх рэаліях прывучыла да асцярожнасці. «У суровы век жыву сурова», — адзначыў ён у адным са сваіх вершаў. Тым не менш у больш сталым узросце, калі пад невыносным ціскам памяці глыбокія душэўныя перажыванні часам прарываліся вонкі, ён ствараў такія незвычайныя творы, як цыкл вершаў «Маналог», паэмы «Варшаўскі шлях» і «Хамуціус», што з пэўнымі цяжкасцямі знаходзілі свой шлях да публікацыі, нават нягледзячы на вялікі аўтарытэт самога аўтара.

Напружаны роздум Аркадзя Куляшова ахопліваў і пройдзены гістарычны шлях Беларусі. І з цягам часу ён увасобіўся ў адзіны суцэльны маналог. Сапраўды маналог, бо думкі, якія выспявалі ў глыбіні душы аўтара, у тыя часы нячаста знаходзілі адкрыты водгук, а некаторымі было ўвогуле цяжка падзяліцца. Складваецца ўражанне, што яны, на жаль, толькі часткова былі адлюстраваныя ў творчасці. І таму ўсю масу думак, ідэй, пачуццяў, перажыванняў аўтара можна параўнаць з айсбергам, большая частка якога схаваная ад чужога вока і адкрываецца то больш, то менш па меры руху хваляў.

Толькі ў агульным плане можна акрэсліць гэты ўнутраны маналог Аркадзя Куляшова. На жаль, паэт не пакінуў сістэматычных дзённікавых запісаў, а яго глыбінныя думкі толькі зрэдку прасочваліся ў размовах з асабліва блізкімі людзьмі. У гэтым плане каштоўнай крыніцай з'яўляюцца ўспаміны дачкі паэта Валянціны Аркадзьеўны Куляшовай. Многія думкі аўтара трэба чытаць паміж радкоў, а таксама неабходна ўлічваць гістарычны кантэкст, у якім былі напісаныя яго вершы і паэмы. Уласны лёс паэта, праз які адбілася і трагічнасць усяго ХХ стагоддзя, з'яўляецца важным фактарам, які неабходна ўлічваць пры аналізе яго творчай спадчыны. Таму мэтазгодна разгледзець творчасць Аркадзя Куляшова скрозь прызму яго роздуму над гістарычным лёсам Беларусі.

На лёс, светапогляд і творчасць Аркадзя Куляшова самы істотны ўплыў аказала Вялікая Айчынная вайна. Яна стала для паэта не проста трагічным і цяжкім асабістым досведам, але яна непасрэдна ўвяла яго ў ход гісторыі, дазволіла стаць саўдзельнікам маштабных падзей, якія паўплывалі на лёсы мільёнаў людзей. Яна дазволіла адчуць, як гэтыя драматычныя падзеі адбіваюцца на жыцці простага чалавека, якія псіхалагічныя выпрабаванні яму даводзіцца перажыць і якія якасці неабходна ў сабе выхаваць, каб у цяжкую часіну застацца Чалавекам, выканаць да канца свой абавязак і перад роднымі і блізкімі, і перад Радзімай.

Аднак сама праблема вайны як сацыяльнай з'явы непакоіла паэта яшчэ да пачатку Вялікай Айчыннай. Нават той факт, што паэт нарадзіўся ў 1914 годзе, перад самым пачаткам Першай сусветнай, вобразна адлюстраваны ў вершы «Маё пасведчанне»:

Дадзена яно сабе самому
Ў тым, што нарадзіўся ў год вайны.

Дзяцінства і юнацтва Аркадзя Куляшова прайшло ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, калі ў памяці людзей яшчэ цвёрда трымаліся жахі і пакуты ліхой пары. Гэта падагравала цікавасць маладога паэта да асэнсавання самога феномена вайны. Яшчэ ў 1930-я гг. ён зрабіў першыя спробы даследавання сацыяльнага і псіхалагічнага бакоў гэтай з'явы. Так, у паэме «Крыўда» (1930—1931 гг.) была паднятая вельмі значная сацыяльная тэма — тэма пакалечаных салдат Першай сусветнай вайны. Цікавым вопытам стала і паэма «Хлопцы апошняй вайны» (1940 г.), якая адлюстроўвала прадчуванне будучай трагедыі, што напаткае беларускую зямлю. Аднак гэтыя творы, у якіх паэт зрабіў спробы перадаць пачуцці ўдзельнікаў ваенных падзей, яшчэ не былі пазначаныя пячаткай уласнага горкага вопыту. У гэтым плане Вялікая Айчынная вайна стала паваротным момантам у яго жыцці і творчасці.

Страшэнная сусветная вайна на вачах паэта пакідала цяжкі адбітак на лёсе цэлых краін і народаў, бязлітасна змяняла ход гісторыі. Такі цяжкі досвед назаўжды пакінуў у яго душы адчуванне трывогі за лёс чалавецтва. І ў далейшым Аркадзь Куляшоў стварыў шэраг вершаў, скіраваных на папярэджанне пагрозы новага сусветнага канфлікту. Гэта «Слова да Аб'яднаных Нацый» (1946 г.), верш «Пра Марс» (1961 г.) і некаторыя іншыя. 2-я палова ХХ стагоддзя, калі з'явіліся яго найбольш значныя творы, — гэта час нараджэння новага свету, у якім чалавецтва пачало асэнсоўваць сваю ўзаемазвязанасць. Стала зразумела, што чарговая вялікая вайна дакладна скончыцца буйной катастрофай, якая знішчыць сусветную цывілізацыю ці адкіне яе развіццё на сотні гадоў таму. Голас Аркадзя Куляшова

загучаў у адным шэрагу з тымі аўтарамі, якія артыкулявалі новае, глабальнае, асэнсаванне праблем, што з цягам часу стане дамінуючым. Вяршыня гэтага цыкла — паэма-прытча «Цунамі» (1968 г.), у якой аўтар сцвярджае думку аб узаемазалежнасці ўсяго чалавецтва:

Няма шляхоў да самазахавання,
Няма шляхоў да светазабыцця
У час ліхі ўзаемапалявання
Сіл супрацьлеглых:
смерці і жыцця.

Аднак Вялікая Айчынная вайна бачылася паэту не толькі з сусветнага ракурсу, але і абвастрала пачуццё судакранальнасці да лёсу Радзімы. Ваенная драма стала кропкай біфуркацыі, у якой вырашалася пытанне: быць ці не быць Беларусі. Невыпадкова яшчэ ў самым пачатку ваенных дзеянняў Аркадзь Куляшоў задумаў напісаць вялікі твор «пра Беларусь і вайну», вынікам чаго стала паэма «Сцяг брыгады». У вершах аўтара ўсё часцей з'яўляюцца матывы звароту да Беларусі. Напрыклад, вось якія словы паэт адрасуе Радзіме ў вершы «Над брацкай магілай»:

Беларусь мая родная,
Як жа я рвуся яшчэ раз
Пеша ўсю цябе змераць,
Увесь і чабор твой, і верас!..
Сэрца просіць шляхоў,
Што цяжкім маім ботам пад сілу;
Наглытацца хачу тумаоў,
Твайго ветру і пылу;
Наглытацца хачу за сябе і за тых,
Што не ўстануць з нябыту;
Вочы просяць нябёсаў тваіх,
Ім твайго не хапае блакіту.

Абвостранае пачуццё трывогі за родную зямлю заклікала аўтара звяртацца і да народных матываў. Паэма «Сцяг брыгады» напоўнена шматлікімі элементамі, характэрнымі для жывой беларускай гаворкі ці для фальклорных твораў: рознага кшталту выслоўямі, прыгаворкамі, зваротамі да птушак, ручая, дрэў быццам да жывых, разумных істот. Як пазначаў даследчык творчасці Аркадзя Куляшова Варлен Бечык, усе гэтыя элементы «нібы выконваюць у паэме не толькі эстэтычныя, але і патрыятычныя функцыі». Характэрным уяўляецца і з'яўленне ў паэме хлопчыка па імені Васілёк. Такі ж хлопчык — галоўны герой і ў паэме «Прыгоды цымбал». У гэтым вобразе паэт увасобіў вобраз маладой Беларусі, яе будучага пакалення.

Як і ўсе франтавікі, Аркадзь Куляшоў быў сведкам штодзённых страт, гібелі дзясяткаў і соцень чалавек, у тым ліку сваіх сяброў і паплечнікаў. Загінуў кожны трэці (тады лічылася — чацвёрты) жыхар нашай краіны — цэлае пакаленне, якое магло ўнесці істотны ўклад у развіццё рэспублікі. Шырокая панарама народнага гора адлюстравана ў паэме «Сцяг брыгады». Падчас блукання па акупаванай тэрыторыі галоўны герой Алесь Рыбка бачыць жудасныя карціны пасля нямецкіх бамбёжак і аблаў: «Апусцелі двары, вокны насцеж, закрэслены шыбы…», «Дзе знаёмыя хаты? Адны сярод поля тырчаць каміны…» Ён знаёміцца з лёсамі розных людзей, закранутых трагедыяй вайны: сустракаецца з сям'ёй лесніка, у якога ўсе сыны пайшлі на фронт, даведваецца пра трагедыю сям'і аратага, які загінуў з-за таго, што імкнуўся накарміць сваю сям'ю. Такім чынам, скрозь прызму вайны Аркадзь Куляшоў адлюстраваў і пакутлівы лёс беларускага народа.

Вайна нанесла нашай краіне непапраўны ўрон на культурнай ніве, забраўшы жыцці многіх паэтаў і пісьменнікаў, талент якіх так і не паспеў праявіцца ў поўнай меры. У гэтым шэрагу можна ўзгадаць імёны Змітрака Астапенкі, Алеся Жаўрука, Міколы Сямашкі, Міколы Сурначова і іншых. Іх вершы пазней перавыдаваліся, увайшлі ў зборы твораў «Крывёю сэрца» (1967 г.), «Радзіме — радок і жыццё»

(1986 г.), «Скрыжалі памяці» (2005 г.). Вобразнай ілюстрацыяй трагедыі таго маладога пакалення служаць радкі паэта-франтавіка Міколы Сурначова, які прайшоў усю вайну і загінуў падчас Берлінскай аперацыі за дваццаць дзён да перамогі:

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.
Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.
Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце, —
Ёй не кажыце...

На такой глебе не мог не ўзнікнуць роздум паэта пра гібель творчых сіл нацыі. Многія з ахвяр вайны былі равеснікамі Аркадзя Куляшова, некаторых з іх ён ведаў асабіста. Яму, напэўна, не раз у галаву прыходзілі думкі пра страчанае пакаленне таленавітых беларускіх паэтаў, якія, быццам каласы стаптанага жыта, ужо ніколі не нальюцца і не дадуць плённы ўраджай…

Але паэт убачыў і іншы бок вайны. У тым хаосе, які паставіў насельніцтва Беларусі на мяжу знішчэння, зараджаўся і новы патэнцыял для развіцця, узнікалі і ўзмацняліся новыя сілы для змагання з ворагам. Вайна садзейнічала крышталізацыі энергіі беларускага народа ў звышнапружаных абставінах. Аркадзь Куляшоў улавіў і трапна адлюстраваў гэтае веянне ў сваіх вершах і паэмах. Як вынік, творы паэта маюць велізарную духапад'ёмную сілу, яны пастаянна агучваюць імператыў да змагання, да перамогі, да помсты ворагам. Народным гневам напоўнены вершы «Млынар» (1941 г.), «Ліст з палону» (1942 г.), «Алёнка» (1945 г.). Няўтольнай прагай да жыцця прасякнута пазнейшая паэма «Перамога» пра лёс салдата Мірона Гукая, які знайшоў у сабе сілы не паддацца смерці і вызваліцца з-пад завалаў. Вера ў будучую перамогу была выказана і ў радках паэмы «Сцяг брыгады» яшчэ восенню 1942 года:

Я прайшоў з табой многа дарог,
Мой гадзіннік, мой браце,
І я ўбачу часы перамог
На тваім цыферблаце!

І гэтая вера, гэтая прага да перамогі выклікала ўпэўненасць у будучым аднаўленні народных сіл пасля пройдзенага пакутлівага шляху.

Тым не менш, страшэнны ўдар, які вайна нанесла па нашай зямлі, па лепшых творчых сілах, выклікаў у Аркадзя Куляшова сур'ёзную заклапочанасць наконт перспектыў пасляваеннага развіцця Беларусі. Фарміраванню пазіцыі паэта першапачаткова спрыяла і пэўнае разняволенне грамадскай думкі, якое адбылося ў драматычных умовах вайны. Валянціна Куляшова ўспамінала, як у гэтых абставінах у 1944 годзе яе бацька напісаў артыкул, у якім выкладаў свае погляды на нацыянальнае пытанне. Аднак гэтая ініцыятыва паэта была холадна сустрэтая рэплікай першага сакратара ЦК КПБ П. К. Панамарэнкі: «Вы, спадзяюся, ведаеце, што ў нацыянальным пытанні ў нас больш за ўсіх разбіраецца Іосіф Вісарыёнавіч?» Такая рэакцыя недвухсэнсоўна пазначыла адмысловыя межы, якімі акрэслівалася свабода выказвання і якія зусім не зніклі за гады вайны. Гэта сведчыла пра тое, што паэту давядзецца чакаць лепшых часін для таго, каб данесці сваю думку.

Відаць, таму асабісты роздум пра таварышаў, якія не вярнуліся дадому, пра гібель маладога пакалення літаратараў, пра страчаныя магчымасці развіцця краіны, пра той высокі кошт, якім далася перамога, спачатку амаль не ўвасобіўся ў творчасці Аркадзя Куляшова. Паэт не стаў падымаць гэтую тэму ў час пасլява-

еннага аднаўлення краіны, калі ад усяго насельніцтва патрабавалася чарговая мабілізацыя сіл, а ад культурнай эліты — натхненне і падтрымка гэтага курсу. Спрыяльны час прыйдзе толькі праз паўтара-два дзесяцігоддзі. Але, нягледзячы на далейшы кансерватыўны паварот у дзяржаўнай палітыцы і наступныя абмежаванні для выражэння думак, відавочна, што разгледжаны вышэй шматпланавы досвед вайны — і як вялікай трагедыі народа, і як трагедыі творчых сіл нацыі, і як моманту найвышэйшага ўзмацнення народнага духу — стаў вырашальным у творчасці Аркадзя Куляшова і з'явіўся крыніцай многіх пазнейшых твораў.

Новы этап у творчасці Аркадзя Куляшова супаў з істотнымі зрухамі ў грамадска-палітычным жыцці СССР у 2-й палове 1950-х гг. Пасля смерці І. Сталіна (1953 год) і даклада М. Хрушчова на XX з'ездзе КПСС (люты 1956 года) з'явіліся больш шырокія магчымасці для ўвасаблення задумак паэта. Асноўным вынікам яго творчых намаганняў у 1-й палове 1960-х гг. стаў зборнік «Новая кніга». На яго старонках аўтар разважае аб жыцці, творчасці, агульначалавечых каштоўнасцях, пераемнасці пакаленняў. Крыніцай для вершаў быў роздум паэта над драматычнымі старонкамі бягучага стагоддзя, прапушчаны скрозь прызму ўласнага пяцідзесяцігадовага жыццёвага вопыту. У «Новай кнізе» паэт у цэлым з аптымізмам глядзіць у будучыню: нягледзячы на шматлікія выклікі грознага веку, у яго творах выразна прасочваецца жыццесцвярджальны пачатак.

Аднак чым далей у мінулае адыходзіла вайна, чым шырэй паэту выяўлялася рэтраспектыва пройдзенага жыццёвага шляху, тым больш наспяваў роздум над трагічным лёсам сваіх загінуўшых сяброў (і творчых сіл нацыі ў цэлым) у кантэксце гісторыі апошніх дзесяцігоддзяў. Драматычныя падзеі забралі жыцці многіх. Чыйсьці жыццёвы шлях абарвала вайна, хтосьці стаў ахвярай рэпрэсій у 1930-я гг., а нехта раптоўна памёр ад нечаканай хваробы. І ў некалькіх творах элегічнага характару, прысвечаных памяці такіх людзей, гучыць матыў звароту да сяброў, якія адышлі, роздум над сэнсам і каштоўнасцю чалавечага жыцця ў бясконцай плыні гісторыі. Так, разважаючы над новымі пагрозамі XX стагоддзя (перш за ўсё, небяспекай ядзернай вайны), паэт непасрэдна звяртаецца да сваіх паплечнікаў, якія не вярнуліся з палёў Вялікай Айчыннай вайны: «Сябры, каго вайна скасіла кулямі…» У гэтым шэрагу можна ўзгадаць і верш-рэквіем «Салдатаў веку, што па грозных цэлях…» (1963 г.), які тычыцца тых, хто не вытрымаў напружанага рытму жыцця, змагання з хваробамі. Але найбольш яскравым творам стаў цыкл вершаў «Маналог», напісаны ў 1964—1965 гг. Ён быў прысвечаны памяці Змітрака Астапенкі і Юлія Таўбіна — двух сяброў юнацтва паэта, якія сталі ахвярамі рэпрэсій 1930-х гг.

Змітрок Астапенка і Юлій Таўбін разам з Аркадзем Куляшовым напрыканцы 1920-х гг. складалі касцяк мсціслаўскай філіі літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Разам яны працягнулі сумесную творчую дзейнасць і пасля таго, як пераехалі ў Мінск у 1930 годзе. Аднак іх лёс склаўся зусім па-рознаму: калі Аркадзь Куляшоў быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР ужо ў 1934 годзе, на момант заснавання самой арганізацыі, то яго два сябры сталі падвяргацца занадта жорсткай і часта неабгрунтаванай крытыцы, а ў наступным абодва былі арыштаваныя і патрапілі ў ГУЛАГ. Юлій Таўбін памёр у зняволенні. Змітраку Астапенку давялося выйсці на свабоду, ён патрапіў на фронт, а потым прапаў без вестак восенню 1944 года. Паводле адной версіі, ён загінуў, паводле іншай, неафіцыйнай (якой у глыбіні душы прытрымліваўся і сам Аркадзь Аляксандравіч), яму ўсё ж удалося выжыць. Вось так па-рознаму прайшлі жыццёвыя шляхі трох маладых паэтаў, праз якія, як скрозь прызму, прасочваецца ўвесь драматычны ход XX стагоддзя: загінуць у ГУЛАГу, прапасці без вестак падчас Вялікай Айчыннай вайны, стаць народным паэтам Беларусі. Пазней Аркадзь Куляшоў гэта вобразна ўвасобіў у наступных радках:

Адзіным дрэвам дружбы мы раслі.
З трох два сукі сякера смерці ссекла.

Аднак рэпрэсіі 1930-х гг. ускосна закранулі і лёс самога Аркадзя Куляшова. У 1937 годзе ахвярай стаў яго сваяк, адметны беларускі пісьменнік Платон Галавач. Іх жонкі былі роднымі сёстрамі. Гэтыя роднасныя сувязі ледзьве не адыгралі трагічную ролю ў лёсе самога Аркадзя Аляксандравіча. Яго неаднаразова выклікалі і патрабавалі развесціся з жонкай, аднак ён адмовіўся. Праз колькі год стала вядома, што яго імя таксама патрапіла ў спіс тых, каго належала арыштаваць. Дачка паэта Валянціна Аркадзьеўна ўспамінала, як летам 1938 года «ў вёсцы каля хаты бацькоў, дзе мы адпачывалі, дзень пры дні пачалі з'яўляцца нейкія людзі». Аднак у апошні момант, загад аб арышце быў адменены. У рэшце рэшт, Аркадзь Куляшоў стаў адным з нямногіх літаратараў пакалення 1900—1910-х гг., якога абмінула і кола рэпрэсій, і смерць на палях Вялікай Айчыннай вайны, які змог раскрыць свой талент на поўную сілу ў пасляваенны перыяд — талент і майстэрства, якім валодалі многія з тых, хто не пражыў жахлівыя 1930-я — 1940-я гг…

Зразумела, роздум над трагічным лёсам сваіх сяброў не мог абысці Аркадзя Куляшова. Добра ведаючы Платона Галавача, сваіх сяброў юнацтва — Змітрака Астапенку і Юлія Таўбіна, — ён не мог паверыць у тое, што такія людзі могуць быць «ворагамі народа». Таму пазней, падчас «адлігі», пры першай магчымасці ён накіраваўся адшукваць звесткі пра сваіх загінуўшых таварышаў. Паводле ўспамінаў Валянціны Куляшовай, яе бацька наведаў сакрэтныя архівы, дзе знаходзілася справа Платона Раманавіча. Але выявіць канчатковы ход падзей так і не ўдалося: паводле яго слоў, лісты з асноўнымі матэрыяламі следства былі вырваныя і знішчаныя.

Уласны досвед знаходжання пад дамоклавым мячом раптоўнага арышту ў 1938 годзе заклаў глыбока ў душы Аркадзя Куляшова і асабісты погляд на падзеі 1930-х гг. Таму не варта казаць, што развенчанне культу асобы Сталіна паэту на многае адкрыла вочы. Проста ва ўмовах жорсткага палітычнага рэжыму ён быў вымушаны трымаць у сабе многія думкі. Толькі зрэдку асобныя ўчынкі Аркадзя Аляксандравіча сведчылі пра нейкія патаемныя рухі яго душы. Так, паводле слоў Валянціны Куляшовай, бацька забараніў ёй плакаць, калі памёр Сталін. І толькі пасля таго, як пачаліся працэсы разняволення грамадскай думкі ў перыяд «адлігі», як на пачатку 1960-х гг. у творах Аляксандра Салжаніцына ўпершыню ў савецкай літаратуры была ўзнятая тэма рэпрэсій, у паэта таксама ўзнікла магчымасць выплеснуць на паперу тыя пачуцці, якія даўно хаваліся ў яго душы і не давалі яму спакою.

Аднак гістарычныя рэаліі наклалі абмежаванні на творчую свабоду аўтара. Цыкл вершаў «Маналог» быў напісаны ў сярэдзіне 1960-х гг., калі перыяд «адлігі» фактычна ўжо скончыўся. Працэсы рэабілітацыі амаль былі згорнутыя, і ў грамадска-палітычным жыцці СССР набірала моц новая, кансерватыўная, хваля. Пра многае ўжо зноў казаць было не прынята. Гэта непасрэдна паўплывала на змест твора. Аўтар адмовіўся ад канкрэтызацыі, ад падрабязнага пазначэння прычын трагічнага лёсу сяброў, а замест гэтага ўвасобіў разважанні пра іх творчую спадчыну, пра жорсткасць няўмольнага часу і сілу чалавечай памяці. Адзначаныя абставіны прымусілі Аркадзя Куляшова перавесці ўсю энергетыку твора ў эмацыянальную сферу, у выніку чаго ў цыкле вершаў многія думкі былі ўвасобленыя ў формы незвычайнай пачуццёвай сілы:

Калі і дзе, я ўдакладняць не стану,
Таго, што больш не выклікае прэк,
Бесчалавечнасць выпаліла рану
На часе тым, што адышоў навек.

А забыццё, каб сэрці з нешматслоўнай
Зямлі бесчалавечную віну,
Схавала месца смерці безназоўнай
Пад дыванам, сатканым з дзірвану.

Выкарыстоўваючы на самым пачатку твора вельмі шырокія па сэнсе абстрактныя паняцці «бесчалавечнасць», «забыццё», «віна», аўтар будуе сюжэт адмысловым чынам: ён у самых агульных рысах абмалёўвае суцэльную карціну мінулай эпохі, з імглы якой, па меры далейшай канкрэтызацыі сюжэта, пачынаюць праяўляцца вобразы яго загубленых сяброў. Гэтыя змрочныя абстрактныя эпітэты і характарызуюць эпоху, калі адбыліся трагічныя падзеі, і падкрэсліваюць няўмольны характар часу. Аднак чалавечая памяць, як падкрэслівае аўтар, аказваецца мацнейшай за любыя фізічныя заканамернасці і здольная выправіць несправядлівасць мінулых часоў.

Адцяняючы паняцці «забыццё», «безназоўнасць», Аркадзь Куляшоў імкнецца выявіць і нейкую бессмяротную часцінку сваіх сяброў, якая непадуладная часу і назаўжды застанецца ў памяці нашчадкаў. Такой часцінкай застаюцца для паэта іх кніжкі вершаў, «два томікі — два помнікі». «Інакшых служб не трэба для паэтаў», — сцвярджае Аркадзь Куляшоў. І разважаючы над трагічнасцю лёсу сваіх сяброў і іх бездапаможнасцю ў бязлітасных жорнах рэпрэсій і вайны, адзначае неперамożнасць надрукаванага слова. Іх творы, упэўнены аўтар, перажылі свой час, аказаўшыся даўгавечнейшымі і за здраду, і за зайздрасць, і за інтрыгі:

Смяротнага спаборніцтва з пяром
Не вытрымаў ні штык, ні сталь рыдлёўкі,
І не змагла імгла нямой дамоўкі
Верш задушыць халодным забыццём.

Аднак, нягледзячы на гэтую жыццясцвярджальную выснову, увесь настрой «Маналогу» якраз сведчыць пра іншае: яго сябры застаюцца малавядомымі для чытачоў наступнага пакалення і ўсё роўна працягваюць знаходзіцца ў палоне забыцця. Канешне, 1956 год адкрыў вочы на многае, аднак галоўная справа — апраўданне імёнаў незаслужана загінуўшых людзей — была спыненая, так і не будучы даведзенай да канца. На момант напісання «Маналогу» надзеі на працяг рэабілітацыі амаль ужо не заставалася. Не быў рэабілітаваны і сваяк Аркадзя Куляшова — Платон Галавач. Імёны многіх дзеячаў культуры так і не былі вернутыя шырокаму колу чытачоў, іх творчая спадчына фактычна не вывучалася. Таму ў «Маналогу» Аркадзя Куляшова гучыць не толькі сум па загубленых таварышах, аднак і горыч ад таго, што загубленыя таленты 1930-х гг. — знішчаная эліта таго часу — так і не занялі свой пачэсны пасад у пантэоне беларускай гісторыі на той час. І гэта — імпліцытны заклік, надзея на працяг пачатай справы рэабілітацыі — справы, якая будзе даведзеная да канца толькі праз дзесяць год пасля смерці самога Аркадзя Куляшова.

Асаблівая трагічнасць «Маналогу» абумоўлена тым, што ён прысвечаны памяці не проста «страчанага» пакалення, а пакалення забытага, прычым незаслужана забытага. Гэтая думка наскрозь прасякае ўвесь цыкл вершаў. У адрозненне ад удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, ахвярам рэпрэсій у СССР не было прынята аддаваць даніну памяці. Праўда, Змітрок Астапенка патрапіў у лік паэтаў-франтавікоў, творы якіх былі апублікаваныя ў зборніках. А вось Юлія Таўбіна спасцігла амаль што поўнае забыццё. Таму «Маналог» — гэта споведзь аўтара перад сваімі сябрамі, якія адышлі. І адначасова клятва заўжды захоўваць пра іх памяць. Гэты матыў неаднаразова сустракаецца на працягу ўсяго твора ў розных формах.

У «Маналогу» два лёсы разглядаюцца ў кантэксце гістарычнай эпохі. І адначасова праз іх апісанне праступае трагедыя цэлай плеяды творчых постацей, якія выраслі на хвалі беларусізацыі, аднак так і не змаглі выкарыстаць свой патэнцыял на поўную сілу. Трагедыя тых творчых сіл, якія маглі скласці аснову культурнай, творчай эліты беларускай нацыі, але так і засталіся бутонамі, што не паспелі раскрыцца ў паўнавартасныя кветкі нацыянальнай культуры. У «Маналогу» Аркадзь Куляшоў называе іх «маршаламі», «якія камандавалі б арміямі слоў», і адзначае:

Нялёгка мне працягам быць тых самых
Няходжаных шляхоў, быць вартым тых
Спраў абарваных, кніг недапісаных,
Якім не ўзняцца з фінішаў сваіх.

Маналог Аркадзя Куляшова пра прызначэнне творчага чалавека і сваю ўласную жыццёвую дарогу ў далейшым працягнуўся ў паэме «Варшаўскі шлях» (1972 г.), штуршком для напісання якой стала смерць самага блізкага сябра Аркадзя Куляшова — Аляксандра Твардоўскага. Але, нягледзячы на пакутлівыя думкі аб супярэчлівасці чалавечага лёсу, паэт выказвае ўпэўненасць у пераемнасці ідэалаў і каштоўнасцей, а таксама ў захаванні адзначанай вышэй бессмяротнай часцінкі творцы ў памяці нашчадкаў. Гэтая думка найлепш выказана ў апошніх радках верша «Салдатаў веку, што па грозных цэлях…», які быў напісаны некалькі раней, у 1962 годзе, але ў пазнейшых выданнях збораў твораў Аркадзя Куляшова тэматычна дапасоўваўся да «Маналогу»:

Але, сярод ахвяраў незлічоных
Не спісаныя памяццю жывых,
Яны вядуць агонь па цэлях чорных
З магіл сваіх! З траншэй перадавых!

Роздум пра страчанае пакаленне беларускіх літаратараў, роздум пра цяжкі лёс народа, гістарычны шлях якога прайшоў праз гарніла рэпрэсій і вайны, штурхаў паэта да вывучэння і асэнсавання складанага працэсу станаўлення самой беларускай нацыі, станаўлення ідэі беларускай дзяржаўнасці. І паўстанне 1863 года, падчас якога ўпершыню быў адкрыта агучаны зварот да беларусаў, бачылася якраз той кропкай біфуркацыі, той кропкай адліку, у якой трэба было шукаць вытокі цяжкага і пакутлівага шляху да самавызначэння.

Зварот да гістарычнага мінулага (стогадовай даўніны) — новая рыса ў творчасці А. Куляшова, які, як правіла, пісаў на тэмы надзённыя. Позірк на гістарычнае мінулае, як звычайна, робіцца заўсёды з канкрэтнай мэтай — скрозь прызму мінулага праявіць нейкія набалелыя рысы сучаснасці, магчыма, нават такія, пра якія ў адкрытую аўтар гаварыць бы не адважыўся.

Аркадзь Куляшоў, канешне, невыпадкова звярнуўся да тэмы паўстання 1863 года. Да гэтага падштурхоўвала сама тагачасная рэчаіснасць. Валянціна Куляшова адзначала, што яе бацька ўпершыню зацікавіўся паўстаннем яшчэ ў 1956 годзе. XX з’езд КПСС паспрыяў пераацэнцы самага нядаўняга мінулага, але для глыбейшага асэнсавання нацыянальнай гісторыі неабходна было звярнуцца да больш даўніх падзей. Беларуская дзяржаўнасць за паўстагоддзя прайшла цяжкі, пакутлівы, але фармальна паспяховы шлях развіцця: утварэнне рэспублікі, далучэнне Заходняй Беларусі (1939 год), і, нарэшце, імклівы выхад БССР на міжнародную арэну. У 1944 годзе было створана Міністэрства замежных спраў, яшчэ праз год рэспубліка стала адной з краін-заснавальніц Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. І гэта таксама надавала стымул для асэнсавання гістарычнага лёсу беларускага народа.

Але ў той жа час назіраліся многія негатыўныя з’явы і тэндэнцыі. Так, нягледзячы на дэкларатыўную роўнасць усіх культур Савецкай дзяржавы, рэальныя сацыяльныя працэсы прыводзілі да паступовай русіфікацыі жыхароў рэспублікі. Сельскае насельніцтва, носьбіт народнай культуры, няўхільна скарачалася, а ў гарадах раўнацэннае беларускамоўнае асяроддзе не зараджалася. Гэта ўступала ў супярэчнасць са знешне паспяховым лёсам беларускай дзяржаўнасці, што выклікала заклапочанасць многіх творчых людзей (у тым ліку Аркадзя Куляшова). Такім чынам, адзначаныя моманты стымулявалі да вывучэння нацыянальнай гісторыі не толькі прафесійных гісторыкаў, на працу якіх афіцыйная ідэалогія ставіла пэўныя абмежаванні, але і літаратараў, людзей творчых, якія, уклаўшы ўласны мастацкі сэнс і падкрэсліўшы асобныя, з іх пункту погляду найбольш значныя, бакі той ці іншай з’явы, імкнуліся данесці сваю думку да грамадскасці і праз гэта даць адказ на шэраг пытанняў сучаснасці.

Само паўстанне 1863 года, да якога звярнуўся Аркадзь Куляшоў, даволі неаднагначна ацэньвалася ў савецкай гістарыяграфіі. Існавалі процілеглыя погляды на два аспекты паўстання. Той бок праграмы «чырвоных», у якім былі заклікі да поўнай адмены прыгоннага права, да поўнага вызвалення сялян, у цэлым ухваляўся. Але змаганне паўстанцаў за адасабленне ад Расійскай імперыі (і гэта недвухсэнсоўна было падкрэслена самім Каліноўскім у «Лістах з-пад шыбеніцы») успрымалася адмоўна, бо ў савецкай гістарыяграфіі пазітыўна разглядалася захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці Расійскай імперыі і ў цэлым адабралася яе знешняя палітыка. Такая дваістая афіцыйная ацэнка, безумоўна, наклала абмежаванні на самога Аркадзя Куляшова, які вымушаны быў надаць у паэме значна большую ўвагу сацыяльным аспектам паўстання, чым нацыянальна-вызваленчым. У «Хамуціусе» матыў барацьбы за нацыянальнае вызваленне адлюстроўваецца ў кантэксце змагання за свабоду. Падобная ідэя роўна за сто год да публікацыі «Хамуціуса» была ўвасобленая італьянскім пісьменнікам Рафаэла Джаваньёлі ў рамане «Спартак».

Канешне, і на сённяшні дзень у гістарычнай навуцы існуе мноства дыскусійных момантаў па розных аспектах паўстання. Да гэтага часу навукоўцы спрачаюцца наконт поглядаў Кастуся Каліноўскага, наконт рэальных планаў кожнай з груповак і іншага. Аднак нам важна выявіць менавіта тое, якім пабачыў лідара паўстанцаў сам Аркадзь Куляшоў, якую інтэрпрэтацыю падзей 1863 года ён даў у сваёй паэме і якія надзённыя праблемы ён імкнуўся праявіць праз сюжэт свайго твора.

Цэнтральным героем паэмы з'яўляецца асоба Кастуся Каліноўскага. Менавіта з вуснаў гэтага персанажа зрываюцца асноўныя думкі твора — галоўныя думкі самога аўтара. Невыпадкова Аркадзь Куляшоў падкрэсліў, узяўшы ў якасці назвы самой паэмы, адну з падпольных мянушак Каліноўскага — «Хамуціус» (ад слова «хам» у значэнні «мужык»). Гэтым ён адзначыў блізкасць лідара паўстанцаў да простага народа. Каліноўскі ў паэме выяўляецца беларускім патрыётам, выразнікам інтарэсаў простых людзей, сялян:

Край беларускі, з матчынай калыскі
Да гэтых дзён, мне дарагі і блізкі.
Я сын яго і ганаруся тым,
Што з ім паветрам дыхаю адным.
Я знаю, маюць права ўсе народы
На ўвагу праўды, шчасця і свабоды.
Я зычу ўсім дабра.

Кожны з іншых герояў паэмы выконвае сваю функцыю. Так, вобраз Марысі — любай дзяўчыны Кастуся — у шэрагу момантаў з'яўляецца алегорыяй Беларусі, і каханне Кастуся Каліноўскага атаясамліваецца з патрыятычнымі пачуццямі лідара паўстанцаў. Юрась Старжыцкі, а таксама малады чалавек напрыканцы паэмы, якія з'яўляюцца Каліноўскаму ў снах, — гэта своеасаблівыя праваднікі ў часе. Яны дапамагаюць арганічна звязаць дзеянне твора з мінулым і будучым, адлюстраваць рэтраспектыву і перспектыву гістарычных падзей з ракурсу ўдзельнікаў паўстання.

Аднак побач з шэрагам індывідуальных персанажаў гэтай паэмы ў творы імпліцытна прасочваецца яшчэ адзін, калектыўны герой, — народ. Сюжэт твора пабудаваны такім чынам, што сам народ як паўнацэнны суб'ект ні разу не з'яўляецца ў дзеянні, аднак менавіта на яго перыядычна спасылаюцца галоўныя героі (некалькі разоў Кастусь Каліноўскі: «Яшчэ свайго не вымавіў ён слова», Юрась Старжыцкі ў сваім лісце-запавеце «…народу-жабраку… абяцалі зямлю…, а не далі ні цалі»). Праўда, асобныя прадстаўнікі сялян (напрыклад, Арцём Яцына) падтрымліваюць Кастуся Каліноўскага і яго ідэі, аднак насельніцтва ў цэлым так і не ўспрыняло заклікі правадыроў паўстання. Гэта яшчэ не той народ, да якога апелюе Каліноўскі. На той момант народ яшчэ не ўсвядоміў сваёй суб'ектнасці ў гістарычным працэсе. Такая бессуб'ектнасць падкрэсліваецца і пагардлівым пытаннем Масолава:

Яшчэ хачу спытаць. Хто вы? Паляк
Альбо літвін? Ці беларус, якога
Не ведае ніхто, апроч лясоў,
Ды лесуноў, ды курнага парога?..
Хто будзеце?

Характэрна, што ў гэтых словах тэрміна-этноніма «беларус» (якога «не ведае ніхто») фактычна супрацьпастаўляюцца тэрміны «паляк» і «літвін» (для іх не ўжываюцца дадатковыя ўдакладненні, у дадзеным кантэксце гэта палітонімы, адпаведна ад Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага). Гістарычныя абставіны склаліся так, што над беларускім мужыком пастаянна валадарыць прадстаўнікі іншых народаў: ці рускія памешчыкі, ці польскія паны. Такая ж думка прасочваецца ў аповедзе Кастуся Каліноўскага пра свой сон на сустрэчы з «белымі» ў Віленскім касцёле:

По Вільні ехаў на чацверыку.
Хто б думалі? — вядомы ўсім вяльможа.
Сядзеў на козлах знакаміты пан…
Яленскі з Гейштарам каранннікамі
Былі ў яго, і, стрыгучы вушамі,
Аскерка — справа, злева — Дзюлеран.
А ззаду воз жандар штурхаў рукамі.
На возе — дамавіна. У труне
Ляжаў даўно мужык, знаёмы мне.
Ён бедны, век галеў, зямлі чакаў,
А дабрадзей, што коней паганяў,
Рашыў яму адмераць тры аршыны.
О, Божа літасцівы мой, адзіны,
Перакулі на брук жалобны воз,
Зрабі, каб крэўны брат мой уваскрос!

Такая карціна выглядае зняважліва для Кастуся Каліноўскага. І галоўная мэта лідара паўстанцаў — абудзіць у народзе пачуццё ўласнай годнасці. Таму наступнымі словамі Кастусь Каліноўскі заклікае народ скінуць ярмо і ўзяць свой лёс у свае рукі:

Уваскрасай, народзе мой сярмяжны,
З маўклівых курганоў і дамавін.
Паўстань для новай бітвы, дух адважны,
Як з каменю агонь, як дым з агню.

І адзначаныя словы Кастуся Каліноўскага — не проста заклік да паўстання супраць паноў. Гэта — заклік да нацыянальнага абуджэння, да крышталізацыі духоўных сіл беларускага народа, да станаўлення яго суб’ектнасці ў гістарычным працэсе. Прамоўленыя словы рэхам даносяцца і ў ХХ стагоддзе. Яны гучаць заклікам да аднаўлення тых творчых сіл, што былі ў многім вынішчаныя ў трагічныя часы 1930-х і 1940-х гг.

Важная праблема, што падымаецца ў паэме, — гэта паражэнне паўстання. Нягледзячы на палымяны заклік Кастуся Каліноўскага і яго самаадданасць, імкненне выканаць запавет Юрася Старжыцкага («Раздай жа долю брата тым, хто яе арэ…») і раздаць зямлю сялянам, ход падзей выходзіць з-пад кантролю, і паўстанцы церпяць паражэнне. І справа не толькі ў «белых», якія здрадзілі абвешчаным ідэям паўстання, а ў тым, што арганізатар барацьбы разглядае мэты паўстання значна шырэй, чым народ пакуль гатовы іх успрыняць: не проста змагацца за перадачу зямлі працаўнікам, а абудзіцца, узяць свой гістарычны лёс ва ўласныя рукі. Паўстанцы Каліноўскага не могуць знайсці агульнай мовы з сялянамі, паміж імі пачынаюцца канфлікты. Марыся ўводзіць Кастуся ў жах, расказваючы пра ўзброеныя сутычкі, пра пакаранне смерцю паўстанцамі Арцёма Яцыны. Аднак

Кастусь, нягледзячы на яе заклікі, вырашае аддаць нават сваё жыццё за ідэю. Пры гэтым ён не імкнецца дасканала прааналізаваць бягучую сітуацыю і змяніць тактыку з прычыны новых абставін. Ён выказвае намер прынцыпова змагацца за праўду да канца:

Калі ўжо нас за нашу праўду Бог
Пачаў караць і, з вісельняй у згодзе,
Нам прападаць прызначыў пры ўваходзе
У вечны сад, то мы хутчэй загінем,
Чым скардзіцца пачнем на марны лёс,
Хутчэй ад шчасця і саміх нябёс
Адмовімся, а праўды не пакінем.

У выніку адбываецца трагічная гераізацыя Кастуся Каліноўскага — барацьбіта за свабоду, за будучыню сваёй краіны, які гіне, не знайшоўшы паразумення з боку ўласнага народа. Але, як казаў Георг Гегель, «сава Мінервы вылятае ў прыцемках». І зараз, аналізуючы падзеі 1860-х гадоў, мы разумеем, што першыя зерні ў глебу былі закладзеныя менавіта ў тую эпоху. Прайшло яшчэ нямала часу, некалькі дзесяцігоддзяў, драматычныя падзеі Першай сусветнай вайны і распаду Расійскай імперыі, у віхуры якіх пакутліва ўзніклі новыя ўмовы для далейшага развіцця беларускага народа і станаўлення яго дзяржаўнасці. І асоба Кастуся Каліноўскага набыла новае значэнне ў нашай гісторыі. На гэтае пераасэнсаванне намякае і эпіграф з М.势 Бануш, скарыстаны Аркадзем Куляшовым: «Ствараючы аблічча свету новага, ствараем мы і новае аблічча тым, хто загінуў». Такое запозненае пакаянне, імкненне да пераацэнкі ролі гэтага чалавека вельмі добра перададзены ў апошніх словах Марысі:

Сем доўгіх год не верыць сэрца страце.
Я Кастуся калісьці пракляла,
Ён мне назад вярнуў сваё пракляцце.
Больш, чым сябе, ён, грэшных, нас любіў…

Вобраз Марысі на барыкадах Парыжскай камуны 1871 года, яе з’яўленне ў самым цэнтры падзей адной з еўрапейскіх рэвалюцый XIX стагоддзя адлюстроўвае сувязь падзей 1863—1864 гг. на Беларусі і нацыянальна-вызваленчых рухаў ва ўсёй Еўропе. Такім чынам аўтар падкрэслівае, што і Беларусь не засталася ўбаку ад нацыятворчых працэсаў, якія на той час разгарнуліся ва ўсім Старым Свеце.

Сюжэт паэмы «Хамуціус», адлюстроўваючы рэальныя падзеі 1863—1864 гг., робіць і некаторае ўражанне недагаворанасці. Паражэнне паўстання падштурхоўвае задацца пытаннем: а калі наступіць той час, у якім народ сапраўды стане суб’ектам гістарычнага працэсу? Калі народ «скажа сваё слова»? На гэта ў паэме, дарэчы, няма яснага адказу. На апошніх старонках твора з’яўляецца малады чалавек, праваднік у часе, аднак ён не прывязаны да канкрэтных гістарычных падзей у будучым. Калі б гэтая паэма была напісаная ў стылі 1930-х гг., то, хутчэй за ўсё, у якасці такога паваротнага моманту ўпаміналася б Кастрычніцкая рэвалюцыя і адлюстроўваўся б знаёмы водападзел: да 1917 года — дрэнна, пасля 1917 года — добра. Аднак спазнаўшы супярэчлівы шлях і трагічнасць лёсу беларускага народа, Аркадзь Куляшоў свядома пакінуў тут чытачу прастору для роздуму. Такім чынам ён пазначыў, што змест гістарычнага працэсу не вызначаецца аўтаматычна нейкімі хрэстаматыйнымі, кропкавымі падзеямі, а носіць характар пастаяннага, якаснага развіцця.

Безумоўна, Аркадзь Куляшоў у свой час не мог адкрыта паставіць у гэтай паэме пытанне пра ўтварэнне суверэннай беларускай дзяржавы. Ды і галоўны імператыў паэмы — гэта заклік менавіта да развіцця духоўных сіл народа, да станаўлення яго самасвядомасці. Аўтар надае першачарговую ўвагу не форме (дзяржаве), а зместу (народу). У 1970-я гг., калі Аркадзь Куляшоў ствараў сваю паэму, беларуская дзяржаўнасць існавала ў савецкай форме, аднак у гэтай рэча-

існасці яшчэ былі недастаткова спрыяльныя ўмовы для беларускай культуры і рэалізацыі духоўнага патэнцыялу нацыі. Сёння мы жывём ужо ў іншых умовах. Але духоўнае развіццё нацыі — гэта паступовы працэс, ён не адбываецца адразу нават з утварэннем суверэннай дзяржавы. І таму галоўны ўрок паэмы Куляшова, актуальны для нашага часу, — гэта неабходнасць пастаянна «звяраць гадзіннік», заўжды асэнсоўваць перспектыву нацыянальнага развіцця. Так што «Хамуціус» — гэта паэма, якая сваім сюжэтам сфакусіравана ў мінулае, але змястоўна нацэленая ў будучае.

Унутраны маналог Аркадзя Куляшова адлюстроўвае глыбінны роздум пра гістарычны лёс Бацькаўшчыны, але тагачасныя рэаліі перашкаджалі яго поўнаму ўвасабленню ў творчасці. Толькі пад канец жыцця, прадчуваючы надыход новага часу і ўнутрана канфліктуючы з аднатыпнасцю навакольнай рэчаіснасці, паэт стаў больш адкрыта адлюстроўваць свае думкі ў вершах і паэмах. Яго апошнія творы, выкананыя на хвалі няспыннага роздуму, нават часам здзіўлялі крытыкаў сваёй навізной падыходаў, але менавіта яны выражалі самыя глыбінныя думкі, што выспявалі ў душы аўтара.

На эвалюцыю гэтага ўнутранага маналогу паўплываў лёс самога Акрадзя Куляшова, які на ўласным вопыце і на прыкладзе лёсу сваіх сяброў спазнаў як страшэнныя трагедыі, так і веліч чалавечага духу. У гэтым плане паваротнай падзеяй, што падштурхнула паэта да разважанняў над лёсам Беларусі, стала Вялікая Айчынная вайна, якая прадвызначыла два матывы роздуму і адпаведна два матывы, увасобленыя ў яго пазнейшай творчасці.

З аднаго боку, гэта матыў горычы ад страт, які панёс наш народ у віхуры пакут 1-й паловы ХХ стагоддзя: у полымі вайны, у засценках ГУЛАГа, у галодныя гады ліхалеццяў. Страт не проста колькасных, а якасных: лепшых творчых сіл народа, якія маглі б унесці вялікі ўклад у развіццё краіны, у станаўленне беларускай нацыянальнай культуры. І чым далей паэт асэнсоўваў гэтую праблему, разглядаючы яе ў рэтраспектыве свайго лёсу і лёсу сваіх знаёмых, тым больш ён пераконваўся ў тым, наколькі цяжкі шлях давялося прайсці нашаму народу, якія ахвяры прыйшлося панесці і наколькі ўнутраны патэнцыял Беларусі быў бы большым, калі б загубленыя духоўныя, творчыя сілы былі цалкам скарыстаныя. Найбольш выразным увасабленнем гэтага матыву стаў цыкл вершаў «Маналог», які рэквіемам гучыць па ахвярах 1-й паловы ХХ стагоддзя.

З другога боку, гэта матыў веры ў духоўныя сілы народа. Вайна, паставіўшы яго на грань знішчэння, выявіла непераможнасць і невычарпальнасць яго сіл. Гэта ўзмацніла ўпэўненасць аўтара ў абавязковым аднаўленні духоўнага патэнцыялу нацыі пасля перанесеных пакут і натхніла на напісанне «Хамуціуса». «Хамуціус» — гэта паэма-запавет Аркадзя Куляшова, якая, нягледзячы на трагічную развязку сюжэта, выражае веру паэта ў магчымасць аднаўлення творчых сіл нацыі, у будучае абуджэнне пачуцця нацыянальнай годнасці, у выхад Беларусі на паспяховую траекторыю гістарычнага развіцця.

Першапачаткова выхаваны ў межах савецкай сістэмы, Аркадзь Куляшоў прайшоў светапоглядную эвалюцыю ад савецкага патрыёта да патрыёта Беларусі. І калі б ён дажыў да 1990-х гг., то, відавочна, успрымаў бы з'яўленне суверэннай Рэспублікі Беларусь як цалкам лагічны працэс, заканамерны вынік паступовага гістарычнага развіцця. Разам з тым можна сцвярджаць, што паэта хутчэй непакоілі б праблемы духоўнага станаўлення беларускага народа. Новы, постсавецкі, перыяд гісторыі — час змены ідэалаў, арыенціраў, каштоўнасцей — ставіць новыя пытанні. Напэўна, многія супярэчнасці сённяшняга дня стымулявалі б працяг унутранага маналогу Аркадзя Куляшова такім жа чынам, як і падзеі ХХ стагоддзя. І хто ведае, магчыма, паэт напісаў бы яшчэ адну «Новую кнігу», якая таксама была б прасякнутая жыццесцвярджальным настроем, а таксама верай у светлы лёс Бацькаўшчыны і яе народа.

**Дзмітрый ДЗЕМІЧАЎ**

# ЧАРНОБЫЛЬ: ПЕРШЫЯ ДНІ ВЫПРАБАВАННЯЎ

*Дземічаў Дзмітрый Міхайлавіч — доктар юрыдычных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі і гісторыі права Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Акадэмік Міжнароднай кадравай акадэміі (Кіеў). Акадэмік Міжнароднай інжынернай акадэміі (Масква). У 1983—1987 гг. — першы сакратар Хойніцкага райкама партыі. У 1986—1987 гг. — непасрэдны ўдзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС у межах 30-кіламетровай зоны. За самаадданую працу па ліквідацыі наступстваў гэтай аварыі ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Упершыню ў айчыннай юрыдычнай навуцы Д. Дземічаў распрацаваў тэорыю дзяржаўна-прававога механізма пераадолення наступстваў Чарнобыльскай катастрофы; сфармуляваў тэарэтычныя палажэнні пра ўзнікненне, станаўленне і развіццё новай самастойнай (асноўнай) функцыі дзяржавы — функцыі мінімізацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы; выпрацаваў канкрэтныя рэкамендацыі па ўдасканаленні функцыянавання дзяржаўных органаў ва ўмовах радыеактыўнага забруджвання вялікіх тэрыторый і прапановы па ўдасканаленні заканадаўства, якое рэгулюе гэту сферу грамадскіх адносін.*

26 красавіка 1986 г., як вядома, адбылася адна з самых драматычных падзей XX стагоддзя — аварыя на Чарнобыльскай АЭС, якая стала тэхнагенна-сацыяльна-псіхалагічнай катастрофай чалавецтва. 27 гадоў мінула з тых цяжкіх і памятных дзён. Шмат што, у тым ліку некаторыя дэталі, даты, імёны, прозвішчы ўдзельнікаў тых падзей зніклі з памяці, але не забыліся мужнасць, самаахвярнасць і самаадданасць людзей, якіх напаткала бяда і якія разам са мной працавалі тады ў Хойніцкім раёне, рабілі ўсё, што ў адпаведнасці са сваімі грамадзянскімі, партыйнымі і службовымі абавязкамі павінны былі рабіць шчыра, самаададана, добрасумленна і бездакорна.

Калі здарылася бяда на Чарнобыльскай АЭС, я ўжо чацвёрты год знаходзіўся на пасадзе першага сакратара райкама партыі — раней працаваў у апараце ЦК Кампартыі Беларусі ў аддзеле арганізацыйна-партыйнай работы, куды трапіў з пасады другога сакратара Докшыцкага райкама партыі. На пачатку красавіка 1983 г. Бюро Кампартыі Беларусі пастанавіла накіраваць мяне ў Хойніцкі раён. Г. Карасевіч, які займаў пасаду першага сакратара і прапрацаваў у раёне больш за 13 гадоў, быў адкліканы ў апарат Гомельскага аблвыканкама.

У раёне шмат чаго з поспехам здзейснілі, але яшчэ больш трэба было ажыццявіць. Хойніччына мела нядрэнныя землі, добрую матэрыяльна-тэхнічную базу, у тым ліку некалькі даволі моцных будаўнічых арганізацый, аўтарамонтны, кансервавы, камбікормавы заводы. У 1984 г. здалі ў эксплуатацыю магутны сыраварны завод, які займаў па прадукцыйнасці другое месца ў еўрапейскай частцы СССР і мог у летні перыяд перапрацоўваць за суткі да 500 тон малака. У 1985 г. метадам «народнай» будоўлі, без аніякай дакументацыі і разнастайных узгадненняў у праектных арганізацыях у раённым цэнтры за тры месяцы быў пабудаваны сучасны на той час стадыён на 5 тысяч гледачоў з раздораўскай

(гумавай) бегавой дарожкай, якая дазваляла праводзіць трэніроўкі і розныя лёгкаатлетычныя заняткі практычна круглы год. Пачаў набіраць моц і новы машынабудаўнічы завод «Салют», узведзены пры падтрымцы Масквы, які вырабляў фактычна сакрэтную прадукцыю для самалётаў і касмічных караблёў. Дзякуючы размяшчэнню гэтага прадпрыемства ў раёне, удалося вырашыць шматлікія пытанні сацыяльна-бытавога жыцця насельніцтва: зніклі праблемы з працаўладкаваннем моладзі; завод будаваў вялікую колькасць жылля і іншых аб’ектаў сацыяльнай інфраструктуры. Пазітыўныя зрухі адбыліся і ў аграпрамысловым сектары. Расло пагалоўе жывёлы і яе прадуктыўнасць. Па ўраджайнасці збожжавых і бульбы раён пачаў выходзіць на першыя пазіцыі ў вобласці. Шмат рабілася для павышэння культуры земляробства, няўхільнага выканання правілаў севазвароту, на больш высокім узроўні вялася барацьба з пустазеллем і шкоднікамі сельскагаспадарчых культур, якія ў рэгіёне неслі істотную шкоду сельскай гаспадарцы і яе эканоміцы. У 18 з 19 калгасаў і саўгасаў цягам двух гадоў пабудавалі даволі прагрэсіўныя на той час гноясховішчы з бетонным падмуркам і своеасаблівымі помпамі УТН, з дапамогай якіх гной з жывёлагадоўчых ферм аўтаматычна накіроўваўся ў сховішчы, што загадзя запаўняліся торфакрошкай. У выніку атрымліваліся арганічныя ўгнаенні найвышэйшага гатунку, якія дазвалялі павысіць урадлівасць глебы нават у гаспадарках, што месціліся ўздоўж Прыпяці і мелі пераважна пясчаныя глебы. У сціслыя тэрміны палепшылі ўмовы працы жывёлаводаў. У кожнай гаспадарцы абсталявалі фінскія лазні з душавымі ўстаноўкамі. Як мінімум 1—2 разы на месяц работнікаў ферм наведвалі стаматолагі, дактары іншых спецыяльнасцей, супрацоўнікі прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, якія прымалі заказы непасрэдна на працоўных месцах. З дапамогай «Сельгастэхнікі» ў сціслыя тэрміны пабудавалі сучасны завод па вырабе высакаякасных кармавых сумесей для ўсяго раёна, што дазволіла ў хуткім часе павялічыць надоі малака. Вялікую дапамогу раён атрымаў ад дэпутата Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Я. Сухарукава, старшыні рэспубліканскага аб’яднання «Сельгастэхніка». У перыяд аварыі на ЧАЭС ён займаў пасаду першага намесніка Старшыні Дзяржаграпрама БССР.

У 1984 г. раён упершыню выканаў план продажу дзяржаве дзесяці кантрольных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі. Стабільна працавалі прамысловыя прадпрыемствы, будаўнічыя арганізацыі, прадпрыемствы гандлю, бытавога абслугоўвання, транспарту і іншыя галіны гаспадаркі. А хойніцкіх кулінараў усláўлялі нават у Парыжы: кандытарскія вырабы «Грыбок» занялі прызавое месца на выстаўцы, што праходзіла ў сталіцы Францыі.

Галоўным багаццем раёна, безумоўна, былі людзі. Да аварыі жыло каля 50 тыс. чалавек, у тым ліку блізу 19 тыс. — у райцэнтры.

Для хайнічан ва ўсе часы былі характэрны працалюбства, добразычлівасць, стараннасць, вясёлы, безжурботны характар, што намнога лягчэй дапамагло перажыць цяжкія паслячарнобыльскія дні, месяцы і гады.

Добра развівалася мастацкая самадзейнасць, цэнтрам якой з’яўляўся раённы Дом культуры (дырэктар А. Навуменка). Штогод узімку праводзіліся традыцыйныя агляды мастацкіх калектываў. На сцэну выходзілі ў якасці выканаўцаў і кіраўнікі працоўных калектываў, сакратары пярвічных партарганізацый. Асабліва запомніліся песні ў выкананні дырэктара завода «Салют» Я. Цяплова, дырэктара аўтарамонтнага завода І. Снегірова і іншых. У раёне існавала добрая спартыўная база, дзейнічалі спартыўныя залы ў райцэнтры. У кожнай гаспадарцы былі пабудаваны ці дабудоўваліся стадыёны. У 1986 г. кожны больш-менш буйны калектыў меў свае аматарскія футбольныя, валейбольныя ці па іншых відах спорту каманды. Шмат хто са спартсменаў займаў прызавыя месцы на абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах. Зборная футбольная каманда паспяхова выступала на першынстве рэспублікі. Каб падтрымаць спартыўны дух у раёне, і мы, старэйшае пакаленне, стараліся не

адставаць ад маладых: з калектыву райвыканкама, які ўзначальваў тады А. Абухаў, стварылі валейбольную каманду «Крылы Саветаў». А ў райкаме партыі з ліку супрацоўнікаў апарату арганізавалі валейбольную каманду «Крылы партыі». Калі ўвосень завяршаліся сельскагаспадарчыя работы, два разы на тыдзень збіраліся ў спартыўнай зале сярэдняй школы № 2 і гулялі па 4-5 партый. Вялікі асабісты ўклад у развіццё фізкультуры і спорту ў раёне зрабіў старшыня камітэта фізкультуры і спорту райвыканкама А. Яўстратаў, а пазней заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь.

На красавік 1986 г. ужо меўся надзейна сфарміраваны склад кадраў, якія паспяхова працавалі на асноўных участках дзейнасці ўсіх галін народнай гаспадаркі. Таму, дзякуючы высокай дысцыпліне, арганізаванасці, адданасці сваёй справе, адказнасці кіруючых кадраў усіх узроўняў, мы ў цяжкія чарнобыльскія дні і ночы арганізавана правялі ўсе першачарговыя мерапрыемствы па мінімізацыі наступстваў катастрофы, і, найперш эвакуацыю дзяцей, цяжарных жанчын з 30-кіламетровай зоны Чарнобыльскай АЭС, вучняў, размясцілі іх у месцах часовага знаходжання, стварылі неабходныя ўмовы для жыцця, медыцынскага і гандлёвага абслугоўвання.

Не магу не ўзгадаць цёплымі словамі маіх паплечнікаў — другога сакратара райкама партыі Надзею Дрозд, сакратара па ідэалогіі Валерыя Пінчука (на жаль, ён пайшоў з жыцця ў 2009 г.), загадчыкаў аддзелаў Валянціна Баранава, Віктара Васькевіча, Аляксандра Дзейкуна, Тамару Шпакоўскую, старшыню парткамісіі Сяргея Чубка, загадчыка сектара партуліку Любоў Васілеўскую, іншых супрацоўнікаў — Іосіфа Азаркевіча, Міхаіла Гарашчанку, Святлану Галаватую, Іосіфа Грыгаровіча, Генадзя Куліцкага, Пятра Лякаркіна, Анатоля Мазалеўскага, Асю Мамедаву, Генадзя Рудзянка, Васіля Мігая, Мікалая Сацуру (таксама пайшоў з жыцця), Валерыя Чакана, шафёраў Аляксандра Данчанку, Васіля Бараша (ужо абодва нябожчыкі), Сяргея Вераб’я і іншых.

Вялікую арганізацыйную работу па рэалізацыі ўсіх першачарговых антырадыяцыйных мерапрыемстваў праводзіў старшыня райвыканкама Аляксандр Абухаў. Цяжкія постчарнобыльскія клопаты і нягоды мы з ім зазналі разам, бо адказвалі за ўсё, што адбывалася ў раёне, найперш першы сакратар райкама партыі і старшыня райвыканкама. У той час у раёнах па-рознаму складваліся ўзаемаадносіны першых асоб. Нашы адносіны вызначаліся ўзаемаразуменнем, узаемнай дапамогай, падтрымкай, узаемапавагай як адно да аднаго, так і да тых калектываў, якія мы ўзначальвалі. Гэтыя шчырыя пачуцці мы захавалі і ў наступныя гады, калі мяне паводле рашэння ЦК КПБ накіравалі на пасаду інспектара ЦК па Магілёўскай вобласці, а Аляксандр Іванавіч праз некалькі гадоў быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, пераехаў у Мінск і плённа працаваў у пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета па праблемах Чарнобыльскай катастрофы. Мы часцяком сустракаемся, штогод ладзім сустрэчы ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС ад раёна. Даводзіцца разам і праводзіць у апошні шлях тых, хто з намі працаваў у тыя цяжкія дні і гады.

Але ўсё гэта было да Чарнобыля…

А 26 красавіка 1986, у суботу, мелася адбыцца чарговая сесія Гомельскага абласнога Савета народных дэпутатаў. У Маскве ўжо прынялі рашэнне аб тым, што розныя мерапрыемствы неабходна праводзіць у вольны час. Ад раёна дэпутатамі абласнога Савета былі па традыцыі 8-9 чалавек: першы сакратар райкама партыі, старшыня райвыканкама, 2-3 перадавікі сельскагаспадарчай вытворчасці, прамысловасці, будаўніцтва, іншых галін народнай гаспадаркі, а таксама некаторыя кіраўнікі працоўных калектываў. У 7 гадзін раніцы мы сабраліся ў райкаме партыі і на дзвюх машынах накіраваліся ў Гомель. Сесія прайшла як звычайна: рэгістрацыя, даклад, выступленні, прыняцце рашэнняў і вяртанне дамоў. Ніякіх асаблівасцей у паводзінах першых асоб вобласці мы не заўважылі. Як пазней даведаліся, і кіраўніцтва яе таксама нічога не ведала пра тое, што

адбылося на Чарнобыльскай АЭС, хоць атамная станцыя знаходзілася ў 47 км ад Хойнікаў і ў 100 — ад Гомеля. Згодна з правіламі і інструкцыямі па грамадзянскай абароне, у выпадках узнікнення надзвычайных сітуацый, асабліва тых, што тычыліся радыяцыйнага забруджвання, штабы грамадзянскай абароны памежных раёнаў, абласцей і г. д. абавязаны былі інфармаваць суседзяў пра ўсе надзвычайныя сітуацыі. Але гэтага ў выпадку з Чарнобыльскай АЭС не адбылося.

Першая інфармацыя пра тое, што ў нашых суседзяў — украінцаў — здарылася нешта сур'ёзнае, прасачылася неафіцыйна 27 красавіка. У нядзелю надарыўся вельмі цёплы, нават гарачы дзень. Палявыя работы ў асноўным завяршыліся, і на стадыёне саўгаса «Стралічава» планавалася правесці спартыўнае свята — адкрыццё футбольнага сезона. Ад кожнага працоўнага калектыву прыехалі каманды, якія павінны былі згуляць «пульку» — два таймы па 15 хвілін на выбыванне. Каманда, якая прайграла, пакідае спаборніцтвы, а лепшыя выходзяць у фінал. На свяце прысутнічалі члены бюро райкама партыі, члены райвыканкама, кіраўнікі і сакратары партыйных арганізацый, вялікая колькасць гледачоў. Спаборніцтвы выклікалі хваляванне і цікавасць, прадстаўнікі каманд падтрымлівалі сваіх сяброў. Кіраўніцтва раёна сімпатыі таксама аддавала розным камандам.

У разгар свята сакратар райкама па ідэалогіі В. Пінчук паведаміў мне і А. Абухаву, што яго маці ў суботу паехала па справах у райцэнтр Чарнобыльскага раёна, але машыну ў горад не пусцілі, а па вуліцах рухаліся пажарныя машыны і мылі праезную частку дарогі ці то нейкім растворам, ці то пенай. Мы адразу зразумелі, што на атамнай станцыі адбылося штосьці сур'ёзнае. Хутка абмеркавалі сітуацыю і вырашылі: Абухаў кіруецца ў «прыпяцкую» зону нашага раёна, а я еду ў райкам і звязваюся з абласным камітэтам. Дзяжурны абкама партыі сказаў мне, што ніякай інфармацыі ў яго няма — ні ад штаба грамадзянскай абароны, ні ад іншых структур, якія займаюцца аналагічнымі пытаннямі. Я папрасіў яго паведаміць аб маім званку першаму сакратару абкама Аляксею Камаю і, чакаючы дома прыезду Абухава, падзяліўся трывожнымі думкамі са сваёй жонкай Людмілай Ягораўнай, настаўніцай, якая выкладала фізіку ў хойніцкай школе № 1. Яна адразу ж сказала, што гэта ўсё вельмі сур'ёзна і магчыма давядзецца арганізоўваць эвакуацыю насельніцтва.

У раёне была добрая аўтабаза, якая забяспечвала аўтамабільныя, у тым ліку і пасажырскія, перавозкі і ў суседніх Брагінскім, Лоеўскім і Рэчыцкім раёнах. Узначальваў гэту аўтабазу надзвычай сціплы, але надта адказны і сур'ёзны кіраўнік Мікалай Андрэйчык. Я звязаўся з ім па тэлефоне і папрасіў прыехаць да мяне. Мікалай Сцяпанавіч з'явіўся праз некалькі хвілін. Мы выйшлі на вуліцу і абмеркавалі, якія захады трэба зрабіць, каб перавезці вялікую колькасць людзей за межы раёна, а, магчыма, і вобласці. Ён адразу ж падлічыў, як і ў якія тэрміны зможа справіцца з гэтай задачай. На развітанне я папрасіў нікому не перадаваць змест нашай размовы, каб пазбегчы распаўсюджвання разнастайных чутак, якіх, як паказалі далейшыя падзеі, было вельмі многа і самага рознага кшталту, у тым ліку і такіх, што тычыліся асабіста мяне альбо членаў маёй сям'і. Але пра гэта ніжэй.

Трохі пазней прыехаў Абухаў. Ён расказаў, што ў Прыпяці сапраўды адбылося нешта сур'ёзнае. Многія ўраджэнцы нашага раёна, найперш моладзь, чые бацькі жылі ў прыпяцкай зоне, працавалі спачатку на будаўніцтве станцыі, а потым і непасрэдна на ёй. Шмат хто атрымаў у г. Прыпяці кватэры. Узровень ганлёвага забеспячэння работнікаў Чарнобыльскай АЭС быў вельмі высокі, жыллё давалі хутка. Але, пачынаючы з суботы, яны сталі перавозіць сваіх дзяцей да бацькоў, якія былі ў нашым раёне. Аляксандр Іванавіч паведаміў, што бачыў над станцыяй верталёты. У сваю чаргу я расказаў яму пра размову з дзяжурным абкама партыі.

Паводле існуючага на той час парадку начальнікамі грамадзянскай абароны раёна і вобласці з’яўляліся адпаведна старшыні райвыканкама і аблвыканкама. Грамадзянскую абарону ў рэспубліцы ўзначальваў Старшыня Савета Міністраў БССР. Начальнікамі штабоў грамадзянскай абароны ў раёнах і ў абласцях працавалі адставыя афіцэры ў званні ад маёра да палкоўніка. У нас гэты пост займаў маёр Аляксандр Каюда, досыць сур’ёзны і падрыхтаваны афіцэр, які ў постчарнобыльскі час шмат зрабіў для арганізацыі работ па мінімізацыі наступстваў аварыі. Я папрасіў Абухава арганізаваць кругласутачнае дзяжурства ў штабе грамадзянскай абароны і трымаць пастаянную сувязь з абласным і рэспубліканскім штабамі.

Назаўтра раніцой я звязаўся з А. Камаем, праінфармаваў аб тым, што ўжо ведаў сам. Размаўляючы з ім, зразумеў, што ў вобласці таксама адсутнічае неабходная інфармацыя. Аляксей Сцяпанавіч параіў мне непасрэдна выехаць у прыпяцкую зону разам са спецыялістамі для вывучэння ўсіх акалічнасцей на месцы. Разам са мною паехалі начальнік штаба грамадзянскай абароны А. Каюда, намеснік галоўнага санітарнага ўрача раёна М. Салаўёў, ваенны камісар раёна Ф. Амяльчук. Мы ўзялі з сабою прыборы для вымярэння ўзроўню радыеактыўнага забруджвання ДП-5, якія на той час лічыліся найноўшымі, і накіраваліся ў памежныя з Украінай населеныя пункты, што знаходзіліся на адлегласці ў 5-7 кіламетраў ад Чарнобыльскай АЭС.

Надвор’е было сонечнае, тэрыторыя станцыі добра праглядалася. Там ужо ва ўсю лятали верталёты і скідвалі на рэактар нейкія ёмістасці з матэрыялам, які з выгляду нагадваў пясок. Каюда і Салаўёў зрабілі першыя замеры: яны паказалі ўзровень радыяцыі 0,5 рэнтген у гадзіну. У пяску я зрабіў рукамі ямку на 20 см і папрасіў замераць яшчэ раз. Прыборы паказалі тую ж лічбу. Што такое палова рэнтгена, я толькі здагадваўся, бо ўсе мы на той час былі яшчэ не надта дасведчанымі ў гэтым. Толькі ваенкам, санітарны ўрач ды начальнік штаба грамадзянскай абароны ўвесь час круцілі галовамі.

Я вырашыў ехаць у найбліжэйшы населены пункт, каб звязацца з вобласцю. З канторы калгаса «1 Мая» начальнік штаба патэлефанаваў свайму абласному начальству, ваенкам — свайму, а санітарны ўрач — свайму. Усім нам у вобласці адказалі, што нашы прыборы хутчэй за ўсё няспраўныя і што да нас з Мінска кіруецца група дазіметрыстаў з сучаснымі дакладнымі прыборамі, і толькі пасля гэтага можна будзе штосьці вырашаць. Як пазней высветлілася ў прадстаўнікоў сталіцы былі такія ж самыя прыборы, і яны пацвердзілі замеры, зробленыя нашай групай. З таго дня ў наш лексікон надоўга ўвайшлі тэрміны — дазіметр, рэнтген, мілі- і мікрарэнтген, радыяцыя, радыенукліды, цэзій, стронцый, плутоній і шмат іншых.

Увечары таго ж дня тэлепраграма «Время» паведаміла першую, вельмі сціслую, інфармацыю: на Чарнобыльскай АЭС здарылася аварыя, робіцца ўсё неабходнае для яе ліквідацыі. На наступны дзень газета «Правда» гэту інфармацыю пацвердзіла.

Ніякіх канкрэтных інструкцый з вобласці не паступала, але ўсе адчувалі, што трэба нешта рабіць. Аператыўна прынялі рашэнне з 28 красавіка спыніць усе палявыя работы і выпас жывёлы ў калгасах «Новае жыццё» і «1 Мая», якія знаходзіліся ў 5-7 кіламетрах ад станцыі. Жывёлу перавялі на стойлавае ўтрыманне, кармілі сенам, саломай і сенажом мінулагодняга ўраджаю, што захоўваўся ў крытых сховішчах і меней пацярпеў ад радыеактыўнага забруджвання. Было загадана правесці герметызацыю ўсіх памяшканняў, максімальна скараціць знаходжанне людзей на паветры.

Найбольш напружаным было 30 красавіка. Пра гэты дзень і далейшыя падзеі — першамайскую дэманстрацыю ў раённых цэнтрах Гомельшчыны, набліжаных да Чарнобыльскай АЭС, першую эвакуацыю школьнікаў і цяжарных жанчын з 30-кіламетровай зоны — хадзіла шмат розных чутак, абвінавачванняў

на адрас кіраўнікоў, якія не забаранілі гэтыя дэманстрацыі, крытыка ў друку, асабліва праз некалькі гадоў пасля аварыі.

Раскажу, як усё адбывалася на самай справе. У сярэдзіне дня, а калі больш дакладна, у другой палове яго, сакратарам райкама і асабіста мне пастуціла мноства тэлефонных званкоў адносна заўтрашняй першамайскай дэманстрацыі: ці будзем яе праводзіць і што рабіць са школьнікамі. Справа ў тым, што Хойнікі, як і Брагін — самыя паўднёвыя раёны Гомельшчыны і ўсёй рэспублікі. Цяпло сюды прыходзіла раней за іншыя рэгіёны, і на першамайскія святы прырода ў нас красавала на ўсю моц. Амаль заўсёды квітнеў бэз, пачыналі зацвітаць сады. Практычна завяршаліся палявыя работы, і людзі мелі ўсе падставы з радасцю сустрэць свята, паўдзельнічаць у дэманстрацыі, а пасля і адпачыць на Прыпяці.

Мне як кіраўніку раёна трэба было прымаць нейкае рашэнне. Пазваніў свайму суседу — першаму сакратару Брагінскага райкама партыі Г. Панькову. Мы з ім узначалілі раёны амаль адначасова, а пазнаёміліся падчас навучання на завочным аддзяленні Мінскай вышэйшай партыйнай школы задоўга да Чарнобыльскай трагедыі. З Георгіем Мікалаевічам падтрымлівалі сяброўскія адносіны. Дамовіліся, што дзейнічаць будзем зладжана, а папярэдне ўсё ж такі параімся з абкамам партыі. З гэтай мэтай я патэлефанаваў сакратару абкама партыі Сяргею Бабыру, які курыраваў пытанні ідэалогіі, і абмаляваў яму карціну заўтрашняй дэманстрацыі. Ён сказаў, што звяжацца з ЦК партыі, пракансультуецца з адпаведнымі асобамі, а тады паведаміць мне.

Што здарылася пасля, не ведаю. Я не адзін раз тэлефанаваў Бабыру, але ніхто не адказваў. Завяршаўся працоўны дзень, трэба было прымаць рашэнне і ўсе мае калегі ў райкаме чакалі гэтага рашэння ад мяне. Нарэшце ва ўсе працоўныя калектывы пайшла тэлефанаграма: дэманстрацыя адбудзецца ў прызначаны час, колькасць удзельнікаў мінімальная, школьнікаў і дзяцей дашкольнага ўзросту не прыцягваць. Я збіраўся выступаць 5-7 хвілін, а колькасць іншых прамоўцаў скараціць да мінімуму.

Мітынг і дэманстрацыя прайшлі за 15 хвілін і ніхто са школьнікаў у Хойніках на плошчы ў гэты час не прысутнічаў. Пасля я думаў, што кіраўніцтва вобласці будзе мяне за гэта дакараць, а, магчыма, нават і пакарае. Аднак праз колькі дзён у раён прыязджаў А. Камай і гаворкі пра гэты выпадак нават не было, бо штохвілінна мне, маім калегам, кіраўніцтву вобласці трэба было вырашаць новыя невераголна складаныя задачы, якія патрабавалі правільных адказаў на аператыўна пастаўленыя пытанні.

Напярэдадні першамайскіх святаў у раёне пачалі распаўсюджвацца чуткі, што медыкі — дактары, медыцынскія сёстры і іншы персанал — вывозяць сваіх дзяцей з раёна. Усе мы разумелі, што гэта неабходная мера. Але ніхто яшчэ як след не ведаў рэальнага становішча. Паводле правіл грамадзянскай абароны, якія існавалі на той час, рашэнне аб эвакуацыі прымаў штаб грамадзянскай абароны вобласці. Аднак вываз медыкамі сваіх дзяцей за межы раёна (хай сабе і нязначны), выклікаў у многіх пэўную разгубленасць і спарадзіў адпаведныя чуткі. Калі медыкі павывозілі сваіх дзяцей, думалі людзі, значыць і нам трэба рабіць гэтаксама. Мы не перашкаджалі гэтаму, але ў большасці сваёй дзеці партыйных і савецкіх работнікаў да пачатку афіцыйнай эвакуацыі заставаліся на месцы.

Тут неабходна ўзгадаць выпадак, што здарыўся 1 мая 1986 г. напярэдадні дэманстрацыі. Я прыйшоў у райкам рана, зрабіў патрэбныя званкі, удакладніў, ці ўсё падрыхтавана да свята, а праз акно ўбачыў, што большасць членаў бюро райкама, райвыканкама, іншых кіраўнікоў раёна, якія звычайна ў час дэманстрацыі стаяць на трыбуне ля помніка Леніну, ужо сабраліся. Пайшоў павіншаваць раённы актыў са святам. Усе былі ў прыўзнятым настроі, трохі хваляваліся. Але начальнік раённага аддзела ўнутраных спраў падпалкоўнік Л. Жаўняк быў, як мне падалося, чымсьці заклапочаны. Пацікавіўся, у чым справа. Мы адышліся ўбок, і ён паведаміў пра тэлефонны званок з Мінска. Дзяжурны Міністэрства ўнутраных

спраў прасіў праінфармаваць аб становішчы на месцы, а тады запытаў, ці праўда, што з самага ранку першы сакратар райкама Дземічаў разам са сваёй сям'ёю уцёк на службовай машыне з раёна. Не доўга думаючы, Жаўняк адказаў словамі вядомай прымаўкі: «Гэтага не можа быць, таму што не можа быць ніколі» і абгрунтаваў свае высновы: «Па-першае, увечары 30 красавіка мы з Дземічавым сустракаліся і гаварылі пра тое, як аператыўна правесці дэманстрацыю; па-другое, чакалі рашэння абласнога кіраўніцтва аб эвакуацыі з 30-кіламетровай зоны і першы сакратар меўся ехаць туды для арганізацыі эвакамерапрыемстваў; па-трэцяе, гэта не той чалавек, які можа так зрабіць у цяжкую хвіліну». Я выслухаў Жаўняка — вельмі адказнага чалавека, сапраўднага прафесіянала, добра падрыхтаванага афіцэра з пачуццём здаровага гумару — і выказаў яму таксама з пэўнай доляй гумару ў манеры Брэжнева (хоць на той час было і не да таго) «глыбокую падзяку ад імя партыі і ўрада за такую высокую ацэнку маёй асобы».

Але на гэтым не скончылася. Адразу пасля першамайскіх святаў, калі аднавіліся заняткі ў школах, мая малодшая дачка Віка, якая вучылася ў першым класе сярэдняй школы № 1, увечары раптам запыталася: «Тата, а чаго гэта дырэктар школы сёння некалькі разоў прыходзіў з рознымі дзядзькамі і цёткамі ў наш клас і разам з настаўніцай паказваў гэтым людзям на мяне? Яны пра штосьці доўга шапталіся, а пасля выходзілі». Старэйшая дачка Ліля, якая вучылася ў сёмым класе, але і ў іншай школе, супакоіла малодшую: «Дырэктар нашай школы Вера Лявонаўна Касабуцкая сёння таксама з нейкімі людзьмі заходзіла ў наш клас і ўвесь час паказвала ім на мяне». Безумоўна, людзей зразумець можна. Іх цікавіла, як паводзяць сябе кіраўнікі ў гэты няпросты час. Вось і прыходзілі бацькі ў школу, цікавіліся, ці павывозілі мы сваіх дзяцей, ці не.

Адразу пасля дэманстрацыі з вобласці прыйшла каманда аб эвакуацыі з 30-кіламетровай зоны АЭС дзяцей ва ўзросце да 15 гадоў, цяжарных жанчын і хворых. Я разам з шафёрам райкама партыі Аляксандрам Данчанкам выехаў у населеныя пункты, прылеглыя да тэрыторыі атамнай станцыі для арганізацыі эвакамерапрыемстваў. У «чарнобыльскую» зону ўжо кіраваўся паток аўтобусаў з нашай аўтабазы ў суправаджэнні супрацоўнікаў райкама партыі, райвыканкама, ДАІ і інш. І тут адбылося трагічнае здарэнне, якое не магло не паўплываць на паводзіны і ўчынкі многіх людзей: мне паведамілі, што раптоўна памёр адзін з шафёраў, яшчэ адносна малады чалавек. Натуральна, людзі адразу ж падумалі пра ўздзеянне радыяцыі. Пазней, калі спецыялісты правялі анатаміраванне, высветлілася, што чалавек загінуў ад сардэчнага прыступу. Безумоўна, не выключана, што ўздзеянне радыяцыі паўплывала на гэты працэс.

Трохі пазней у вёсцы Баршчоўка мяне адшукалі намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама палкоўнік Валерый Папоў (пайшоў ужо з жыцця) і афіцэр з абласнога КДБ (прозвішча не магу прыгадаць). Разам са старшынёй калгаса «1 Мая» М. Новікам мы пааб'язджалі ўсе населеныя пункты, у якіх праводзілася эвакуацыя. Людзі падрыхтаваліся да ад'езду і ў аўтобусах размясціліся даволі аператыўна. Праз гадзіну-паўтары транспарт рушыў у бок райцэнтра.

У той жа дзень усіх эвакуіраваных пасялілі ў дамах адпачынку, прафілакторыях, піянерскіх лагерах на тэрыторыі Гомельшчыны. Аператыўна вырашаліся пытанні размяшчэння школьнікаў і бацькоў з дзецьмі, арганізацыі іх харчавання, забеспячэння вопраткай, абуткам… У большасці выпадкаў гэта рабілася за кошт бюджэтных сродкаў. Пазней, з архіўных матэрыялаў, я даведаўся, што ў месцы размяшчэнне эвакуіраванага насельніцтва з трох паўднёвых раёнаў вобласці былі накіраваны 29 дактароў-педыятраў і 87 медыцынскіх сясцёр. Усяго з Брагінскага, Нараўлянскага і Хойніцкага раёнаў вывезлі каля 28 тыс. школьнікаў, цяжарных жанчын і жанчын з дзецьмі дашкольнага ўзросту, якіх пасялілі ў 57 піянерскіх лагерах, 20 санаторыях-прафілакторыях, гасцініцах, школах-інтэрнатах. У агульнаадукацыйных школах і ПТВ гэтых раёнаў 1985/86 навучальны год быў датэр-

мінова завершаны 7 мая. Перавод вучняў у наступныя класы ажыццяўляўся без экзаменаў, з улікам бягучых адзнак. Праз некалькі дзён усіх дзяцей, жанчын з дзецьмі, цяжарных і хворых з пацярпелых раёнаў вывезлі для аздараўлення за межы Гомельшчыны на ўвесь летні перыяд.

А сітуацыя на Чарнобыльскай АЭС няўхільна пагаршалася, узровень радыяцыі павышаўся. У адпаведнасці з рашэннем Урадавай камісіі СССР па ліквідацыі наступстваў аварыі Гомельскі аблвыканкам 3 мая ў 18 гадзін паставіў задачу аб эвакуацыі ўсяго насельніцтва і жывёлы з 50 населеных пунктаў Брагінскага, Нараўлянскага і Хойніцкага раёнаў у 30-кіламетровай зоне. На дапамогу раённаму партыйна-савецкаму актыву для арганізацыі эвакамерапрыемстваў у паўднёвыя раёны вобласці былі накіраваны 75 адказных супрацоўнікаў абкама партыі, аблвыканкама, народныя дэпутаты. На аператыўнай нарадзе актыву вобласці і раёнаў у Хойніках у ноч з 3 на 4 мая за кожным сельсаветам, населеным пунктам, гаспадаркай былі замацаваны члены выканкамаў абласнога, раённых Саветаў, народныя дэпутаты, партыйна-гаспадарчы актыў. Для транспарціроўкі людзей з Гомеля і іншых гарадоў прыслалі вялікую колькасць аўтобусаў, а жывёлы і маёмасці — грузавыя аўтамабілі.

Пачалася эвакуацыя ўсяго насельніцтва і жывёлы з населеных пунктаў 30-кіламетровай зоны не толькі нашага, Хойніцкага, але і суседніх Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў. На маршрутах эвакуацыі з мэтай памяншэння пераносу радыенуклідаў арганізавалі 6 пунктаў спецыяльнай апрацоўкі (ПуСА). Дактары і сярэдні медыцынскі персанал, прыцягнутыя для медыцынскага забеспячэння працэсу эвакуацыі, ажыццяўлялі кантроль за выкарыстаннем ватна-марлевых павязак і проціпыльных тканых масак.

У месцах прыёму эвакуіраванага насельніцтва тэрмінова рыхтаваліся памяшканні з грамадскага фонду, незанятыя дамы, складаліся спісы жадаючых даць прытулак пацярпелым. Рассяленне ў больш чыстых населеных пунктах планавалася правесці ў адпаведнасці з вытворча-тэрытарыяльным прынцыпам — па калгасах і саўгасах. У раёне эвакуацыя насельніцтва з калгасаў «Новае жыццё», «1 Мая» Радзінскага, саўгаса «Аравічы» Аравічскага сельсаветаў праводзілася з улікам шэфскіх сувязей, складзеных задоўга да аварыі, з саўгасамі «Стралічава» і «Судкова», калгасам «Кастрычнік».

Для эвакуацыі грамадскай і свойскай жывёлы стварылі часовыя летнія кашары адкрытага тыпу. Да іх падвялі лініі электраперадачы, дастаўлялася даільнае абсталяванне, набіраліся людзі для ручнога даення. Арганізацыя гэтых работ ажыццяўлялася кіраўнікамі і спецыялістамі гаспадарак, РАПА, райсельгастэхнікі, райсельгасхіміі, райсельэнерга і іншымі арганізацыямі.

Для аператыўнага кіраўніцтва работамі на эвакуацыі начальнік грамадзянскай абароны вобласці, старшыня аблвыканкама А. Грахоўскі, штаб ГА вобласці з аператыўнымі групамі былі перадыслацыраваны з Гомеля ў Хойнікі, якія ў 50-і кіламетрах ад Чарнобыльскай АЭС. Аляксандр Адамавіч як найвопытнейшы кіраўнік зрабіў вельмі многа карыснага для арганізацыі ўсяго комплексу першачарговых эвакамерапрыемстваў, для забеспячэння радыяцыйнай бяспекі насельніцтва, функцыянавання аб’ектаў народнай гаспадаркі, аператыўна прымаў неабходныя рашэнні, пры неабходнасці сяго-таго ўшчуваў, але ствараў добрую псіхалагічную атмасферу, практычна падтрымліваў нашы рашэнні, а часцяком і абараняў, асабліва перад рэспублікай і Масквой. Практычна ўвесь май 1986 г. ён знаходзіўся ў раёне, толькі зрэдку ад’язджаў у суседнія раёны, каб пракантраляваць ход ажыццяўлення эвакамерапрыемстваў ці трапіць на нараду ў Гомель, спаў па 2-3 гадзіны ў суткі і, безумоўна, вельмі стаміўся. У сярэдзіне мая 1986 г. у яго здарыўся гіпертанічны крыз. Мы прапанавалі яму абследаванне і лячэнне ў Гомелі. Аднак ён, атрымаўшы неабходную першую медыцынскую дапамогу, адмовіўся ад шпіталізацыі.

5 мая 1986 г. недзе гадзін у 15 эвакуацыя ў асноўным завяршылася. Было вывезена 12,6 тыс. чалавек (у тым ліку 6,5 тыс. працаздольнага насельніцтва) і 51 тыс. галоў жывёлы ўсіх відаў.

Мясцовыя партыйныя і савецкія органы правялі каласальную арганізацыйную работу па стварэнні элементарных умоў для жыцця, працаўладкавання і побытавых умоў для эвакуіраванага насельніцтва, аднаўлення вытворчых працэсаў. Прыём і размяшчэнне эвакуіраваных ажыццяўлялі спецыяльныя камісіі, у склад якіх акрамя дэпутатаў уваходзілі прадстаўнікі партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх органаў. Людзей уладкоўвалі ў незанятыя жылыя дамы, у школы, клубы, да сваякоў, да знаёмых і незнаёмых. Толькі адзін характэрны для тых дзён прыклад. Старшыня Дварышчанскага сельсавета Пётр Арэшчанка (ужо нябожчык) у перыяд эвакуацыі аддаў свой прасторны дом перасяленцам, а сам з сям'ёю пасяліўся ў суседзяў. І такіх выпадкаў сотні.

У першай дэкадзе мая 1986 г. адбыліся сумесныя сесіі эвакуіраваных Радзінскага і Аравічскага сельскіх Саветаў Хойніцкага раёна з Дварышчанскім сельскім Саветам, які прыняў іх. Абмяркоўваліся задачы ў справе нармалізацыі жыцця і дзейнасці эвакуіраванага насельніцтва.

Вялікую работу правялі ў раёне супрацоўнікі райспажыўсаюза на чале з Анатолем Кулагам і камбіната грамадскага харчавання з Кацярынай Шваяковай. Спачатку забяспечылі эвакуіраваных усім неабходным — прадуктамі, адзеннем, абуткам і іншымі таварамі. Да існуючых рынкавых фондаў раёна дадаткова дадалі муку, крупы, хлебабулачныя і макаронныя вырабы, сухое малако, малочныя, рыбныя і мясныя кансервы, мяса, рыбу, абутак, вопратку… Забеспячэнне таварамі першай неабходнасці ў месцах эвакуацыі спачатку ажыццяўлялася бясплатна, а таксама ў крэдыт. Пазней прадпрыемствы гандлю абслугоўвалі не толькі мясцовае насельніцтва, а і камандзіраваных — будаўнікоў, медыкаў, шафёраў, супрацоўнікаў гандлю, што працавалі вахтавым метадам, ваенных і іншыя катэгорыі працаўнікоў.

У населеных пунктах Гомельшчыны, дзе размясцілася эвакуіраванае насельніцтва, толькі ў 1986 г. прабурылі 87 артсвідравін, праклалі новыя водаправодныя сеткі працягласцю 225 кіламетраў. У Хойніцкім раёне за гэты час з'явіліся 42 кіламетры водаправода, было прабурана 29 новых артэзіянскіх свідравін, пачышчаны і добраўпарадкаваны 4 тыс. калодзежаў. Гэта дазволіла забяспечыць патрэбу ў пітной вадзе, бесперабойную працу лазняў, пральняў, прадпрыемстваў хімчысткі, грамадскага харчавання, а таксама гаспадарчыя патрэбы і правядзенне дэзактывацыі.

Тым часам сітуацыя на АЭС усё пагаршалася. Паводле вельмі скупых звестак, якія даходзілі да нас з розных крыніц, стала вядома, што прыкладна 2 мая на станцыі адбыўся яшчэ адзін магутны выкід радыеактыўных рэчываў, не меншы за першапачатковы. Трохі пазней мы даведаліся, што пад адным з разбураных рэактараў пачалі капаць тунель, каб па ім пусціць вадкі азот для ахаладжвання рэактара, бо тэмпература там была каля 2 тыс. градусаў і ўвесь час павышалася. Узрастала пагроза прарыву вады, некалькі тысяч тон вады ў ёмістасці для ахаладжвання ў рэактар. На думку вучоных-атамшчыкаў, мог адбыцца выбух, магутнасць якога была б роўная ўзрыву вадароднай бомбы. Тады неабходна было б эвакуіраваць усё жывое з 350-кіламетровай зоны.

Сёння пра гэта ўжо можна сказаць. Прыкладна 5 мая па закрытых каналах мне паступіла каманда рыхтаваць усе партыйныя дакументы (картачкі партуліку, асабовыя справы кіраўнікоў і інш.) для вывазу за межы вобласці і размяшчэння ў адным з райцэнтраў Брэстчыны. Нягледзячы на тое, што ў апараце райкама меўся адпаведны супрацоўнік, які вёў улік дакументаў, за іх цэласць асабіста адказваў першы сакратар райкама партыі. Пра магчымую эвакуацыю партыйнай дакументацыі ведалі ў раёне трое — я, шафёр райкама А. Данчанка і загадчыца сектара партуліку Л. Васілеўская. Калі я запрасіў у кабінет Любоў Арсеньеўну і даручыў

ёй рыхтаваць да эвакуацыі ўсе сакрэтныя дакументы, сабраць неабходныя асабістыя рэчы і падрыхтавацца да ад'езду ў Брэсцкую вобласць у любы момант, яна спачатку трохі разгубілася, а пасля пачала плакаць.

Сітуацыя вырашылася 6 мая, прыкладна ў сярэдзіне дня. У нашым раёне знаходзіўся Старшыня Савета Міністраў БССР М. Кавалёў, які ведаў пра тое, што можа адбыцца на ЧАЭС у выпадку прарыву вады і якія там робяцца захады, каб прадухіліць выбух. Але нам, кіраўнікам раёна, мне і Абухаву, Міхаіл Васільевіч нічога не сказаў. Прыкладна а першай гадзіне мы ўтрох пайшлі ў рэстаран, каб трохі падсілкавацца. Паколькі ў раёне практычна ўвесь час знаходзіліся прадстаўнікі не толькі абласных і рэспубліканскіх кіруючых органаў (ЦК, Саўміна, ваенныя, МВД, Міністэрства аховы здароўя і інш.), але і саюзных органаў, у кабінетах першага сакратара райкама, старшыні райвыканкама былі пастаўлены апараты сакрэтнай урадавай сувязі. Адзін з такіх тэлефонаў стаяў і ў рэстаране. У час абеду да мяне падышоў дзяжурны і папрасіў да тэлефона Старшыню Урада. Міхаіл Васільевіч выйшаў у суседні пакой, пагаварыў і вярнуўся ў вельмі добрым настроі. Ён паведаміў, што пагроза вадароднага выбуху на ЧАЭС ліквідавана. Толькі пасля гэтага мы зразумелі, наколькі сур'ёзным было становішча ў Чарнобылі. Калі б, барані божа, гэта здарылася, не было б ні Кіева, ні Мінска, ні тым больш Гомеля, Бабруйска, Баранавічаў, не кажучы пра малыя населеныя пункты.

Не магу не расказаць і яшчэ пра адзін выпадак, сведкам ягога быў і вакол якога хадзіла шмат розных чутак, а яшчэ больш домыслаў, асабліва калі пачаліся атакі на партыю. Прыкладна 12 ці 13 мая з мэтай вывучэння становішча і неабходнай дапамогі насельніцтву непасрэдна на месцы, у раён прыехаў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. Слюнькоў. На той час Мікалай Мікітавіч знаходзіўся на гэтай пасадзе ўжо чацвёрты год і партгасактыў успрымаў яго чалавекам вельмі жорсткім, але справядлівым і канкрэтным. Безумоўна, я, як і кожны б на маім месцы, трохі пабойваўся прыезду першай асобы рэспублікі, але больш спадзяваўся на тое, што ягоны прыезд паспрыяе вырашэнню шматлікіх задач, якія аднаму раёну былі не па сіле. Небходна было будаваць і будаваць хутка, да зімы, у чыстых зонах раёна жыллё для перасяленцаў, ствараць для іх побытавыя ўмовы, працоўныя месцы і шмат чаго іншага.

Дарэчы, так у рэшце рэшт і атрымалася. М. Слюнькоў імгненна прымаў рашэнні, адразу ж даваў даручэнні Саўміну, міністрам, іншым кіраўнікам, а мяне прасіў інфармаваць, калі нейкае ягонае даручэнне выконвалася несвоечасова. Аднак мне не давялося турбаваць першую асобу рэспублікі, дакладаючы аб невыкананні яго даручэнняў — у той час гэтага проста не магло быць.

Пра той прыезд М. Слюнькова праз некалькі гадоў шмат пісалі, што вось, маўляў, прыехаў у раён і прывёз з собою чыстыя прадукты, асабістых кухараў... Як сведка хачу засмуціць тых, хто гэту інфармацыю высмактаў з пальца. Я сустрэў «Чайку», на якой прыехалі М. Слюнькоў і А. Камай на мяжы з Калінкавіцкім раёнам прыкладна а 10-й гадзіне раніцы. Разам мы наведалі 30-кіламетровую зону, затым паехалі ў саўгас «Судкова», дзе Мікалай Мікітавіч і Аляксей Сцяпанавіч сустрэліся з перасяленцамі. Пытанняў у людзей, бясспрэчна, было шмат, але галоўным заставалася адно — калі нам дазволяць вярнуцца ў свае родныя мясціны. Ніхто не мог падумаць, што вяртання ўжо ніколі не будзе.

У абед мы паехалі ў рэстаран. Там ужо працавалі кухары і афіцыянты. Накіраваныя ў раён з іншых гарадоў рэспублікі замест нашых супрацоўнікаў, эвакуіраваных з раёна разам з дзецьмі. Абед быў самы звычайны, толькі на першае Мікалай Мікітавіч заказаў сабе малочны суп. І ніякіх спецыяльных страў, а тым больш кухараў не было і не магло быць. Пасля абеду першы сакратар ЦК звязаўся па тэлефоне ВЧ з сакратаром ЦК КПСС Я. Лігачовым. Мы з Камаем выйшлі з кабінета, але пасля з абрывачных слоў я зразумеў, што для Мікалая Мікітавіча

было нечаканым прынятае Масквой рашэнне аб узвядзенні драцяной агароджы па перыметры 30-кіламетровой зоны. Пасля размовы з ЦК КПСС Камай і Слюнькоў накіраваліся ў Брагін.

Хацелася б расказаць і пра выпадак, які здарыўся гадоў праз шэсць-сем пасля прыезду Слюнькова ў наш раён. Ужо не было КПСС. Мікалая Мікітавіча ў 1987 г. перавялі ў Маскву, выбралі сакратаром ЦК КПСС, а пазней адбыўся распад СССР і росквіт «дэмакратыі». Слюнькоў, відаць, пачаў рыхтаваць дакументы для афармлення пенсіі, а вось дакументаў, якія б пацвярджалі ягоны ўдзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС, не меў. Удзел у гэтых работах маглі пацвердзіць паказанні сведак. Мне пазваніў Г. Панькоў, які на той час працаваў у апараце Савета Міністраў і займаўся праблемамі наступстваў катастрофы, і спытаў, ці змагу я даць такі дакумент Слюнькову. Я запытаў Георгія Мікалаевіча: «Хіба, акрамя мяне няма больш паважанага сведкі?»

На былых партыйных работнікаў тады вялася шалёная атака. Ад нас, як ад пракажоных, шмат хто адхіснуўся, кінуў званіць, размаўляць, вітацца. Тычылася гэта, безумоўна, і прадстаўнікоў найвышэйшага эшалона, у ліку якіх быў і Слюнькоў. Дык вось, Панькоў сказаў мне, што Слюнькову не хапае трох паказанняў сведак, а сёй-той, хто мог бы выступіць у гэтай якасці сведак, адмаўляецца гэта рабіць. Я адказаў Георгію Мікалаевічу, што гатовы пацвердзіць гэта, падпісаў адпаведны дакумент і перадаў яго Панькову.

У першыя майскія дні 1986 г. у раён была накіравана вялікая колькасць кіраўнікоў і спецыялістаў у розных галінах з Мінска і Масквы, у тым ліку з Саюзнага Дзяржаграпрама і іншых органаў. Сярод іх было некалькі чалавек з Навукова-даследчага інстытута медыцынскай радыялогіі АМН СССР, што знаходзіўся ў г. Обнінску. 2 мая мы з Абухавым сустрэліся з імі ў райвыканкаме, праінфармавалі аб сітуацыі. Пазней наведалі некаторыя гаспадаркі, сыркамбінат, пераканаліся, што малако ўтрымлівае вялікую колькасць радыеактыўных рэчываў, харчавацца ім нельга, як і нельга вырабляць з яго сыры. Акрамя таго, спецыялісты з Дзяржаграпрама СССР і г. Обнінска прытрымліваліся таго пункту гледжання, што ў найбліжэйшы час усё пагалоўе неабходна адправіць на мясакамбінаты.

Мы адвялі для іх адзін з кабінетаў райвыканкама і папрасілі падзяліцца сваімі меркаваннямі пісьмова, каб спасылаючыся на іхняе заключэнне, ставіць пытанне перад вобласцю і рэспублікай. Яны абяцалі падрыхтаваць адпаведны дакумент праз дзве-тры гадзіны. Аднак ні праз дзве, ні праз пяць гадзін, ні праз суткі мы так і не дачакаліся ад масквічоў і обнінцаў ніякіх дакументаў. Ведаю толькі, што яны сазваньваліся са сваімі начальнікамі, а тыя, відаць, параілі не рабіць гэта ў пісьмовай форме.

Супрацоўнікі райкама партыі сумесна з партактывам увесь час вывучалі грамадскую думку, настрой людзей, маральна-псіхалагічны клімат у працоўных калектывах, у сем'ях. Галоўнай іх задачай было кампетэнтнае тлумачэнне рэальных падзей. Трэба было абавязкова давесці да свядомасці людзей неабходнасць эвакуацыі, рассялення і аздараўлення насельніцтва, правядзення комплексу мер па дэзактывацыі забруджаных тэрыторый, іншыя рашэнні Урадавай камісіі, штабоў па ліквідацыі наступстваў аварыі, трэба было неадкладна авалодаць пэўнай сумай спецыяльных ведаў, што тычыліся пытанняў радыяцыі, радыёфізікі, радыёбіялогіі, медыцыны. Яны ўзялі на сябе вялізны аб'ём работы і адказнасць за лёсы людзей. Практычна кругласутачна праводзілася напружаная работа з мэтай рэалізацыі ўсяго комплексу першачарговых мерапрыемстваў дзеля вызначэння адзіна магчымых сродкаў і форм кіравання грамадска-палітычнымі з'явамі. У той жа час незвычайнасць і супярэчлівасць сітуацыі, складанае ўзаемадзеянне знешніх і ўнутраных, аб'ектыўных і суб'ектыўных, асабістых і грамадскіх, псіхалагічных і паводзінскіх фактараў значна ўскладнілі выбар рашэнняў для ўсіх кіруючых кадраў, якія мелі дачыненне да ліквідацыі наступстваў аварыі. І тым не менш зладжана і аператыўна вырашалася большасць задач і праблем. Трэба было

апярэджваць падзеі, падаючы аб'ектыўную і своечасовую інфармацыю пра стан спраў у пацярпелых рэгіёнах. А яе так неставала.

Аналіз маральна-псіхалагічнага стану людзей, пабуджальных матываў іх паводзін, заснаваны на назіраннях падчас штодзённых стасункаў, паказаў, што ў першыя гадзіны і нават суткі пасля аварыі ў населеных пунктах 30-кіламетровай зоны і за яе межамі склалася надзвычай неспрыяльная псіхалагічная атмасфера. Асноўнай прычынай гэтага была адсутнасць своечасовай і пэўнай інфармацыі пра становішча на АЭС, пра захады па памяншэнні ўплыву наступстваў аварыі на жыццё і здароўе людзей. Калі афіцыйная інфармацыя пра падзеі на станцыі ўпершыню прагучала ў праграме «Время» толькі напрыканцы красавіка 1986 г., дык заходнія радыёстанцыі ўжо праз некалькі гадзін пасля аварыі паведамілі пра «тысячы загінуўшых у Чарнобылі». У выніку хадзіла вялікая колькасць разнастайных чутак і здагадак, а ў людзей узнікала натуральнае ў такіх выпадках псіхалагічнае ўзрушэнне. Такім чынам, экстрэмальная сітуацыя паставіла праблему спасціжэння кіраўнікамі механізма сацыяльнага рэгулявання жыццядзейнасці чалавека. Ад іх патрабавалася дамагчыся высокай псіхалагічнай устойлівасці людзей. І той факт, што мясцовыя органы кантралявалі сітуацыю ў забруджаных раёнах, сведчыць пра велізарную ролю, якую адыгралі іхні аўтарытэт, годныя ў большасці выпадкаў паводзіны кіраўнікоў і дэпутатаў. Вялікую арганізацыйную работу ў Брагінскім, Нараўлянскім, Хойніцкім раёнах праводзілі сакратары абкама партыі А. Камай, У. Санчукоўскі, С. Бабыр, М. Вайцянкоў, І. Смаляр, намеснікі старшыні аблвыканкама Т. Крутаўцова, У. Леўчык, А. Шахновіч.

У экстрэмальных умовах асабліва выявілася псіхалагічная ўстойлівасць, падрыхтаванасць да валявых дзеянняў, высокія маральныя якасці, вытрымка, асабістая мужнасць большасці кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў, арганізацый і ўстаноў, усяго партыйна-гаспадарчага актыву раёна. Высокія асабістыя якасці прадэманстравалі ў той складаны час дырэктар саўгаса «Аравічы» Г. Міхайлаў, старшыні калгасаў «1 Мая» , «Новае жыццё», «Кастрычнік», імя Жданава М. Новік, І. Васюк, М. Васюк, У. Лобан, дырэктары саўгасаў «Судкова», «Стралічава» М. Садчанка, А. Мартыненка, начальнік РАУС Л. Жаўняк, кіраўнік аб'яднання «Сельгастэхніка» В. Згурскі, дырэктар камбікормавага завода М. Курленка, начальнікі ПМК І. Зайцаў, Р. Шпакоўскі, намеснік галоўнага санітарнага ўрача раёна М. Салаўёў, загадчык фінансавага аддзела райвыканкама В. Сянько, дырэктар завода жалезабетонных вырабаў І. Муравейнікаў, дырэктар сырзавода В. Алёшына і сотні іншых актывістаў.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# ВІТРАЖ У ЧАРОЎНЫ КРАЙ

Літаратурны альманах «Белавежа» — томік амаль на дзвесце старонак, у якім змешчаны творы 30 аўтараў, лёс якіх тым ці іншым чынам звязаны з Беласточчынай. Старажытны край, з унікальнай пушчанскай прыродай, хрысціянскімі святынямі, калыска славянскага пісьменства — Беласточчына, мяркуючы, па гэтым альманаху (а ён, як сведчыць пазнака перад тытульным аркушам ужо «кніга восемдзесят трэцяя») — беражліва захоўвае беларускае слова, што спрадвеку гучала на тых абшарах. Прынамсі, у культурнай і навуковых сферах гэта назіраецца.

У альманаху прадстаўлена паэзія і кароткая проза літаратараў рознага ўзросту — старэйшы нарадзіўся ў 1922 годзе. Гэта вядомы празаік, крытык Янка Жамойцін. Маладзейшы, а, дакладней, маладзейшая — Кацярына Сянкевіч (1991 года нараджэння), паэтэса і мастачка, цяпер студэнтка Інстытута выяўленчага мастацтва Люблінскага ўніверсітэта. Фактычна ў томіку паказваецца «зрэз» літаратуры на беларускай мове Беластоцкага краю на працягу трох пакаленняў.

Пэўнай логіцы эвалюцыі падпарадкавана структура альманаха. Аўтары падаюцца не па алфавіце, а па даце нараджэння (ад старэйшага да маладзейшага). Прыводзяцца кароткія біяграфічныя дадзеныя. Перад чытачом паўстаюць часам нялёгкія, пакручастыя жыццярысы творцаў. Некаму выпала прайсці ГУЛАГ (Янка Жамойцін), некаму — франты Вялікай Айчыннай (Георгій Валкавыцкі быў чырвонаармейцам), Васіль Петручук — закончыў школу афіцэраў, мае баявыя ўзнагароды. Ёсць сярод аўтараў прафесары (Алесь Барскі, Галіна Тварановіч, Ян Чыквін), ёсць студэнты і аспіранты, журналісты і земляробы, інжынеры і эканамісты, мастакі і навукоўцы, настаўнікі і грамадскія дзеячы, лекар Юрка Геніюш (закончыў медыцынскую акадэмію ў Беластоку і ў гэтым горадзе працаваў лекарам) і вадалаз Віктар Стахвюк (паспрыяў выхаду ў плаванне першага беларускага карабля, што хадзіў па акіянічных прасторах). Хто цяпер жыве ў Варшаве, Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, а хто ў вёсках і хутарах.

Маецца ў альманаха адна асаблівасць — сярод аўтараў, якія жывуць і ствараюць новыя ўзоры мастацтва слова, апублікаваны творы і тых, што ўжо назаўжды адышлі ад нас: Янка Жамойцін, Мікола Гайдук, Юрка Геніюш, Міхась Шаховіч. Гэта даніна памяці сяброў літаб’яднання «Белавежа» сваім калегам. Іх слова ўпоравень са словам жывых творцаў гучыць і перадаецца чытачам, адбіваецца ў нашай свядомасці, застаецца неўміручым.

Адкрываюць альманах успаміны Георгія Валкавыцкага. Ён быў заснавальнікам і рэдактарам беларускамоўнай беластоцкай газеты «Ніва». Стаяў ля вытокаў Беларускага літаратурнага аб’яднання ў Польшчы і з’яўляўся першым яго старшынёй (1958—1960). Напачатку ідзе — абразок з яго дзяцінства «Калыска», дзе яскравымі фарбамі падаюцца колькі драматычных эпізодаў з маленства, а затым публікуюцца вытрымкі з кнігі «Віры. Нататкі рэдактара», у якіх яскрава апавядаецца як паўставаў беларускі літаратурны рух на Беласточчыне. Як з’яўляліся

першыя вершы мясцовых аўтараў, як яны шукалі свайго слова і прагнулі дасканала вывучаць беларускую літаратурную мову. А ў беластоцкім краі безумоўна ёсць у такім імкненні свая спецыфіка — кожнаму будучаму мастаку краснага пісьменства неабходна было пралажыць масток ад сваёй гаворкі, што бытуе ў роднай вёсцы, менавіта да беларускай літаратурнай мовы, а не да дзяржаўнай польскай. Але ж, вядома, гэтаму спрыяла традыцыя продкаў, іх праваслаўная вера, гісторыя краю, павязаная з Вялікім Княствам Літоўскім і вытокамі славянскага кнігадрукавання ў Заблудаве і Супраслі, дый, магчыма і назвы бліжэйшых населеных пунктаў, дзе часта сустракаецца корань «бель» — Беласток, Белавежа, Бельск-Падляшскі, Бялевічы, Белагорцы, Белы Луг…

Успаміны Г. Валкавыцкага — своеасаблівая сістэма адліку, якая дэманструе, як распачалася і далей развівалася беларуская літаратура Беласточчыны.

Пры чытанні твораў «белавежцаў» выразна прасочваецца дыялектычнае адзінства традыцыі і эвалюцыі вобразаў, формаў, тэмаў...

Напрыклад, дамінантай, праходзіць у творчасці аўтараў альманаха вобраз лесу-пушчы-бору. Ён відавочна архітыпічны. Гэта свайго кшталту топас, запазычаны (прачытаны) у самога белавежскага краю, шматкроць адбіты ў падсвядомасці творцаў:

*...На гарызонце лесу готыка,*
*А я іду ў лясную гушчу,*
*Пад лесу царскія вароты,*
*Да хараства малюся пушчы…*

(Віктар Швед,
«На гарызонце лесу готыка»)

*...На гарызонце*
*Лес Святы.*
*Надзея продкаў,*
*Іх сіла,*
*І прыпынак*
*Стомленай душы.*

(Міхась Шаховіч,
«Святы лес»)

*І сасна хістане станам стройненькім,*
*Ад бяроз панясе гулам роўненькім,*
*Годна сядуць яліны вяльможамі,*
*Ўстане бор векавы*
*заварожаны,*
*упрыгожаны,*
*з перазвонамі,*
*з перагуламі,*
*з песняй чулаю,*
*сэрцу мілаю,*
*з нашай працаю,*
*з нашай сілаю...*

(Алесь Барскі,
«Белавежскія хлопцы»)

*А мы плылі, і пушча плыла з намі,*
*Жывою казкай і жывым сезамам.*
*Насустрач карагоды дрэў і ценяў.*
*Ты ўсё глядзела ў шчырым захапленні,*
*На дзіўную красу жывой прыроды...*
*...Пушча здалася першабытным раем,*
*А ў ёй былі мы — як Адам і Ева…*

(Уладзімір Гайдук,
«У Белавежскай Пушчы»)

Пушча — крыніца сілы, хараства, захаплення і нават кахання. Карэнні пушчанскіх дрэў — падмурак жыцця:

*У старэнькай калысцы*
*з надмагільных карэнняў*
*вырастала калісьці*
*не адно пакаленне*

(Віктар Швед,
«Яднанне з прыродай»).

Сцяна лесу — абарончы мур, што спрадвеку аберагаў тутэйшага чалавека, гэта прытулак і дах — хаты пабудаваныя з тых дрэў, і паветра, насычанае пахам гаючай ігліцы, — выток здароўя і моцы.

Яшчэ здзіўляе паэтаў такі парадокс — лес адзіная прастора быццам бы абмежаваная, але ў той жа час бязмежная, таямнічая тым, што яна адначасова і застылая, і паўсюдна жывая, рухомая. І калі ідзеш па ёй, па адной ледзь прыкметнай сцяжынцы — ад таго месца, дзе ступіла твая нага, разыходзяцца тысячы іншых сцяжын:

*Нетры бору страшаць цемрай,*
*Нібы пашчаю бязмернай*
*Казачны дракон.*
*Там здаецца, ўсё застыла,*
*А ўсё сосны злая сіла*
*Узяла ў палон...*

*Пойдзеш ты туды — пачуеш,*
*Што жыве там і працуе*
*Кожны пункт зямлі.*
*Там пад кожнаю былінкай*
*Не адна жыцця сцяжынка —*
*Многа каляін.*

(Дзмітры Шатыловіч,
«Сонца золатам праменняў…»)

І калі лес-пушча — гэта «жывая трываласць», «рухавы спакой», то неба — гэта сімвал зменлівасці часу, палёту і шляху ў невядомае — прастора відавочна адкрытая — і апрыёры светлая, а напрамак да той адкрытай мяжы ўказваюць птушкі.

*...Прынаднаю, спакусай гостраю —*
*імклівы шлях угору,*
*а доўжыцца разбег...*
*Ды вялікай птушцы знаць:*
*пакрысе спеюць высі*
*і крылы крэсляць Ш Л Я Х.*

(Галіна Тварановіч,
«Марудны той разбег…»)

*...Журавы адчыняюць ключом*
*Дзверы ў белую спальню анёлаў...*

(Міхась Андрасюк,
«Прадзе восень шаўковыя дні…»)

І ў небе над лесам, над рэкамі і азёрамі, у аблоках, адбіваюцца мары і пачуцці. Таму што: побач нас // калышуцца думкі маладосці // пад купалам неба (Уладзімір Саўчук, «Побач нас…»). І ў маладосці засталося першае каханне. Безумоўна, вечная тэма паэзіі — каханне — аднак кожнае пакаленне пра гэтае дзіва выказваецца па-свойму. Эвалюцыю вобраза кахання можна назіраць і ў дадзеным альманаху .

У старэйшых творцаў — яно цнатлівае, журботнае. І калі яно з'яўляецца — то шчымлівае, бездакорнае. Як напісаў Сакрат Яновіч: «веру ў каханне крынічна-чыстае».

*...Каб ты яшчэ ўчора прыйшла на спатканне,*
*Я сэрца сваё для цябе перадаў.*
*Яго ў невымерных знямогах чакання,*
*Праз многа гадоў я табе пратрымаў...*

(Дзмітры Шатыловіч,
«Каб ты яшчэ ўчора прыйшла»)

*...Сустрэліся ў сне нерэальна жывым —*
*Ты маладая і я малады.*
*Ты ў белай сукенцы, без вэлюму толькі*
*А я — у святочнай кашуліне жоўтай.*

*Правай рукой трымаю тваю далонь, левую,*
*Не ідзем, а плывем між зямлёю і небам.*
*Над намі той свет, дзе быў прапачатак...*
*Вось дадзена нам яшчэ раз яго ўбачыць.*

(Уладзімір Гайдук,
«Сон»)

Якую пазнавальную карціну перадаў Уладзімір Саўчук. І хоць паэт прысвяціў яе сваёй сяброўцы Валі Коц, аднак героямі гэтага твора, безумоўна, у свой час быў ці мог быць кожны з нас.

*Кругом цішыня*
*малады вецярок*
*пляце косы бярозам*

*каханая, прысядзем*
*сярод буйнай цішыні*

*з-за гаю выплыў*
*камандзір ночы*
*лічыць зоркі — дзівуецца*
*прыгожа быць маладым*

*кахаць і быць каханым*

І нават калі каханне не аказалася вечным, хоць пра такое каханне заўсёды марыцца, на прыход якога заўжды прытойваецца надзея, — вобраз гэтага пачуцця малюецца светлымі фарбамі.

*Не трэба нам пытаць замнога.*
*Кожны з нас пайшоў сваёй дарогай,*
*Бездарожжам, полем ці аблогай,*
*Не да майго і не твайго парога...*

*Шукалі кожны з нас шчасця незямнога...*

*Не трэба ўспамінаць замнога,*
*Бо ў сэрцы рана ўсё гарыць трывогай,*
*Што можа быць яшчэ жыве дарога*
*І словы, што вярнуцца дапамогуць.*

(Міра Лукша,
«Не трэба нам пытаць замнога…»)

Ці вось верш, у якім пра каханне наўпрост не гаворыцца, і магчыма ў гэтым творы закадзіраваны «трапяткі крышталь» чалавечага жыцця, яго

«двухбаковасць», абвівалентнасць станоўчага і адмоўнага, але калі ўзяць сэрца, як сімвал гэтага пачуцця, то мы бачым у, здавалася, простым аксюмаране, трапную характарыстыку каханню, як вельмі складанай, амаль непадуладнай нашай волі з'яве.

*Трымаю ў далонях*
*Сэрца дзве палавінкі,*
*Намагаюся іх аб'яднаць —*
*Прыкладваю, паварочваю,*
*І ніяк не магу дапасаваць.*
*Адна палавінка трымціць*
*І разгараецца,*
*А другая — ледзяная —*
*Лёгка з рук выслізгваецца.*

(Лідзія Маліноўская,
«Дзве палавінкі»)

Аднак усё ж такі бывае, калі «палавінкі» дапасоўваюцца. Іншая паэтка, фактычна, проста замяніла сэрца на... ноты. І вынайшла не трапяткі крышталь жыцця, а песню, якая ў каханні нараджае новае жыццё. Тут прысутнічае (можа, узніклая міжвольна) алюзія да Песні, якую хацеў вынайсці Конрад у паэме Міцкевіча «Дзяды», толькі гэтым разам спеў не для ўсяго народа, а больш камерны — толькі для двух чалавек...

*Ціхія словы пішу*
*пра каханне нот,*
*як дзве палавіны,*
*ноты чорныя ў свеце,*
*злучаюцца ў адну цэласць —*
*у нот сеці,*
*абнімаюцца ў дарог радку,*
*і цалуюць*
*адна нота другую ноту.*

*Песня заканчваецца,*
*а новае жыццё ўсё цвіце санетамі.*

(Юстына Каролька,
«Ціхія словы пішу...»)

І бянтэжыць, і вярэдзіць трымтлівую душу маладзейшага творцы ў каханні тое, што яно можа вельмі лёгка завалодаць чалавекам — зрабіць яго залежным, а гэта ўжо і не такое чыстае і светлае пачуццё, а, як усклікае паэтэса:

*Каханне — гэта шкодны наркотык,*
*Чорны кот, на якога палююць самалёты.*
*Паміраем з ім тысячы разоў*
*І яшчэ жывем!*
*І яшчэ жывем!*

(Кацярына Сянкевіч,
«Каханне — гэта шкодны наркотык…»)

Загадка кахання вядзе да пошуку сэнсу жыцця, сэнсу нашага існавання. Значны набытак аўтараў альманаха — філасофская лірыка. Вядома, гэта паказчык выспеласці творчай супольнасці.

*Як вогнішча ўначы, жыццё людское:*
*Спачатку цепліцца іскрынкай кволай.*
*Агеньчык доўга поўзае змяёю*
*І полымем успыхвае вясёлым.*

*Яно гарыць сабе спакойна потым,*
*І прытухае на вачах лагодна,*
*Патлее так, скаванае лянотай,*
*І попелам становіцца халодным.*

(Віктар Швед,
«Як вогнішча ўначы, жыццё людское»)

*Жыццё й мяне любіла кратаць:*
*Нароўні з радасцю сыпала жуды…*
*Але ж не з тымі й там я быў.*

*Ладдзя плыве… Плывуць і берагі,*
*Плывуць падзеі і краіны,*
*І мне застаўся шлях адзіны —*
*Пакуль ёсць шчэ хвіліна часу,*
*Плыць-плыць бяспамятна туды,*
*Дзе мы нарэшце будзем разам.*

(Ян Чыквін, «Ладдзя»)

*Не камень я, не векавечны —*
*Таму згартаю святло да святла,*
*Таму збіраю цяпло да цяпла.*

*І свет трымаю ў абдымку хлапечым.*
*Насустрач людзям душа ўсё імкне —*
*І, можа, гэта і ёсць жыццятворнасць ва мне?*

*Маўклівы сэрцу чаўнок — ён трапеча*
*І тчэ кілім з невагомага жалю*
*З выяваю болю на дрогкіх скрыжалях.*

*Калісьці песняй для сэрца была агнеча*
*Цвітучай любасці ў садзе пачуццяў —*
*Цяпер адно сны тускноты марэжкаю ткуцца.*

*Наводдаль спеўна змяркаецца.*
*А я — аскепкі цяпла ад цяпла,*
*А я — агніцы святла ад святла.*

(Ян Чыквін,
«Не камень я, не векавечны…»)

У альманаху надрукаваны абразок Сакрата Яновіча «Існаванне», у якім ёміста, з доляй іроніі да прагі чалавека раскрыць таямніцу свайго існавання гаворыцца:

«*Каб гусцей жыць, прыдуманы гадзіны і хвіліны. Бачу лічбы ў вачах тых, што спяшаюцца на работу, у кіно, на спатканне або да знаёмых. Прыдумалі таксама і вагу і шмат чаго яшчэ, не гаворачы яшчэ пра зялёна-шкляныя слепнякі на скрыжаваннях.*

*Ці можам пералічыць прыдуманае?*

*Найперш прыдуманы пачатак і канец, з перакананнем, што гэта можа мець заканчэнне ў бясконцасці. А не толькі з жадання быць патрэбным. Хто зразумеў сваю непатрэбнасць з'яўляецца такой жа выдумкай, як грошы і машыны, ці бомбы.*

*Прыдумваем дзеля штораз іншага існавання. Але існаванню напляваць на ўсё тое, і нават на тое, ці прыдумаем мы сэнс свету або параскідаем яго ў пылінкі атамаў. Што ні зробім — з'явіцца тым жа існаваннем. Як бацькі ў сыне, зямля ў людзях, матэрыя ў электронах, у нічым…*

*У бясконцасці*».

Сакрат Яновіч — творца, які відавочна мае ўчэпісты позірк, востры як іголка, спалучаны нябачнай ніткаю з яснай думкай. Існаванне ўсяго існага (даруйце за каламбур) вымяраюць гадзіны і хвіліны, г.зн. час. Не было б яго ці адбывалася яно — нечае ці нечага існаванне?

Час — як вобраз — таксама даволі частотны ў паэзіі, прадстаўленай у альманаху:

*Калі ўсё жыццё перамолата,*
*Калі ўсе хвіліны растрачаны,*
*Мы часу не купім за золата,*
*Не атрымаем у спадчыну.*

(Віктар Швед, «Час»)

Час — гэта найдаражэйшае багацце. Ці час — рака прамінання…

*Час плыве ракой.*
*Выйду раніцай*
*Збіраць на траве брыльянты,*
*Пакуль іх сонца не падніме*
*Увышыню.*

*Дыяментаў поўныя далоні.*
*Ці змагу задобрыць*
*Прамінанне?*

(Жэня Мартынюк,
«Час плыве ракой…»)

У іншым вершы Жэні Мартынюк час ляціць «канём белагрывым». Гэтым паэтка задае рытм «прамінанню», паскарае яго бег. І гэтае паскарэнне адчуваецца ў «восені чалавечага жыцця»…

У Лідзіі Маліноўскай час — таксама, падобна як і ў папярэдняй паэткі, казачны конь, які нас пераносіць ад цяперашняга, што гіне, да новага цяперашняга, што запальваецца ад выбітай капытом іскрыны:

*Час, як з казкі конь*
*З шыкоўна развеянай грываю,*
*Капытамі выкрасае іскры,*
*Ад яго палёту*
*Бясследна гіне мінулае,*
*Куды ніколі не зможам*
*Вярнуцца.*

Але ж не хочацца пагаджацца з паэткай, што мінулае гіне бясследна. Мы ж усё-ткі пакідаем за сабой нешта зробленае, вынайдзенае, здабытае… Хутчэй гэты песімізм выступае тут пэўным папярэджаннем, каб мы не разгубіліся ў такім ашаламляльным палёце і паспелі нешта каштоўнае зрабіць для сваіх бацькоў, для сябе, для дзяцей, для навакольных і будучых «вершнікаў часу».

А вось складаная — састаўная метафара, дзе час стварае пастку-мястэчка, у якім усё нібыта замаруджваецца, спыняецца, і плынная рэчка, і вечная дарога, і там, пэўна назаўсёды, застанецца зmораны коннік.

*А ночку, здатныя часу далоні,*
*З асколкаў свінцовых ткуць невад мястэчка,*
*Бяжыць туды свежаадкрытая рэчка*
*І зmораны вечнай дарогаю коннік.*

(Міхась Андрасюк,
«За борам»)

І чытачу застаецца толькі лавіць успышкі сваіх асацыяцый — што гэта за мястэчка? Млечны Шлях? Сусвет? Альбо начны цень ад бору?.. А можа, яшчэ нешта? І кожны будзе мець сваю праўду, бо задумваючыся над метафарай часу, сам трапляе ў пастку да таго ж часу…

Апакаліптычную карціну, калі час знікне — перастануць біць вытокі з зямных нетраў, а значыць знікнуць крыніцы жыцця, — напісаў Віктар Стахвюк. І напісана яна мясцовай гаворкаю, словамі ад «гэтай самай» зямлі, ад тых спракавечных мясцінаў, тых адпрыродных краявідаў што насычалі гэтыя словы гукам і сэнсам. Гаворка выступае вязьмом у ланцугу: зямля — крыніцы — рэкі — расліны — звяры — чалавек — Зямля:

*колі высохнут крыніці*
*што наповнят русла рыек*
*усохнут сады і травы*
*поле покрыецце попэлом остатніх стэблін*
*знікнут пташкі і звіэры*
*чоловіэк*
*в своюой самоті суетітьсе будэ*
*коб подовжыті корэнь жыця*
*аж стоміцце і застынэ*
*тогды намалюеш*
*остатні*
*пэйзаж*
*зэмліэ*

Толькі застаецца пытанне, да каго ж пасля знікнення часу і жыцця паэт звяртаецца на ты. Варыянтаў шмат. Напрыклад, астранамічны, — звяртаецца да Сонца, якое ў будучыні падкрадзецца да Зямлі настолькі блізка, што выпарацца ўсе акіяны, ці — фантастычны — да іншапланетнікаў, а мо да самога Сусвету? А можа, да несмяротнай душы чалавека? Альбо, усё ж такі, наша пытанне трэба перапісаць наступным чынам — ці паэт звяртаецца на Ты?..

Вобраз ракі-часу ўзнікае і ў паэта Юркі Буйнюка, але яна, несучы ў сябе асэнсаваныя і неасэнсаваныя з’явы жыцця працякае не дзесьці вонкі, не па-за лірычным героем, а ў ім самім — чалавек сам рэчышча ракі часу:

*рака часу*
*плыўны ручнік дум*
*памутнелая вада ўспамінаў*
*вір туманных дзён…*
*дзіравая сетка неба*
*паміраючы спакой*
*стрэлы дажджу*
*плач хмараў*
*крык ветру —*
*усе ўва мне вы*

Гэта адчуты, улоўлены паэтам суб’ектыўны, унутраны час. Які можна супрацьпаставіць аб’ектыўнаму часу. У іншым вершы Юркі Буйнюка час (вонкавы) адыгрывае ролю мага ці ўсемагутнага чараўніка:

*Вечны час заклінае гісторыю*
*Дзед пакінуў па сабе кошыкі*
*Мы носім у іх бульбу…*

(Юрка Буйнюк,
«Спадчына»)

Кожны прадстаўнік свайго пакалення, як заўважае паэт у сваім вершы, нешта па сабе пакідае: дзед — кошыкі, як сімвал неўміручай працы, бабуля пакіне хату, бацька — сад, маці ў сваіх руках затрымае «пах аернага хлебу», а вось што пакіне лірычны герой?

*А мабыць пакіну*
*Гэты верш-эпітафію*
*Маім суродзічам каханым.*

(Юрка Буйнюк,
«Спадчына»)

А ў паэткі Юстыны Каролька час — гэта вецер, які раптам можа заваражыць сваім спевам, і ўсё навокал застывае, застаецца ўсюды толькі цяперашняе:

*Час-Вецер*
*Форму аблокаў мяняе*
*І верыць шэптам дрэў,*
*Думкі ставіць у вітрынах.*
*Я чую безупынны яго спеў.*

*Часам запальвае полымя слёз*
*І не дазваляе ночы прыйсці,*
*У рамку аднаго дня зачыняе*
*Маё сонца.*

*Астаецца толькі смак мінулага*
*І водар будучыні…*

Але ж ёсць на Беласточчыне чароўнае месца, дзе, здаецца, (а можа, так яно і ёсць) спыняецца сам час — бо не мае сваёй улады. Гэта — Грабарка. Славутая гара крыжоў. Два разы ў год паломнікі прыкладна 100 кіламетраў ідуць пешшу з Беластока да яе, нясуць свае крыжы. Калісьці гэтая гара ўратавала мясцовае насельніцтва ад эпідэміі халеры. Яно сабралася на гары. Чысты ручай, што бруіць паблізу, не даў пошасці дабрацца да іх. Тут ёсць і свая гаючая крыніца. Але ж святое месца можа аберагчы людзей і на адлегласці. Чалавек, каб адвесці хваробу і беды ад сябе і сваіх родных прыносіць са сваёй мясціны крыж і ўстанаўлівае яго на гары — тым самым усталёўваецца духоўная сувязь, якая аберагае і дапамагае яму, і тым, за каго ён моліцца. Цяпер у Грабарцы пабудаваны праваслаўны храм, дзейнічае манастыр. Уся яна ўпрыгожана кветкамі ад вернікаў. Прыгажосць і мір. І часу гэта непадуладна… Вось як паэтычна засведчыла такую карціну Галіна Тварановіч:

*…запозненыя жоўтыя вяргіні*
*і астры раннія бялюткія*
*з гародчыкаў вясковых*
*на Грабарку ўранні*
*прынесены з надзеяй і любоўю.*

*І здалося, прыпыніўся час —*
*Гаспадар яго загледжаны*
*у хараство зямное.*

(«На Грабарцы»)

Пры чытанні апошніх радкоў імкнешся міжвольна затаіць дыханне, каб не парушыць уяву.

У творах «белавежцаў» ёсць, як пэўнае супрацьпастаўленне вечнаму часу, сузіранне летуценнасці, фіксацыя імгненнасці, што праяўляецца своеасаблівай імпрэсіяністычнай мазаікай. Асабліва гэта характэрна для абразкоў Янкі Целушэцкага. Ён стварае жывапіс словам. Нават назвы яго абразкоў гавораць пра гэта: «Зімой у лесе», «Старая хата», «Асенняе», «Летняя ноч» і інш.

Як маляўніча і адчувальна-кранальна выпісаны абразок «Пасля навальніцы»:

*Прайшла навальніца. Толькі што страляла, ляскала. Неба злосна крэмзалі бліскавіцы. Але ж адпаўзлі на аглухлых басах грымоты і ўжо здаля толькі вуркочуць. Па страсе сплылі апошнія нацягнутыя ніткі дажджу.*

*Над зямлёю падковай выгнулася вясёлка. Высока над полем азваўся жаўрук — пяюн нябеснай оперы. У прамоклым садзе салаўі зноў раскладваюць ноты. Сланечнік таксама адхіліў шапку.*

*А я так люблю, калі каля маіх акон зноў ціха шумяць бярозы. Ды дзікім мёдам пахнуць палыны.*

А вось якімі словамі, нібыта каляровымі штрыхамі, піша вершы мастак паводле адукацыі і прафесіі Яша Бурш:

*пурпураю*
*у памяці гароды*
*як певень*
*мак…*

(«Дзяцінства»)

*ластаўка плаўна плыве,*
*як байдарка вясны*
*па асвяжальных хвалях паветра…*

(«Ластаўка і я»)

У альманаху ёсць верш Дзмітрыя Шатыловіча, у якім апісваецца прыход новага дня. Твор проста зіхціць, пераліваецца, стракаціць фарбамі:

*Пасля перамучанай ночы,*
*Чароўны з-пад неба прамень*
*Адкрыў, праз акно, мае вочы,*
*Каб даць перламутравы дзень…*
*Я выйшаў радасны з хаты*
*У той азаральны дзень,*
*Які з брыльянтаў крылатых*
*Сыпаў на свет свой струмень,*
*Які акружаў мяне ўсюды,*
*І я, як маёліка, ў ім,*
*Блішчэў і наўкол бачыў цуды*
*І дзіўнай энергіі ўздым.*

(«Перламутравы дзень»)

Альбо такі яскрава-асляпляльны малюнак прыходу першага дня вясны, аздоблены гукавым эфектам, створаны Віктарам Стахвюком:

*Промністай прабоінай*
*у небасхіле*
*сонца звякнула аб шыбіны акон,*
*зварухнуліся вусны дрэў*
*у пацалунку першай цеплыні*
*у позірку воч яе*
*дзень зацвіў…*

У папярэдніх вершах-імпрэсіях перабольшваюць колеры цёплыя, настрой мажорны, свет пераліваецца, ззяе. Аднак паэты Беласточчыны не абыходзяць увагай і меланхалічные імгненні. Міхась Андрасюк наступным чынам тлумачыць, чаму ён увогуле меланхолік:

*Калі зямля высыпае з кошыка*
*травы, вятры і кветкі,*
*сеюцца людзі заўсёды недарослыя,*
*інакш сказаўшы — паэты.*

*Пасля ідуць зялёным сцежкамі,*
*з доўгім лірычным алоўкам,*

*малююць бровы сінім валошкам*
*меланхалічнымі вершамі…*

(«Чаму я меланхолік»)

Паводле М. Андрасюка лірычнаму паэту стан меланхоліі адпаведны, і такія хвіліны — відавочна дораць натхненне.

Калі ж чытаеш вершы Надзеі Артымовіч, адчуваеш, што яны — створаныя «слоўным жывапісам» — маюць перспектыўную глыбіню, даюць шанц зазірнуць у асацыятыўна-сэнсавую далеч, і міжвольна ловіш сябе на думцы, што нібыта гэтыя паэтычныя творы сатканы з радкоў японскага хайку…

*Ікона*
*лістападаўскі снег*
*блакітны ранак*

*сон аднакрылы і лёгкі*
*у блакітным люстры*

*стаю*
*хвіліна прыгажосці*
*акіян хараства*
*хвіліна*

(«Ікона...»)

Падобны прыём, але ж, вядома, са сваімі, адмысловымі колерамі, мелодыкай, рытмічнасцю і сэнсавай счэпленасцю слоў, выкарыстоўвае Юрый Баена:

*У ранняй просіні ліпа.*
*І родны дом*
*пад чорна-белым*
*бусліным крылом*

*Вось і ўся*
*імперыя ціхая*

*ў акіяне хараства*

*Дзверы і вокны*
*расчынены насцеж.*

*На падваконніку*
*зялёны расце верш…*

(«Лета ў Мокрым»)

Апошні — «дамінантны акорд» — «зялёны расце верш» стварае гаму асацыяцый і адчуванняў — ад подзіву: што расліна параўноўваецца з вершам, — да згоды з паэтам: што з маленькага насення, прарастае паэзія, якую трэба даглядаць, за якой неабходна назіраць, і разам з тым можна захапляцца ёю. І яшчэ тым самым сцвярджаецца факт: паэзія ёсць усюды — у кожнай травінцы, і сама паэзія таксама зададзенасць і сутнасць прыроды…

З імпрэсіяністычных кавалачкаў — нібыта з рознакаляровых шкельцаў у паэтычных творах «белавежцаў» — складаецца велічны вітраж, праз які мы бачым малую айчыну — Беластоцкі край.

Вельмі наглядна — якім чынам праз малюнкі-занатоўкі і мікрасюжэцікі падгледжаных сцэнак можна выйсці на сузіранне велічнасці айчыны, — паказвае Ян Чыквін у вершы «Аўсянкі».

*Вецер хітае дрэва,*
*дрэва гайдае аўсянак,*
*аўсянкі складаюць песні*

*пра дрэва, што іх калыша.*
*А на двары нядзеля,*
*голас яе звонка весні,*
*яна нам дарогу піша,*
*як паэму змагання.*

*Ў тым шуме і кліках няшчымных*
*Ёсць водгук вечнага ткання,*
*Якое кладзецца дазвання*
*Ў высокае дрэва айчыны.*

Тэма малой айчыны, безумоўна, стрыжнявая ў творчасці аўтараў альманаха. І аб'ектам апявання, замілавання, захаплення ці шчымлівай трывогі і непакою можа быць як горад, так і невялікая вёска, ці як іх атрыбут — камяніца, хата, дрэва, студня, камень крыж…

Надзея Артымовіч пяшчотна, і прыцішана, нібыта шэптам, гаворыць пра свой родны Бельск:

*Мой родны горад маленькі*
*маленькі*
*як кропля дажджу*
*яна расплываецца*
*перастае існаваць*
*калі ўпадзе на зямлю.*
*Мой родны горад*
*Малы*
*як кропля дажджу*
*але не расплывецца ён ніколі*
*не знішчыць яго бура*
*агонь не спаліць…*
(«Мой родны горад маленькі…»)

У іншым вершы паэтка працягне матыў неразбуральнасці ў гармоніі свайго горада-айчыны, візуалізуе яго сімвалы:

*веру ў вечнае хараство*
*веру у адно нявыказанае слова*
*веру ў белае маўчанне*

*вечар у Бельску — камень і крыж*
*вечар у Бельску — блакітны туман.*

*Бельск — ікона, малітва сон жыццё*
(«Ікона…»)

І, відавочна, зусім невыпадкова адчуваюцца паралелі ў вобразах гэтага верша Надзеі Артымовіч і верша Яна Чыквіна:

*Запрашаю ў Бельск*
*Захапіцца*
*Захадам сонца*

*Знаёмым у незнаёмым*
*Знешнім ва ўнутраным*
*Заўсёдным для нас у імгненным…*

*З філіжанкай гарбаты*
*Забудземся на хвіліну, калі*

*Знікнем у блізкім зарыве*
*Здаўна яго прыгажосць*
*Зроднена з маўчаннем.*
(«Запрашаю ў Бельск…»)

А прычына такіх «ціхмяных» перагукаў вершаваных тэкстаў, відаць, у самім Бельску-Падляшскім, у яго таямнічасці і спакоі, напоўненых гісторыяй вуліц і будынкаў.

Іншы малюнак паўстае, калі мастак слова піша пра вёску. Бо ўрбанізацыя працягваецца і вёскі драбнеюць, а дзе-нідзе знікаюць. Таму між радкоў адчуваецца сум па старых часах.

Перад намі пачатак верша «Вёска» Міхася Андрасюка:

*Трымцяць агнямі*
*Свечы жоўтых клёнаў,*
*Дзядзькі на лавах*
*П'юць царкоўнае віно,*
*Бабулі час прадуць і*
*На далонях*
*Збіваецца кудзеля мазалёў…*

Пачатак нібыта мажорны, бабулі спрадвеку тут жылі і жыць будуць, пралі і будуць праць сам час… (Яшчэ адзін прыклад стаўлення да часу). І здаецца так было, ёсць і будзе. Аднак заканчэнне верша ўсё перакульвае:

*Згараюць ціха*
*свечы жоўтых клёнаў.*
*яшчэ за памяць, ці*
*ўжо за забыццё?*

Як ні смутна, але бабулі пралі нітку часу мінулага, а дакладней — прамінулага…

Вобраз гаснучых свечак выкарыстоўвае Сакрат Яновіч у абразку «Вяртанне ў Крынкі»:

*…Крынкі ціхалістыя! Вяртаюся пяццю дарогамі пыльнымі з пустыняў жыцця ў крыніцах вашых абмыцца. Знявечаны сударгамі смутку, не паказваюся…*

*Свечкі гаснуць без памяці.*

У альманаху змешчаны яшчэ адзін абразок Сакрата Яновіча, прысвечаны яго роднай вёсцы — «Доўгая смерць Крынак», дзе пісьменнік глядзіць у будучыню, уяўляючы як вёска знікне.

*Не зразумець мне, дзеля чаго жывуць у Крынках людзі. Даўным-даўно павінна іх не быць; урослыя ў зямлю будынкі і размытыя вуліцы тут будуць укрытыя свяжуткімі бярэзнічкамі, грыбнымі пералескамі. Пушча атуліць непатрэбную ў капіталізм ваколіцу: на колішніх загонах забуяюць мядзведжыя малліннікі, завядуцца дзікі пад дубовымі падрубамі і пачнуць пасціся казулі на ўтравелых прыгуменнях…*

Такі закон — месца, пакінутае людзьмі, паглынае прырода, на мяжы з пушчаю — пушча, на мяжы з пустыняй — пустыня, а на поўначы — пакінутае паселішча скаваў быццам лёд. А тут хоць будзе жыццё, іншае, без людзей. А калі яны вернуцца, то гэта будуць іншыя людзі і іншая гісторыя.

Адзін са старэйшых пісьменнікаў Георгій Валкавыцкі шчыра адкрывае чытачу сваё пачуццё:

*— каго я шукаю? —*
*на звароце*
*інее бяроза,*
*чарнее крыж*

*і на душы*
*туга нямая —*
*з яе не выбрацца,*
*не ўцячы.*
(«Як даўні сон…»)

Менавіта тугой з-за незваротнасці даўніх дзён пранізана большасць вершаў «белавежцаў», што прысвечаны малой айчыне.

Які шчыра тужлівы верш выйшаў з-пад пяра Вітара Шведа:

*Адыходзяць сяляне няспынна,*
*Старыя, старыя.*
*Сумуюць па іх труны-хаціны*
*Пустыя, пустыя.*

*Нашы родныя бедныя вёскі*
*Знікаюць, знікаюць*
*Дзірваном зарастаюць палоскі*
*І гаем, і гаем.*

*Мы чамусьці ад роднае мовы*
*Нямыя, нямыя.*
*Ловім заўжды суседскія словы*
*Чужыя, чужыя.*

*І мы часта не вадаем хто мы?*
*Як дзеці, як дзеці.*
*І таму мы так мала вядомы*
*На свеце, на свеце.*
(«Наш лёс»)

І як рэінкарнацыя дум паэтаў старэйшага пакалення, а таксама як пераасэнсаванне і пражыванне наноў карцін былога паўстае верш адной з маладзейшых паэтак літаб'яднання «Белавежа» Віялеты Нікіцюк:

*Бацькам*
*Аўтобус імчыць —*
*Я еду дахаты.*

*Бяроза і дуб — гэта вы,*
*І вы — зелень травы,*
*І вы — драўляны плот.*
*І белая хата,*
*І студня ля брамы,*
*І вы — ва ўсмешцы.*
*І рукі, што*
*З благаславеннем узняты.*
(«Дарога да хаты»)

І усё ж такі не толькі сумам, тугой, меланхоліяй працяты творы аўтараў альманаха. Крэда ўраджэнца Беластоцкага краю прамовіў Алесь Барскі. Паэт здолеў апісаць скарб душы беларуса Беласточчыны, паказаць усё тое што дае ёй моц.

Алесь Барскі стварае гімн свайму краю:

*Мой Беластоцкі край — мая Айчына!*
*З табою звязаны мой лёс і доля.*

*Люблю лясы твае, люблю даліны,*
*Кахаю шчыра бацькаўскае поле…*

*Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,*
*Саколка ціхая, зялёная Дуброва,*
*Любоў да вас — мая адвечная павіннасць*
*І вернасць матчынай спрадвечнай мове.*

*Гасціць калоссе у палях шырокіх,*
*Бурліць крыніца песняю адвечнай,*
*Звініць нядзельны звон з царквы далёкай, —*
*На роднай Беласточчыне я вечны.*

(«Мой Беластоцкі край — мая Айчына…»)

Фактычна, мы зрабілі падарожжа па скразных вобразах паэзіі і малой прозы, якія найбольш часта ўжываюцца ў альманаху: *лес — неба — каханне — існаванне — час — імгненнасць — айчына.*

Усе яны тым ці іншым чынам праяўляюцца і ў прозе. У томіку сабраны розныя празаічныя жанры: успаміны — «Калыска» (Георгій Валкавыцкі), «Чым я цешыўся» (Васіль Петручук) , «Мой родны кут» (Янка Жамойцін). Дарэчы апошнія — гэта згадкі пра вёску Клімавічы, што на Лідчыне. У чытача ёсць шанц параўнаць жыццё гэтай вёскі з жыццём вёсак Беласточчыны, пра што гаворыцца ў першых творах.

Алена Анішэўская размясціла апавяданне «Мама», у якім апісваецца эпізод з часоў Савецкага Саюза. Ганна — жанчына сярэдніх гадоў спрабуе дабіцца ў беларускага чыноўніка дазвол наведаць старэнькую маму, што жыве ў Польшчы. І раптам адбываецца цуд — чэрствае сэрца чыноўніка, які цынічна размаўляе з наведнікамі яго, нібы ўласнага, кабінета пры слове «мама» на секундачку мякчэе. Ганна атрымлівае дазвол, але калі хоча падзячыць, то ёй ляціць сухое:

*— Да ладно!*

Ганна выйшла з будынка, ўзняла вочы, каб глянуць у неба. А там, на франтоне магазіна, вялізныя чырвоныя літары сведчылі: «Наша цель — коммунизм!».

Ганна ўсміхнулася*: «Мая мэта бліжэйшая, я ўжо дасягнула яе — паеду да мамы!»* Аўтарская іронія відавочна паўстае супраць межаў, што раз'ядноўваюць не толькі народы, але і родных людзей.

Другі твор Алены Анішэўскай — казка «Як свіння ваўка перахітрыла». Заканчэнне ў яе, насамрэч, трагічнае, і таму яе лепш назваць казкай для дарослых.

Ёсць у альманаху гістарычнае апавяданне «Нектарый», у якім распавядаецца пра нялёгкую працу мастакоў, якія аздаблялі Дабравешчанскі храм у Супраслі. Мікола Гайдук па-майстэрску аднаўляе на старонках свайго твора рэаліі XVI стагоддзя.

Пра самы малы жанр прозы, які ў беларускай літаратуры атрымаў назву абразок, — гаворка ішла вышэй. Нізку абразкоў прадставілі Сакрат Яновіч і Янка Целушэцкі. У першага — гэта роздумы-маналогі («Прыгожай», «Адрачэнне», «Сыну», «Намёк» і інш.).

У Янкі Целушэцкага, як мы адзначалі вышэй, абразкі, збольшага, — пейзажныя замалёўкі. Але ж ёсць і лірыка-філасофскія: «Каянне», «Адзінота».

Свае апавяданні ў томіку апублікавалі Міхась Андрасюк і Міра Лукша. Цікавае супадзенне (ці ж выпадковае?) — як у першага, так і другога аўтара дзеянне апавяданняў разгортваецца вакол аднаго прадмета — назва яго вынесена ў загаловак: «Старая студня» і «Акно» (Міра Лукша); «Шафа» і «Дом» (Міхась Андрасюк). І калі Міра Лукша скіроўвае сваю ўвагу на дзеючых асоб, якія кары-

стаюцца гэтымі прадметамі — *«Стаіць студня ў амаль абязлюдзелай вёсцы. Прыходзяць павітацца з ёй дзед Іван, праўнучка Еўка і праўнук Кандрат. Ды стары Лысы, конь».* У апавяданні «Акно» дзейнічаюць аса, павук, мастак і дзяўчына, якая трымае ў руках драўлянага анёла, а пад сэрцам яна носіць хлопчыка. Але ж акно — не сапраўднае, яго піша рудабароды мастак. І калі акно дапісана, яно раптам ператвараецца ў выйсце ў невядомы свет…

Таксама выйсцем у невядомы свет з'яўляецца старая шафа ў апавяданні Міхася Андрасюка. Але гэты не той свет, не паралельны, і не свет мастацтва, а свет мрояў таго, хто наважыцца ў яе зайсці. Так, прынамсі, сцвярджае хітры прадавец. І адзінокі чалавек — лірычны герой гэтага апавядання, «купляецца» на словы прадаўца — набывае шафу. Але ж на базары, пры людзях, ён не наважыўся ступіць у яе, падумаўшы:

*«Дома — там ніякіх сведкаў, ніякіх позіркаў — праверыцца ўсё дакладна».*

Аднак мінаюць месяцы — пабег ужо восьмы, — але ён яшчэ не ступіў у яе… І ці ступіць?

Міхась Андрасюк у другім апавяданні расказвае гісторыю дома, пры гэтым ён паступова персаніфікуе яго. Друзлы — ён (дом) не ўмешваецца ў жыццё сваіх жыхароў. Калі яго адрамантавалі — у ім пасяліўся пісьменнік. І толькі творца адзін здатны зразумець дом, зразумець яго маўчанне.

А дом маўчаў. *«Бо толькі той, хто ўсё ведае, можа сабе такое дазволіць…»*

У альманаху змешчаны два эсэ: журналісткі, збіральніцы фальклорных песень Падляшша Ганны Кандрацюк-Свярубскай, а таксама Яўгена Вапы, гісторыка, вядомага публіцыста, грамадскага дзеяча. Першая аўтарка расказала пра бацькоў вядомага мастака, караля поп-арта Эндзі Уорхала. Ён паходзіць з сям'і русінаў — Вархоляў — са славацка-ўкраінскага памежжа. Яго маці, пераехаўшы ў Нью-Ёрк, беражліва захоўвала традыцыі суродзічаў, грэка-каталіцую веру, апраналася ў народныя строі. У яе быў драматычны лёс, і яна шмат у чым паўплывала на творчасць свайго сына. Эндзі Уорхал паводле яго волі пахаваны разам з ёй у адной магіле ў Пітсбургу.

Яўген Вапа ў сваім творы аддае даніну памяці свайму гарадзенскаму сябру — Дзіме Кісялю.

*«Лаўлю сябе на думцы, а ў які еўрапейскі горад змагла б упісацца ягоная рагатая, беларуская душа...»* Магчыма, Дзіма менавіта такі, ці гэта характарыстыка ўсіх нас, беларусаў? *«Калі мы калісь пасябравалі і гаварылі пра каштоўнасці дарослых, то для яго самым важным было захаваць каштоўнасці сваіх бацькоў...»* Час няўмольна ўцякае, а ці ён захоўвае тое, пра што мы, увогуле, гаворым? *«Ну, што ж, кубкі з гарбатай і кавай, перакуленыя разам чаркі, дзясяткі супольных сустрэч, зманліва абяцалі вечна непарыўныя сяброўскія сустрэчы. Размову запішам наступным разам, абяцалі мы сябе. А цяпер усё цяжэй прыходзіцца мне прыгадваць, як гучаў голас Дзімы. Спачатку прыходзіць твар з ягонай усмешкай, а толькі потым пачынаю выхопліваць, быццам радар з касмічнага пылу, паасобныя гукі, якія праз некалькі хвілін пачнуць складвацца ў пазабытыя словы, і толькі тады чую ягоную мелодыку мовы».*

Крытык Аксана Бязлепкіна пра гэтую кнігу слушна напісала: «Альманах стаў мастком з пачатку ХХ ст. у нашы дні. Каб застацца, трэба пісаць, фіксаваць, трансляваць шчыра, аголена, часам непаліткарэктна…» Кніга разнастайная і разам з тым цэласная, чытанне захапляе, адчуваеш, як паступова занураешся ў чароўны свет самабытных вобразаў, малюнкаў, разваг. І па завяршэнні перачытваеш упадабаныя мясціны, а яшчэ чакаеш і жадаеш новых кніг ад «белавежцаў».

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

# «СВАЮ РАСУ НА ДОСВІТКУ ЗБІВАЮ...»

**Валерый КАЛІНІЧЭНКА. Роднасць. Москва. НПО «У Никитских ворот», 2012.**

Не заўсёды такое бывае, што для таго, каб перагарнуць старонкі нейкай кнігі, бліжэй пазнаёміцца з яе зместам, узнікае неабходнасць перагарнуць старонкі жыццёвай біяграфіі яе аўтара, тым больш, аўтара, як мне падаецца, незвычайнага творчага лёсу, які вымагае паважлівага стаўлення да сваёй асобы, і да творчасці — таксама. Я маю на ўвазе «маскоўскага беларуса» Валерыя Калінічэнку і выхад у свет яго новага паэтычнага зборніка «Роднасць», на тытульнай старонцы якога пазначана: «Москва. ИПО «У Никитских ворот». Такая акалічнасць, напэўна б, нікога не здзівіла, калі б кніга была рускамоўнай, але ж яна надрукавана… па-беларуску! Каб патлумачыць чытачам сакрэт гэтага не зусім ардынарнага выпадку, літаратурнага факта, пачну, магчыма, крыху здалёк і з самога аўтара.

Недзе на пачатку 70-х неспадзявана атрымаў я ліст з нашай раённай газеты «Авангард». Звяртаўся яе супрацоўнік Валерый Калінічэнка. І просьба ў лісце была не з тых, што мелі нейкія адносіны да рэдакцыйнай працы, а даволі прыватная, асабістая: даслаць яму рэцэнзіі на кнігі, што ў мяне выходзілі, яшчэ некаторыя матэрыялы пра творчасць, калі такія ёсць, і што-небудзь з аўтарскіх кніжак. Для чаго? Ён, студэнт-завочнік журфака, збіраўся напісаць курсавую па творчасці свайго земляка. Я адправіў яму цэлую вязанку патрэбных публікацый, што сабраліся ў мяне на той час. З імі — некалькі кніжак: для таго, каб карыстаўся не толькі «чужымі» словамі і думкамі, а змог па-свойму прачытаць і больш самастойна асэнсаваць іх, зрабіць разгляд.

Прызнаюся, мяне крыху здзівіла, што курсавую работу па дзіцячай паэзіі (а менавіта з ёю звязаны ўсе мае творчыя стасункі той пары) узяўся пісаць не філолаг-настаўнік, а журналіст-газетчык, які да гэтага жанру, здавалася б, не мае аніякага дачынення. Здзіўленне мінулася, калі праз нейкі час разам з маімі «выразкамі» Валерый Калінічэнка даслаў мне нумар свайго «Авангарда», датаваны 11 сакавіка 1976 года, у якім быў змешчаны яго артыкул «Педагагічны такт паэта», зроблены ў межах газетнай плошчы паводле той курсавой работы. І, трэба сказаць, зроблены даволі прыстойна, не на такім ужо «мясцовым узроўні», як мне спачатку падумалася.

Што ён родам з нашых мясцін, з вёскі Уборкі, яшчэ са школьных гадоў піша вершы, пра гэта я даведаўся, можна сказаць, выпадкова, і параўнаўча нядаўна, калі займаўся зборам кнігі «Будакашалёўшчына літаратурная». Перабіраючы паасобныя пажоўклыя ад часу нумары раённай газеты, якая калісьці, шчодра частуючы працаўнікоў сяла самай рознай дырэктыўнай інфармацыяй пра іх хлебаробскія клопаты і здабыткі, часта знаходзіла куточкі і нават цэлыя старонкі для мясцовых «абраннікаў муз», для тых, хто спрабаваў свае сілы на ніве літаратурнай, я нечакана для сябе натрапіў і на вершаваныя радкі Валерыя Калінічэнкі. Праўда, зноў не абышлося без здзіўлення, калі ў адным з нумароў прачытаў:

жыве і працуе ў Падмаскоўі. Як ён там апынуўся, з якой такой радасці? Ведаў жа, што ён ці не дваццаць гадоў адпрацаваў у нашай раённай газеце, прычым з іх апошнія дзесяць — галоўным рэдактарам. І раптам…

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС вымусіла пакінуць родныя мясціны і падацца ў бежанцы, у чужы і невядомы свет, тысячы беларусаў. Асабліва з бліжэйшых да радыяцыйнага пекла вёсак і гарадоў. На вялікі жаль, не абмінула гэта бяда і аддаленую, здавалася б, Будакашалёўшчыну. Каб аблегчыць жончыну хваробу, Валерый Калінічэнка з сям'ёю мусіў перабрацца ў суседнюю Расію. Іх прынялі ў падмаскоўнай Шатуры. Пашанцавала з працаўладкаваннем: там прапанавалі пасаду, адпаведную той, якую займаў на радзіме, — стаў рэдактарам раённай газеты «Ленинская Шатура». Працуючы ў ёй, наш зямляк заснаваў выдавецтва, якое падрыхтавала і выпусціла ў свет дзясяткі твораў расійскіх аўтараў — пісьменнікаў, краязнаўцаў, гісторыкаў, аматараў прыроды, іншых творчых асоб падмаскоўнай глыбінкі. У гэты ж час ён завяршыў і выдаў раман «Асуджаныя на шчасце» і аповесць «Тайнае галасаванне», над якімі распачынаў працаваць яшчэ ў Беларусі. Неўзабаве ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Расіі. Не засталася незаўважанай актыўная журналісцкая і выдавецкая дзейнасць нашага земляка: тады ж яму было нададзена ганаровае званне «Заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі».

Перабраўшыся з Падмаскоўя ў сталіцу, Валерый Калінічэнка з'яўляўся галоўным рэдактарам часопіса «Русский инженер», творча супрацоўнічаў з папулярнымі ведамаснымі выданнямі «Мегаполис-Континент», «Экономика и жизнь», «Реальная экономика», «Дороги». З іх камандзіровачнымі пасведчаннямі аб'ехаў самыя розныя куткі Расіі, блізкага і далёкага замежжа.

Цяпер, выйшаўшы на пенсію, Валерый Іванавіч займае пасаду намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Русский инженер» і, як і раней, любіць падарожнічаць, часта выбіраецца ў камандзіроўкі, знаходзячы новыя тэмы для сваіх інтэрв'ю, артыкулаў, нарысаў, рэпартажаў, чэрпаючы ўражанні ад сустрэч з новымі мясцінамі, людзьмі, іх справамі, ад усяго, што даволі часта, прайшоўшы праз сэрца і памяць, вяртае яго ў чароўны свет паэзіі, становіцца яскравымі вершаванымі радкамі.

І зноў жа — дзіва: думкі і пачуцці, што нараджаліся ў душы, прасіліся з яе глыбінь на свет, на сустрэчу з людзьмі, з чытачом на роднай матчынай мове. На мове, крынічны спеў якое — нават праз гады! — не магла прыглушыць гэта, другая, паўсядзённая, з якою ён, ужо грамадзянін Расіі, паспеў зжыцца, якую прыняў, як сваю, ды, магчыма, не да апошняга закуточка ў сэрцы, бо тая, родная, запала ў яго з маленства, з першай матулінай калыханкі, з першага кроку па зямлі: «Ад Уборак, ад вёскі ля кручы, // Я абшар адкрываў па складах»; «Зямля бацькоў — тут лёсу карані. // Дзе б ні блукаў, матулін позірк горды // Я адчуваю, як і пах раллі».

А былі ж дарадчыкі, хто «клапатліва» настаўляў паэта, даводзіў яму: «Калі хочаш вядомасці, славы // Ты па-руску вядзі свой радок. // Тваё слова пачуюць мільёны, // І не трэба вастрыць пераклад»… Адказ знаходзіўся, і, напэўна, некаторым з іх здаваўся да наіўнага дзіўным, несур'ёзным: «З песняй я не за славай ганюся, // А падтрымка — сцяжынка з сяла».

Куды б ні выбіраўся паэт у падарожжа, пра што б ні пісаў, гэтыя «матулін позірк горды», «сцяжынка з сяля» і «пах раллі», шчымліва адбіваючыся ў сэрцы і пачуццях яго лірычнага героя, прасветлена пранізваюць паэтычныя радкі нашага земляка. Такое адчуванне ўзнікае, калі чытаў я вершаваныя зборнікі Валерыя Калінічэнкі «Зорны дазор» (2008), «На залатым ганку» (2010), яшчэ мацней адбілася яно ў новай кнізе «Роднасць» (2012), якую паэт прэзентаваў мне з аўтографам у час нядаўняга прыезду ў Мінск, дзе ў яго засталося шмат сяброў па вучобе ў аўтамеханічным тэхнікуме, БДУ, рэспубліканскай партыйнай школе, сярод сённяшніх прадпрымальнікаў, творчых людзей.

Каб гэтая роднасць чулася не проста ў назве кнігі, а глыбей адпавядала б усяму зместу, аўтарскай задуме, паэт прадумана «разбавіў» старонкі кнігі паасобнымі творамі з ранейшых зборнікаў — нібы зрабіў своеасаблівую прадмову да тых, што з'явіліся ў яго аўтарскім арсенале ў пазнейшы час, у апошнія два-тры гады, даўшы магчымасць выйсці на новую сустрэчу з чытачом з больш змястоўным набыткам.

Здавалася б, зборнік не пазбаўлены традыцыйных тэм, здавалася б, чытача чакае быццам загадзя падрыхтаваная пастка — ён трапіць у палон звыклых стэрэатыпаў, настальгічных уздыхаў, з'яў, жыццёвых калізій, якія не ўстрывожаць і не сагрэюць пачуцця, не разбудзяць думку і, як гэта нярэдка здараецца, наважаць абыякава адмахнуцца: «Ат, зноў пра тое ж...»

Можна пагадзіцца: зноў пра тое ж. Але ж не ўсё, што можа кінуцца ў вочы з першага разу, толькі з прачытаных загалоўкаў («Родны кут», «Зямля», «Салдаткі», «Успамін», «Цвітуць сады», «Першацвет», «Маё пакаленне», «Сябры», «На сонечным плыце», «Васількі», «Шляхі», «Зорны дазор», «Руская мова» і інш.) мае пад сабою грунтоўную аснову трымацца такой, ужо загадзя вызначанай думкі, можа выносіць паспешлівы прысуд. Як паэт, Валерый Калінічэнка не застаўся павярхоўным сузіральнікам, адкрывальнікам свайго небасхілу толькі «з вышыні завершаных стагоў». Ён шукае мажлівасці заглыбіцца ў сутнасць пражытага і перажытага, спрабуе вылучыць простыя складнікі таго, што робіць нас не толькі асобамі як такімі, але і грамадзянамі пэўнай краіны і нават пэўнай эпохі. Ён імкнецца знайсці філасофскае абгрунтаванне таму, што стала яго жыццёвым крэда, кіруе ім пазнаваць «азбуку дарог», набірацца чалавечай і грамадзянскай мужнасці, заставацца самім сабою ў гэтым калаўроце дзён, вірлівай плыні жыцця.

А я іду, каб толькі браць сваё.
Сваю расу на досвітку збіваю.
Мне свеціць сонца з вышыні маё,
І свой рахунак ад жыцця трымаю.

І калі больш пільна прыслухацца ды прыгледзецца да гэтых «сваё» і «сваю», то можна пераканацца: свайго, сапраўды асэнсаванага, прапушчанага праз уласнае пачуццё і сэрца, паэтычна аздобленага, у гэтых традыцыйных, на першы погляд, вершах у яго можна знайсці нямала. Нават гадзіннік Янкі Купалы, які ў «цішыні музейнай... раптам змоўк», уяўляецца нам не такім ужо маўклівым экспанатам, ён быццам ажывае на момант пад пяром нашага земляка, каб, больш яскрава раскрыць і данесці да нашчадкаў вобраз народнага песняра, такі жывы, закліканы быць «вяшчальнікам радасці і болю», зоркай «што нясе дабро»: «Жніво святкуе ў песнях з намі ў полі, // З ілба сцірае пот хусцінкай дзён».

Наогул, перагортваючы і перачытваючы старонкі кнігі «Роднасць», можна раз за разам прыпыняцца, засяроджвацца, услухоўвацца ў музыку радкоў, узбагачаных трапнымі знаходкамі, жывой мовай вобразаў, метафар і параўнанняў, якімі, быццам зорнае палатно, аздоблены строфы вершаў, ствараючы маляўнічыя эцюды з назіранняў за прыродай, пранікаючы ў душэўны стан людзей, сутнасць рэчаў і грамадскіх з'яў... Ці мала чаго надараецца ў жыцці, і трэба валодаць не абы-якім майстэрствам ды праніклівым позіркам на ўсё, што адбываецца вакол цябе, каб умела і пераканаўча перадаць усё гэта моваю паэзіі: «Жаўрукі крылом свідруюць неба, // Песняй поўняць цішыню палёў»; «Мне сіні ранак падказаў // На мове вострых кос, // Дзе прачынаецца зара...»; «На рыштаваннях лёсу хістка людзям...»; «Нагадаў лямеш смак баразны... // Зноў ралля гарызонт падпірае»; «Хмары рэжа халодны прамень, // Тыя плачуць ад болю дажджамі», «І свежасць ночы першыя струмені // Спусціла з пагадоў на змену дню»; «Жураваў чарадою

// Дні плывуць, не спыніць. // Хоць вясна — не дадому, // Клін у вырай ляціць»; «Вярба дадолу звесіла галінкі // Узорамі святочных абрусоў, // З зялёных струн спадае без супыну // Мелодыя птушыных галасоў»; «Паненка восень знатна карагодзіць, // Спрабуюць з ёю мётлы ваяваць»; «Пазабыўшы заморскія клеткі, // Птушкі дома расклалі багаж»; «Рака яго сэрца кранула // Мелодыяй скрыпу вясла»; «Душа сярод ніў патанула // І краскамі лугу ўзышла»; «З зазімкамі крадзецца лёд…»; «Ты несла ў хату хлеб і спадзяванні // На мове філасофіі сярпоў»…

Абмежаваўшы пералік удалых, на мой погляд, знаходак, якія якасна цэментуюць кожны паэтычны твор, радкамі з верша «Начныя цягнікі», дзе паэт звяртаецца да вобраза бабулі Маланні Анісімаўны, не магу, каб не затрымацца даўжэй на вершы «Полымя», — нібы прытуліцца з былой хлапчукоўскай асалодай да «галоўнай у сялянскай хаце рэчы», якой была і, спадзяюся, застался дагэтуль у вёсцы яе вялікасць печ. Як цеплынёй ад нагрэтых цаглін печы, такой жа цеплынёй і замілаваннем «дыхаюць» радкі верша, ствараючы вобразны малюнак сялянскага побыту, наводзячы на роздум, што перарастае ў твор грамадзянскага гучання, падкупляе адпаведным падтэкстам.

Душа яе цаглянае святкуе,
У коміне ад радасці гудзе.
Не кожны ношу на сабе такую —
Сагрэць і накарміць — яшчэ ўскладзе.

Кіпяць агнём бярозавыя дровы.
Надзьмуліся ад шчасця чыгункі:
У полымі, пражэрным і барвовым,
Схавалі важна гладкія бакі.

Хаўруснікі галоўнаю персонай
У печы ўсёй назначылі сябе.
Цяпер па іх высокаму закону
Гарэць астатняй трэба драбязе.

Не стала печ з мурзатымі спрачацца,
Хто нумар першы ў вогненным віры.
Чыгун з варэйкаю не хоча знацца,
Хаця пякуцца на адным жары.

Адштурхнуўшыся, здавалася б, ад пячнога полымя быццам ад нечага «прыватнага», паэту ўдалося развіць сюжэт і думку, выказацца глыбей і шырэй звычайнага пра тое, што баліць яму, вярэдзіць яго ўспаміны, вяртаючы ў мінулае, але ж і дае мажлівасць знаходзіць пэўны пазітыў, тую настраёвасць, што прымушае адкрываць навакольны (яшчэ дакладней — родны) свет ва ўсёй сваёй шматграннасці, непаўторнасці і красе, у знаёмых з маленства вобразах.

Здаралася, душа гарэла ў скрусе,
Калі закрыў Чарнобыль небасхіл,
Калі надзейны сябра здрадзіць мусіў,
Другі ж трымаўся да апошніх сіл…

Усё жыццё, Радзіма, палымнее
У сэрцы слова, родны вобраз твой:
Садоў над Ліпай белая завея
І ўспенены ў даёнцы сырадой.

І хоць гэты аптымізм, сонечную сімфонію і радасць жыццесцвярджэння, што прабіваюцца з радкоў многіх вершаў, азмрочвае «Зона адчужэння», укліні́ўшыся ў кнігу цэлым раздзелам, але ж ёсць у ёй таксама «Беларускія спатканні» з жлобінскай вясной, сярэбранымі ключамі і школьным аркестрам, «Мазаіка разбуджаных гадоў», «Асенняя міласць», «Каляровы парад», водарна-чарадзейная «Лаванда», «Смаленскія далі», «Рускі дзённік», нарэшце — «Кулікова поле», «Карэльскі пацалунак», «Каралавы востраў» з «бархатным сезонам» і каралеўскім падарункам, спатканне з Парыжам, — нізкі вершаў і паэм пра многія родныя і далёкія, звычайныя і надзвычай экзатычныя землі і краіны, якія, дзякуючы вандроўнаму лёсу нашага земляка, яго назіральнасці і паэтычнаму ўмельству, раптам «загаварылі» з намі, разнасцежыліся ва ўсёй красе і непаўторнасці, сталі больш знаёмыя і зразумелыя нам, тым чытачам і насельнікам, хто, магчыма, чуў пра іх, марыў пабываць там, але ж... у жыцця свае разлікі, свой погляд на ўсё, каб мары часта засталіся толькі марамі...

Можна пагадзіцца з высноваю пісьменніка Васіля Ткачова, які ў прадмове да папярэдняй кнігі Валерыя Калінічэнкі «На залатым ганку», даючы тлумачэнне такой, можна сказаць, тэматычнай інтэрнацыянальнасці і шырокафарматнасці кніг паэта, трапна і вобразна адзначае: «Толькі ўзбагаціць спадчыну Бацькаўшчыны той дыялог, які вядзе на роднай мове наш сучаснік і суайчыннік з казацкім Донам і археолагамі, раскапаўшымі калоны старажытных паселішчаў на Кіпры, з вясталкамі Рыма і маляўнічымі прасторамі разанскіх даляглядаў, дзе скрозь жыве душа Расіі. І тады абавязкова на маёй роднай зямлі зноў хтосьці адчыніць «сярэбраным ключом туманаў ранніх» браму ў заўтрашні дзень, а ў дакладна вызначаны час расквітнее жлобінская вясна, якая сюды прыязджае звычайна на цягніку «Рабкор—Жлобін»... Хачу адзначыць яшчэ адну асаблівасць паэзіі Валерыя Калінічэнкі. Яго вершы, незалежна ад тэматыкі, абгрунтавана аптымістычныя і нясуць, сказаў бы я так, сонечны настрой».

Што праўда, то праўда: поўныя прыроднага хараства, цяпла, святла і жыццялюбных настрояў не толькі тыя творы, што апавядаюць нам пра жыццё ў паўднёвых краінах, але і тыя, у якіх паэт зноў і зноў вяртаецца на родны парог, каб зноў і зноў прызнацца ў шчырай любові да прастораў сваёй Бацькаўшчыны, да мілай сэрцу мовы, сказаць сабе і прызнацца іншым, хто захоча сустрэцца з ім, па-сяброўску зразумець яго памкненні:

На ганку дома моўчкі азірнуся
У далячынь пракладзеных гадоў.
Дадолу нізка людзям пакланюся,
Хто роднасць падзяляў, са мной ішоў.

А падзяліцца роднасцю — ці ўсе на гэта здатныя, ці ёсць яшчэ нешта ў свеце, між людзей, больш чалавечна-душэўнае, высакароднае, спадчынна-глыбіннае і... прыгожае, чым гэта жаданне і імкненне?!

Яшчэ скажу: кніга нашага земляка, паэта Валерыя Калінічэнкі дае ўсе падставы, каб стаць адметнай, каб чытачы, дзе б каму яна ні трапілася ў рукі, звярнулі б увагу на яе з’яўленне, на змястоўнасць, каб яна стала патрэбнай і неабходнай: беларусам у замежжы — бліжэй прыхінуцца да радзімы, шчырэй адчуць яе водар і цяпло, святло і ласку, красу і чароўнасць, а нам з вамі, тутэйшым, — павандраваць па малазнаёмых мясцінах, адкрыць для сябе новы свет, паэтычны і рэальны, іншыя землі, іншых людзей, убачыць усё ў параўнанні. А некаму, магчыма, «Роднасць» дапаможа, развеяўшы туман сумненняў, зрабіць свой выбар, не збіцца са сцежкі да роднага слова, прыдасць сілы, разважлівасці і мудрасці годна прайсці па ёй, каб усюды чуцца верным сынам сваёй зямлі, а разам з гэтым — патрыётам той краіны, пад небам якой табе выпала жыць.

Міхась ЗІЗЮК

# І БЯРЭЗІНА, І НЁМАН

*Склалася так, што я нямала вандраваў па тэрыторыі былога Савецкага Саюза. А нарадзіўся і вырас на Палессі — у Петрыкаўскім раёне. Мая родная вёска Лучыцы стаіць на высокім беразе пакручастай і хуткаплыннай рэчкі Пціч, успаміны аб якой дагэтуль грэюць душу. Але цяпер гаворка не пра яе, а пра славуты Нёман і яго прыток Бярэзіну, ці, як іншы раз пішуць, Заходнюю Бярэзіну (не блытаць з больш буйнай Бярэзінай, што належыць да 9 беларускіх рэк, даўжыня якіх больш як 500 кіламетраў).*

*Я неаднойчы плаваў з сябрамі на плыце з Бярэзіны ў Нёман. Гэтая малавядомая рэчка — адна з многіх у Беларусі, што сведчыць пра тое, якая прыгожая і непаўторная наша прырода. Бывае і ад крывасмокаў-камароў ды аваднёў не адбіцца, а цяпер навала — кляшчы, якіх трэба асцерагацца, і непралазныя гушчары па беразе, а помніцца толькі лепшае. А лепшае — гэта нерушавасць прыроды, цішыня, водар чыстага паветра і светлая радасць ад кожнай раніцы. У такія хвіліны абуджаюцца самыя лепшыя пачуцці, а думкі плывуць павольна, няспешна: не хочацца ні на чым засяроджвацца. Хочацца проста жыць.*

## Пачатак

Усе плаванні для мяне пачаліся ў 2001 годзе. А за два гады да гэтага я пазнаёміўся з цікавым чалавекам, з якім пасля пасябраваў — Аляксандрам Апановічам, карэнным жыхаром Навагрудка. Аляксандр у свой час прафесійна займаўся біятлонам, уваходзіў нават у склад зборнай БССР, потым працаваў трэнерам на швейнай фабрыцы. Але слабыя заробкі прымусілі змяніць месца працы: стаў вадзіцелем на адным з прадпрыемстваў горада. У яго залатыя рукі. Не маючы ніякіх прафесійных навыкаў і ведаў, сам навучыўся выдатна рамантаваць аўтамабілі, складаць каміны і печы, выразаць з дрэва, рабіць вокны і дзверы, і шмат чаго яшчэ. Здаецца, няма таго, чаго ён не ўмеў бы рабіць. А яшчэ вельмі любіць розныя паходы, вандроўкі і аўтарскую песню. Ён і мяне натхніў навучыцца граць на гітары, каб я мог выконваць свае ўласныя песні. Так я ў трыццаць сем гадоў упершыню і ўзяў у рукі гэты музычны інструмент, нечаму навучыўся. Цяпер мае сябры не ўяўляюць любых нашых падарожжаў ці сустрэч без гітары.

Апановіч стаяў і ля вытокаў нашых падарожжаў. Ягоны стаж рачных вандровак складае каля трыццаці гадоў. Пачынаў плаваць яшчэ ў васьмідзясятых з сябрам маленства і суседам Віктарам Навагранам на гумовай лодцы. Цягам часу яны сабралі невялікую кампанію аднадумцаў і сталі збіраць плыт.

Аснова рабілася з сасны ці елкі, бярвенні збіваліся, а пад іх клалі, папярэдне напампаваўшы паветра, гумовыя балоны з трактарных колаў. Потым ссякалі тоўстыя роўныя галіны ці маладыя дрэўцы ў якасці насцілу, звязвалі ўсё шпагатам і дротам, слалі тоўстыя дубцы, вецце, а наверх сена. Па баках і пасярэдзіне плыта прыбіваліся калы, на якія, каб засцерагчыся ад дажджу, нацягваўся брызент. Спераду і ззаду мацаваліся два доўгія шырокія вяслы.

Адна бяда — пасля плавання плыт разбіраўся на дровы, штогод даводзілася ўсё пачынаць спачатку. Нарэшце вырашылі перайсці да разборнага плыта: каркас з высушанага бруса мацаваўся з дапамогай доўгіх шрубаў, тыя ж надзіманыя балоны, наверсе, па каркасе, лёгкія доўгія дошкі, больш трывалыя і надзейныя апоры для брызентавага даху, ладны стол з лаўкамі, які лёгка выносіўся на бераг. Плыт дасягаў тры метры ў шырыню і пяць у даўжыню. На ім месцілася ад шасці да дзесяці чалавек, а грузу бралі да паўтары тоны.

Плылі на працягу тыдня, начавалі на беразе. Ставілі палаткі, распальвалі вогнішча, гатавалі ежу, адпачывалі, гулялі ў футбол, а пазней і нават лазню рабілі. Іншы раз спыняліся, каб схадзіць у грыбы ці ягады. Рыбу лавілі з плыта спінінгам, а па вечарах — на вуду.

Склад удзельнікаў нашых падарожжаў штогод мяняўся. На першым часе, яшчэ да майго ўдзелу, Аляксандр плаваў з Віктарам, яго сябрамі Мікалаем і Фарыдам. Пазней да іх далучыўся Віктар Драчылоўскі — наш цяперашні надзейны і верны сябар, служыў у расійскім войску ў званні палкоўніка. Нарадзіўся і вырас у Навагрудку, скончыў ваеннае вучылішча і застаўся служыць у Расіі, даслужыўся да палкоўніка, жыве ў Падмаскоўі. Некалькі разоў Аляксандр і Віктар Драчылоўскі бралі з сабою ў падарожжа сваіх жонак. З іхніх расказаў мне запомнілася некалькі выпадкаў.

Раней на Бярэзіне было процьма рыбы, пакуль браканьеры амаль што не вынішчылі яе электравудамі. Сябры паказвалі фотаздымкі, на якіх плыт завешаны сушанымі шчупакамі. А яшчэ, як казалі хлопцы, за плытом на вяроўках плыло некалькі жывых шчупкоў. Аднойчы нехта з жанчын памыў у кацялку посуд, а ваду пакінуў. Яна адстаялася. Віктар, не глянуўшы, зварыў у той вадзе локшыну з тушонкай. Калі ўсе сталі есці, то на зубах, канешне, затрашчаў пясок. Жанчыны сталі сварыцца і адмовіліся ад такой стравы. Мужыкам жа было шкада выкідаць яе, а плыць трэба цэлы дзень. Жываты падцягвала. Выйсце прапанаваў Віктар:

— А вы не сціскайце зубы. Яно і пойдзе.

Скарысталіся яго парадай, локшыну па-флоцку даелі. Жанчыны ж амаль суткі прынцыпова прасядзелі на сухім пайку.

Калі я стаў удзельнічаць у вандроўках, нязменна ў склад нашага экіпажа ўваходзілі: Аляксандр, як гаспадар і капітан, я, Віктар Драчылоўскі і Віктар Навагран, амаль штогод вадзіцель раённых электрасетак Мікалай Фурса, а таксама сабака Аляксандра Лорд. Пра яго трэба ўпамянуць асобна. Лорд — не пародзісты сабака, а мяшанец. Шмат чаго меў ад колі, а таксама своеасаблівы характар: мог падкрасціся спадцішка і ўкусіць таго, хто яму нечым не спадабаўся. З-за гэтага Аляксандр неаднойчы меў непрыемнасці. Але пра Лорда гаворка яшчэ будзе.

У першую вандроўку я адправіўся 7 ліпеня 2001 года, акурат на Купалле. Каб завяршыць доўгую і цяжкую працу па зборцы плаўсродку да трох гадзін дня, яшчэ да шасці раніцы мы выехалі з Навагрудка на дзвюх машынах у раён вёскі Бакшты Іўеўскага раёна. Каманда сабралася немалая — восем чалавек і Лорд. У камандзе было і трое дзяцей дванаццаці—пятнаццаці гадоў.

Пачатак нашага шляху — рэчка Іслач. Выток яе каля вёскі Глушыцы Дзяржынскага раёна. Даўжыня рэчкі 102 кіламетры. Іслач вузкая і неглыбокая, вады ў спякотнае лета ў ёй крыху вышэй за калені. Але там, дзе мы збіраем плыт, ёсць зручны пад’езд, а праз нейкі кіламетр каля Бакштаў яна ўпадае ў Бярэзіну.

Машына спынілася на бетонным мосце. Узрушаныя, выходзім і ўглядаемся на вузенькую рачулку. Сцелюцца ў вадзе доўгія косы зялёных водарасцей, рэчка вабіць заспакоенасцю і прахалодай, а перад вачыма распасціраецца зеляніна лугу і лесу.

Ідзём у бліжэйшы лес і пачынаем збіраць плыт. Праўда, двум Віктарам цяжкавата пасля ўчарашняга «святкавання», а Аляксандр падхапіў прастуду. Аднак з высокай тэмпературай працаваў не горш за астатніх. Стараліся і дзеці: насячы і нацягаць дубцоў на ўвесь плыт — справа не з лёгкіх. А яшчэ нясцерпная спёка, плоймы камароў і аваднёў, надзіманне ўручную вялізных гумовых балонаў. І тады

атрымаецца поўны малюнак «радаснай» зборкі плыта. Ад спёкі і аваднёў ратаваліся, боўтаючыся ў рэчцы. Але ніхто не скардзіўся, працавалі дружна, толькі Лорд адлежваўся ў цяньку, пакутуючы ад гарачыні. Недзе пасля трох гадзін дня плыт урачыста спусцілі на ваду. Самыя цікавыя моманты, як і ўсе наступныя, здымаліся на відэакамеру.

## Бярэзіна

Пачынаючы чарговае падарожжа, мы заўсёды любаваліся рэчкай — яе незабыўным і кожны раз непаўторным малюнкам. Бярэзіна са сваім норавам, пад яго трэба падладзіцца: яна то вірлівая, то спакойная, месцамі закручваецца так, што ледзь паспяваеш з вяслом, а месцамі русла ўшчыльную завалена лесам. Яна — правы прыток Нёмана, пачатак бярэ каля вёскі Бортнікі Маладзечанскага раёна, працякае па тэрыторыі Валожынскага, Смаргонскага, Іўеўскага і Навагрудскага раёнаў. Даўжыня яе — 226 кіламетраў, шырыня ў верхнім цячэнні 5—20 метраў, у сярэднім — 25—30, а ў ніжнім — да 50 метраў. Мае чатыры прытокі справа (Крэўлянка, Гальшанка, Чэрніцы, Чапунька) і два злева (Іслач, Волка). У месцы ўпадзення Іслачы ў Бярэзіну і на працягу першага дня нашага плавання сустракаем некалькі вёсак. Берагі і тут прыгожыя, але цывілізацыя нібы скрадвае першыя ўражанні. Такія невялікія рэчкі пакручастыя, яны часта мяняюць рэчышча, падмываюць берагі. І Бярэзіна не выключэнне. Аляксандр, вандроўнік са стажам, не раз паказваў мне на які-небудзь бераг:

— Глядзі, вунь там дваццаць год назад было рэчышча, цяпер расце лес.

Рака ў адным месцы падмыла бераг, а ў другім нанесла пяску. З цягам часу ўсё зарасло кустамі, а потым і лесам. Недзе на трэці дзень штогод праплываем адно цікавае месца. Там Бярэзіна крута зварочвае ўлева, потым крыху віляе і ўжо бяжыць управа. Упершыню наш капітан паказаў яго мне падчас майго першага падарожжа. Пасля таго, як рака крута звярнула, плылі недзе з паўгадзіны, ці болей, потым Аляксандр загадаў:

— Прычальваем!

Выйшлі на бераг. Аказалася, што праз трыццаць—сорак метраў з другога боку, таксама цячэ Бярэзіна. Менавіта ў гэтым месцы яна зварочвае ўлева, каб зноў трапіць амаль у тую самую кропку. Аляксандр упэўнена заявіў:

— Яшчэ з дзясятак год — і вада праб’е сабе дарогу, а на Бярэзіне будзе вялікая выспа.

Вось такія выкрутасы робіць рака. А ўвогуле назіраць з плыта вельмі цікава. Дарэчы, увесь час два чалавекі павінны знаходзіцца на вёслах, інакш плыт прыб’е да берага ці загоніць на корч і можна прабіць балон. Астатнія займаюцца, чым хочуць. Але нават, калі ты на «вахце» ці заняты сваёю справаю, увесь бераг праплывае перад табою. А ён розны: то высакаваты, абрывісты, знізу пясок і глей, а зверху адна мурава, то спрэс зарослы непраходным кустоўем, зялёнаю асакою ці высачэнным чаротам; то разгарнецца духмяны лугавы прастор; то наперадзе намалюецца кучаравая дубрава. Таму, хто сядзіць спераду, трэба быць уважлівым: рака хавае нямала сюрпрызаў у выглядзе патанулых дрэў, знесеных паводкаю. Часам іх і не заўважыш, бо востры корч хаваецца пад вадою, а гэта пагражае небяспекай. Калі лета сухое, то карчы ўсе наверсе, іх стараемся абысці. Але нярэдка ўпаўшыя дрэвы перагароджваюць амаль усю раку. І тады даводзіцца спыняцца, лезці ў ваду і пілаваць іх. Часам рака падмывае бераг цэлымі пластамі. Тады ляжаць у вадзе ствалы дрэў адзін на адным на паўсотні і болей метраў. Цэлыя гаі дубоў, сосен, бяроз ды елак. Аляксандр неяк з нашай дапамогай адпілаваў кавалак каштоўнага моранага дуба, што дзесяцігоддзі праляжаў пад вадою, і выразаў даволі цікавыя і прыгожыя фігуркі. Карацей кажучы, у рэчцы хаваецца цэлае багацце, якое можа пайсці на экспарт. Праблема ў здабычы, бо тэхніка сюды не дойдзе, месцы глухія.

Бывае, дрэвы на беразе звалены ўсюдуіснымі бабрамі, якія жывуць у шматлікіх затоках. Як вядома, бабры ствараюць нямала праблем і для людзей. Так, у ліпені 2004 года Аляксандр вёз усю каманду на «КамАЗе» глухімі ляснымі дарогамі — так карацей. У адным месцы дарога ішла па нізіне, сярод вады, а дарожнікі зрабілі там насып з гравію. Мы ўсе сядзелі ў кузаве разам з грузам пад тэнтам: ішоў дождж. Раптам машына рэзка спынілася і завалілася на правы бок, але не лягла. На нас паляцелі скрыні і мяшкі. Калі ж выбраліся, то ўбачылі, што машына пярэднім колам правалілася ў яму. Як выявілася, бабры нарабілі праходаў пад насыпам, і кола трапіла ў адну са шматлікіх нор. Пашанцавала, што Аляксандр ехаў марудна, а «КамАЗ» не кульнуўся набок, інакш наступствы маглі быць вельмі сур'ёзнымі.

З непралазных нетраў да вады вядуць добра ўтаптаныя звярыныя сцежкі, на якія мы натыкаліся неаднаразова. У адным месцы на нашых вачах раку пераплывала бабраня. Трапляліся ці то норкі, ці то андатры, а каля вёскі Мікалаева Іўеўскага раёна заўважылі цэлы выводак іх. Нярэдка сустракаюцца качкі. Я ўпершыню бачыў, як можа качка несціся па вадзе насупраць плыні з неверагоднай хуткасцю. А там, дзе Бярэзіна ўпадае ў Нёман, дзеці аднойчы сутыкнуліся з ласём. Яны спалохаліся і крычалі так, што ён, мабыць, сам ледзь не памёр ад страху. Шмат траплялася вужоў, выдатных плыўцоў, якіх Віктар Навагран не баяўся і не грэбаваў браць у рукі. Але ў цэлым звяры стараліся абходзіць нас бокам.

На Бярэзіне даводзіцца мінаць два драўляныя масты. Вядома, для байдарачнікаў яны не перашкода, а для нас… Адзін мост стаіць нізка над вадою, а ў другім палі шчыльнейшыя. І калі зрабіць плыт больш шырокім ці больш высокім — не прайсці. Але і меншы нельга рабіць, бо нязручна самім жа. Таму ўсё старанна вымяраецца пры будоўлі плыта. Праўда, калі вада вялікая, і ён ідзе высока, ўсё роўна трэба апускаць цэнтральныя апоры.

У 2003 годзе на адной са стаянак Аляксандр убачыў, як над невялікай ямай на кавалках арматуры месціліся камяні. Было відаць, што там раскладалі вогнішча, а побач тырчалі ўбітыя ў зямлю калы. Гэта была паходная лазня.

Невядомыя падарожнікі раскладалі ў яме вогнішча, потым выграбалі жар, нацягвалі на калы брызент, палівалі камяні вадою — вось табе і лазня. У той жа вечар Аляксандр напаліў нам яе. Усе атрымалі неверагоднае задавальненне: дзе яшчэ можа быць, каб, напарыўшыся свежым венікам, скокнуць з берага ў рэчку. У наступным годзе наш капітан зварыў жалезны кошык, раскладны каркас для парылкі, падрыхтаваў пакрывала. Пасля мы бралі з сабою ўсё гэта начынне і каменне, рабілі лазню ў любым месцы, балазе дроў па берагах хапае. Дайшло да таго, што цяпер дружнай лазневай камандай выязджаем на бераг, пачынаючы з красавіка, а закрываем сезон глыбокай восенню.

Мне на Бярэзіне падабалася ўсё, але найбольш ціхія летнія вечары і такія ж ціхія раніцы. Вечарам, калі ў лагеры рыхтуецца вячэра, прыемна сесці на беразе і, звесіўшы ногі, глядзець, як заходзіць сонца. Па вадзе сцелецца дым, перамешваючыся з туманам. Вада супакойваецца, плынь на вачах становіцца млявай і лагоднай, з ёю сцішваецца ўсё наваколле. Мякка, амаль нячутна, плынь б'ецца аб борт, закручваецца і хаваецца пад плытом. Ціха плёхае каля берага дробная рыба, таўчэ мак машкара. На другім, нізкім беразе доўгімі палосамі садзіцца на траву туман. Сонца вялізным барвовым шарам хаваецца за лесам і з'яўляецца пачуццё ірэальнасці гэтага свету, здаецца, што ты недзе на іншай планеце, такой жа чароўнай і прыгожай. Знікае пачуццё часу, хочацца сядзець і сядзець на беразе бясконца.

Раніцай я любіў прачынацца пакуль усе не падымуцца і не павылазяць з палатак. Тады наўкола — ні гуку, толькі дзе-нідзе з елак і сосен мякка звальваюцца цягучыя буйныя кроплі вільгаці. Самую вялікую асалоду атрымліваеш ад цішыні, калі здаецца, што ты адзін на ўсім свеце: болей нічога, акрамя рэчкі, берага, сонца і лесу. І толькі агледзеўшыся, заўважаеш палаткі, рэчы, плыт. Парэшткі туману яшчэ сцелюцца па траве, па рэчцы, вада шапоча і бруіцца каля сухой елкі, якую

некалі даўно паклала паводка. А потым купанне: вада асвяжае і бадзёрыць, яна чыстая і ласкавая. Распальваецца вогнішча, паціху патрэскваюць дровы і так прыемна пацягнуць з кубка пахучай гарачай гарбаты, зноў жа звесіўшы ногі з берага. Пачуццё асалоды застаецца надоўга.

Але так ці інакш з Бярэзінаю трэба развітвацца, каб трапіць у абдымкі больш павольнага бацькі Нёмана.

## Нёман

Ён, апеты ў творах нашых класікаў і не толькі, выглядае ўжо інакш. Пра яго энцыклапедыі паведамляюць, што гэтая рака працякае ў Беларусі, Літве і Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі. Пачатак жа бярэ на поўдзень ад Мінскага ўзвышша, упадае ў Куршскі заліў Балтыйскага мора, ствараючы дэльту з выспамі. Даўжыня Нёмана 937 кіламетраў, ён мае каля 180 прытокаў, шырыня ў верхнім цячэнні складае 30—40 метраў, у сярэднім, каля Мастоў — 120—150, у ніжнім — 200—400 метраў, а месцамі нават і 640.

Увабраўшы ў сябе новую сілу ад Бярэзіны, Нёман набывае прастор, берагі пашыраюцца і вёслы патрабуюцца радзей. Затое такі прастор стварае своеасаблівы калідор і, калі пачынае дзьмуць сустрэчны вецер, камандзе даводзіцца несалодка — плыт не хоча ісці нават па цячэнні, яго зносіць да берага. У такіх выпадках застаецца выбіраць: альбо цягнуць плыт па беразе на вяроўцы, альбо спыняцца і чакаць. Хоць ёсць і трэці варыянт. У 2001 годзе, калі ўсхадзіўся вецер, мы днём адпачывалі, а плылі ўначы, калі вецер амаль заўсёды сціхае. Берагі ракі ўжо далей ад плыта, на іх не ўсё і заўважыш. Плынь больш павольная, спакойная, а людзей большае. На гэтых берагах шмат адпачываючых, рыбакоў, хоць вёскі на пальцах адной рукі можна пералічыць. Ад месца зліцця дзвюх рэк да моста, што перакінуўся праз Нёман каля Іўя, мы, калі не спяшаемся, плывём тры дні. А вёсак на гэтым шляху ўсяго дзве — Мікалаева Іўеўскага і Ляхавічы Навагрудскага раёнаў. Шматлікія адпачываючыя і рыбакі аблюбавалі нёманскія берагі таму, што яны даступныя — тут нямала дарог і рыба ёсць, у адрозненне ад Бярэзіны. Памятаю, як у 2008 годзе спыніліся на начлег недалёка ад Мікалаева. Раніцай, калі адплылі, былі моцна ўражаны колькасцю рыбакоў: на працягу кіламетра людзі з вудамі стаялі ў чатырох-пяці кроках адзін ад аднаго.

Тут трапляецца нямала такіх жа, як мы, вандроўнікаў. Многія ідуць і па Бярэзіне, але большасць плыве па Нёмане. Амаль усе праходзяць гэты шлях на байдарках. І толькі зрэдку трапляюцца нашы аднадумцы — на плытах. Тады мы дружна вітаемся і ўважліва прыглядаемся, параўноўваючы — у каго ж лепш. Часцей за ўсё нам з зайдрасцю кажуць:

— А ў вас добра: стала і надзейна.

Яно так: на нашым плыце і машыну можна перавезці. З сабою ў нас акамулятар, таму працуе радыё і ёсць святло па вечарах. Плывучы, абедаем за сталом, а хто хоча — можа паспаць на расцеленым спальніку. Толькі аднойчы нас абагнаў «круты» плыт — камерцыйны. Нехта зрабіў яго з самалётных паліўных бакаў, паставіў два магутныя рухавікі і стаў вазіць людзей па Нёмане. Праплываючы міма, гаспадар паглядзеў на нас з пагардай: драбяза, маўляў. Але потым мы былі сведкамі таго, як гэты плыт узбіўся на мель і «крутыя» валтузіліся, спрабуючы выбрацца. Нёман навучыў іх думаць, бо на хуткасці не ўсё ўбачыш.

Калі ж не зважаць на тое, што на Нёмане аціраецца больш людзей, то ён прыцягвае менавіта сваёй велічнай няспешнасцю плыні. Калі плыт паволі ідзе ўслед за ракою, адпачывае ўсё — і душа, і сэрца, і цела. Самы час пасядзець, памарыць, палюбавацца мясцінамі, дзе чалавек яшчэ не парушыў створанае прыродай. Тут трапляюцца абрывістыя высакаватыя берагі, дзе снуюць з неба да вады стрыжы. У крутым гліняным беразе мноства іхніх гнёздаў і заўсёды здзіўляешся: як яны,

не спыняючыся, знаходзяць менавіта сваё сярод соцень іншых? Загадка прыроды.

Цікавы малюнак давялося назіраць у 2007 годзе. Каля стаянкі круціліся птушкі і нехта накрышыў на траву белага хлеба. Нашу ўвагу прыцягнула маленькая вяртлявая птушачка, падобная на вераб'я, з даўгаватай і жаўтлявай шыяй. Здаецца, гэта была аўсянка. Убачыўшы батон, яна тут жа знікла, а праз нейкую хвіліну за ёю прыскакала другая птушка, крыху большая за яе. Прыгледзеўшыся, мы зразумелі, што гэта зязюляня, якое аўсянка даглядае. Нас здзівіла ягонае нахабства. Яно сядзела каля батона, але не клявала яго. Птушачка ж адшчыпвала батон і клала ў рот тоўстаму бэйбусу, а таму заставалася толькі глытаць.

Каля Мікалаева, родных мясцін маёй мамы, Нёман робіць крутую луку. Правы бераг ад гэтага атрымаўся высокім, а левы залівае паводкаю. Летам на ім усё зелянее, буяе. Пасля таго, як вада сыходзіць, бераг патанае ў аксамітнай траве. Раней, у 2001 і 2002 гадах, там пасвілі калгасных цялушак. І калі мы вельмі павольна праплывалі, усе яны, адна за адной, як па загадзе, рушылі па беразе ўслед за плытом. Ішлі і ішлі па беразе, утаропіўшыся ў яго.

— Убачылі мужыкоў і не адстаюць, — пажартаваў нехта.

— Не, нам столькі жанчын не патрэбна, плыт не вытрымае ўсіх, — адазваўся Аляксандр.

А ў гэты час заходзіўся ад брэху Лорд. Мы ж усе клаліся ад смеху. Відовішча і сапраўды было камічнае: больш, як дзвесце галоў цялушак, што дружна брыдуць за плытом і глядзяць на нас, шалёна брэшучы Лорд і ўчырванелыя ад смеху мужыкі. А перад гэтым начавалі на высокім беразе. Каля шасці гадзін раніцы разбудзіў нейкі шум і брэх Лорда. Калі павыскоквалі з палатак, убачылі, што ў лагер забрыў статак кароў, якія гаспадарнічалі па-свойму: адны збіралі бульбяныя лупіны, іншыя перавярнулі стол у пошуках хлеба, а адна дык і ўвогуле спіхнула накрыўку з вядра і даядала нашу юшку. Вытурылі нязваных гасцей, якія паспелі пакінуць пасля сябе кучы лепяхоў. І, канечне, ужо было не да сну.

Паблізу Ляхавіч Навагрудскага раёна заўсёды спыняемся. Там, недалёка ад берага, ёсць даволі вялікі ўчастак з дзікімі клубніцамі. Менавіта з імі, бо некалі на гэтым месцы стаяў хутар, аб якім напамінаюць здзічэлыя яблыні і грушы. І калі мы плывём на пачатку ліпеня, то паспяваем сабраць вядры са два смачных ягад. Не мы адны ведаем пра такую ўдалую плантацыю: спознішся і ягад не будзе.

Яшчэ ўспамінаецца, як ласаваліся дранікамі, бо бульбы ў нас хапала. Калі хацелася нечага смачнага, дружна дзерлі яе і пяклі дранікі, ад якіх за вушы не адцягнеш. А неяк Віктар Навагран прапанаваў паесці грыбоў-парасончыкаў.

— Спачатку ты паеш, а мы паглядзім: калі застанешся жывы, то і мы з'ямо, — пажартаваў Аляксандр.

Віктара такая перспектыва не спалохала. Ён назбіраў гэтых грыбоў, якія вельмі падобныя здаля на бледную паганку, падсмажыў іх на патэльні. Потым паспрабавалі і мы. Як выявілася, яны даволі нядрэнныя, а па смаку нагадваюць смажаную рыбу. Потым яшчэ некалькі разоў збіралі і гатавалі іх, хоць хапала і лісічак, баравікоў, маслякоў.

## Сустрэчы і здарэнні

Што ні кажы, а любыя падарожжы багатыя на сустрэчы з чымсьці цікавым: ці то з людзьмі, ці то са зверам. На долю любога вандроўніка выпадаюць самыя розныя здарэнні — вясёлыя, а часам і не вельмі.

Звычайна, перад выхадам у Нёман, спыняемся на ўтульнай і прыгожай стаянцы на Бярэзіне. Адтуль да месца зліцця рэк пяць хвілін пехатою. Цёплым ліпеньскім вечарам 2004 года ў наш лагер завітаў мужчына год трыццаці пяці, у кароткіх гумовых ботах, з роварам і сякераю на ім. Было відаць, што ён на падпітку.

— Здарова, хлопцы! — гукнуў ён. — Вы не ведаеце, дзе тут мой абход?

— Які абход?

— Ды я ляснік, з Мільвы. Недзе тут мой абход. Шукаю яго.

Мы засмяяліся: што ж гэта за ляснік, які шукае свой абход?

— Уга, Мільва засталася далёка ззаду, — патлумачыў Аляксандр. — Мы болей, як паўдня, плылі. Як жа ты тут апынуўся?

— У гасцях быў, у Хадасах (гэта Навагрудскі раён. — **М. З.**), — ахвотна адазваўся мужык. — А цяпер вяртаюся дахаты. Мільву ж ведаеце, там яшчэ Лелюкі недалёка.

— Лелюкі? — зацікавіўся я. — Дык у мяне ж там сястра стрыечная жыве — Буяк Валянціна. Яна з мужам Генадзем у школе працуе.

— Валя? Генадзь? — ажывіўся мужык і стаў мяне абдымаць. — Генадзь — мой лепшы сябар. Зямеля, якая сустрэча. Усё, п’ём.

Потым ён спыніўся і дадаў:

— Толькі ў мяне няма гарэлкі.

І зноў стаў абдымаць мяне. Усе смяяліся з такога братання. Мы яго пачаставалі, крыху выпілі. Падпіўшы болей, ляснік, якога звалі Сяргеем, стаў спяваць. А перад гэтым мы разгаварыліся, і ён паведаміў, што піша вершы. Я сказаў, што таксама пішу і прапанаваў аб’яднаць нашы намаганні ды выдаць кнігу з вершамі. Сяргей з радасцю пагадзіўся, спытаў нумар майго тэлефона і, каб не забыць яго, падчас спеваў перыядычна паўтараў. Увесь наш лагер клаўся ад рогату, бо выглядалі яго спевы і сапраўды смешна:

— Ой, мароз-мароз, не марозь мяне — тры трыццаць чатыры восемдзесят, і майго каня — тры трыццаць чатыры восемдзесят.

І гэтак далей. Забягаючы наперад, скажу, што Сяргей так і не патэлефанаваў мне, мабыць, нумар усё ж забыў. Праўда, потым ён нас прыемна здзівіў. Калі Сяргею прапанавалі сказаць тост, на імгненне задумаўся і выдаў:

— Давайце вось за гэту прыгажосць, за нашу зямлю, бо нідзе прыгажэй за яе няма. І мы нікому яе не аддадзім. Нікому, бо мы ўсе адзін народ.

Так, ніколі не забыць той цудоўны цёплы вечар, маляўнічы бераг, сінявокую чыстую рэчку, заходзячае сонца. Як ні пагадзіцца, што наша зямля — сапраўдны цуд. Сяргей доўга яшчэ спяваў, потым таксама доўга развітваўся і, негледзячы на нашы ўгаворы, галёкаючы песні, пайшоў шукаць свой абход, хоць сонца ўжо амаль схавалася.

На гэтую ж стаянку да нас некалькі год запар прыходзіў сівы барадаты мужчына са сваёю жонкаю, знаёмы Аляксандра. Сам ён, пенсіянер, з Бярозаўкі Лідскага раёна, але ўлетку жыў ў бліжэйшай адсюль і, самай крайняй вёсцы Навагрудскага раёна, Набярэжная. На беразе, пад соснамі, быў збудаваны столік. Барадач са сваёю жонкаю вельмі прыгожа спявалі. І калі яны садзіліся за столік, далёка па беразе разносіліся іх спевы, а мы з задавальненнем слухалі.

У 2003 годзе нам давялося ратаваць старэнькую бабулю. Тады спыніліся на апошнюю стаянку каля Ляхавіч, толькі на процілеглым правым, Іўеўскім, беразе. Дзеці і двое дарослых пайшлі ў лес у чарніцы, хтосьці лавіў рыбу, а мяне пакінулі ахоўваць лагер і гатаваць абед. Бліжэй да поўдня заўважыў, што да стаянкі стомлена брыдзе нейкая бабуля.

— Добры дзень, — павіталася яна. — А дзе ж гэта, дзеткі, я знаходжуся?

Я патлумачыў. Бабуля жахнулася і стала плакаць. Распытаўшы яе, даведаўся, што яна з Мішуковіч Іўеўскага раёна, да якіх адсюль кіламетраў з дзесяць, калі не болей. Бабуля паехала з дзедам на кані ў грыбы і заблукала. Хадзіла яна аж з шасці раніцы, ужо выбілася з сіл і не ведае, што рабіць далей. Мы з Аляксандрам доўга раіліся, але так нічога лепшага і не прыдумалі, як пераправіць бабулю на лодцы ў Ляхавічы, адкуль бы яна патэлефанавала, каб за ёю хтосьці прыехаў з вёскі на аўтамабілі. У гэты момант я заўважыў, што з лесу на роварах выехала купка хлапчукоў і пайшоў да іх. Дзетвара прыехала з вёскі Старчаняты Іўеўскага

раёна, да якіх кіламетры два-тры лесам, купацца ў Нёман. Пагаварыўшы з імі, мы пасадзілі бабулю на ровар і дзеці павезлі яе ў вёску.

У 2004 годзе спыніліся на ноч каля цяністай зялёнай дубравы. Пакуль усе ставілі палаткі, раскладалі вогнішча, Аляксандр у зялёнай, нібыта вайсковай вопратцы, разам з верным Лордам вырашыў разведаць наваколле. У адным месцы заўважыў лёгкі дымок. Калі ж падышоў бліжэй, то ўбачыў, што там месціцца самагонны апарат, а ў глыбіню лесу ўцякаюць двое мужчын. Аляксандр гукнуў іх:

— Не бойцеся, я не міліцыя і не ахова прыроды.

Мужчыны вярнуліся і на радасцях пачаставалі Аляксандра самагонкаю. Потым наш капітан вадзіў на экскурсію Віктара Драчылоўскага, і той вярнуўся добра захмялелы. А назаўтра мы ўсе зайшлі паглядзець на прылады старадаўняга рамяства, бо тыя мужыкі, зрабіўшы сваю справу, пакінулі ўсё як ёсць.

Аднойчы мяне падчас плавання растрывожыў жураўліны крык. Звычайна я сплю вельмі чуйна і не магу заснуць, калі побач штосьці шуміць, раздражняе. І той ноччу — было гэта на Бярэзіне — прачнуўся ад таго, што недзе ў лесе крычаў адзінокі журавель. Ён курлыкаў так адчайна, як крычыць дзіця, што згубіла маці. Часам сціхаў, а потым пачынаў зноў. Што гэта было: ці сапраўды здарылася бяда ці проста малады журавель адбіўся — засталося невядомым. Але я заснуць не мог і ляжаў, услухоўваючыся ў жаласлівы жураўліны крык. А ў галаву адразу палезлі нейкія радкі, з якіх можна скласці верш. Ад гэтых думак у душу закраўся сум, мне стала чамусьці журботна і адзінока, як той невядомай птушцы. Толькі пад самую раніцу, калі сонца стала падымацца, ён сціх, а я змог крыху прыдрамаць. Так і не выспаўшыся, хацеў сесці і напісаць верш, але тое, што атрымалася, забракаваў і ўвогуле закінуў. Цяпер, часам звяртаючыся да старых запісаў і гледзячы на тыя радкі, ўспамінаю адзінокага самотнага жураўля.

Кожнае плаванне ў нас адзначалася невялікім і неаднаразовым феерверкам. Драчылоўскі мог лёгка «дастаць» розных вайсковых ракетніц. Штогод ён браў водпуск у ліпені, а мы падстройваліся пад яго. Віктар прывозіў з сабою шмат піратэхнікі. І амаль кожны вечар мы назіралі святочны салют, што было не даспадобы Лорду, але аб гэтым ніжэй. З-за гэтых салютаў у нас выйшла два сур'ёзныя здарэнні.

Першае, крыху кур'ёзнае, адбылося на той самай утульнай стаянцы недалёка ад месца ўпадзення Бярэзіны ў Нёман. У той вечар пасля вячэры мы сядзелі каля вогнішча і размаўлялі, бавячы час. У цемры ціха бруілася рэчка, часам гучна брохала буйная рыба, а ў небе гулліва паблісквалі зоркі.

— Мне здаецца, што надышоў час для феерверка, — сказаў Аляксандр і ўзняў над сабою ракетніцу.

Пад воклічы захаплення неба ўспыхнула зялёным агнём, пырснула лёгкім дожджыкам іскраў, след пайшоў да зямлі і ўсё згасла. Мы зноў паселі каля агня. Не прайшло і пяці хвілін, як хтосьці заўважыў на процілеглым беразе касцёрчык, які паціху стаў павялічвацца.

— Глянь, нехта расклаў вогнішча. Цікава, там жа нікога не было, — здзівіўся ён.

— Якое вогнішча! Гэта ж пажар ад нашай ракеты! — пасля лёгкага замяшання здагадаўся сам Аляксандр.

— Бяжым хутчэй, тушыць трэба! — падтрымаў Віктар.

Усе кінуліся да вады. У тым месцы шырыня ракі не такая і вялікая, каля дваццаці пяці—трыццаці метраў, але плынь яе даволі імклівая. І ўсё ж пераплысці яе не так складана, калі рукі вольныя. Я ж узяў вядро — бо як інакш патушыш полымя. Аляксандр з Віктарам схапілі па кацялку, а хто і так — усе кінуліся на той бераг. Я спрабаваў грэбці адною рукою, але плынь зносіла мяне. Тады я надзеў вядро на галаву, яно напоўнілася вадою і пацягнула мяне ўніз. А яшчэ ж спяшаўся. Адным словам, пакуль даплыў да берага, ледзьве не ўтапіўся і паспеў хлебануць вады, хоць і плаваю нядрэнна. Полымя тым часам паспела добра ўга-

рэцца. Усе мы стараліся, як маглі, бо добра разумелі, якую небяспеку стварылі сваёю забаваю. Агульнымі намаганнямі нарэшце ўтаймавалі яго. Потым каля кастра дружна смяяліся над тым, як «нехта расклаў цяпельца на другім беразе», і як мы пераплывалі рэчку.

Другі раз той феерверк ледзь не каштаваў жыцця аднаму з нашых таварышаў — Сяргею Табола. Ён спусціўся з берага ўніз, стаў на плыт, каб запусціць ракету над ракою. Дарэчы, той момант зняты на відэакамеру і, пераглядаючы яго, мы добра ўсвядомілі, чым магло ўсё скончыцца. Сяргей узняў руку і выстраліў. Па невядомай прычыне ракета, спачатку ўзмыўшы ўверх, слізганула назад, на Сяргея, і прайшоўшы літаральна ў сантыметрах ад яго цела, упала ў ваду. Пад вадою яна яшчэ нейкі час гарэла і поўнасцю згасла толькі недзе праз паўхвіліны. Усе былі ў лёгкім шоку. Калі б ракета трапіла ў чалавека, нічым не змаглі б яму дапамагчы, бо знаходзіліся ў лесе і ніяк не выклікалі б «хуткую дапамогу». Праўда, тое здарэнне так і не прымусіла нас адмовіцца ад сваёй забавы.

## Смех дый годзе

І, канечне ж, было нямала смешных выпадкаў.

У Аляксандра ёсць пляменнік з Мінска, таксама Сашка. Калі ён быў падлеткам, Аляксандр пастаянна браў яго з сабою ў плаванне, бо хлопчык усё лета праводзіў у Навагрудку, у бабулі. А бабуля — Аляксандрава маці, былая настаўніца — жыве разам з сынам. Вельмі жвавая і рухавая, хоць і даўно размяняла дзявяты дзясятак, яна старалася апекаваць унука-сіротку — яе дачка, маці Сашкі, памерла колькі год таму. Пасля школы Саша збіраўся некуды паступаць і рыхтаваўся да экзаменаў. Пакуль мы складалі рэчы, бабуля бегала і крычала на ўнука:

— Куды ты сабраўся? Сядзі дома, рыхтуйся да экзаменаў.

— Падрыхтуюся і там, час будзе, — не здаваўся Сашка.

— Дурань, вось паедзеш з імі, утопішся і не здасі экзамены.

Мы палеглі ад рогату. Потым, увесь тыдзень, кпілі з Сашкі: глядзі, не лезь у ваду — утопішся і не здасі экзамены.

Аднойчы Сашка з Арцёмам, навучэнцам ПТВ, плылі за намі на гумовай лодцы. Потым яны захацелі перабрацца на плыт, і Сашка налёг на вёслы. Арцём учапіўся пальцамі за плыт, аднак Сашка не справіўся з вёсламі, лодка стала адплываць. Арцём расцягнуўся, стараючыся ўтрымацца, але яна адышла, і ён у адзенні і красоўках плашмя плюхнуўся ў ваду. Усе так выбухнулі рогатам, што Лорд падскочыў і ўсхвалявана забегаў па плыце. Арцём, выкручваючы адзенне, смяяўся разам з усімі.

Паколькі ўсе самыя цікавыя моманты мы здымалі на відэакамеру, то даводзілася раз у два-тры дні шукаць вёску, каб падзараджаць батарэю, а калі з’явіліся мабільныя тэлефоны, то і іх. Аднойчы нехта з нас прыдумаў, што батарэю відэакамеры можна падзарадзіць ад нашага акумулятара. Паспрабавалі і спалілі яе.

У свой час я ездзіў па вёсках і займаўся гандлем, таму мясцовыя бабулі мяне добра ведалі. Неяк у адной з іх папрасіў падзарадзіць свой тэлефон. Уваткнуўшы прыстасаванне ў разетку, выйшаў на вуліцу, дзе мы чакалі машыну з Навагрудка. Не прайшло і дзесяці хвілін, як з акна высунулася бабуля і залямантавала:

— Міша! Міша! Хутчэй сюды! Там нехта крычыць, я баюся!

Я кінуўся ў хату. Справа ў тым, што ў маім тэлефоне ў якасці мелодыі выкліку стаялі смешныя і гучныя воклічы кшалту: «Тын-дын, ты што не чуеш? Вазьмі тэлефон!» І мне якраз хтосьці патэлефанаваў. Калі я ўбег у хату, то спалоханая бабуля стаяла ў сенцах і паўтарала:

— Нехта крычыць, так крычыць! Я ж не ведаю, што рабіць. А божухна!

Я пастараўся ўсё патлумачыць ёй, і яна як бы крыху супакоілася. Але калі папрасіў пакінуць на ноч батарэю да відэакамеры, адмовіла:

— Не, баюся. Яшчэ раптам зноў нехта будзе крычаць. Ты лепш да кагонебудзь занясі.

Аднойчы каля Ляхавіч заўважылі пасярод Нёмана тоўсты высокі кол, які выдзяляўся на вадзе.

— Гэта ж фарватар абазначылі, — здагадаўся Навагран.

— Які можа быць фарватар — не паверыў нехта. — Тут жа толькі на лодках плаваюць.

— А я кажу фарватар, — упарта настойваў Віктар.

Ён якраз спрабаваў вылавіць шчупака і закідваў у рэчку спінінг. Калі ж блешня трапіла ў бок таго кала, то за нешта зачапілася. Навагран аддаў камусьці спінінг, а сам боўтнуўся ў ваду — не адрываць жа дарагую прыладу. Каля кала ён ублытаўся ў браканьерскую сетку, якую прывязалі за кол. Віктар доўга плюхаўся, нахлябтаўся вады і потым пляваўся, а мы смяяліся: «Што гэта ты фарватар прапусціў?»

З блешняю ў Навагрaна быў яшчэ адзін смешны выпадак. Бліжэй да месца ўпадзення Бярэзіны ў Нёман рыбакі сустракаюцца часцей. І вядома ж, многія спінінгуюць. Часта не зважаючы на тое, што побач шмат пахіленых і патанулых дрэў, за якія лёгка чапляюцца блешні. Мы ж, праплываючы міма, і ўбачылі адарваныя рыбацкія прылады, здымаем іх. Аднойчы Віктар блешню заўважыў на пахіленай алешыне. Кінуўся да дрэва, павіс на ім, спрабуючы дацягнуцца да бліскучага прадмета.

Плыт адплыў, а ўсе моўчкі назіралі за Навагранам. Ён падцягнуўся і, здавалася, вось-вось дастане блешню. Але ўверсе хруснула, і Віктар з кучай галля, з шумам абрынуўся ў ваду. Вынырнуўшы з ашалелымі вачыма, боўтаўся, спрабуючы выплыць...

Са спінінгам было яшчэ адно смешнае здарэнне. Увогуле, спінінг з плыта зручна кідаць, а калі і ўчэпіцца блешня, то плыт можна спыніць каля берага і паспрабаваць вызваліць яе. Дый у нас маецца і гумовая лодка. Неяк на Бярэзіне Табола доўга выпрабоўваў сваё рыбацкае шчасце, але яму не пашанцавала. Сяргей прысеў за стол і стомлена сачыў за вадою. У гэты час недалёка ад плыта, каля берага, вынырнуў і плюхнуўся ў ваду здаравенны шчупак.

— Кідай хутчэй спінінг! — гукнуў нехта.

Сяргей падскочыў, схапіў спінінг і знянацку кінуў яго ў ваду. Праз імгненне, ачомаўшыся, у адзенні кінуўся і сам за ім, бо каштаваў спінінг нямала. Мы рагаталі да слёз, калі мокры і ўчырванелы Табола плыў да плыта.

## Там, дзе зліваюцца рэкі

Думаецца, далёка не ўсе могуць пахваліцца тым, што хоць аднойчы пабывалі ў месцы зліцця дзвюх, даволі буйных рэк. Бо ніхто не наладжвае такія экскурсіі, часам дый дабрацца туды нялёгка. Мне ж пашанцавала наведаць такое незвычайнае месца неаднаразова. Здавалася, што цікавага: ну, упадае адна рэчка ў другую? Што тут асаблівага?

Каб гэта зразумець, трэба пабываць там. Нейкае пачуццё невядомай урачыстасці ахоплівае душу, хвалююча б’ецца сэрца, а ты з заміраннем глядзіш на непаўторны малюнак.

Пад нагамі абрывісты бераг, рака закручвае лёгкія віры, несучы свае воды ў далёкае Балтыйскае мора. І добра відаць, як Нёман становіцца ледзь не ў два разы шырэйшы, як запавольваецца яго плынь, як вырастае далягляд. Злева — Нёман, справа — Бярэзіна, адна нага стаіць на нёманскім беразе, а другая — на бярэзінскім. Правы бераг Бярэзіны ў месцы зліцця ніжэйшы: нанесла пяску, глею. Бераг густа парос аерам і лазою, воддаль падняўся кучаравы алешнік. Па сведчанні Аляксандра год дзесяць—пятнаццаць назад там цякла Бярэзіна. На яе левым

беразе і правым Нёмана — шматлікія дробныя зарослыя азярыны ад старога рэчышча ды купчастая лаза. А зусім побач ад месца зліцця рэк, якраз па цэнтры, красуецца малады, зялёны і моцны прыгажун-дуб.

Менавіта пад ім мы ладзілі сваю стаянку ў 2007 годзе. Тады ж выратавалі ад пагібелі маленькага — памерам з далонь — соміка. Я, ідучы па беразе, убачыў у вадзе лёску. Пацягнуў яе на сябе і выцягнуў нечыю донку. На кручку трапятаўся ледзь жывы сомік. Пра донку проста нехта забыўся. Рыбакоў нідзе не было відаць, ні вечарам, ні раніцай да нас пасля ніхто не падыходзіў. Мы знялі будучага рачнога велікана на відэа і адпусцілі яго на волю. Сомік нейкае імгненне затрымаўся, нібы не верачы ў сваё вызваленне, потым слаба матлянуў хвастом і знік у цьмянай прахалодзе.

Берагі ў гэтым месцы абтаптаныя, хоць на машыне сюды не кожны даедзе. Трэба ведаць дарогу, каб трапіць у Набярэжную, крайнюю вёску Навагрудскага раёна, потым з яе ж, лесам даехаць да зараснікаў лазняку і адтуль дапяць да берага. Рыбакі сюды дабіраюцца ў асноўным пехатою з Дзяляціч, ад моста. Глыбіня ў месцы зліцця рэк немалая, ушыркі раскідваецца плынь і рыбе хапае прасторы, каб жыраваць. Тут можа пашанцаваць і на сома.

Кожны раз, уплываючы ў Нёман, мы ўскліквалі:

— Да пабачэння, матухна Бярэзіна! Прывітанне, бацька Нёман!

## Лорд

Жывая істота заўсёды надае своеасаблівы каларыт любому падарожжу і скрадвае яго аднастайнасць. У нашых вандроўках гэту пачэсную ролю выконваў Лорд — калматы, з доўгай поўсцю, як у колі, кемлівы і добра разумеючы, што да чаго. Ён чамусьці панічна баяўся навальніцы, выбухаў, страляніны і ўсяго, што ўзрывалася. З-за гэтага і здаралася нямала камічных выпадкаў.

У першую ж вандроўку я добра вывучыў усе асаблівасці яго характару. Лета было спякотнае, мы шмат купаліся. Лорд, убачыўшы, што гаспадар плавае і пачынаў узбуджана бегаць па плыце. Заўсёды знаходзіўся «дабрадзей», які спадцішка спіхваў сабаку ў ваду. Вады ён не баяўся, выдатна плаваў. Але ж, у рэшце рэшт, трэба было ўзбірацца назад на плыт. З чыёй-небудзь дапамогай узлазіў на яго і тады пачыналася самае цікавае. З Лордавай поўсці сцякалі цэлыя ручаі, яму абавязкова трэба было абтрэсціся. З усіх бакоў крычалі:

— Лорд, не трасіся!

Але Лорд не мог не трэсціся. Ва ўсе бакі ляцелі пырскі, а з плыта даносіўся піск і абуральныя воклічы.

Калі ж вечарам мы пачыналі запускаць нашы «салюты», Лорда як карова языком злізвала. Падціснуўшы хвост, ён кідаўся ў кусты. Пакуль не клаліся спаць, не з'яўляўся. Іншы раз ратаваўся тым, што кідаўся ў нечыю палатку, адкуль выгнаць яго можна было толькі з дапамогай гаспадара. Аднойчы ён рынуўся да маёй палаткі, але я апярэдзіў яго і гераічна ўпаў на ўваходзе, закрыўшы ўваход. Тады Лорд кінуўся ў другую палатку, але і там яго не пусцілі. Прыйшлося яму зноў бегчы ў лес.

З-за доўгай поўсці камары яго асабліва не турбавалі, хіба што кусалі толькі за пысу. Часам спрабаваў хавацца ад іх зноў жа ў палаткі. Дапетрыў нават… расшпіліць «маланку» на ўваходзе. Для гэтага разганяўся і цаляў носам у ніз палаткі. Замок разыходзіўся, а Лорд зашываўся ў куток і спакойна спаў. Я ж ад гэтай ягонай вынаходлівасці пацярпеў. Прачнуўся ноччу ад таго, што мяне кусалі камары, якіх над вухам гула цэлая плойма. «Што за халера, — падумаў я, — калі зашморгваў палатку, не было ніводнага камара». Глянуў наперад і ўбачыў, што на ўваходзе свеціцца неба. Потым намацаў каля сябе нешта калматае. Калі пацягнуў яго на сябе, яно пагрозліва завурчала. Канечне ж, гэта быў Лорд. Зразумеўшы,

што не змагу яго выгнаць, ўкрыўся спальнікам з галавою і так драмаў да раніцы, хоць было вельмі душна.

Потым абачліва сталі звязваць ніз «маланкі» дротам.

У адной з вандровак Андрэй, сын-падлетак Віктара Драчылоўскага, кідаў спінінг. Нейкім чынам блешня трапіла ў Лорда і мёртвай хваткай учапілася ў яго поўсць. Перапалоханы сабака стаў бегаць туды-сюды, размотваючы лёску. Хлопчык разгубіўся і моўчкі лыпаў вачыма. Ніхто не ведаў, як падступіцца да сабакі, бо той мог і ўкусіць.

— Саша, звяжы яму пысу, — прапанаваў я.

Аляксандр злавіў Лорда, і мы сяк-так выразалі блешню з добрым кавалкам сабачай поўсці.

Паказаў сваю кемлівасць і рассмяшыў нас Лорд і падчас яшчэ аднаго выпадку. З намі тады падарожнічаў навучэнец ПТВ Арцём. Ён стаяў у вадзе з сачком у руках, а сабака падышоў да берага пахлябтаць яе. Арцёму захацелася зацягнуць яго ў рэчку. Дзеля гэтага накінуў Лорду сачок на галаву, перакруціў яго, заціснуў... Сабака ўпіраўся, як мог, нават сцягнуў сачок, а потым з гырчаннем учапіўся зубамі ў капронавую сетку. Арцём упёрся нагамі і напяўшыся, цягнуў у свой бок. Раптам Лорд разявіў пашчу, і Арцём з галавою кульнуўся ў рэчку.

Лорд вельмі любіў гуляць з намі ў футбол. Праўда, адразу за абедзве каманды. Як толькі мы пачыналі гульню, ён кідаўся да мяча і стараўся схапіць яго зубамі. Як умудраўся зрабіць гэта, застаецца загадкай. Усе, канечне, білі па мячы, іншы раз траплялі яму па пысе, ён павіскваў ад болю, але не здаваўся: весела бегаў паміж гульцоў і, у рэшце рэшт, завалодваў трафеем. Тады адбягаўся ў кусты, лажыўся, трымаў мяч лапамі і нікому не аддаваў. Калі ж хто спрабаваў яго адабраць, гырчаў, а на больш настойлівага мог і кінуцца. Але мы любілі падражніцца з ім. Мяч выбівалі з-пад Лорда палкаю або яго адбіраў сам гаспадар. Тады ўсё пачыналася спачатку: вясёлая гульня, смех і гучныя воклічы над рэчкаю. Калі ж Аляксандр прывязваў Лорда і не даваў гуляць з намі, той пакрыўджана вішчаў, потым гаўкаў, выказваючы сваё абурэнне, а пасля лажыўся і з няшчасным выглядам сачыў за нашаю гульнёю. На жаль, Лорда ўжо няма: ён памёр некалькі год таму.

* * *

Кожны раз, як толькі заканчвалася наша падарожжа, мяне агортвалі два процілеглыя пачуцці: радасці і жалю. Радасна, што пасля тыднёвай разлукі вярнуся дамоў, убачу сваіх блізкіх. Але заўсёды шкадаваў, што плаванне завяршылася, больш не будзе, прынамсі, у гэтым годзе, чароўных ціхіх раніц, бадзёрачых купанняў, вячэрніх размоў і вясёлых гісторый каля кастра. Праходзіць нейкі час і тады зноў хочацца трапіць на тую светлую рачулку з яе зялёнымі берагамі, напоўніцу надыхацца чысцюткага і салодкага паветра, адчуць чаканыя цішыню і спакой. Узімку, пераглядаючы зняты матэрыял, міжволі пачынаеш смуткаваць, што лета так далёка, рэчка спіць пад ледзяным панцырам, яшчэ даўгавата чакаць жаданага падарожжа. І тады разумееш: як жа мала для шчасця трэба чалавеку. Усяго толькі вось так проста пабыць на ўлонні матухны прыроды, на ўлонні нашай беларускай зямлі, якая заўсёды прыме цябе, як роднага сына, калі ты сам гэтага пажадаеш, уволю надыхацца яе гаючым паветрам, зліцца з ёю ўсёю сваёю душою. І толькі хочацца папрасіць усіх: беражыце, шануйце нашу зямлю, рэчкі і азёры, не засмечвайце, не забруджвайце іх. Бо яны — наша багацце, якое мы можам непапраўна згубіць.